ЗОК-1
1714

# Полымя Рэволюцыі

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАИ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

Орган
Праўлення Саюза
совецкіх пісьменнікаў
БССР

Инв. 1953 г. /383

*КНІГА ВОСЬМАЯ*

БССР Дзяржаўная бібліятэка імені Леніна

МЕНСК ЛІМ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
1934

## ЗМЕСТ



Уп. Галоўлітбела №А 1406. Зак. № 4277—3500 экз. «Палесдрук», Гомель.

ЯНКА КУПАЛА

# БАРЫСАЎ

*Да адкрыцця помніка Леніну*

Плыве ў свет рака Бяроза,
Плыве сягоння, як і ўчора,
То між ніцых вербалозаў,
То паміж адвечных пушчаў бораў.
Сваёй вадою поіць шчыра
Калгасы, фабрыкі, заводы
І на плячах нясе між віраў
Плыты, баржы і параходы.
Плыве рака Бяроза плаўна,
Плыве, мінае горы, долы;
На берагах яе спрадаўна
Паўсталі гарады і сёлы.
Паўстаў Барысаў ў сотні гоняў,
Стаіць над рэчкай і сніць думы:
Якім ён быў, якія сёння
Яму пяюць Бярозы шумы.

*

Княжылі тут князі,
Крулі крулявалі
І цары царылі
У крывавай хвале.
Турмы будавалі,
Кавалі кайданы;
На народным целе
Сачыліся раны.
Былі войны, бітвы,—
Слёзы, кроў ліліся;
Шведа, Банапарта
Сляды засталіся.
Ў бярэзінскіх водах
Немец паіў коні,—
Вільгельмава зграя
У памяці й сягодня.
Грабілі культурна,
Не знаючы жалю,
І армяк апошні
З бедняка знімалі.
Край абрабавалі,
Хоць за час кароткі,

Гэтыя блізкія
Гітлеравы продкі.
А паноў навалу,
Іх каранняў жудзі
Помніш ты, Барысаў,—
Павек не забудзеш!
То было нядаўна—
Помніць комсамолец,
Як была скавала
Жудкая няволя.
Паны прывіталі
Цябе, мой Барысаў,
Вісельняй і куляй
Ды пажарным прыскам.
Генерал Шэптыцкі—
Праклятае славы—
Выпраўляў жалезам
Свой банкет крывавы.
Але да сканання
Яму не ўдалося
Спапяліць ідэю,
Як наша калоссе.
Генерал Шэптыцкі,
Найяснейшы пане!
Ўжо твой бот жандарскі
Болей тут не стане.
Ўжо табе не бачыць
Вісельняў, пагромаў,
Што тварыў ты, пане,
Ад польскай кароны.
Моцная ўжо зброя
Ў вольных пралетараў,
І на тваю кару
Устануць грознай карай.

*

Панясла Бяроза
Кроў людскую ў мора,
А з крывёю разам
Вялікае гора
Павешаных сем'яў,
Сірацінаў кволых,
Спаленых пажарам
Гарадоў і сёлаў.
Спалены Барысаў
Збыўся акупантаў,—
Рукой большэвіцкай
Паўстае гігантам.
Паўстае з руінаў
Кветкаю ружовай,
Фабрыкі, заводы
Заводзіць нанова.
Коміны пад неба
Задымелі дымам,

Гудкі загудзелі
Над усёй радзімай.
Бярэзінскім буйным
Камбінатам смела
Ужо ганарыцца
Перад светам цэлым.
За нашых запалак,
Аганёк цудоўны,
Сыпяцца даляры—
Гарні жменяй поўнай!
За домбальскай гуты
Выраб адмысловы
Дае англічанка
Штэрлінг дукатовы.
А народ рабочы
Гэткі маладзецкі!
Такі знойдзеш толькі
Ў Саюзе Совецкім.
Працуе ударна
З вясёлым прыветам...
Бо ён сын аддany
Краіны Советаў.
Ён хадзіў паходам
На табун варожы,
Сягоння багацце
Для краіны множыць.
Горды сваёй сілай,
Ўладай сваёй горды,
Пры станку стаіць ён
Непахісна, цвёрда.
. . . . . . . . . . . . . . . .

*

Ў фабрыках, заводах
Гоман ля машынаў:
— Леніну мы помнік
Паставіць павінны.
Трэба таму помнік,
Які ў дзень і ў ночы,
Увесь свой век змагаўся
За справу рабочых.
Так пайшла па цэхах
Ды па ўсіх брыгадах
У працоўнай масе
Важная нарада:
Колькі хто даць можа
З сваіх заработкаў
На такое дзела,
А ў тэрмін кароткі...

*

Не ахвяры гэты
І гэта не грошы,
Што ўносіў рабочы
Старшы і малодшы,—

А крупінку сэрца
Хацеў кожны ўнесці,
Каб ленінскай славы
Шлі йшчэ далей весці.

*

І паўстаў гранітам
Правадыру помнік
Ў Барысаўскім парку
Для вякоў патомных.

*

І памёр стары Барысаў,
Ўстаў Барысаў новы;
Не дымяць агні пажараў,
Не браджаць аковы.

Прамінула ліхалецце
Бураў, завірухаў...
Аднак ты, Барысаў новы,
Не драмі, а слухай.

Не паддайся снам спакойным
Пад шчаслівым небам:
Хітры вораг за мяжою
Набівае стрэльбы.

Скупліно
(калгас „Чырвоны баец").
6/VII—34 г.

**ПЛАТОН ГАЛАВАЧ**

# ПРАЗ ГАДЫ*)

*Раман*

## ПАДЗЕЯ ДЗЕВЯТАЯ

Цераз тры дні ўвечары ў школу да Будніка на паштовых конях прыехаў з пакетам стражнік. Пакетам Будніку прапанавалася неадкладна-ж з'явіцца да ўрадніка, каб даць некаторыя тлумачэнні на цэлы рад пытанняў, звязаных, як было напісана ў пакеце, з ягонай службай.

Яшчэ цераз два дні павінна была прыехаць Ліда, і Буднік падумаў, што, калі нічога асаблівага не хаваецца за словамі, напісанымі ў пакеце, ён зможа проста з воласці паехаць на станцыю і сустрэць яе. У стражніка ён запытаў, ці не ведае той, у чым справа і ці доўгі час давядзецца гутарыць зураднікам.

— Нічога не ведаю,—адказаў стражнік.—Я тут па справах ездзіў, і па дарозе загадана было мне завезці вам пакет і падвезці вас, паколькі ўсё роўна коні ёсць.

Заспакоены такім адказам, Буднік меркаваў, як найлепш сустрэць Ліду. Ён нават рад быў некалькі такому выпадку. Ведаючы, што Ліда прывязе з сабою што-ні-што з партыйнай літаратуры, ён меркаваў, як выкарыстае яе, што зможа не асабліва хавацца з ёю, калі з гутаркі з ураднікам высветліцца, што яны ні ў чым сур'ёзным яго не западозрылі. І заадно меркаваў, як-бы лепш сустрэць Ліду ў сваім пакоі. Цяпер толькі, амаль за ўвесь гэты час, ён уважліва агледзеў свой пакой і здзівіўся з беспарадку, які панаваў у ім. Раскіданыя рэчы, кніжкі і газеты, закураная лямпа і непрыбраны, як след, ложак,—усё гэта цяпер прымусіла яго прыняць рашэнне, каб неадкладна-ж папрасіць жанчыну, якая даглядала за школай, каб яна прыбрала пакой. Трэба было спяшацца, і ён паслаў за жанчынай хлапчука, а сам пачаў рыхтавацца ў дарогу.

Жанчына хутка прышла. Здзіўленая такімі нечаканымі і познымі зборамі ў дарогу, яна запытала настаўніка, ці надоўга ён едзе.

— Дні на тры. Раней у воласць, да ўрадніка, вось нешта пакет прыслалі, а пасля на станцыю, сустракаць буду нявесту.—Ён усміхнуўся, змеціўшы на твары ў жанчыны здзіўленне.—Так, так, нявесту, у госці да мяне едзе. Вось я і хочу прасіць вас, цётачка, каб прыбралі ў мяне хоць троху, а то-ж я такога беспарадку тут нарабіў, што яна спужаецца і ўцячэ назад.

— Дык гэта праўда?

---

*) Працяг. Гл. № № 5, 6—7.

— А як-жа вы думалі. Самая што ні на ёсць праўда. Цераз два дні на трэці чакайце, прыеду ўжо не адзін.

— Ну, дай бог шчаслівай дарогі, калі так. Хоць гляну, якая яна ў вас там, нявеста ваша.

— Акурат, як тут, ні лепш, ні горш.—Буднік узяў са стала Лідзіну картку і падаў яе жанчыне.

— Тут то я яе часта бачу, а вось на жывую зірнуць хочацца. Гэта картка, мала што...

— Жывая, яшчэ лепшая.

— Вось я і пагляджу. А ці доўга-ж яна будзе гасцяваць у вас?

— Дзён дзесяць, можа трошачку больш.

— Ну добра-ж, шчаслівай дарогі, дай бог, каб нічога дрэннага не было.

Стражнік стаяў на дварэ каля коняй. Калі Буднік, папрашчаўшыся з жанчынай, пашоў садзіцца, сеў і стражнік, сеў насупроць Будніка і хутка, як паехалі, пачаў драмаць. Тады Буднік, узіраючыся ў ягоны твар, прыпомніў Пецярбург і свой першы арышт. Мільганула здагадка, што за ўсім гэтым выклікам цераз пакет, можа, хаваецца таксама арышт, але ў гэта не верылася, калі бачыў перад сабою спіну пашто-вага рамізніка і спакойны санлівы твар стражніка, які зусім не сачыў за ім, нічога не патрабаваў ад яго, а спакойна драмаў, схіліўшыся галавой на сена. Можна было сыйсці з каламашкі і пайсці ў лес, ён бы не толькі не затрымаў, ён нават не пачуў-бы. Хутка, каб больш упэўніцца ў тым, што ўсё гэта не хавае за сабою нічога сур'ёзнага, Буднік папрасіў рамізніка спыніцца, а сам злез і адышоў у бок ад дарогі. Стражнік прачнуўся, разбуджаны гаворкай, але нічога не сказаў яму і, калі Буднік прышоў і зноў сеў на сваё месца, ён, як і раней, драмаў. Гэта зусім супакоіла, і Буднік аддаўся марам пра блізкае спатканне і ўспамінам пра далёкі, даўно пакінуты, Пецярбург і пра сваіх пакінутых там таварышоў.

У гэты-ж вечар збіраўся ў дарогу ў Пецярбург і Міхаіл Палікарпавіч Галынскі. Склаўшы свае рэчы, ён перад захадам сонца пашоў да возера, каб паблукаць па яго беразе і пасядзець на сваім звыклым месцы. Як і заўжды, ён сеў на лавачцы і пачаў узірацца у супроцьлеглы бераг возера, над якім высокай сцяной стаялі алешыны. Стаялі дрэвы нерухома, а над імі, над берагам, над самай вадой, сядзеў чалавек. Ён сядзеў згорбіўшыся, падагнуўшы пад сябе ногі так, што галава ягоная амаль ляжала на каленках. Галынскі доўга аж да стомы ў ваччу, узіраўся ў чалавека, хацеў злавіць у ягонай постаці хоць адзіны рух, але чалавек не кранаўся з месца, сядзеў нерухома. Каля ног у яго гэтак сама нерухома ляжыць нешта чорнае.

Калі Галынскі намерыўся адвесці свой пагляд у бок, чалавек шавяльнуўся, варухнуў галавою, зірнуў на возера, навакол сябе, і крыху падняўшыся над сагнутымі нагамі, няўдала кінуўся ў ваду. Галынскі ўсхапіўся з лаўкі і застыў на месцы. Над вадою цераз момант мільганула два разы галава, узняліся, хапаючыся за ваду рукі, мільганула белая кашуля і ўсё знікла. Чорнае, што ляжала каля ног у чалавека, аказалася сабакам. Як боўтнулася вада, сабака падняў галаў насцярожана азірнуўся, прыслухаўся і, калі ўбачыў на вадзе галаву свайго гаспадара, забрахаў, бегаючы па беразе і кінуўся ў ваду. Ён доўга плаваў па возеры, соваў у ваду пысу, фыркаў і пішчаў. Стаміўшыся-ж вылез на бераг і, не страсянуўшы з сябе вады, пачаў выць. Тады Галынскі пабег у двор.

Човен падцяглі па прыбярэжным пяску да вады, і не паспеў Галынскі сесці на лавачку, як парабак спіхнуў човен у ваду. На вёслах

сядзеў панскі канюх, а маладзейшы парабак, як паплылі, адпіхнуўся яшчэ ад берага восцямі, і човен роўненька пабег з-пад вёслаў па гладкай паверхні возера да другога берага, дзе выў сабака. Калі човен наблізіўся, сабака зноў кінуўся ў ваду, падплыў да чаўна і з піскам паплыў назад, вядучы за сабою човен да месца, дзе ўтапіўся яго гаспадар. Канюх узяў восце ў рукі, стаў у чаўне на каленкі і апусціў восце ў ваду.

— Ен дзе-кольвеч тут і ляжыць,—сказаў ён, мацаючы возернае дно.—Сплыць далёка не сплыве, вада тут дужа павольна ідзе.

Дно было далёка. Восці стукалі жалезным рогам у дно, нічога не знаходзячы, а з дна падымаліся на паверхню вады бурбалкі. Тады падаліся з чоўнам трошачкі ў бок. Там восці і натрапілі на мяккае.

— Здаецца, знайшоў,—сказаў канюх,—і паціху пачаў падымаць восце ўгару. З дна густа пашлі бурбалкі, усплыла жоўтая муць, а з яе, зачэпленая восцямі, выплыла белая пачосная кашуля ды мільганула, крутнуўшыся, і зноў схавалася ў ваду чалавечая галава.

— Бяры рукамі, каб не ўпаў.

Маладзейшы ўхапіўся за кашулю рукою, а канюх паволі павеў човен пад бераг, дзе можна было лёгка вылезці на зямлю.

Човен ткнуўся тупым носам у мяккі бераг і стаў. Канюх, спяшаючыся, вылез з чоўна, папрасіў Галынскага патрымаць човен, а сам нагнуўся над вадою і пацёг тапельца на бераг. Тапельца паклалі на беразе на траве. Непадалёк ад яго сеў сабака і ўстрывожана ціха пішчаў. Галынскі нагнуўся над тапельцам і прыслухаўся да сэрца. Следам за ім паслухаў сэрца і канюх і, злёгку ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Капут яму, пане. Дзе ж ён будзе жывым, паляжаўшы ў такой вадзе. Не-е ўжо.—А пасля, прыгледзеўшыся да тапельцавага твара, паведаміў:—Гэта Павал Шкробат з Шапятоўкі, селянін тутэйшы.

— А як-жа гэта ён, чаго?

— Наўмысля пэўне. А то што-ж яму было рабіць? Ён быў сарваны, працаваць жывот не даваў, бо як возьмецца за што, дык яго і сагне крукам. Такі чалавек ні да чаго ў жыцці.

Канюх памаўчаў. Ён доўга ўглядаўся ў пасінелыя, худыя тапельцавы ногі, на якія садзіліся камары, потым пашоў да куста, наламаў галля з алешніку і ім прыкрыў ногі і твар.

— Браты цяпер рады будуць,— сказаў ён,—хоць неяк рукі ён развязаў ім.

Галынскага канюховы словы здзівілі і спалохалі сваёй грубай праўдзівасцю.

— А хіба ў яго браты такія дрэнныя?—запытаў ён.

— Чаму дрэнныя? — перапытаў, не разумеючы Галынскага, канюх.—Адзін, праўду сказаць, скупаваты, хоць і багаты, а другі вельмі добры чалавек. Я іх абодвух ведаю.

— А чаму-ж вы кажаце, што яны рады будуць?

— А што-ж бы ім было рабіць з ім, калі-б ён жыў?—зусім здзівіўся канюх і вытлумачыў.—Гэта-ж не дзіцё, што вырасце ды некалі само заробіць. І каб гэта, скажам, месяц які цягнулася, ці два, ці нават з год, але каб ён паправіўся, а то-ж цэлыя тры гады так. Брат ягоны адзін вельмі добры, з якім ён жыў. Ён яго і ў Сібіры лячыў і тут спрабаваў вазіць па дактарах і па больніцах, патраціўся на яго, а яму ўсё на папраўку не ішло. А да таго і лячыць няма за вошта, і карміць няма чым, бо гэты брат без зямлі, у якога ён жыў. Вось ён і парашыў, відаць, лепш утапіцца, чым пакутаваць, бо каму-ж гэта ахвота калеку на ўвесь свой век на свае рукі браць?.. Яму, небараку, больш і ходу не было, як сюды от.—Ён кіўнуў галавою ў бок возера.—

Як па-нашаму, дык так яно лепш, раз ужо чалавек ні да чаго не здатны, раз такое здароўе,—дадаў ён яшчэ, змеціўшы, што Галынскі ці то не разумее яго ці то баіцца ягонай гаворкі. А Галынскі маўчаў, здзіўлены развежаннямі канюха, іхнай аголенай жорсткай праўдзівасцю.

Непадалёк ад тапельца, пад дрэвам, ляжала старая торба. Канюх адышоўся, падняў торбу і зірнуў у яе. У торбе ляжала некалькі скібак чорствага хлеба і каля дзесятка спечаных бульбін.

— Ён, відаць па старцох хадзіў,—сказаў канюх.—Ну, то гэта ўжо не жыццё, я вам скажу: хадзі, прасі, ды няхай яно згарыць, лепш ужо так от.

Ад тапельца маладзейшы парабак пашоў у вёску, каб наказаць радні, а Галынскі з канюхом на чаўне паплылі назад на свой бераг.

Выпадак з тапельцам не паддаваўся разуменню. У радзе з'яў, якія давялося Галынскаму наглядаць тут за час, які ён пражыў у двары Пілацеева, гэтае здарэнне было найбольш цяжкім для разумення, асабліва калі прыслухоўваўся Галынскі да канюховых тлумачэнняў гэтай смерці, якія не выходзілі з яго галавы. Усё гэта ціснула на мозаг, вырастала ў вялікае і незразумелае, цэлай грамадай, глыбай простых, здавалася-б, але незвычайна складаных сваім зместам, пытанняў паўставала перад Галынскім і, патрабуючы свайго вытлумачэння заяўляла, што гэта і ёсць сапраўднае жыццё. А з-за ўсяго выглядаў знаёмы і загадкавы твар маладога вясковага настаўніка, у гаворках якога было багата блізкага да таго, што чулася і ў гаворцы канюха, які мог усё гэта зразумець, хоць і пасвойму, і вытлумачыць. Прыняць настаўнікавых тлумачэнняў не хацелася, а сваіх не было, свае былі абцяжараны грузам для самога сябе цяпер незразумелых разваг, у якіх не мог разабрацца.

За плячыма прывычна шамацела лісцё асінніка. Над галавой звінелі камары, а вочы блукалі па гладкім чыстым прасторы вады, цёмным у густой сіняве сваёй, на якой жылі звонкія, у вячэрняй цішы ўсплёскі рыб.

Дзесці блізка суседзіла ноч, хоць і было яшчэ зусім відна. Падкрадвалася ноч ледзь прыкметнымі шолахамі ў кустах з-за плеч і з вялікага лесу, што на той бок возера, дзе ляжыць тапелец, і з самага возернага дна. Русалкай з падання хутка падымецца ноч з вазёрнага дна, стане над вазёрам і шырока распусціць круг галавы свае чорныя, пышныя валасы. Цёмнымі пасмамі пацягнуцца яны ў наваколле, злучацца там з зямлёй і лясамі, і тады кане зямля ў дрымотную бездань. Чыстая і звонкая ўсталюецца на зямлі цішыня і будуць у ёй гукі больш выразнымі і акругленымі і мыслі будуць гэтак-жа больш акругленымі, дадуманымі да свайго канца. Чалавеку тады захочацца большага, чым яму дадзена, і сябе ён адчуе здольным на большае, чым робіць штодзённа. Захочацца шырокімі і смелымі крокамі волата прайсціся па зямлі і абвясціць людзям нешта новае і радаснае, у чым жыве спрадвечная іхняя мара пра лепшае.

Ад дум Галынскага адарвалі галасы, якія раптам узніклі на другім беразе каля тапельца. Відаць прышлі туды сяляне цэлай групай, каб забраць тапельца ў хату. Галынскі па галасах адгадаў, як сяляне бралі тапельца на рукі, як паклалі на калёсы. Хутка галасы прымоўклі і ў цішыні забраскалі па лясной дарозе колы. Тады Галынскі пашоў дадому. Там ён доўга яшчэ сядзеў сярод Пілацеевых, апавядаючы ім пра здарэнне з тапельцам. Спаць лёг позна, а раніцою адразу-ж, як падняўся, паехаў на станцыю.

Ранак быў ядраным. Сонца кружылася вялізным светлым кругам і ў няспынным руху, адрываючыся ад зямлі, плыло ўгару, награвала

зямлю, але яшчэ не было горача. Коні дружна беглі рыссю, падымаючы капытамі пыл. Пыл не паспяваў падняцца ўгару і кружыўся пад каламышкай, а пасля цэлымі слупамі доўга стаяў над дарогай. Галынскі зажмурваў ад сонца вочы і ўглядаўся ў дарогу наперадзе. Хутка ён змеціў на дарозе трох коннікаў і, наперадзе ад іх, некалькі чалавек, якія ішлі пешшу. Галынскі сядзеў, не адрываючы ад дарогі погляду, аж пакуль не нагналі коннікаў. Калі каламашка пачала наганяць іх, коннікі з'ехалі ў бок з дарогі і спыніліся. Спыніліся і тыя, што ішлі пешшу. Галынскі зразумеў, што вядуць арыштаваных. Ад гэтага стала няёмка. Абмінаючы іх, Галынскі прыўзняў шапку і павітаўся. Сяляне адказалі на прывітанне і тады пашлі, а Галынскі прыпомніў, што бачыў старэйшага, з чорнай барадой і другога высокага, на двары ў Пілацеева.

„Няўжо-ж за гэтую справу з зямлёй?“

Ён звярнуўся з пытаннем да фурмана, але той пра арышты нічога яшчэ не ведаў.

Галынскі азірнуўся назад. Абкружаныя пылам, узнятым конямі і каламашкай ішлі па пясчанай дарозе арыштаваныя, а за імі, на адлегласці некалькіх крокаў, ехалі конныя стражнікі. Галынскі падумаў, што сяляне ў гэты момант пазіраюць на яго з дакорам і ад таго таропка адвёў погляд ад іх. Ехаў пазіраючы сабе пад ногі, сагнуўшыся, яшчэ доўгі час баяўся падняць галаву і азірнуцца, а калі азірнуўся, постаці арыштаваных сялян і стражнікаў былі ледзь прыкметнымі над далёкім узгоркам. Захацелася хутчэй ад'ехаць ад гэтых месц, дзе давялося ўбачыць так багата цяжкага і незразумелага, захацелася да сябе ў Пецярбург, у сваю спакойную адзіноту, каб там абдумаць бачанае і зразумець яго, разабрацца ў ім, каб там вызваліцца ад пачуцця бездапаможнасці, якое нарадзілася тут, у гэтых мясцах і цяпер ціснула на мозаг, прыгнечвала і не давала спакою.

## ПАДЗЕЯ ДЗЕСЯТАЯ

Калі поезд спыніўся, вагон злёгку хіснуўся і напоўніўся гоманам. У купэ да Ліды, у якім яна доўгі час ехала адна, зайшло двое новых пасажыраў. Адзін з іх нізкарослы і каранасты, лысы, з добрымі светлымі вачыма, як распрануўся ў вагоне, дык засумяціўся, раскладаючы па палічках свае чамаданы і вузлы, а другі сеў да вакна паважна, праз меру спакойны ў гэтай паважнасці і разгарнуў свежы нумар газеты. Быў гэты хударлявы, высокі, гладка прычэсаны і ўвесь, ад прычоскі да даўгіх пазногцяў на пальцах левай рукі, быў задужа далікатны і ад таго непрыемны.

— Прабачце, я ўставаць буду.

Ліда падняла галаў і паправіла на плячах сукню. Тады пасажыр, які раскладаў свае рэчы, пакланіўся ёй і вышаў з купэ, а другі моўчкі сядзеў, закрыўшыся газетай. Ліда скінула з сябе коўдру, седзячы на лаўцы, яшчэ раз аглядзела сукню і, падагнуўшы пад сябе ногі, пачала папраўляць панчохі. Вачыма ўвесь час сачыла за суседам, які нерухома сядзеў, закрыўшыся газетай і час ад часу прыглушана, прыкрываючы рот рукой, пакашліваў. Спусціўшы панчоху, Ліда залюбавалася сваёй нагой і, гладзячы далонню гладкую выпукласць свайго калена, усміхнулася і паказала суседу язык, калі заўважыла, як знервавана заварушыўся ён на месцы. Пасля зноў нацягнула на нагу гладкі шоўк панчохі і, ужо зусім гатовая, спусціла ногі ўніз і надзела гамашы. Была яна радаснай па-дзяцінаму. Радасць была задзёрыстай і неспакойнай. Ад гэтага, выходзячы з купэ, каб пайсці памыцца, яна кінула да свайго суседа:

— Я даўно ўжо гатова, вы смела можаце адкрыцца,—і не даслухаўшы, што сказаў ён, выйшла. А ў калідоры, звяртаючыся да другога свайго суседа, запытала:

— Скажыце, хто такі ваш сусед па прафесіі?

— Здаецца, аграном. Земскі аграном,—адказаў той, некалькі збянтэжаны такім нечаканым запытаннем і чамусьці здзіўлена, са схаванай усмешкай пазіраючы на яе твар.

— Аграном? Дужа ён непрыемны,—сказала Ліда і, радасна ўсміхнуўшыся, пашла ў канец вагона, а на хаду яшчэ два разы, усё яшчэ нясучы з сабою ўсмешку, азірнулася на суседа. Тады і ён усміхнуўся і нешта сказаў наўздагон ёй.

Стоячы ўжо над умывальнікам перад люстэркам, Ліда раптам разрагаталася. Лоб яе над самым брывом, з правага боку, быў замазаны хімічным алоўкам. Цяпер яна дагадалася, чаму так загадкава ўсміхаўся сусед. Зрабіла сур'ёзны твар, зірнула на сябе і зноў зарагатала і насоўкай пачала выціраць лоб. Калі змыла з ілба сляды алоўка, пачала ўмывацца. Умывалася, абліваючы твар вадою з поўных далоняў. Пасля дзівілася, як сцякае з твару вада, капаючы цурком з кончыка носа, зноў смяялася і падоўгу прамывала вочы, не ведаючы, на што патраціць лішак сіл і радасці. Радасць была бязмерна вялікай такой, калі хочацца абавязкова падзяліцца ёю хоць з кім, хто згодзіцца выслухаць. Яшчэ чатыры прыблізна гадзіны і канец дарозе, а там, там спатканне, так даўно чаканае. Уяўляючы ўсё гэта, Ліда радасна ўсміхалася, жмурыла ў усмешцы вочы і шаптала да некага ласкавыя, пяшчотныя словы.—„Любы ты мой, харошы, родны“.—Слухала свой голас і зноў жмурыла вочы, а тады набірала яшчэ поўныя прыгаршчы вады і акунала ў іх твар.

Калі прышла ў купэ, суседзі яе вялі паміж сабою, відаць, даўно, яшчэ да цягніка пачатую, гаворку. Гаварыў больш маладзейшы, той, што прычэсаны, а другі час ад часу пярэчыў яму, не згаджаючыся з яго меркаваннямі, выказваў сваё і не для таго, каб спрачацца, а так, каб сказаць тое, што думае. І адчувалася ў ягоным голасе да ўсяго нейкая палахлівасць.

— Вайна,—гаварыў ён,—нясе ў сябе вялікую сілу разбурэння, так, так і вы, Сузон Іванавіч, дарэмна, дарэмна вы гаворыце, што вайна танней можа абыйсціся, чым мір. І няхай чатыры мільёны салдат у Еўропе і няхай яна на армію і флот страціла за леташні год чатыры мільярды рублёў, але затое-ж людзі, жывыя людзі засталіся. Гэта даражэй, чым што, так-так, даражэй...

— З вашага пункту гледжання, але не з пункту гледжання агульнанародных інтарэсаў.

— Як-жа-ж так?—здзівіўся той.—А якія-ж мае пункты гледжання? Вось я, скажам, настаўнік, дзяцей вучыць буду. Дзеці маюць бацькоў, адзетыя, не босыя, а тады бацькоў забяруць, каго заб'юць, каго скалечаць. Ну, гэта, ведаеце няхай лепш міне яно, такое, так, так.

Лідзе гэная гутарка напомніла Пецярбург. Апошнія месяцы Пецярбург жыў тэмай вайны, якой яшчэ не было, але якую прарочылі і ўгадвалі. У друку яшчэ жыло водгулле нядаўняй Балканскай вайны. Журналісты стараліся адгадаць апошнюю арыентацыю Турцыі і Балканскіх дзяржаў.

Газеты пісалі пра імкненні ваеннай партыі Аўстрыі і нямецкага мілітарызма, прыпамінаючы нядаўні стогадовы юбілей руска-французскай вайны. Газеты праслаўлялі палітыку Расіі, абвяшчаючы яе палітыкай міра, і кідаліся пападжальнымі пагрозамі па адрасу невядомых яшчэ ворагаў і лісьлівымі паклонамі ў бок магчымых саюзнікаў.

Таўстыя часопісі змяшчалі вялікія рэфераты прафесароў і палітычных дзеячоў, рускіх і замежных, у якіх абмяркоўваліся зусім адкрыта пытанні эканамічных інтарэсаў, якія будуць звязанымі з вялікай Еўрапейскай вайной і пытанні, якія былі тэмай гутаркі і Лідзіных суседзяў па купэ, у якіх палітыкі даводзілі, што, захаванне міра каштуе народам на многа больш, чым выдаткі, якія былі-б зроблены, калі-б узнікла Еўрапейская вайна. І ў ва ўсім адчувалася незвычайная раздражлівасць і нервовасць. Было падобна, што дзесці зусім блізка, хоць і ў баку яшчэ, блукае здань вайны. Палкія публіцысты штурхалі гэтую здань да актыўных дзеянняў і былі нездаволены, што народы так доўга затрымліваюцца.

— Дык няўжо-ж такі можа ўзнікнуць вайна? Гэта, Сузон Іванавіч, страшна, гэта вялікая бяда, так-так, страшная бяда.

— Зусім натуральна можа, і можа не ў далёкім часе.

Лідзе не хацелася слухаць гэтай гутаркі, не было жадання умяшацца ў яе і яна пашла з купэ ў калідор. Перад спатканнем, якога яна так доўга чакала, ні пра што іншае не хацелася думаць. У калідоры яна стала каля вакна. Поезд ішоў сярод поля. Непадалёк ад чыгункі зрэдку паказваліся вёскі. Яны вынікалі з-за ўзгоркаў і хутка зноў знікалі, адыходзячы ў далячынь. Тады перад вачыма слаліся палявыя прасторы. Дзе-ні-дзе поле зелянела лапінамі бульбы ды яшчэ позняга лёну. Дзе-ні-дзе стаялі кучкамі неприбраныя яшчэ снапы. То там, то сям, па полі, згінаючыся над плугам, хадзілі сяляне, мяшалі раллю пад азімае жыта, ці аралі на зіму. Часам поле цэлымі кавалкамі чарнела раллёй. Па раллі блукалі, раз за разам шырока ўзмахваючы рукой, сейбіты. За полем сінелі лясы, а перад імі на сенажацях, густа, на кожнай паласе, стаялі невысокія прысадзістыя, з гострымі вярхамі, стагі. Пасля лес, непрыкметна падкраўшыся, абкружаў чыгунку, і цягнік ішоў у цяні паміж дрэў, сеючы вакол сябе, пасілены водгуллем, жалезны гоман.

Ліда застыла каля вакна, зачараваная сваімі думамі. Хацелася разгадаць, які ён, ці не змяніўся? На адзін момант падыходзіў нечакана смутак, але, яна адганяла яго, аддаючыся марам. Насустрач поезду дзьмуў мяккі і цёплы вецер. Яна высунула ў вакно насустрач ветру галаву і, зажмурыўшы вочы, адчуваючы, як кранаецца твара вецер, думала пра першы пацалунак пры спатканні, адчувала яго сваімі вуснамі і тады, выставіўшы ў вакно рукі, цягнулася імі ў загубленую за лясамі далячынь, а плячыма адчувала абдымкі ягоных моцных і дужых рук.

Перад апошнім перагонам зайшла ў купэ і прыгатавала рэчы. Калі поезд пашоў ад станцыі, апранула паліто і зноў выйшла ў калідор. Яшчэ цераз нейкі час вынесла туды і чамаданы. Час ад часу высоўвала ў акно галаву і пазірала наперад цягніку, ці не відаць станцыі. Станцыі не было, і Ліда была задаволена гэтым, хацелася аваладаць сабою перад тым, як выйсці з цягніка. Але з тым, як набліжаўся цягнік да станцыі, яна яшчэ больш хвалявалася. Раптам прышла думка, што ён можа не спаткаць. Што-ж тады? І хоць не паверыла ў гэта, усё-ж не змагла і пазбавіцца ад смутку, які прышоў з гэтай думкай.

Поезд пайшоў па мосце над рэчкай і праз чатыры хвіліны спыніўся насупроць чырвоных сцен доўгага казённага будынка станцыі. На момант Ліда замерла на месцы, узіраючыся ў натоўп людзей, які пайшоў ад станцыі да цягніка. Пасля, як пашлі з вагона яе суседзі па купэ, схапіла чамадан і, спяшаючыся і ад таго блытаючыся ў дзвярах, пашла за імі. Выходзячы з вагона, адчула, як забілася нястрымна

шырока і часта сэрца, а рукі і цела ўсё акволела і ногі пачалі дрыжаць. Думала, што выйдзе з дзвярэй вагона і ўбачыць яго, падасць яму руку. І ад гэтага ўсхваляваная і радасная, ледзь прыкметная, усмешка шавяліла вусны. Выходзячы на ступенькі, зірнула ў натоўп, але таго, каго чакала спаткаць, не было. Ураз сышла з вуснаў усмешка, сэрца схопленае трывогай, сціснулася і забілася часцей і не так шырока. Павольна, з расхрыстаным паліто, яна пашла ад вагона ў бок да станцыі, усё яшчэ спадзяючыся на нешта. Яе абкружылі рамізнікі, пыталі, ці далёка ехаць і прапанавалі свае паслугі. Не звяртаючы на іх увагі, блукаючы поглядам сярод людзей, што асталіся на дварэ паміж цягнікам і будынкам станцыі, Ліда ішла, усё яшчэ не губляючы надзеі. Але таго, каго чакала, не было і ў пустым, забруджаным зале станцыі, не было і на пляцоўцы за вакзалам. Не ведаючы, што рабіць, зусім разгубленая, яна моўчкі стаяла на высокім станцыйным ганку, абкружаная рамізнікамі. Рамізнікі наперабой нешта гаварылі ёй, а яна не слухала іх, думала, што зрабіць, ехаць туды, ці пачакаць цягніка і, захаваўшы крыўду, паехаць назад? „А можа ён не атрымаў тэлеграмы? Ці можа захварэў, што-ж гэта я?“—І ўжо не пярэчачы, калі рамізнік ўзяў з яе рукі чамадан, пашла за ім. У высокіх мажарах, засланых сенам, на куфэрках і карзінах сядзела ўжо чацвёра. Гэта былі, як пасля высвятлілася, мястачковыя пагулянскія жыхары. Яны спаткалі Ліду, доўга разглядаючы яе, стараючыся прызнаць у ёй знаёмую, а не прызнаўшы, запыталі, адкуль і куды яна едзе і тады пачалі, запамятаўшы на яе, гаварыць пра свае, знаёмыя ўсім ім, справы. Фурман пашоў яшчэ да вакзала, але хутка вярнуўся, не знайшоўшы болей пасажыраў і, прымасціўшыся наперадзе так, каб паставіць на аглоблі ногі, пагнаў коняй.

Калі пабеглі рыссю і мажары забраскалі жалезам тоўстых шын па шашы, Ліда пачала пераконваць сябе ў тым, што той, каго яна чакала спаткаць, не прыехаў па нейкай важнай прычыне.

Коні беглі рыссю. Мажары ўздрыгвалі, ляскаталі жалезам і перашкаджалі думаць. Але хутка выехалі за горад. Шаша скончылася, і мажары пашлі цішэй і спакайней. Тады пасажыры, прыгрэтыя ранішнім сонцам, пачалі драмаць, а Ліда прымасцілася як ямчэй і, абапёршыся на драбінкі мажар, моўчкі пазірала ў поле. І зноўку заблукалі перад вачыма і палявы прастор, і гострыя вярхі стагоў на сенажацях, і шэрыя стрэхі вёскі і адзінкамі постаці сейбітаў, а вакол усяго гэтага, як бы замыкаючы круг жывога, нерухомы далёкі лес.

У мястэчку Ліда на некалькі хвілін зайшла ў харчэўню, каб папалуднаваць, а пасля наняла рамізніка і паехала далей. Надвячоркам, ужо зусім змучаная дарогай, калі павольна крочыў ляны і стомлены конь і з'езджаная каламашка пахвілінна бранчэла старымі рысорамі, Ліда задрамала. А калі прахапілася і расплюшчыла вочы,—выязджалі з лесу. У гэты момант рамізнік павярнуўся тварам да яе і паказаў пугаўём у напрамку да зарасніку, які відаць быў наперадзе на ўзгорку.

— Вось там і Шапятоўка, зусім ужо блізка.

Ліда паднялася з месца, стала ў каламашцы, але нічога яшчэ не ўбачыла, акрамя зарасніку. Цяпер вярнуўся настрой, які быў у вагоне. Зноў, занятая думкамі пра спатканне, яна захвалявалася і папрасіла рамізніка падагнаць каня. Цяпер хацелася, як мага хутчэй, даехаць да вёскі. Уяўляла, як уедзе ў вёску і знойдзе школьны будынак. Калі ён у сваім пакоі, ён выйдзе на ганак і ад нечаканасці, калі не атрымаў тэлеграмы і не ведае пра яе прыезд, пэўне, разгубіцца. А яшчэ лепш, думала Ліда, кал-б яго ў пакоі не было. Тады яна зайшла-б туды і моўчкі чакала-б яго. Знайшоўшы яе ў сваім пакоі,

ён быў-бы бязмерна рад. Яна чакала-б яго, як у Пецярбурзе, скурчыўшыся дзе-небудзь на канапе, ці на лаўцы. А пасля яны цэлы вечар сядзелі-б побач—яна расказвала-б яму багата цікавага пра сябе, пра Пецярбург і пра справы звязаныя з імем Васіля Андрэевіча.

Па вясковай вуліцы конь ішоў ціха, і Ліда, ужо не ўмеючы ўсядзець на месцы, разглядала вясковыя будынкі, стараючыся адшукаць школьны. Здавалася, што конь ідзе задужа павольна. Нездаволеная маруднай яздой, яна некалькі раз парывалася сыйсці з каламашкі і пайсці пешшу.

З двароў, гледзячы на Ліду, дзівіліся дзеці і жанчыны. Жанчыны некаторыя выходзілі з двароў на вуліцу, віталіся з Лідай, ішлі следам за каламашкай, разглядаючы яе, ды пацiху перакідваліся паміж сабою словамі. Непадалёк ад школы адна з іх падыйшла да каламашкі. Як падыйшла, прывіталася і загаварыла.

— Вы, паненачка, мусіць да нашага настаўніка прыехалі?

— Так, так. А вы яго ведаеце?

— А як-жа, ведаю, добра ведаю, ён і казаў мне, што вы прыедзеце...

— Гаварыў?

— Гаварыў і так гэта рад быў, што вы прыедзеце. Усё жартаваў, смяяўся...

Абрадаваная гэтымі славамі Ліда ўсміхнулася.

— І сказаў, што прыедзеце вы разам, прасіў, каб я пакой прыбрала да прыезду...

— Яго няма дома?—Ліда паднялася і схапіла рамізніка за плячо.— Стойце. — Лідзе хацелася разабрацца ў тым, што гаворыць сялянка.

— Ото-ж, я і кажу, што ён папрасіў мяне прыгатаваць пакой, а сам паехаў у валасць, нейкі пакет яму стражнік прывёз быў. Паехаў і сказаў, што адтуль па вас паедзе і прывязе. Я вось і гляджу, што вы адна едзеце... Няўжо-ж размінуліся дзе, ці што?

— Кажаце, стражнік прыязджаў? Даўно? — У Ліды мільганула думка пра арышт.

— Ото ўжо трэці дзень сёння. Акурат увечары паехаў...

— Значыць, яго арыштавалі,—хутчэй падумала, чым сказала Ліда.

— Што вы, паненачка? За вошта-ж? Не дай бог!

— А за што-ж нашых арыштавалі?—гэта ўмяшалася ў гаворку яшчэ адна з жанчын. Цяпер іх сабралася аж восем.—

— А майго за што арыштавалі?

— І вашых арыштавалі?—Ліда сыйшла з каламашкі.

— Арыштавалі.—На досвіцці прыехалі стражнікі, забралі і пагналі ў валасць. Мусіць і настаўніка, раз іх, бо ён-жа з імі больш і гаварыў, ніж з кім другім.

У тым, што Буднік арыштаваны, не было сумненняў. Заставалася дазнацца падрабязней аб прычыне арыштаў і ехаць назад.

— Я хацела-б пераначаваць у каго-небудзь,—сказала Ліда,—у каго і каня на нач паставіць можна.

— У мяне і паначуеце,—запрапанавала жанчына, якая першай загаварыла з ёю.—Пераспаць можна будзе ў школе, калі баяцца не будзеце, або ў мяне.

— Я ў вас перасплю ноч.—Ліда пашла за сялянкай, а следам за імі паехаў, завярнуўшыся, і рамізнік. Побач пашлі і сялянкі, што былі сабраліся ў вуліцы. Разам яны пашлі і ў двор. Калі гаспадыня пабегла ў хату, каб там крыху ўпарадкавацца, тая з жанчын, што гаварыла пра арышты, цяпер зноў пачала тую-ж гаворку.

— Не дай бог, што ў нас робіцца тут. Вось узялі, пагналі, а куды,

а за што, каб-жа ведаў хоць хто. Нё-ж за тое маюць права забраць, што схадзілі да пана?

— Вы ці далёка жывецё?

— А вось тут, цераз чатыры хаты. Стопачка там на гародзе стаіць. Вось-жа і хаты сваёй не маем, на чужым, на братавым сядзім.

— Я ўвечары да вас прыду, калі можна.

— А чаму-ж не можна, прыходзьце, паглядзіце, як мы жывём.

— Жывём мы... гніём мы, а не жывём. Толькі званне адно, што жыццё.

— Дык я прыду.

— А ўжо-ж прыходзьце. Настася можа і праўдзе, я скажу ёй.— Хадземце ў хату,—запрапанавала яна Лідзе.—З дарогі хоць пасядзіце на лаўцы і няхай чалавек гэты ідзе, а каня хлопец дагледзіць, як прыдзе, бо, мусіць, у полі недзе яшчэ.

— А вы, паненка, заўтра паедзеце, ці як?—гэта пытаў рамізнік.— Калі не, дык я досвіткам выбраўся-б і паехаў-бы сабе.

— Я паеду. Як толькі развіднее, дык і паедзем.

У хаце гаспадыня падмятала падлогу і, спяшаючыся, мокрай анучкай выцерла лаўкі, калі зайшла ў хату Ліда. У хаце было цесна і цёмна. Гліняная падлога, збітая, відаць, даўно, была няроўнай. Над галавой тоўстымі бэлькамі навісла столь. На жэрдцы, падсунутай пад бэлькі, вісела калыска. За калыскай на палацях, што былі замест ложка, моўчкі непрыкметная сядзела дзяўчынка і, паставіўшы на пачапку босую нагу, гойдала калыску, ды з-за калыскі нясмела пазірала на Ліду, бліскаючы парай палахлівых воч.

— У калысцы сын, шосты месяц яму,—вытлумачыла гаспадыня.— А гэта нянька ўжо, гэтай ужо хутка пяць год будзе.

Ліда адчыніла чамадан. Загарнутыя ў паперу ляжалі ў чамадане дзве шакаладныя пліткі, якія везла Ліда з сабою. Адну ўзяла яна і пашла з ёй да дзяўчынкі.

— На вось, гасцінца.

Дзяўчынка скурчылася і апусціла галаў.

— На, гэта цукерак такі, смачны,—Ліда стаяла перад дзяўчынкай з працягнутай рукой.—Ну, бяры-ж, гэта вельмі смачнае.

Падыйшла і маці.

— Вазьмі, дурненькая, не саромся. Гэта дзядзева цёця, яна добрая.

Дзяўчынка на момант ускінула галаў, бліснула на Ліду вачыма і зноў моўчкі сядзела, пазіраючы сабе на ногі, ды яшчэ ўпарцей пачала гойдаць калыску.

— Ну, вазьмі...

— Ай...

— Не возьме, саромеецца.

— Ну, я ёй пакладу тут, на ложку. А ты, як захочаш, вазьмі і з'еш, гэта вельмі смачнае.

Ліда паклала шакалад на ложак побач з дзяўчынкай і пашла да стала. Тады дзяўчынка зірнула на шакалад і адсунула яго ад сябе далей.

— Сарамлівая... Калі-ж расце вось гэтак, адна. Сама я на рабоце ўсё, няма каму даглядаць.—Гаспадыня паставіла на стол перад Лідаю кварту з малаком.—Вось хоць падсілкуйцеся трошкі з дарогі, пакуль вячэра. Прабачце ўжо, што харчы такія...

Ліда з ахвотай выпіла малако, а пасля пашла з сялянкай, якая чакала яе тут-жа ў хаце. Перад тым, як пайсці, яна ўзяла з чамадана другую плітку шакалада і яшчэ раз азірнулася на дзяўчынку.

1383 Инв. 1955

Тая сядзела ўсё гэтак-жа моўчкі, схіліўшы долу голаў, а побач, на коўдры, некранутым ляжаў шакалад.

У Шкробацёхі ў хаце было яшчэ цясней. За дзвярыма адразу мясцілася печ, а ад печы да сцяны палок, на якім спалі.

У куце пад абразамі невялікі стол і два ўслоны. Два невялічкія вакенцы давалі мала святла і ў хаце было амаль зусім цёмна. Ад таго ледзь адрозьніла Ліда, як увайшла ў хату, што на ложку сядзіць дзяўчынка.

Дзяўчынка ўзяла шакалад і падзякавала, але не разгарнула яго, а так і трымала ў руцэ.

— Мае смялейшыя, мае свету пабачылі, ажна ў Сібіры былі.

Гаспадыня расказала Лідзе пра сваё перасяленне. Гаворачы яна выграбла з печы ў кашолак печаную бульбу і, здзьмухнуўшы з яе попел, паставіла бульбу на стол. Пасля наліла ў міску вады з вядра, накрышыла туды кавалачкамі каржа, уліла лыжку алею і пасаліла. Размяшаўшы ўсё лыжкай, паставіла на стол.

— Ідзі, Марыля, вячэрай, ды спі.

Дзяўчынка ахвотна прышла да стала—відаць, даўно чакала вячэры—і прынялася за ежу. Яна старанна вылаўлівала з вады кавалачкі каржа і падоўгу жавала іх, запіваючы вадой. Ваду дзяўчынка за кожным разам размешвала лыжкай, каб не збіраўся алей у адным толькі месцы і пасля, набраўшы яе ў лыжку, старанна высёрбвывала яе і аблізвала лыжку. Калі ўсё з міскі было з'едзена, яна пачала есці бульбу. Бульбіну, як брала, доўга качала паміж далонямі, абдзьмухваючы з яе попел, а пасля ашкрэбвала трошкі зверху і ела.

— Гэтым толькі і жывуць,—вытлумачыла гаспадыня, як убачыла, што Ліда здзіўлена наглядае за дзяўчынкай.—Зямлі ў нас сваёй няма, хлеба няма свайго і каровы няма. А цяпер яшчэ і гэтае няшчасце... Як катаржнікі, жывём...

Дзяўчынка павячэрала і лягла спаць. У хаце тым часам зрабілася яшчэ цямней.

— Я, можа, на комінку запалю,—запрапанавала тады гаспадыня,— а то ў нас вельмі-ж цёмна. Яно пры такіх вокнах дык і сярод белага дня не відней.

— Не трэба, можна і так пасядзець.

— Як хочаце, бо лучына ёсць. Улетку мы рэдка палім, больш так, бо сядзець не даводзіцца.

— А яны што-ж рабілі?—перавяла Ліда гутарку на другое—Чаго яны хадзілі да пана?

— Зямлю сваю каб не даць.—Гаспадыня падрабязна расказала Лідзе пра гісторыю з адменай.—А ў майго-ж ды ў Анупрэя тае зямлі і няма, але пашлі-ж—захацелася ім чужое застойваць. Пашлі і пану сказалі, што зямлі яму адменьваць не дадуць. Можа яшчэ нагаварылі яму чаго і недалікатнага, а цяпер будуць пакутваць.

— І Павел Андрэевіч хадзіў?

— Настаўнік? Не, ён не хадзіў, ён толькі гаварыў часам з мужчынамі, раіў тое-сёе. Яго, відаць, цераз гэта і ўзялі. Ды можа-ж ён яшчэ і не арыштаваны?

Была мільганула такая думка і ў Ліды, а за ёй думка, каб застацца яшчэ на некалькі дзён і пачакаць. Але зразумела, што гэта будзе дарэмнай надзеяй. З усяго, што расказала сялянка, можна было зразумець, што Буднік арыштаваны. Калі толькі па справе, пра якую расказала сялянка, тады можна было спадзявацца, што цераз нейкі час ён вызваліцца. Але магло быць і іншае. Паліцыі магло быць вядомым большае, і тады неабходна было, не трацячы часу, неадкладна



1383

ехаць назад і папярэдзіць аб усім Васіля Андрэевіча. Заставацца тут нельга было, каб не ставіць пад пагрозу арышта і сябе. Памеркаваўшы пра гэта, Ліда развіталася з гаспадыняй і пашла ў хату, у якой спынілася. На дварэ яна сказала рамізніку, што хоча ехаць ноччу, адразу-ж, як адпачне конь.

## ПАДЗЕЯ АДЗІНАЦЦАТАЯ

Тое, што здарылася, адбылося так раптоўна і так нечакана для большасці шапятоўцаў, што яшчэ доўга пасля шмат хто з іх не мог вытлумачыць, чаму пайшлі яны той ночы на панскі двор.

Быў будны дзень. За два дні перад тым, не дачакаўшыся, калі прыдуць дадому арыштаваныя, бо арышты ўсіх напалохалі, шапятоўцы ўсё-ж выехалі ў поле, каб самім узараць свае шнуры, што папалі ў зямлю, адбітую Пілацееву ў адмену на балота. Выехалі шапятоўцы ўсе разам, акрамя Мікіты, які з хаты не паказваўся, як збіраліся мужчыны ў поле, ды яшчэ Давыдзюка Ахрэма і Дзідзянюка Хвядоса. Баючыся, што пачне Пілацееў праганяць мужчын з поля і для гэтага пакліча яго, як старасту, Давыдзюк, каб не апастырацца і са сваімі, на цэлы дзень сышоў з двара, пашоў на новы свой хутар церабіць.

Тым часам мужчыны пачалі араць. Дзесяткі па два баразён праганалі, калі на поле прышоў каморнік. Ходзячы па палосах, ён паспрабаваў з адным, з другім пагаварыць,каб адраіць араць, паколькі поле зусім законна не іхнае ўжо, а панскае, але хутка закурыўшы каля Хвойчыка, ён безнадзейна махнуў рукой і пашоў у вёску.

— Як хочаце, рабіце. Я за вас адказваць перад судом не буду.

— Ды яно за мужыка ніхто не адказвае, усё ён сам.

— Вы за паноў толькі адказчыкі.

— Ды за багатыроў яшчэ.

Пазней, перад самым полуднем ужо, на поле прыехаў панскі эканом. Ён рыссю, з крыкам узʻехаў на свежую раллю. На паласе, на якую ўзʻехаў эканом, араў Піскун Арцем. Апынуўшыся адзін на адзін перад эканомам, Арцём быў спалохаўся і спыніў каня. Баючыся, каб хаця не ўзваліў эканом на яго ўсю віну, ён пачаў быў апраўдвацца.

— Ці-ж я адзін ару, ці я пачаў? Аруць усе, дык і я ару. Але калі эканом загадаў ехаць дадому, ён запярэчыў.

— Калі ўсё паедуць, дык і я паеду, я не супроць, але адзін я не паеду. Што-ж, людзі араць будуць, а я буду пазіраць на іх? От, ганіце іх,—ён паказаў рукой у бок,—то і я паеду.

Ад Піскуна эканом упоперак палос паехаў па раллі да другіх. Каля кожнага ён спыняўся і загадваў неадкладна-ж ехаць дадому. Пагражаў, што паадбірае плугі. І ўвесь час выціраў насовачкай успацелы лоб. Як пачаў ён ездзіць, некаторыя мужчыны, не жадаючы, адзін на адзін сустракацца з ім і каб смялей было адчапіцца ад яго, сыйшліся каля Хвойчыка, нібы закурыць да яго прышлі. Яны стаялі на раллі вакол Міхалкі, закурвалі і моўчкі слухалі эканомавы пагрозы. Пасля Хвойчык не ўтрымаўся.

— А ты паспрабуй, можа і адбярэш плугі.

— Ты маўчы! — прыгразіў яму эканом. Я цябе даўно ведаю, хто ты такі.

— То я вельмі рад, што ты мяне ведаеш.

— Пабачым, ці доўга ты парадуешся, пане мой каханы, вось пабачым.

— Ты вось патыліцу вытры, бач, успацеў, папрацаваў бедны.

— Для пана стараецца...

— Як сабака для гаспадара.

— Бач, расхадзіўся як.

— Я цябе ў вастрог пасаджу! На катаргу сашлю!..

Эканом сагнуўся з сядла і засіпеў Хвойчыку ў твар.

— Не сіпі, як гадзіна! — Міхалка кулакі сціснуў і адыйшоў на крок.—Глядзі, каб самога куды не саслалі...

Сказаў гэта і пашоў да плуга.

— Некалі мне з табой важдацца.

— Дык я з табою яшчэ паваждаюся. — Эканом завярнуў каня і паехаў на дарогу.—Хочаце араць?—крыкнуў ён ужо едучы і скрывіў твар хітраватай усмешкай,—арыце, арыце! Арыце, калі ахвоту маеце!

З гэтым ён і паехаў. Аралі мужчыны і на другі дзень і ў гэты дзень на поле ўжо ніхто не прыехаў, не прыехаў ніхто і ў дзень, калі канчалі даворваць. Стомленыя працай, узбуджаныя насцярожаным чаканнем, што-ж будзе, шапятоўцы раз'ехаліся па дварах, умаўляючыся, каб заўтра выехаць і пасеяць на ўзараным жыта. У гутарках пра сяўбу прайшоў і канец дня. А надвячоркам, акурат як заходзіла сонца, у Шапятоўку прыехаў хлапчук з двара. Уехаў ён у вуліцу з усяго разгону і, едучы, адразу закрычаў. Перапалоханыя крыкам мужчыны павыскаквалі з хат і бягом кінуліся з двароў у вуліцу, дзе спыніўся хлапчук. Не злазячы з каня, ён размахваў рукамі, цяжка дыхаў і глытаючы словы, пра нешта апавядаў. З таго, што расказаў ён, мужчыны дазналіся, што прыслалі яго парабкі з двара. Прыслаўшы наказалі, каб папярэдзіў, што загадаў пан выехаць парабкам у поле і ў кругавую аб'ехаць сеялкамі ўзаранае шапятоўцамі поле. Так меркаваў ён пачаць засяваць гэнае поле і тым самым яшчэ больш замацаваць яго за сабою.

Навіна, якую прывёз хлапчук ад парабкоў, громам звалілася на шапятоўцаў і ў момант сабрала ўсіх іх на вуліцу і мужчын, і жанчын, і дзяцей. Напалоханыя такім нечаканым зваротам справы, некаторыя мужчыны замітусіліся па натоўпе, яшчэ больш раздражняючы яго, пасіляючы крыклівы гоман, які стаяў у вуліцы. Ніхто не ведаў, што рабіць, куды кінуцца. Пайсці праганяць парабкоў з поля,—гэта будзе самапраўствам. Пра гэта крычаў і стараста і хто-ні-хто з мужчын, якія парашылі, што лепш каб не было гэтай справы з зямлёй і ўжо даўно гатовы былі адцурацца яе, але не рабілі гэтага, паколькі не рабілі гэтага ўсе. З другога боку ўсе разумелі, што калі даць пану засеяць поле, тады наўрад ужо ці ўдасца ўтрымаць яго ў сваіх руках. І ўсё ведалі, што дзейнічаць трэба хутчэй, што нельга марна траціць часу.

— Дык рабіць-жа што будзем? Чаго-ж гэта мы базар адкрылі тут? Да якой-жа гэта пары мы маўчаць будзем?

— Дзе Міхалка дзеўся?

— Ісці трэба, з поля прагнаць!

— Мала толку з таго будзе, што мы толькі праганяць яго будзем.— Міхалка, які стаяў у натоўпе маўклівым, загаварыў.—Чулі—як ён пазаўчора крычаў, катаргай пагражаў? Мы яго праганяць будзем, а ён нас па адным у вастрог пасадзіць. Тут не ганяць трэба. Тут такое сказаць трэба, каб яму больш не захацелася і нагой ступіць на нашу зямлю. Годзе з імі важдацца нам! Годзе прасіць, ды кланяцца за сваё дабро. Ці ў нас рук няма?—Ён падняў над натоўпам сціснутыя ў кулакі рукі.—Ці мы ўжо зубоў не маем? Ён думае, што мы маўчым, дык мы рахманыя! Мы кусацца ўмеем. Мы так укусіць можам, што ажна тошна стане яму. Няма чаго патураць яму! Яму зямлі нашай захацелася?—аддай! Яму таго захацелася?—аддай! Яму можа і жонкі чыёй захочацца? Годзе патураць! Не парабкоў праганяць, а на двор

пайсці, на яго двор і паказаць яму, дзе яго месца. Пяты год яму паказаць, калі забыўся! Няма чаго баяцца! Вастрогі ўсё роўна для нас збудаваны!..

Міхалка ірвануўся з месца і пашоў па вуліцы, а за ім вакол яго, пашоў гаварлівы і злосна ўзбуджаны ягонымі словамі і злосцю за зямлю, гатовы на ўсё, натоўп сялян.

Сонца закацілася за лес і адразу стала цямнець. З-за небасхіла выйшла шырока займаючы неба, цёмная хмара і завурчала перакатамі грому. У гэты-ж час ад шапятоўскіх агародаў выбег у поле чалавек. Спяшаючыся, азіраючыся, каб ніхто яго не ўбачыў, ён пабег нацянькі цераз поле. Бегучы, ён увесь час азіраўся назад, адкуль даносіўся ледзь чутны гоман чалавечых галасоў. Пілацеяў пасля вячэры пра нешта гутарыў з эканомам, калі з саду да веранды прыбег, засопшыся гэны чалавек.

— Ратуйцеся!—крыкнуў ён узбягаючы на веранду.—Нашы на двор ідуць. Кажуць, пяты год мы яму пакажам, калі забыўся! Усе ідуць, як адзін. Злосныя. У злосці ўсяго нарабіць могуць. А я нацянькі цераз поле пабег, каб хаця папярэдзіць, каб хаця сказаць...

— Дзякую!—Пілацеяў кінуў гэтае слова ў бок да селяніна, а сам пашоў у пакоі. Пасля выскачыў з пакояў апранутым у паліто. Хутка за ім выбеглі перапалоханыя жонка і сын. На двары, дзе канюшні, эканом з парабкам канюхом запрагаў коняй. Яшчэ цераз тры мінуты коні пад'ехалі да ганку.

— Я, папа, не паеду,—раптам сказаў Пілацеяў-студэнт,—я паспрабую пагаварыць з імі.

— Глупства, кінь!—крыкнуў бацька.—З імі мне няма аб чым гаварыць. З імі заўтра стражнікі пагавораць, а не ты.

— Але, папа, не думаеце-ж вы, што гэта бунт? Гэта-ж смешна...

— Гэта не смешна. Мець справу з дзікім, аслепленым злосцю натоўпам, гэта не смешна. Зараз-жа сядай і паедзем.

Селянін усё яшчэ стаяў каля веранды. Цяпер і ён падышоў да фаэтона. — Трэба ехаць, панічок. Бог ведае, чаго яны надумаліся. Кажуць, пяты год яму прыпомнім...

— Ну, гэта, ведаеце, глупства. А ў агуле, як хочаце, я магу і паехаць,—і адразу-ж, следам за бацькам, палез у фаэтон.

— Шчаслівай дарогі, пане,—кінуў селянін, як крануліся коні, і пакланіўся.

— Дзякую. Памажы тут Ермалаю Трыфанавічу за дабром прыглядзець, калі што якое...

— Дзякую, пане.

Коні ірвануліся і рыссю пашлі з двара. Было зусім ужо цёмна і, як заўжды перад навальніцай, ціха. І Пілацеяў, як паехалі па пясчанай дарозе, пачуў злева ў полі гоман. Гоман, нарастаючы, набліжаўся да ягонай сядзібы. А з правага боку набліжалася навальніца. Сіняватыя агні бліскавіц успыхвалі то там, то сям, бегалі па чорным полі хмары, скрыжоўваліся, на момант знікалі і зноў ірвалі на кавалкі чорную заслону хмар. І разам з гэтым не змаўкаючы грымеў гром, было падобна, што качаюць па жалезным даху нябёс нешта цяжкае ў адзін і ў другі канец.

Як выехалі на бальшак, Пілацеяў загадаў спыніць коняй і азірнуўся. У прасвеце паміж высокіх тапалёў чарнелі будынкі ягонай сядзібы. У баку, дзе сядзіба, угары над ёю, пахвілінна бліскала маланка і, ужо не змаўкаючы, а толькі прыціхаючы на момант, гойдаліся над небасхілам зласлівыя грымоты грому. А з поля, як прыціхалі грымоты, даносіўся гоман чалавечых галасоў. Роўным струменем, не

змаўкаючы, гоман плыў па-над полем страшнай, неразгаданай сілай і пагражаў паглынуць у сябе Пілацеяўскую сядзібу. Потым гоман перарос у крыкі. Нехта на некага тукаў, нехта крычаў, каб кагось лавілі. У крыкі ўмяшалася конскае іржанне. Затарахцелі па няроўнай дарозе колы. Тады Пілацеяў здагадаўся, што ўцякаюць з поля, накірованыя туды эканомам з сеялкамі парабкі. Ад усведамлення свайго бяссілля і ад злосці захацелася Пілацеяву кінуцца і плакаць. Штосьці камяком падвярнулася да горла, перашкаджала дыхаць.

— Паганяй!—Пілацеяў падняўся з месца і таўхануў у плячо фурмана.—Паганяй!—прахрыпеў ён яшчэ раз, злосна сапучы таму ў патыліцу. Фурман шмаргануў за лейцы, сцебануў коняй пугай, і коні, ірвануўшыся з месца, панесліся рыссю. Пілацеяў, як стаяў, упаў на сядзенне і, не стрымаўшыся, вылаяў фурмана. Узлаваны фурман гнаў коняй шпарчэй і шпарчэй. Фаэтон то роўна каціўся па выбітых, раз'езджаных калявінах, то зыбаўся на выбоінах, і тады Пілацеяў згінаўся і, шырока растапырыўшы рукі, хапаўся імі за фаэтон, каб не ўпасці.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### ПАДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Атрымаўшы свежае папаўненне на месца згубленых на пазіцыі, батальён пасля некалькіх дзён адпачынку, ноччу зноў рушыў у акопы, пакідаючы за сабою ў тылу напалову разбуранае сяло. З сяла, перапоўненага лазарэтамі і казакамі, салдаты выходзілі падбадзёранымі, адчуваючы за сабою жывых людзей. Але бадзёрасць знікла, як апынуліся ў некалькіх кілометрах ад яго сярод поля. Знік размераны цвёрды крок, і ногі затупалі блытана і нясмела. Аднак каманды ўзяць нагу ніхто не падаваў, і салдаты кожны ішоў, як яму было ямчэй. Салдаты зараслі бародамі. На тварах загар і пыл. На гімнасцёрках гразь, перамешаная з потам. На кожным—шынель у скатку, паходны мяшок за плячыма, кацялок каля папружкі і на левым плячы на рамяні вінтоўка. Шкробат бачыць іх побач з сабою, вакол сябе, адчувае іх локцямі сваёй рукі. Шмат каго з старых акопнікаў ён ведае. Яны ідуць разам, купкамі, вылучаючыся сярод новых. Іх не дужа багата. Большасць іх засталася пасля баёў забітымі на полі, ці ў нямецкім палоне, як хадзілі ў атаку, а шмат хто папаў адтуль у лазарэт. Старыя акопнікі ведаюць, куды ідуць, і, занятыя сваімі думамі, крочаць маўкліва, як цені. Маўклівасць іхная перадаецца навічкам і палохае іх. Ад таго Анупрэю, які ідзе поплеч са Шкробатам, здаецца задужа цяжкай і вінтоўка, і паходны мяшок, і кацялок, які матляецца каля папружкі і злёгку дзынкае, стукаючыся аб гузікі на рукаве гімнасцёркі. Яны гнуць Анупрэя да зямлі, скоўваюць плечы і ўсё цела, таму і рукі, і ногі як звязаныя. Рукой ён стрымлівае кацялок, каб не звінеў, і, каб не адставаць, стараецца ўвесь час ісці ў нагу з Тарэнтам Шкробатам. Угары зоры патанулі ў святле поўнага месяца. Аблітае месяцавым святлом, усё наўкола застыла, і ў напружанай блакітнай цішыні крокі салдацкія, цяжкія і няўпэўненыя, званчэй, як заўжды. Яны палохаюць. Здаецца, хаваецца дзесьці паблізу страшная, неразгаданая небяспека, і хочацца, каб крокі былі цішэйшымі.

— Кажаш, цяжка жывуць?—Шкробат гаворыць упоўголаса, паварочваючы галаў управа да Анупрэя, свайго суседа па радзе.—Там цяжка, а тут яшчэ горш: ідзі вось, падстаўляй галаву пад кулі. Я ўжо чацвёрты раз гэтак вось іду ў акопы. Пакуль што цэлы, а заўтра мажа заб'юць...

## ПАДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

У воласці, у зборным пакоі, калі зайшоў туды Тарэнта, каля стала цэлым натоўпам стаялі сяляне. Стаялі моўчкі. А за сталом, спакойна седзячы на шырокім даўгім услоне, нешта чытаў немалады ўжо, але безбароды, рослы салдат. Чытаў ён голасна і павольна, так што кожнае слова запаміналася.

„...У сучасны момант,—чытаў ён,—на мясцах будуць утвораны прымірыцельныя земляробчыя камеры для добраахвотнага пагаднення паміж сялянамі і зямляўласнікамі...

...Пытанне пра арэнду зямель, якія пустуюць, таксама спешна распрацоўваецца. У імя агульнага парадку прашу кіравацца пастановай Часовага ўраду і не ўстанаўляць самавольна падабенства законаў..“

Тарэнта прышоў у валасць, калі салдат чытаў ужо, і чуў ён толькі канец прачытанага. Слухаючы, стаяў нерухома на месцы, як укапаны, каб хаця ўсё пачуць, але нічога з пачутага не зразумеў і таму, як змоўк салдат, ён пачаў праціскацца да стала.

— Ты, зямляк, пачакай!—сказаў ён, змеціўшы, што салдат згортвае паперку, з якой чытаў і мерыцца пакласці яе ў адварот рукава.— Я ў гэтым нічога не разабраў.

Мужчыны прапусцілі Тарэнту да стала, чакаючы пачуць яшчэ нешта, і зноў згрудзіліся вакол стала шчыльным кальцом.

— У чым ты нічога не разабраў?—запытаў садат. Ён сядзеў усё гэтакі-ж спакойны на сваім месцы, а перад ім, схіліўшыся над сталом, стаяў Тарэнта. Рукой адной Тарэнта ў стол упёрся, а другую працягнуў да салдата, паказваючы на ягоную паперку.—А што ты тут хацеў разабраць?—запытаў салдат.—Ды ці ты гэтага не чытаў? З вясны-ж яшчэ здаецца, на сцяне вісела, мог-бы і прачытаць.

— Я таго не ведаю, дзе яна вісела, а ты яшчэ раз прачытай, дай разабрацца ў тым, што напісана.

— Разбрацца ў гэтым лёгка разбярэшся, калі галаву маеш,—сказаў салдат і падняўся з-за стала, трымаючы ў руцэ паперку.

— Вясной пачалі дзе-ні-дзе сяляне панскую зямлю браць, засяваць. Думалі раз рэволюцыя, раз цара скінулі, дык зямля і іхняя...

— А чыя-ж зямля?

— Ну вось і ён, аказваецца, акурат гэтак-жа думае.

— А ты не жартуй! Ты хто такі будзеш?

— Хто я, гэта, зямляк, справа не такая важная. Важна вось, што міністр Шынгароў сялян такіх да парадку заклікае, абяцаючы ўсё па закону зрабіць. Ну, а гэта вядомая рэч: абяцанка-цацанка...

— А дурному радасць. Так, гэта верна,—скончыў прыказку нехта з сялян...

— А ты, зямляк, не жартуй,—у Тарэнты ад цесняты і ад напружання на ілбе выступіў пот. Ён схапіў з галавы шапку і шапкай выцер лоб.—Ты скажы, як-жа з зямлёй, раз ён закон абяцае, а браць не можна. Які-ж тады закон?

— А вось які закон: цара скінулі, а паны ды падпанкі розныя засталіся. І ты думаеш, што яны табе самі, ды яшчэ па закону зямлю аддадуць? Ім абманіць мужыка пакуль што трэба, вось і цягнуць, абяцанкамі яго кормяць. Маўляў сам не бяры, мы вось камеру ўтворым, а вы там тады ўжо з панамі і згаворыцеся, ці вас згавораць, якую зямлю вам пан у арэнду здасць, за якую цану здасць.

— Як гэта ў арэнду?—Думка працавала напружана і шпарка, стараючыся ўлавіць сэнс у тым, што гаворыць салдат. Гэта трэба было зрабіць як мага хутчэй, бо адчуваў Тарэнта, як з незвычайнай

шпаркасцю разбураюцца, здавалася, зусім раэльныя планы, якімі жыў ён гэныя месяцы пасля рэволюцыі, як знікаюць надзеі, вынашаныя ў адзіноце, правераныя ў гутарках і спрэчках са сваімі аднадумцамі. Усё было зусім простым, выразным. Ён і думкі не дапускаў, што з зямлёй можа быць неяк інакш, не так, як гэта ўяўляў ён.—Ты пачакай,—папрасіў ён салдата.—Пра якую-ж арэнду ты гаворыш? Якая-ж арэнда, раз зямлю народу перадаць павінны?

— У вас пан ёсць?—запытаў салдат замест адказу.

— Ёсць, Пілацеяў у нас.

— Зямлі ў яго колькі?

— Удоб'я тысячы чатыры, ды балотнай...

— А ў вас ва ўсіх колькі?

— У нас і палавіны таго няма.

— Дык чаму-ж гэта ты думаеш, што ён аддасць вам зямлю па сваёй волі?

— Ды не ён аддасць, улада аддасць.

— А ўлада чыя-ж? Твая ці ягоная? Ты вось салдат, і я салдат,—ведаем, як на фронце было. Пакуль не сарвалі з яго каторага пагоны, пакуль не пырнулі таго-сяго штыком, дык хоць і рэволюцыя, хоць і свабода, а ён усё ў морду меціўся нашаму брату. І тут тое-ж самае. Цара скінулі, а князі ды абшарнікі засталіся: Львоў, Гучкоў, Мілюкоў, Шынгароў... Ня бось, твайго прозвішча няма сярод іх? А ім аднаго і хочацца, каб хаця зямлі як не аддаць. Яны закон абяцаюць, а які-ж, як ты кажаш, закон можа быць? Калі-б хацелі зямлю аддаць, закон на гэта лёгка напісаць, думаць тут багата не трэба. А вось яны думаюць, думаюць, каб як хітрэй выкруціцца, каб не аддаць зямлі. Вось яны табе арэнду падсунуць, можа балота тое, што казаў, прададуць...

— Так...—Шкробат стаяў абодвума рукамі ўпёршыся ў стол. Пад правай рукой, заціснутая ў пальцах ляжала на стале шапка. На лбе і на шчаках пад вачыма буйнымі кроплямі выступіў пот.—Так,—сказаў ён яшчэ раз, старачыся ўлавіць у салдацкіх словах самае галоўнае,—а што-ж тады рабіць?

— Забіраць зямлю трэба. Ты на фронце быў?

— Ну!

— Салдацкія камітэты на фронце бачыў? Дык вось свае такія камітэты ўтвараць трэба і браць зямлю і даваць яе тым, у каго няма, у каго мала. Па другому тут няма чаго думаць, другога ты і да смерці не дачакаешся. Я, зямляк, гэта не для добрага слова кажу, не для таго, каб пагаварыць толькі. Сам я Ізмайлаўскага палка. Вясной у нас таварыш Ленін быў. Таварыш Ленін салдат прасіў, як перадавых з сялян, пасабіць сялянству разабрацца ў палітыцы. Я ад палкавога камітэта прыехаў, вось дакумант мой.—Салдат адхінуў палу шынялі, дастаў з кішэні дакумант і, разгарнуўшы, паклаў яго перад сабою на стол.—І таму я не ад свайго імя гавару і не сваімі словамі, а словамі таварыша Леніна. Цара сёння няма ў Расіі, але пануюць капіталісты і абшарнікі, у іхных руках улада, а не ў руках народа, а трэба, каб знізу і да верху, ад тваёй вёскі глухой,—рукой паказаў на Тарэнту,—да Піцера, каб улада належала Советам рабочых, салдацкіх, батрацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Толькі такая ўлада і перадасць зямлю. Я прыехаў сюды пасабіць вам, паколькі я сам з тутэйшых мясцаў. І табе, зямляк, на сябе справу трэба ўзяць. Дадому прыедзеш і збірай сваіх, камітэт выбірайце, ды няхай камітэт забірае зямлю. А чакаць няма на што, справа тут ясная. Тут справа такая, што ці мы зямлю возьмем і засеем з восені, ці паны нас акруцяць... Вось і ўсё.—Салдат узяў са стала дакумат і падаў Тарэнту.

— Гэта точна, што ты Ізмайлаўскага палка,—сказаў Тарэнта, аддаючы дакумант назад. Ён узяў са стала шапку і выцер успацелы твар. Пасля надзеў шапку і пашоў ад стала да дзвярэй, але каля дзвярэй спыніўся.

— Ну, а замацаваць за кожным як-жа тую зямлю, калі, скажам, мы яе ўзялі-б?

— А так і замацоўвайце камітэтам, а вясной разбярэцеся, да вясны ўся наша ўлада будзе, а не іхная.

Тарэнта выйшаў з воласці, адвязаў ад плоту каня і, нікуды больш не заязджаючы, паехаў дадому. Было адно жаданне, як мага хутчэй даехаць дадому, пагаварыць з Мікодам і нешта рабіць, рабіць хутчэй, бо здавалася, прапусцяць яны яшчэ колькі дзён, і тады ўсё загіне. Распалены гэткімі думкамі, ён старанна шморгаў за павады, падганяючы каня і пахвілінна біў яго пад бакі ботамі. Ад такой неспакойнай язды балелі ногі. Конская спіна рэзала, было цвёрда сядзець на ёй, і Тарэнта раз-по-раз саскакваў з каня і цягнуў яго за повад за сабою.

Да Шапятоўкі пад'ехаў гэтак Тарэнта, як зусім змерклася. Тут прыпомніў, што павінен быў купіць на мястэчку цвікоў, але зусім запамятаў на іх пасля гутаркі з салдатам. Словы салдатавы не выходзілі з галавы. Яны хвалявалі, хацелася як мага хутчэй пераказаць іх і іншым. Таму як прыехаў на свой двор, дык зайшоў толькі ў хату, каб паказацца і зараз-жа пашоў да Мікоды. Да Мікодвай хаты падыходзіў усміхаючыся, здаволены, што вось ён менавіта першым прынясе шапятоўцам такія важныя навіны. Але як прышоў у хату, крыху разгубіўся. У хаце плячыма да дзвярэй стаяў нехта ў салдацкай гімнасцёрцы і гаварыў амаль зусім падобнае да таго, што чуў Тарэнта ад салдата ў воласці. Ужо Тарэнта гатоў быў падумаць, што прыехаў такі салдат і ў Шапятоўку, як той, што гаварыў, павярнуўся тварам насустрач яму, калі пачуў, як рыпнулі дзверы і Шкробат пазнаў Міхалку Хвойчыка.

— Вось табе і на!—сказаў Тарэнта, вітаючыся з ім.—Я толькі думаў, што от прыеду і здзіўлю іх, сказаўшы што, аж і ён тое самае гаворыць.

— А ты дзе-ж што пачуў?

— Вось пачуў-жа, у воласці.

Тады ўсё, хто быў у хаце, прыціхлі, далі Тарэнту расказаць пра пачутае. Калі гаварыў Хвойчык, усё што казаў ён, было цікавым, дразніла жаданні, якія цэлымі гадамі насілі яны ў сабе, але, здавалася, яно чамусьці далёкім, пэўна таму, што здалёк прыехаў і прывёз усё гэта Хвойчык. Але калі пачулі тое-ж самае ад Тарэнты, калі пачулі ад яго, што пра гэта, не хаваючыся, гаварыў салдат, які мае спецыяльныя дакуманты, які для гэтага і прыехаў ажно з Петраграду, тады ўсё гэта паўстала ў новым, іншым святле.

Першым пасля Тарэнты абазваўся Мікода.

— Ага,—сказаў ён,—значыць і па другіх мясцах людзі гэтак-жа думаюць? Ну, то хаця няма чаго баяцца нам.—Як ты думаеш, Павел Пятровіч?—звярнуўся ён да настаўніка.

— Як я думаю? Думаць можна на розны лад, але справа такая, калі быць праўдзівым: поўгода прайшло, як рэволюцыя адбылася, і ўсе класы пажынаюць плады рэволюцыі, акрамя сялян. Сяляне ўсё яшчэ чакаюць свае долі, ім усё яшчэ прапануюць пачакаць. Вось тут і законнае пытанне, ці варта чакаць? І чаго дачакаешся?

— Калі-ж тут чакаць ужо, калі сеяць трэба?

— Правільна! Якое тут чаканне можа быць?

— І не мы-ж адны, урэшце, такое робім, усе так робяць.

Пасля гэтага яны доўгі час раіліся, скучыўшыся каля стала. Было гэта неабходна, каб замацавацца на згавораным, бо от так у гутарцы усё здавалася больш ясным і поўным. І ў часе гэтым здарылася так, што верх над усім узяў Тарэнта. Ён найбольш і гаварыў.

— Саставім камітэт, пойдзем і абвесцім ёй усё. З хаты, скажам мы цябе не праганяем, браць мы ў цябе нічога не бярэм, акрамя зямлі, сядзі сабе, калі хочаш, і не бойся. Возьмем зямлю не без закону. Павел Пятровіч нам усё, як след, напіша, на паперы занясе.

Павел Пятровіч у знак згоды ківаў галавою. І выйшла так, што стаў Павел Пятровіч як-бы Тарэнтавым памочнікам ва ўсіх справах, якія меркавалася рабіць. А назаўтра пад поўдня сабралі на Сузонавым двары людзей. Збіралі самі, без старасты, і збіралі не ўсіх, а толькі тых, у каго зусім няма зямлі, ды ў каго яе мала. Аднак, як пачалі збірацца людзі, прышлі туды ўсе. І перад сходам паміж Тарэнтам і Мікітам Шкробатам адбылася такая гутарка:

— Ты чаму-ж гэта мне нічога не сказаў?—запытаўся яшчэ ціхім голасам Мікіта.

— А на што табе казаць?

— Як гэта на што? Ці ты думаеш, што табе аднаму зямля толькі трэба?

— Дык-ж у цябе ёсць зямля.

— Ёсць, але-ж то мая, мая ад веку, законная! А гэтую раз дзяліць, дык усім дзяліць, а не толькі вам.—Мікіта пачаў ледзь не крычаць і з гэтага і пачаўся сход.

— Усё табе мала, ніяк табе не нажэрціся!—Тарэнта махнуў рукой і адышоў ад Мікіты.—Сыйшліся мы па вялікай справе,—сказаў ён.— На двары восень, людзі пасеялі амаль, а мы ўсё нечага чакаем, гледзячы на Пілацеяўскую зямлю. А я думаю, што чакаць няма чаго, раз рэволюцыя поўгода таму назад як была. Зямля народная павінна быць.

— А дзе-ж закон?—вытыркнуўся наперад староста. — Па якому-ж гэта праву ты зямлю возьмеш?

— Зямля народная, гэта ясна, для гэтага і рэволюцыя была. І пакуль там нехта да закона дадумаецца, нам сеяць трэба, нам няма чаго чакаць. А як і што будзе, пра тое нам раскажа Павел Пятровіч.— Рукой паказаў на настаўніка, які стаяў побач.

Настаўніка слухалі з вялікай увагай. І не адзін чалавек не запярэчыў, калі настаўнік запрапанаў скласці камітэт, назваўшы Шкробата Тарэнту, Мікоду Жука, Хвойчыка Міхалку, Сузона Каляду, Ганорыка Сымона і сябе. За гэтым некалькі хвілін маўчалі. Настаўнік перапісаў на паперы прозвішчы камітэтчыкаў і падаў паперу бліжэйшым, каб на ёй распісаліся.

— Гэта правільна, каб пасля не казалі, што мы нічога ведаць не ведаем...

— Каб калі ўжо давядзецца адказваць, дык каб усім, а не аднаму каму.

— А калі я не згодзен на такое?—запытаў староста. Яго падтрымаў Мікіта і яшчэ некалькі галасоў.

— То цябе ніхто і не просіць. Я, хлопцы, пра гэта і сказаць хачу. Зямлю мы таму дадзім, у каго яе няма, ці ў каго мала. А табе, Ахрэм, ды Піскуну, ды Сапуну, ды Мікіту нашаму то я думаю, няма чаго даваць зямлі, хопіць з вас і тае, што маеце.

— Дык то-ж свая!—закрычаў Мікіта.—Якое-ж ты маеш права пра тую зямлю гаварыць, упікаць мне той зямлёй? Га? Ён не дасць!..

— Ага, а як-жа, асэсар то такі!

— Дык вы-ж падпісаць паперы не хочаце?

— Папера сваім чарадом, а зямля сваім чарадом.

— Гэта то ўжо не так.

— Ды мы можа тае зямлі і самі браць не будзем, не дужа на яе пагалімся, але толькі ў такой справе праўда павінна быць.—Староста загаварыў спакойней.—Не тое, што вы яе возьмеце, а другім не дасцё. Хто дасць ці не даць—гэта справа яшчэ далёкая, але мы можа яе і самі браць не будзем...

— Дык чаго-ж вы крычыце тады?

— Бо ты-ж дужа крычыш, голас падняў свой.

Тарэнта зірнуў згары на Мікітаў твар.

— Нешта ты расхадзіўся сёння. Можа лепей было-б, каб памаўчаў?

Мікіта нешта буркнуў і адышоў да старасты.

— А цяпер, Павел Пятровіч, можа зразу і пойдзем,—запрапанаваў Тарэнта.—Непарадку ў нас ніякага не будзе зробім мы ўсё чын-чынам як след.

З гэтым і пашлі. Пашлі спачатку толькі камітэтчыкі, а мужчыны заставаліся нейкі час яшчэ на Сузонавым двары. Пасля неяк само так выйшла, усе, як былі, пайшлі вуліцаю ўслед за камітэтчыкамі.

З дарогі Тарэнта звярнуў на поле і пашоў да двара нацянькі. Зрабіў ён гэта не таму, што ісці так было значна бліжэй, а таму, што хацелася перайсці поле, якое цераз нейкі час будзе можа і ягоным. Пра гэта і думае ён цяпер. Прагна аглядаючы вачыма поле, мяркуе ён дзе было-б ляпей узяць зямлю яму самому ці то тут, бліжэй да дарогі, ці можа на той бок двара, ад рэчкі, дзе і высокага поля троху ёсць і нізіна ёсць. Заняты гэтымі меркаваннямі ён маўчыць. Слухае, як мякка ступаюць ногі па жытнішчу.—„Як пух, мяккая“,— думае ён,—„вырабілі людзі сваю так не выраблялі“.—Нагнуўся і рукой падняў з пожні камяк зямлі. Зямля сухая. Пальцамі расцёр яе і са жмені сыпануў па пожні, пасеяў. І з гэтым парашыў, што зямлю сабе возьме абавязкова каля рэчкі. Ён прыпомніў як часта даводзілася быць каля рэчкі на паплавах. Улетку там жоўцень красак і густы сакавіты мурожны насціл. Як зморышся косячы, хочацца тады упасці на густую мураву, схіліцца над самой вадой рэчкі і піць яе губамі проста з ракі, піць доўга, аж пакуль не прагоніш дакучлівай смагі. А напіўшыся легчы ў мураве тварам да зямлі і хоць некалькі хвілін ляжаць, раскінуўшы рукі, ляжаць так, каб увесь твар быў у травяной мякаці, каб дыхаць даўкімі пахамі чорнай ліпкай зямлі, каб і вочы сачылі зусім зблізку, як сплялося ў зямлі травяное карэнне. Паляжаць так і тады перавярнуцца і легчы тварам дагары, каб над галавой была толькі сінь нябёс, ды лахматыя атрускі белых далёкіх хмар.

— Трава, ці расліна, скажам, каранямі, а чалавек і рукамі і зубамі за зямлю трымаецца,—гаворыць ён уголас, але ні да каго не звяртаючыся, і ідзе полем, мераючы яго шырокімі крокамі.—Усё з зямлі жыве. Усё за яе трымаецца, і лішні ты чалавек на зямлі, калі не маеш свайго ўласнага месца на ёй, ці калі, скажам, цесна табе на такой вялікай планідзе, калі вузак твой шнур на ёй. Скупа тады і родзіць яна на такім шнуры. Зямля таго любіць, хто цвёрда на ёй стаіць, хто шырокім крокам мерае на ёй сваю часціну... А тут столькі людзей без зямлі сядзелі, голадам душыліся...

Непрыкметна падыйшлі да панскага двара. У двары заўважылі, што ідзе з поля натоўп. Зацікаўленыя гэтым пачалі збірацца парабкі, якія былі ў гэты час дома. Нехта папярэдзіў і эканома, што ідуць людзі, а ён адразу-ж папярэдзіў і панаю. Калі прыйшлі камітэтчыкі

ў двор, пані з эканомам стаяла на верандзе, падрыхтаваная да нечаканай сустрэчы. На прывітанне яна адказала камітэтчыкам ледзь кіўнуўшы галавою, усё яшчэ трымаючыся з гонарам, які вынесла з пакояў.

— Мы па справе прыйшлі,—загаварыў з ёю Шкробат,—камітэтам.— Ён узяў ад Паўла Пятровіча паперу і паказаў ёй.—Пакуль пані чытала напісанае на паперы, нічога яшчэ не разумеючы, толькі ўгадваючы ва ўсім гэтым нешта нядобрае і страшнае для сябе, Шкробат маўчаў. Загаварыў зноў тады, як яна аддала назад паперу.—Справа наша аб зямлі. Зямлю мы, пані, ад цябе забярэм...

За плячыма ў абшарніцы стаяў, трымаючы ў руцэ шапку эканом. Ён пахвілінна выціраў насоўкай лоб і палахліва паглядаў то на камітэтчыкаў, то на парабкоў, якія сыйшліся да веранды.

— Як гэта так вы забярэце зямлю?

— А так і забярэм, камітэтам, вобчаствам.

— Я вас пра гэта не пытаю, я пытаю, па якому гэта праву?

— Права ў нас ёсць, правы нашы рэволюцыя адкрыла, цяпер вось у вас правоў менш будзе.

— Калі вы будзеце грубіць, я адмоўлюся гаварыць з вамі!—Абшарніца хвалявалася і чырванела ад злосці.

— Гэта, скажам, як вам захочацца. Мы рабіць вам беспакойства ніякага не будзем, нам вы не патрэбны. Мы толькі сказаць прышлі, папярэдзіць, як гэта гаворыцца, што зямлю забярэм, каб у вас лішніх турбот не было, каб Ермалай Трыфанавіч скажам, дарэмна людзей не пасылаў на работу.

— Вы,—абшарніца падалася на крок бліжэй да Тарэнты.—Вы думалі над тым, што вы робіце?

— Гэта будзьце ўпэўнены.

— Мы не без галоў.

— Робім тое, што нам след рабіць.

Парабкі ўнізе зашапталіся, пазіраючы ў бок за дом. Хутка адтуль прышло чалавек сем сялян яшчэ, а за імі і ўсе, хто быў у Шапятоўцы на сходзе. Ішлі яны з гоманам у якім вылучаліся задзірастыя жартаўлівыя галасы. Гэты гоман, ды спакойныя галасы камітэтчыкаў напалохалі абшарніцу. Яна адчула сябе бездапаможнай. Пад горла падгарнулася камяком крыўда і злосць і перашкаджала дыхаць. Ад гэтага закружылася галава, ногі акволелі і яна не паспела пайсці ў пакоі, як была надумалася, а хістаючыся адыйшла назад і апусцілася ў крэсла. Эканом падхапіў яе пад рукі і пасабіў сесці.

— Боже мой!—Абшарніца рукой схапілася за грудзі, пасля паднесла руку з насоўкай да воч.—Божа мой, што-ж гэта такое?

— А ты, пані, дарэмна, не расстройвайся,—Тарэнта бездапаможаа азірнуўся на сваіх.—Мы табе беспакойства ніякага не зробім, дабра чапаць мы не будзем...

Абшарніца адвяла ад воч насоўку і, трымаючы дрыжачыя рукі перад тварам прастагнала:

— Божа! І яны яшчэ здзекваюцца.—Заплакала, але цераз хвіліну застукала кулакамі па крэсле.

— Вон! Вон з майго двара!—Схапілася з крэсла і злосная, чырвоная ад злосці, пашла на мужчын, паказваючы рукой з веранды.—Вон! Я не хачу з вамі гаварыць, я не хачу бачыць вас.

З веранды падняліся некаторыя сыйсці. Падаліся назад Тарэнта і Мікода, а настаўнік разгублена адыйшоў у бок і яна пайшла на Сузона, схапіла яго за пусты левы рукаў, шмарганула, хацела так павярнуць яго з веранды. І ўжо ўсе чакалі, што Сузон пойдзе ўніз,

і ўжо настаўнік баючыся, што абшарніца і яго возьме так за плячо, бокам падаўся ўніз, як адбылося нешта нечаканае. Сузон, як схапіла яго абшарніца за рукаў, зразу разгубіўся быў, але калі шмарганула яна рукаў і кранула пальцамі, уразіла былую рану, ён раптам уздрыгануў увесь, збялеў і з размаху сваёй адкінуў яе руку ў бок.

— Ты мяне не чапай! Рукамі не тузайся!.. Сука старая!..—у Сузона ў момант твар укрыўся кроплямі поту, шчокі пачалі падрыгваць.

Зірнуўшы ў твар яму, Пілацеіха падалася назад, ускрыкнула як назваў яе сукай і, уцякаючы ў пакоі, істэрычным голасом пачала крычаць, пагражаючы законамі. За ёй у пакоі падаўся і эканом. Цераз нейкі час ён выйшаў адтуль, моўчкі прайшоў каля мужчын і загадаў фурману запрагаць коняй. Хвілін цераз пятнаццаць Пілацеіха моўчкі, хаваючы ў поглядзе хітрую пагрозу, прашла да фаэтона, села і паехала з двара.

Пакуль адбывалася ўсё гэта, мужчыны маўчалі. Сузон стаяў сярод купкі мужчын і ўсхвалявана гаварыў, што яму ўжо надакучыла цярпець, што ён нічога не баіцца, хоць-бы і катаргі, што калі-б яшчэ Пілацеіха кранула, ён штурхануў бы яе так, што аж паляцела-б. А камітэтчыкі раіліся, што зрабіць. Да іхняй гаворкі, крыху збянтэжаныя ўсім, што ўбачылі, прыслухоўваліся сяляне. Было сярод сялян і некалькі жанчын, тыя, у каго забралі мужчын на вайну. Самай бойкай сярод салдатак была жонка Восіпа Зяньковіча. Яна першая падала і параду камітэтчыкам, што рабіць.

— Хай сабе і едзе, думае, што нехта збаіцца яе. А вы бярыце там паперы якія, калі трэба, і мерайце зямлю, а няма папер, дык і без іх. Усё роўна-ж пасадзяць вас,—усміхнулася яна, дражнячы,— нікуды-ж вы не падзенецеся.

— Ды яно і праўда, скажам эканому, каб пашоў з намі і будзем адбіваць па ўчастку, кожнаму па парадку.

— А каморнік-жа хто ў нас?—ажывіўся натоўп, падбадзёраны такім канцом.

— А навошта каморнік?

— Каморнік у панскую карысць мераў, а мы сабе самі.

— На вока!..

— На крывую бярозу мяжу павядзем...

І з гэтым пашлі. Мералі зямлю ад возера, каля рэчкі. Непадалёк ад панскай сядзібы канчалася паласа канапляніка. Паўз каноплянік і пашлі камітэтчыкі, адмерваючы зямлю сажонкай, якую зрабіў нехта ўжо на панскім двары. Як адмералі дзвесці сажнеў, спыніліся і азірнуліся назад, ці далёка.

— Вузка, гані яшчэ.

— Гані, поля хопіць.

Калі ў другі раз спыніліся, тады забілі ў зямлю сыры, зачасаны тут-жа калок. Забіваў калок Мікода. Ён старанна біў па калку абухом сякеры і ўсё рукой спрабаваў, ці годзе біць, забіваючы калок так, каб не лёгка было выцягнуць яго пасля з зямлі. І на поле, як і ў двор, прышлі ўсе шапятоўцы. Усім хацелася на свае вочы бачыць, што робіцца, дзе каму які ўчастак адабʼюць. Прышлі на поле і староста з Мікітам, якіх у двара не было. Яны былі засталіся ў вуліцы, як пашлі мужчыны за камітэтчыкамі і староста яшчэ паспрабаваў быў пажартаваць.

— Вось як адбяруць ім некалі, дык аж моташна стане,—сказаў ён.—Гэта-ж трэба надумацца толькі: без ніякага закону зямлю браць!

— Але-ж,—згадзіўся Мікіта,—рэволюцыя, бач, права ім дала. І наш-жа дурны скрозь от лезе першым. І колькі разоў я яму гаварыў...

— Рэволюцыя, то рэволюцыя, але-ж ты не думай, што калі ўжо цара скінулі, дык і парадку няма ніякага, дык і круці-муці як сабе хочаш. Яшчэ парадак будзе...

На гэтым яны змоўклі. Можна было-б і па дварах пайсці, але ні адзін не пашоў, ні другі. Стаялі на месцы і маўчалі. Стаялі так некалькі хвілін. Пасля Мікіта нясмела як-бы запытаў, раячыся:

— А калі ды так і абыйдзе, а?

— Гэта?

— Ага. Гэта-ж шкода ўсё-такі зямлі будзе. Чым-жа я горш за каго—другога, во што?..

— Ды яно то так.

— А то як-жа? Ці—калі яны і дабро, бывае, пачнуць разбіраць?..

— Дабро то не крануць.

— Адкуль-жа ты ведаеш? Вось-жа нешта пачулі мусіць такое ў воласці, што пашлі, асмеліліся...

Стараста маўчаў.

— Я думаю, ці не пайсці нам туды,—запрапанаваў Мікіта,—хоць паглядзець, во што...

— Яно схадзіць можна.

Згадзіўшыся, стараста скрануўся з месца і пайшоў. Поруч пайшоў і Мікіта. У поле яны прышлі акурат тады, як адмяралі камітэтчыкі першы кавалак зямлі. Мікода акурат тады забіў калок і, разагнуўшыся запытаў:

— Дык чыя-ж гэта мяжа будзе?

— Ага, каму-ж гэта запішам?

На запытанне ніхто не адказаў. Па тварах ва ўсіх прабегла разгубленасць. Мужчыны пачалі хваляванца, парываючыся і не асмельваючыся загаварыць. Гэтакім-жа разгубленым стаяў моўчкі сярод усіх і Тарэнта Шкробат. Ён быў неспакойны. Вось-вось намерыцца загаварыць і нічога не скажа, усё пазірае то ў бок пад рэчку, то туды, дзе мяжуе панская зямля з шапятоўскай.

— Тарэнту запісаць трэба,—запрапанавала Вера, разгадаўшы ягоныя меркаванні.

— Яно можна і другому каму,—нейкім, па незвычайнаму ціхім голасам, сказаў Тарэнта,—а можна і мне.—Апошнія словы сказаў зусім ціха.

— А чаму гэта канечне Тарэнту гэны кавалак?—запытаў нехта.

— А таму, што яму,—адказала Вера.—Вось не табе, а яму.

— Ну гэта ты тут парадкі не ўстанаўляй, кыш на седала, к пеўню.

— Каб-жа з цябе добры певень быў, то пашла-б, а то грэбень у цябе абвяў зусім...

Мужчыны зарагаталі.

— Вось гэта та-ак! Гэта дык сказала, няма чым крыць.

— Ты яе, Мірон, па гэтай часці не чапай лепш.

— Ды з ёй чорт не згаворыцца, ні то што я.

— Такі пішыце за Тарэнтам гэны кавалак,—карыстаючыся тым, што павясялелі ўсе, запрапанавала Вера яшчэ раз.—Ён у нас самы бяззямельны, як ёсць.

— Ну, пішы, Павел Пятровіч,—сказаў Мікода,—хай па яе хоць раз будзе.

— 'Шчэ не раз по-мойму будзе,—агрызнулася, усміхаючыся Вера.

— Што-ж гэта яшчэ па-твойму будзе, га?

— Што захочу, тое і будзе.

— Ды ты багата чаго захочаш, ого!..

— А ты-ж думаў, можа так, як ты.

Сярод мужчын зноў выбухнуў дружны рогат, а Вера ўзяла з Хвой-

чыкавых рук сажонку і пайшла з ёй паўз канапляник, мераючы сажань за сажнем, пахвілінна павяртаючыся да іх тварам, укрытым усмешкаю.—Я сама сабе адмераю,—вытлумачыла яна свой учынак.—Не давяраю мужчынам, яны ўсё мяркуюць каб як бабу ашукаць.

— Дужа цябе ашукаеш.

— А ты паспрабуй,—Вера ўскінула насустрач Хвойчыку ўхмылку, падражніла ўхмылкай і зноў пайшла наперадзе ўсіх з сажонкаю.

— А чаму гэта ты сабе тут мераеш?

— Бо хачу з Тарэнтам суседзіць.

— Упадабала хіба?

— Нё-ж цябе ўпадабаю такога нягеглага!

І зноў адгукнуліся мужчыны рогатам. Участак, які адмерала Вера, запісалі на імя Восіпа Зяньковіча. Сажонку Вера пасля гэтага зноў перадала Хвойчыку.

— Ідзі, мерай, мне ўжо хопіць.

Канчалі мераць на другі дзень, акурат у пару, калі з воласці вярталася Пілацеіха. Змеціўшы панскіх коняй, сяляне зацікавіліся, ці не спыніцца фаэтон і ці не выйдзе з яго хто-небудзь з валасных, але фаэтон праехаў не спыніўшыся аж да сядзібы. На поле гэтак сама ніхто не прышоў. Аднак яшчэ цераз дзень у Шапятоўку прыехаў валасны старшыня. Зайшоў ён да старасты, пасядзеў у таго, папалуднаваў і паехаў назад. А яшчэ цераз некалькі дзён даведаліся шапятоўцы, што Пілацеіха паехала ў Петраград да мужа.

Гэта былі першыя дні верасня, сонечныя, цёплыя, у якія звычайна ў гэтых мясцах канчаюць сеяць жыта. Але ў тысяча дзевяцьсот семнаццатым годзе восеньская сяўба зацягнулася ў Шапятоўцы на больш як калі. І кожнага новага чалавека, які трапляў ў гэныя дні ў Шапятоўку, дзівіла, што сеялі ўсе разам, у адны дні. Едзе чалавек такі па бальшаку і бачыць, як па ўсім полі рассыпаліся людзі, хто арэ, хто сее, хто барануе. У некалькі дзён увесь прастор Пілацеяўскага поля чарнеў свежа-забаранаванай раллёй. Хутка раллю барознамі падзялілі на роўныя загоны, а яшчэ цераз колькі дзён узышло жыта.

Перад гэтым звечара, аглядаючы поле, Тарэнта часта згінаўся над загонам і прыглядаўся да зямлі. Зямля была голая. Дзе-ні-дзе выскальвалася травіна, але жыта яшчэ не ўзыходзіла. На паверхні загонаў, дзе-ні-дзе ляжалі зярняты, не прысыпаныя зямлёй. Згінаючыся над загонам, Тарэнта то запіхаў зерне такое ў мяккую раллю, то клаў на зерне зверху камяк зямлі, каб пад зямлёй яно хутчэй разапрэла і ўзышло; шкода, калі зерне не ўзыйдзе, валяючыся на паверхні. На заўтра Тарэнта зноў прыйшоў на поле і не пазнаў яго. Было зусім яшчэ рана. Сонца падымалася над зямлёй з-за балота, кладучы на загоны мяккія, косыя свае промні. Па загоне разам з сонцавымі промнямі цягнуўся даўгі Тарэнтаў цень, губячыся галавою ў недасяжнай далячыні каля рэчкі. Пазіраючы ўслед свайму ценю, Тарэнта змеціў, як змяняецца колер зямлі. Чым далей ад ног, тым мякчэй гэны колер, тым гусцей на ёй зялёнае, ледзь прыкметнае яшчэ адценне, а самы ўзгорак, густа асветлены сонцам, шчацініцца зеленаватай пазалотай.

„Узышло“!—Тарэнта застыў на месцы, пасля сагнуўся і сеў на карачках перад загонам, узіраючыся ў цёмнашэрую зямлю. Узыйшло жыта, сваё жыта, пасеянае на сваёй уласнай зямлі. Ён сядзеў з прыкаваным да зямлі поглядам і ўглядаючыся ў яе, шукаў на ёй нясмелых яшчэ ледзь прыкметных каліў маладога жыта. Вось яны, адно, другое, трэцяе... пятае... дванаццатае... яны зусім, зусім яшчэ не прыкметныя, кволенькія. Далей ад яго асветленыя сонцам, яны больш

прыкметныя, а перад вачыма Шкробат ледзь адрознівае іх ад зямлі. Шукаючы іх, ён водзіць па-над загонам рукою з выцягнутым пальцам.—„Вось... і вось... і вось яшчэ...“

Вочы доўга ўглядаюцца ў адно месца, пакуль палец кранаецца каліва, якое аказваецца маленькім кавалачкам ад травіны. Жытніх каліў мала, яны рэдкія, і вочы стамляюцца, шукаючы іх, але Тарэнта ўсё гэтак-жа сядзіць перад загонам на карачках. Здаецца, што ён бачыць, як узыходзяць новыя калівы. Пад лёгкім пакрывалам шэрых пясчын, ён адгадвае іх. Лёгка, ледзь-ледзь ён кранае пальцам пясчынкі, разгортвае іх і намацвае мякаццю пальца нежны востры канец жытняга парастка. Тады здаецца яму, што ледзь прыкметна варушыцца пясок вакол на загоне, як хапае погляд і вочы бачаць, як, пракалоўшы тонкую скарынку з пяшчынак, вылазяць з зямлі новыя парасткі, якіх яшчэ не было.

— Узыйшло хіба?

Тарэнта паволі, адарваўшы погляд ад зямлі, уздымае галаву ўгару і бачыць перад сабою братаў твар. Брат таксама крыху сагнуўся над загонам, углядаючыся ў зямлю.—Жыта, то тут добрае будзе,— кажа ён,—'шчэ якое добрае.

Слухаючы яго, Тарэнта падымаецца з зямлі, выпростваецца.

— Што ты тут робіш?—пытае ён у брата.

— Пагаварыць з табою хачу, во што. Мне, канечне, зямлі тае панскай можа і зусім не трэба, не аб тым гаворка, 'шчэ невядома, што з усяго таго будзе, але ты-ж брат, во што...

— Ну?

— То на шта табе пры чужых людзях гаварыць рознае, што таму ды другому зямлі не трэба? 'Шчэ ці выйдзе што з тае зямлі, я ні пра яе гаворку вяду, але нам-жа век разам жыць, во што. Мо-ж не раз яшчэ за тым ці за другім давядзецца паткнуцца ў двор да мяне, во што, можа і не варта было-б апастырацца.

— А што я табе такое, скажам, зрабіў, што так ты захадзіўся?

— А чаго-ж ты крычыш на людзях, што Мікіту зямлі не трэба? Яно, можа, і не трэба, гэта як я захачу, але чаго табе, канечне, крычаць пра тое, во што? Шчэ і вы той зямлёй ці пакарыстаецеся? Гэта мала, што значыць, што нехта нейкі там набрахаў. Без парадку-ж яно не абыйдзецца, каб хто што захацеў, тое і зрабіў.

— Але чаго ты да мяне прыстаў, як смала тая?

— Таму і прыстаў, што думаю, ях брат родны, то мог бы ты і памаўчаць, во што

— Дык-жа ж ты сам кажаш, што табе зямлі не трэба. Чаго-ж мая гаворка цябе так уразіла?

— Гэта мая справа, што я сам кажу...

— Ну а то мая...

— Дык ты-ж можа брат мой? во што...

— А які-ж ты брат? Ты запамятаў ужо, як прагнаў Паўла, як на той свет яго загнаў?.. На гэта ты ўжо запамятаў? Тады дык ён табе не быў братам? Тады ты з жандарам гэтым сваім круціўся, да паноў, як сабака, бегаў... Тады не бараніў, як брата ў вастрог вялі, а можа...—Тарэнта палаўся бліжэй да яго,—а можа гэта ты даказаў? Можа ты навёў тады стражнікаў? Нешта-ж ты па завуголлю бегаў, часам бачылі... Скажам, чалавек на катарзе не цераз цябе?.. А цяпер ты, як паноў напужалі, як жандараў пабілі, спалохаўся? Я яшчэ да твайго швагра дабяруся, ндзе ён не дзенецца...

Мікіту братава злосць напалохала не на жарт. Ён стаяў перад ім шмат ніжэйшы, баязлівы і часта лыпаў вачыма. За ўсе гэтыя месяцы

летнія ён не раз чуў ад розных людзей на мястэчку, як рабілі ў Петраградзе, ды ў іншых гарадах з жандарамі, ды з тымі, хто ў паліцыі служыў. Заўжды слухаючы гаворкі пра гэта, ён чамусьці палахліва адсоўваўся, не любіў слухаць іх да канца. Яны нараджалі ў Мікіты трывогу і страх перад нечым яшчэ не зразумелым. Гэтак было і цяпер пасля братавых слоў. Ад страху і ад крыўды, што страшыць родны брат, ён захваляваўся і спачатку не мог ніводнага слова сказаць, толькі цяжка дыхаў, пазіраючы ў твар брата, а як саўладаў з сабою і змог загаварыць, сказаў толькі адно:

— Я людзей не тапіў, стражнікаў не наводзіў, во што, і ты мяне не ўпікай такім... ды падумай, можа яшчэ давядзецца чаго і да мяне паткнуцца,—дадаў ён пасля кароткае паузы і пайшоў з поля.

Тарэнта на гэтыя словы змаўчаў брату, толькі ад злосці плюнуў сабе пад ногі, ды як папаўся пад ногі кавалак дзёрна, з усёй сілы адшвырнуў яго нагою ў бок. За гэтым пастаяўшы яшчэ троху на месцы, пашоў каля жыта да рэчкі, дзе пусціў быў перад гэтым пасвіцца каня. Да рэчкі ішоў хутка, хоць спяшацца не было патрэбы, а як прышоў да рэчкі, лёг над берагам на мураве і, адкінуўшы ў бок шапку, каб не ўпала з галавы ў рэчку, намерыўся піць ваду. Пакуль сплывала смецце, якое нацерушылася ў ваду, ён ляжаў над вадой, углядаючыся ў спакойнае і павольнае цячэнне ракі, і слухаў як супакойваецца сэрца. Як супакоіўся, доўга піў, а пасля падняўся, на каленкі і доўга выціраў рукою змочаны ў вадзе твар.

(Працяг будзе)

**УЛАДЗІМЕР ХАДЫКА**

## ВЕРШЫ КРАІНЕ

1

Эпоха будням лік вядзе
На змест свайму календару.
Вітаю я, мой новы дзень,
Тваю гарачую пару.
Вітаю, пройдзены ў баях,
Пад новым сонцам, родны свет.
Ты з даляў змёў астатні прах
Старых правоў, хлуслівых мэт.
На гэтых далях мы стаім:
Нам працы ёсць і сіл стае—
Каб кіраваць жыццём тваім
Ї вартаваць шляхі твае.
Каб ў час, тваю узняўшы рань,
Быць ля старна крутых падзей—
Ї крыкнуць ўсёй зямлі:—Устань,
Ї кроўным правам валадзей!

Твой плён і лёс мой на раду
Адзінай зоркай зіхацяць.
Ты—дужых рук, вялікіх дум
Маё працоўнае дзіця.
З табою чулі мы не раз,
Як хрып начэй, як штурм вятроў:
Крывёй заліць рабочы клас
Варожых жыл шалела кроў.
Ї зараз тупяцца мячы,
Ї марны іх крывавы старт:
Нікому ў свеце не змагчы
Рэволюцыйны авангард.
Не запалохаць, не спыніць
Пары расплат, дзень новы мой:
Вялікай буры гром грыміць,
Ї хваль людскіх расце прыбой.

Краям выростаць і цвісці—
Гарыць блакітны далягляд.
Нам у акіяне дум плысці
Ї не варочацца назад.
Хай мчаць наперад караблі...
Я на агні слядоў тваіх.

Аб бераг страчанай зямлі
Разбіта ярасць белых крыг
І ноч аб камень нашых скал
Дарэмна гне свой медны лоб:
У пену падае луска
Чужых надзей, былых хвароб.
У моры згінуць банды хмар,
Прарве імглу суровы зрок,—
Каб стаў усёй зямлі ўладар
І твой і мой чарговы крок.
Каб смела ў даль дарог глядзець,
Змагаць вякоў варожых раць,—
Як можна больш нам трэба ўмець
І будаваць і ваяваць.

2

Над горадам вясенні ранак
І ўдарнай працы баявік.
Мінае свой другі паўстанак
Бадзёры месяц красавік.

На скрыжаваннях вуліц людных
Вільготным смехам б'е у твар.
Уверсе воблакі, як судны,
Плывуць ў падветраны абшар.

Гудзіць і вые шторм абапал...
Так з гор узнятая зіма
Збягае ўніз пакласці лапу
У снег, каторага няма.

Так прагне верш да формы сціслай,
Калі разыйдзецца рука.
Так пеніцца старая Свіслач,
Неўціхамірная рака.

Разлютаванасцю паводак
Губляе меру, траціць сэнс...
Расце героем пяцігодак
На варце часу скромны Менск.

З палёў вайны, з-пад смертнай ласкі
Ён вынёс свой жывучы крок—
Былы бядак Расіі царскай,
Правінцыяльны гарадок.

Аддаўшы ганьбе і пагардзе
Хрып дробных здрад, як пыл гадоў,—
Ён стаў у першым авангардзе
Савецкіх нашых гарадоў.

І не адолеюць такога
Ні кроўны вораг, ні вякі.
Кладуць вялікую дарогу
Адважныя будаўнікі.

Васёлым сонцам грае неба,
Глядзіць у даль вачэй цяпло...

У ім галоўная патрэба,
Каб маладым жыццё было.

Ў ім смерць і сну, што жыў у народзе,
Дзе ёсць у першай чарадзе—
Настрой, каторы песню родзіць,
Ї песня, што ў паход вядзе.

3

Хай выюць ветры непагоды
Ї ходзяць хмары над зямлёй.
Свой горды лад твае народы
Нясуць у свет, край родны мой.

З кайданаў цемрадзі вастрожнай
Да светлых дзён прыйшлі яны.
Гартуюць шлях на пядзі кожнай
Твае адданыя сыны.

Пяюць нямотныя пустыні,
Дзе пройдзе сіла нашых рот.
Вясна ўладарная не згіне,—
Дрымлівых рэк растопіць лёд.

Ї мэта, чым жывем і марым,
Не згубіць след, не страціць нас:
Тваім ахоплены пажарам,
Ўстае грымотнай славы час.

Ідуць хадою непакорных—
Пад сцяг апошняй барацьбы,—
Усе пасынкі стагоддзяў чорных,
Аплёванай зямлі рабы.

Заўсёды з імі наша думка,
Ї з намі—дбайнасць іхных тэм:
Патрон ваеннага падсумка
Мы на выпадак беражэм.

Мы п‘ем зару тваіх усмешак,
А нам усім вялікі лік...
На месяц злосць сваю адбрэша
Варожай прывязі язык.

Ў імгле драпежнага разбою
Слата над светам адымжыць...
О, край, мы выраслі з табою
Змагацца, будаваць і жыць!

Ў адзінай кузні гартавалі
Мы дужасць рук і стойкасць ног.
Наш правадыр—таварыш Сталін,—
Арганізатар перамог.

4

Ў вячэрнім золаце праменняў
Былых часоў мільгнула здань...
Яшчэ не ўсе згубілі цені
Спакой адвечнага гнязда.

Яшчэ варушыцца часамі
Астатні зброд то там, то тут,
Ї чорны век у кожнай пляме
Знайсці спрабуе свой рэдут.

Як злыдзень, сочыць, хто падвые
Яму ў нутро на воўчы лад...
Не дрэмле светлы далягляд,
Не моўкнуць песні баявыя.

Паходамі бацькоў жыве
Герояў племя маладое...
Як войска перад першым боем,
Праходзяць думкі ў галаве.

Я да людзей душой прыкуты
Ї разумею звера гнеў:
Над морам крыўды і пакуты
Магутны голас празвінеў.

Ён светам днём да перамогі
Прывёў наш край, вядзе сусвет.
Мы пройдзем ўсе на край дарогі,
Хай свой крывёй адзначым след.

Мы вытапчам вякоў дымы,
Нас рэволюцыя радзіла...
Апошніх ворагаў магілу,
Убачыць будзем рады мы.

Таму і прагнасці багата,
Ї носіць гордасць кожны з нас
За ўсіх, хто лёг пад куляй ката,
Хто ў бой вядзе працоўны клас.

Таму й дажджом праменняў вясніх
Прыемна змыць трывог акно
Ї цёплых слоў сабе на песні
Браць залатое валакно.

5

Каму, як не табе, паслухаць
Жывую музыку вясны?...
Нішто тваё не рэжа вуха:
Сніць ноч свае зямныя сны.

Дрыжаць брывёй густыя хмаркі...
Їх фарбе ў нервы рэк сыйсці.
Їх можна разабраць без чаркі,
Да мудрай праўды дарасці.

Мы ведаем усё, што робім,
На гранях дзей праводзім век.
У гэтым сэнс вялікай спробы
Знаходзіць новы чалавек.

Таму і нашым сніцца зорам
Блакіт нябачаных паэм,

Ў каторых проста мы гаворым
Аб тым, што маем, чым жывем.

Ты ў гэтых снах яшчэ суровей,
Яшчэ вастрэйшы твой адказ—
Калі кую, ашчадны ў слове,
Я профіль цьмянага радка;

Калі падкутай рыфмай *выб'ю*
Я іскры мёртвай пекнаты,—
Мой вырыс песні песняй рыб'яй
Завеш з вялікім правам ты.

*Ты* лірыкі маёй не любіш
За рэбус і за фарбаў тло...
Ты мой наступны дзень галубіш,
Якому роўных не было.

А я люблю твой светлы эпас,
Твой зрок суровы п'ю да дна...
Душа—не параная рэпа,
Жывым агнём гарыць яна.

6

Ручаі ў адталай глебе
Жвавы свой танцуюць танец.
Кожны дзень цвіце на небе
Маладой зары румянец.

Кожны дзень гудзе і звоніць
Шыр прастораў, рух бяскрайні...
Я ў тваім, вясна, палоне,
Ты ў маёй сардэчнай тайне.

Светлай радасці не страшыць
Нетаемнасць тайны гэтай:
Ў дружбе з явай нават нашы
Ўсе любоўныя сакрэты.

Нам таіць няма прычыны
Ўсё, што сэрцу спанараўна.
Лепшым вобразам дзяўчыны
Хай жыве, што мерла здаўна.

Што нясе свой боль астатні
Утапіць ў вясенніх водах...
Мой табе, па дружбе братняй,
Гэты верш і кожны подых.

Я табой навекі повен,
І зара цвіце табою...
Сталі з думкамі на ўзровень
Ўсе пачуцці, ўсе настроі.

Жыватворчай працы многа
У цябе, вясна-сяброўка...
І у нас па ўсіх дарогах
Баявая падрыхтоўка.

Кожны рух і гонар уласны
Уладай дзён прызваны к бою.
Будзе жыць абшар калгасны
Большэвіцкаю сяўбою.

Будзе ў полі ветрык лётаць,
Будуць вусны ў песні вязнуць—
Пра ударную работу,
Найвялікшую адказнасць.

Як заўсёды, у час яскравы,
З краем быць і біцца разам,—
Наша рупасная справа,
Ганаровы абавязак.

7

Завінуўся на выгодзе
І шуміць зялёны сад.
Болей цвету ў гэтым годзе,
У гэтым годзе сонца шмат.

На пялесткаў россып белы
Жар пяшчот кладзе яно...
Дбалі бронзавыя целы
Пра адборнае зярно.

Гаманіла з плугам глеба,
Каб разгон рабоце даць.
Каб засеяць болей хлеба,—
Не спазніцца, не адстаць.

Гінуў сон у людскім палоне,
Завіхаліся двары...
Моцных ног не гнулі коні,
І гудзелі трактары.

Скібы будучыні ўзнятай,
У даль бязмежжам вы ляглі...
Новы штурмаваў араты
Векавы прасцяг зямлі.

Хцівых рух знішчаў араву,
Нёс наперад з году ў год—
Распрыгоненае права
Распрыгонены народ.

І ўзыйшло буйное зерне...
Сіняя густая руны..
Гэту шыр любіць бязмерней
Я іду з жыццём угрунь.

Сэрца новы клопат носіць
Па вірах бясконцых смаг...
Нават поле хмаркі просіць.
Калі доўга рос няма.

Ўсё тады, як вока бачыць,
Усё імкне з гарачыні,

І звініць, як крык дзіцячы:
—Дожджык, дожджык, сыпанії..

Пераскача дождж бадзёры,
Ў хмарах гром перагрыміць—
Вільгаць прагна п'юць разоры
І зялёны сад шуміць.

Я праменным дажджом, залатым вадаспадам
Скарб назбіраных думак табе аддаю.
Выйдзі ў вецер вясенні наструненым ладам,
Усміхніся на шчырую песню маю.

Стань на ўзгорку зялёным з сузор'ямі побач,—
З іх не ткаць нам, як ткалі, пародый вянка...
Ў нашай яснасці зараз і наша спадоба,
Без вычудаў сяброўская наша рука.

Гэтай праўды сустрэчнай ніхто не адрыне
Ў свеце мудрасці ўладнай і ўладных дарог.
Ты прагнала з двара, дзён сваіх гаспадыня,
Бяспрытульную песню тугі і знямог.

З песень смутку па долі да жніўнага стогну,
З песень слёзаў вясельных да песень хаўтур—
Абівалі парог твой абломкі прыгону,
Поўз вужакаю поля згораны шнур.

Іх прагналі з двара, каб ніколі не бачыць,
Сцежку гора і подласці сцерлі на век.
Ў даль суладжанай рані, ўвесь свет перайначыць
Выйшаў крокам жалезным змагар-чалавек.

Грымне неба не раз ашалелым прыпаркам,
Дождж свінцовы абсвішча, закруціць, як вір...
Пролетарскай айчыны дачка і ўладарка,
Боль народны патоне ў варожай крыві!

Ў гэты судны патоп нават мёртвы пачуе
Нашых постацей гордых працоўную знаць...
Хто любіць можа болей краіну такую,
Дзе сцяною выростае простая рацы?!

Маладзее зямля, дню наступнаму рада.
Ловіць вецер вясенні усмешку тваю...
Я праменным дажджом, залатым вадаспадам
Скарб назбіраных думак табе аддаю.

9

Прыйшла і загадала сесці.
Слухмяна выканаў загад.
Я ёй, з далёкага прадмесця,
Як родны чалавек і брат.

Было падкрэсленне гаворкі
І залацела галава.
Цвілі не яблыні—падпоркі,
Гулі не пчолы, а трава.

Найлепшай зграбнасцю у словах
Мне праззінела ў гэты час:
Лірычных вершаў аб каровах
Яшчэ не вычытаў калгас.

Хоць звонкіх аб самой брыгадзе
Не лішне выпала радкоў...
Сачыла хмарка ў даляглядзе
За лётам вёрстаў і падкоў.

І што іскрой з вачэй ляцела,
Было адказам блізкім ім:
—Калі адна душа і цела,—
Жыве і дбе аб адным.

1934 г.

**АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ**

# ГАРБУН*)

*Паэма*

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### Адшчапенец

1

Над пустэляю ўгары
Павесілі гонг,
Людзі, птахі і вятры
Хісталі яго.
І ў медзяны гонг б'ючы
У дождж і ў прыпар
І карчуючы карчы,
Чуе комунар:
—Тарфянішча абраблю,
Каб гуло, як медзь,
Даглядаючы зямлю,
Буду хлеб
мецы!

2

Загукаў на працу гонг
Бліскучы, крывы...
Звон сякеры, тупат ног
Азваўся з дрыгвы.
Там працуюць ад цямна
Сягоння яны.
Аднаго толькі няма
Агея Жаўны,
Міма багнішча ідзе
І маўчыць Агей...
—Быць бядзе, быць бядзе!—
Б'е ў гонг сухавей.
Пытаецца Дыб тады
Праз гоні і гаць:
—Гэй, Агей! А ты куды?
—Венікі вязаць!

*) Праця́г. гл. „П. Р." № 6—7

3

А ў тым доме за бугром,
Дзе высокі гай,
Вашыя хаўтуры Ром
Адзначае хай!
Вы-ж працуйце да зары,
Ад вашых сякер
Дрэвы скачуць дагары,
І якоча звер!

4

Трэці і чацверты дзень
Працуюць яны,
Прыблукала ў сосны цень
Агея Жаўны.
Слухае ён скрогат піл,
І рыдлёвак звон,
Дзівіцца праз дым і пыл,
На балота ён.
Ластаўка Макар тады
На асіну ўзлез:
— Гэй, Агей! А ты куды?
— Па ягады ў лес!

5

У дзікіх соснах за сталом
Кулацтва банкетуе,
Гасцей сваіх гарэлкай Ром,
І брат яго, частуе.
Чырвонавокі самавар
Хістаецца, іскрысты;
Агніста-рыжы гаспадар
Нясе яго, ўрачысты:
— Крыві табе пазычыў бор,
З крыніц сваіх, даволі,
У рошчынах тваіх чабор,
Што рос на нашым полі.
Няхай шалеюць за бугром
Дажджы, маланкі, сцюжы—
Карысным зеллем і агнем
Грэй, браце, нашы душы!
Пасля ішлі за касагор,
Раўлі аднагалосна,
А сосны чулі іх згавор
І рагаталі злосна.

6

І негаваркі ён быў,
Ром яму калі
На Галыншчыне адбіў
Валоку зямлі.
Як дазналіся яны,
Пайшлі моўчкі ў лог—

Толькі чуецца з багны
Гул і тупат ног...
Але гонг у трэці раз
Аглох на вадзе.
Міма багнішча якраз
Ї Агей ідзе.
Загукаў Якуб тады,
Стаўшы пад дубы:
— Гэй, Агей! А ты куды?
— У лес па грыбы!

**Выгнанне**

1

Устрывожыў іх
На ранку
Крык і рогат
Невядомы,
Ногі тупалі
Па ганку,
Рукі грукалі
Ў харомы.
Ї пачуўшы крыкі,
З печы
Падхапіўся
Дыб Даніла,
Гарбуна
Схапіў за плечы:
— Шандабыла,
Шандабыла!
Чуе рогаты
Ї кпіны
Шандабыла,
А тым часам
Маткі збегліся,
Мужчыны
І глядзелі ў вокны
Разам.
Бачылі: на Ўсходзе
Сонца,
Самі білі
Сабе ў грудзі,
Мітусіліся бясконца
Тут і там
Чужыя людзі.
Білі ў засланкі
І вёдры...
Мур высокі,
Камень цвёрды,
З крыўды літы, літы
З громаў!..

— Прэч з харомаў!

— Прэч з харомаў!

— Прэч з харомаў...

Ї дзяўчына
Захісталася,
Паблекла...
Кінутая ў дом
Дзічына
Леніна партрэт
Рассекла.
Як бліснулі
Вочы ў Дыба,
Валасы паўсталі
Дыба:
Рукі маю,
Стрэльбы маю...
Стрэльбу ў рукі:
— Пакараю!
Злосці ў яго, сілы
Столькі,
Што яна яго
Паліла,
Кінуўся да стрэльбы,
Толькі
Недазволіў Шандабыла.

2

Бярэ ў рукі адмысловы
Кій з бярозавага біла,
Ї гаворыць так суровы
Шандабыла:
— Выбірайцеся ў дарогу,
Набівайце патранташы,
Каб чакалі на трывогу
Стрэльбы нашы!
Там, у грамадзе вялікай
Забывайце свае болькі,
Не распачынайце дзікай
Бітвы толькі!
Нам спакой і волю бор дасць,
Данясеце-ж да сасонак
Ї жыццё дзяцей, і гордасць

Сваіх жонак!
Каб сыны ў мяхах ваўчыных
Крэпка спалі на світанку,
Вы спявайце, вязучы іх,
Калыханку!
Каб ніхто з іх не пабачыў
Слёзы матак, зірк трывожны,
Каб надоўга след тут значыў
Крок наш кожны!

3

— Ёсць!—сказалі комунары,
І стаеннікаў запрэглі,
Рэчы ўсклалі на мажары
І загрукалі па грэблі.

4

Ідуць яны ўпрочкі папасам
Па травах, праз пыл і гром,
І чуюць: з натоўпам разам
Кляне Шандабылу Ром:
— Прышоў гы з вайны гарбатым,
І лёс твой—пуга, бізун,
А ў панскія лезеш хаты,
Ты—валацуга!..
— Гарбун!
— Арэ нашы землі, папары
Жыдоў і чужынцаў табун,
Не хлеб тут збярэ, а пажары
Паганая кроў іх!
— Гарбун!
Хаваючыся за спіны
Натоўпу,
Агей Жаўна
Крычыць яму:
— Троп звярыны
Табе—дарога адна!
Свой позір адвёўшы суровы,
Ідзе, маўчыць комунар;
Рыкаюць бык і каровы
Прывязаныя да мажар.

5

Пятую вярсту
Мінае
Табар іхны
Безгалосы;
Свой да іх інтэрас
Мае
Рог—
Дзівак і дурань.
Босы.
Ромавых кароў
Пасе ён,

І на трубах грае
Розных...
Бізуном сваім
Трасе ён,
Як ідзе па травах
Росных.
— Бі!—яму крычаць тут
Людзі,
І ў сабе адчуўшы
Сілу,
Глуха кулаком
У грудзі
Рог ударыў
Шандабылу.
Той ішоў высокі,
Горды,
І яго шляхі
Гуталі,
А навокал білі
Ў вёдры,
І раўлі, і рагаталі.

6

І Шкроб Анісім пад дубам
Скакаў на майдане ў баку,
Б'ючы пугаўём і хлудам
Па костках, па рэбрах быку.
Але падхапіў на рогі
Угневаны бык яго
І кінуўся прэч з дарогі,
З людскога пекла свайго.
Так бег ён магутны пад хмару,
Каб волю звярыную мець,
І нёс дарагую ахвяру
Чужую, крывавую смерць.
Так бег, уцякаў ён з палона,
Каб трапіць самому ў палон,
І скочыў, шалёны, з разгона
У глыбокае возера ён.
І людзі доўга, жахліва
Углядаліся ў змрок катлавін,
Як бык рагаты маўкліва
На бераг выходзіў адзін.
Стаяў ён над кручаю ў зморы,
Жывых вітаючы з днём,
І вочы яго, як зоры,
Смяротным гарэлі агнём.

7

На вярсце міналі шостай
Комунары лес адны,
Збочыўшы з дарогі простай
Там спыніліся яны.

Сосны іх сустрэлі шумам
Крон абуджаных сваіх,
Адзінотаю і сумам
Прывітала ўзлессе іх.
І вандроўныя палаткі
Будавалі там яны,
І спявалі ў соснах маткі,
Каб заснулі іх сыны.

### Парабак вые

1

Антон спявае на Сажы,
Зноў сэрца яго ў крыўдзе.
Хістаюць хвалі траў нажы
І вечар цёмны ўкрыў дзень.
Жылі, як будаваўся Ром,
У лесе адгалоскі,
Цяпер сваім „багатыром"
Яго назвалі вёскі.
А комунар Агей Жаўна
Жыць выбраўся ў гушчары,
Арэ звідна і давідна
Свае ў расе папары.

2

— Не вечна месяцу вісець,
Жытам стаяць пад пылам
І спець...
Ён закідае сець
І гулка ў дно б'е білам.
Да хутара плыве Антон,
Шлях па вірах прастуе,
Трывога, думка, крыўда, сон
Яго гняце, катуе.

3

Кіруе човен ён вяслом,
Над ім паўсталі строі,
Яму відаць: і троп і дом,
За домам шлях і хвоі.
Стаіць іх разам дужых сто,
Пад імі ў шуме, ў стоме
Спаць чалавек кладзецца, што
За парабка ў тым доме.
У змроках, па глухой расе
Ром-гаспадар ступае,
Ён гнеўна бізуном трасе,
Чутна ў ім сіла злая.
Падбег да парабка:—Маўчы!
І глушыць кулакамі,
Той, падаючы, за карчы

Чапляецца рукамі.
Калі-ж на тропе гаспадар
Прыбіў яго аб хвою,
Страшны, ён кінуўся ў гушчар,
Лес ломячы сабою.
Бег парабак гадзіну, дзве
На голас воўчы,
Па дзеразе, па крапіве,
Што лезла ў вочы.
Бег доўга Рог, і чуў Антон—
Ён дзіка вые,
Пад ім крычалі, як у скон,
Шляхі крывыя.

4

— Ёсць ворагі і ёсць сябры,
Ёсць бедны люд, багаты,
І дуб той самы на гары
Сукі прасцёр, гарбаты.
Няма і не было маны,
Свой сонца круг рабіла,
Заблыталіся мы адны,
Бярозавае біла!

---

ВАСІЛЬ КАВАЛЬ

# САНЬКА—СІГНАЛІСТ

## І. Новы чырвонаармеец

У нашым ударным палку было адзінаццаць маленькіх чырвонаармейцаў. Іх называлі выхаванцамі. Служылі яны ў музычнай камандзе. Вучыліся на медзяных трубах, кларнетах і флейтах па нотах іграць песні і паходныя маршы.

Без музыкі і песняў цяжкімі здаюцца баявыя паходы. Мы любілі музыку і песні і гучныя маршы. За гэта мы таксама любілі і нашых адзінаццаць маленькіх чырвонаармейцаў.

Аднойчы вясною ваенком прывёў дванаццатага.

Яму было год чатырнаццаць, быў ён худзенькі, невялічкі і спрытны, як лісіца. Ён стаяў сярод казармы—замурзаны, у вялікіх чаравіках на босую нагу, у шэрай паношанай куртачцы...

— Гэта новы чырвонаармеец,—сказаў ваенком і загадаў старшыні нашай роты звадзіць яго ў лазню і выдаць шынель, боты і шлем.

— Слухаю, таварыш ваенком,—адказаў наш старшына Савонька.

Хлапчук уздыхнуў і скоса паглядзеў на свае мокрыя чаравікі. Тут ўсё было дзіўным. Навакол у казарме была такая чыстата і такі ўзорны парадак, што хлапчуку, можа ў першы раз стала сорамна за свае брудныя рукі...

— І-іш ты!—ціханька свіснуў ён, схаваў рукі ў кішэні і ўжо смялей агледзеўся па баках.

У куце, у пірамідзе, стаялі новенькія вінтоўкі, бліскучыя кулямёты. Ложкі, якія стаялі каля белай сцяны адным стройным радам, былі гладка засланы шэрымі коўдрамі. Хлапчук асабліва здзівіўся, калі ўбачыў на вокнах кветкі—чырвоныя, сінія, кветкі цвілі на вокнах, як летам! На сценах былі плакаты, на якіх нешта напісана вялікімі літарамі, чорнымі і чырвонымі. Літары чамусьці заскакалі перад вачыма ў хлапчука. Ён перавёў позірк на партрэты.

Хлапчука абступілі плячыстыя рослыя чырвонаармейцы, аглядалі яго і ветліва ўсміхаліся. Хлапчук таксама пазіраў на іх знізу ўгору. Вочы ў яго блішчэлі з-пад крутога ілба, часта міргалі бялёсымі раснічкамі.

— А ў вас тут до-обра!—здзівіўся ён і, матнуўшы галавою на партрэты, весела прагаварыў:—а я іх усіх ведаю. Вось гэта, што на кані— Варашылаў, а гэты—з вялікімі вусамі і ромбамі—Будзённы... Гэта пра іх спяваюць песні...

— Глядзі ты! Які баявы!

Адзін плячысты і высокі чырвонаармеец нагнуўся і запытаў:

— А як-жа цябе, сарока-варона, зваць?

— Завуць—Санька, а па прозвішчу не сарока-варона, а—Шпак. А цябе як?—у сваю чаргу спытаў Санька.

Чырвонаармеец, чуць-чуць усміхаючыся, ступіў крок наперад, выцягнуўся перад Санькам у струнку і з размаху прыклаў руку да круглай, каротка-пастрыжанай галавы.

— Эге, пастой,—перабіў яго Санька,—да голай галавы рукі не прыкладаюць...

— Вінават!—нібы спалохана выгукнуў чырнонаармеец, зняў з галавы ў таварыша шлем, адзеў яго і пад дружны рогат аддаў Саньку „рапарт".

— Першай кулямётнай, ударнай роты баец Ку-ка-рэ-ка...

— Хі-хі-хі,—зайшоўся ад рогату Санька...—Кукарэка?... Маніш ты! Ну і маніш! Не можа быць такога прозвішча. Нізавошта не паверу... Гэта-ж на пеўня падобна...

— Чэснае слова, так завуць...

— Маніш,—аж заходзіўся ад рогату Санька, і раптам заспяваў пеўнем:—кука-рэ-кууу...

Чырвонаармейцы зарагаталі, а Кукарэка зусім раззлаваўся і адыйшоў у бок.

Неспадабаўся Кукарэку Санька. Такі малы, а смяецца з яго прозвішча!

У той-жа дзень старшына павёў Саньку ў лазню, спачатку пастрыг машынкаю яго русыя кудры, што тырчэлі на макаўцы ва ўсе бакі, а потым прымусіў добра вымыцца гарачай вадою.

— Хопіць ужо,—сказаў Санька, абдаўшыся разы са два.

— Не, яшчэ мала! Лезь на палок, буду парыць.

Савонька падсадзіў яго на палок, у густую пару. Клубамі плавала белая пара пад столлю. Парыў старшына Савонька пахучым венікам, прыгаварваючы:

— Так, так, Санька. Варочайся, Санька... Нешта-ж шчуплы ты?.. Не прывык ты, відаць, Санька, да чыстаты. Вось я цябе так адцёпаю, што будзеш ты чысты, як шкло.

— Го-го-го!—енчыў Санька ад задаволенасці.—Ты, братка, не дужа цёпкай, а то зусім распарыш, застануцца ад мяне адны костачкі... Ух, я, мусіць не прывык так мыцца...

І тут, у гарачай пары, расказаў Санька нашаму старшыні, як ён тры гады быў беспрытульным, як ездзіў пад паравозамі за сотні кілометраў, бачыў Чорнае мора, шмат гарадоў...

— А тады стаў жыць у дзетдоме. Жыў-жыў я, жыў год... А ўчора прыходзіць у наш дзетдом ваш камісар і пытае: „хто хоча стаць чырвонаармейцам"? Я хачу, сказаў я, стаць чырвонаармейцам. Хачу, таварыш камісар, навучыцца граць на кларнеце і страляць з кулямёта. Вось як я сказаў! „Малайчына",—сказаў мне камісар.

Але як ні хваліўся Санька, зусім не здзіўляўся старшына. Мусіць, для яго гэта здавалася зусім простым.

— Нічога,—будзеш байцом,—адказаў Савонька, выліваючы Саньку на галаву цэлае вядро халаднаватай вады, ад чаго ён аж падскочыў.— Толькі глядзі, старайся, Санька: навучышся і на кларнеце граць, і страляць з кулямёта...

Потым, Санька адзеў белую сарочку і паверх яе гімнасцёрку, якраз на яго ўзрост. А потым адзеў новыя боты і шынель якраз не на яго ўзрост.

— Што велікаваты.—Гэта яшчэ лепш; на выраст будзе..."—заўважыў Савонька.—Ты-ж у нас будзеш расці скора.

Санька ўсім быў задаволен.

— Няхай на вырастI Затое які шынель, якая шапка! Ён доўга круціўся на аднэй назе перад вялікай люстраю і сам сабе падміргваў: „Ох, які ты стаў, Санька! Замест старых чаравікаў, у цябе новыя боты. Замест шапкі з аблупленым казырком новая, ды яшчэ з чырвонаю зоркаю. А пра шынель і гаварыць няма чаго: гэта не шынель, а шынелішча!

Ну і Санька! Яго ніхто не пазнае з дзетдома“.

Старшына і Санька вышлі з лазні і плячо ў плячо ішлі па шырокім двары на кухню. Санька выцягваўся на цыпачках і закідваў галаву, але ўсё роўна даставаў Савоньку толькі да пляча. Калі іх па дарозе напаткаў камандзір палка, старшына прывітаўся і ўзяў пад казырок. Санька таксама прывітаўся, сказаў: „добры дзень“ і прыставіў да казырка руку—толькі не правую, а левую.

— У вашага камандзіра,—шэптам заўважыў Санька,—чорныя вусы і шрам на ілбе. Ён, відаць, сярдзіты?..

— Калі правінішся, бывае сярдзітым, а так—добры,—растлумачыў Савонька.—А шрам у яго ад варожай шаблі,—ён многа ваяваў...

— Можа і ордэн мае?..

— Вядома, мае...—з гордасцю адказаў Савонька.—І ваенком таксама мае ордэн. Яны, брат, разам на грамадзянскай вайне былі. У адным палку служылі...

— І-іш ты...

На кухні чырвонаармеец у белым фартуху наліў з вялікага катла міску баршчу і кашы з мясам. Санька еў, боўтаў пад сталом нагамі і падміргваў кухару. Кухар стаяў з медным чарпаком у руках каля стала, глядзеў на Саньку і дапытваўся.

— ...Можа, яшчэ хочаш кашы?

— Ух, я баюся, ці з'ём гэтую... У мяне жывот стаў тугі, як барабан...

Старшына Савонька моўчкі сядзеў за сталом, абапёршыся на руку. Глядзеў ён на худы, з дробнымі вяснушкамі Санькаў твар. Такі сур'ёзны Савонька, усё думае пра нешта.

А Санька адсунуў ад сябе міску з недаедзенай кашаю, аблізаў лыжку, кашлянуў і пахваліў і кухара і старшыну.

— Кормяць у вас добра! Але, кажуць, строга ў вас... Толькі—мне не страшна. Калі строга—можа я і ўцяку.

Савонька паклаў яму руку на плячо і строга сказаў:

— Нікуды ты не ўцячэш. Няма куды табе ўцякаць... Эх, ты!.. Лепш, пойдзем—завяду ў музычную каманду...

— Гэта я пажартаваў,—хітравата ўсміхаючыся, адказаў Санька.—Уцякаць я не буду. Мне тут добра...

## 2. Іх было дванаццаць

На парозе Саньку спаткаў чарнявы байкі Пронька Трус. Ён у той дзень быў дзяжурны па казарме і ўжо ведаў, што да іх павінен прыйсці новы чырвонаармеец.

Пронька сядзеў за столікам ля дзвярэй і чытаў „Робінзона Крузо“. У казарме стаялі дванаццаць ложкаў. А побач стаялі тумбачкі—адна на двух. Дзесяцёра выхаванцаў спалі, накрыўшыся суконнымі шэрымі коўдрамі.

Пронька распытаў у Санькі: хто ён, адкуль, усё падрабязна, і запісаў у сшытак. Паказаў на ложак побач з сваім і сказаў:

— Вось тут ты будзеш спаць...

— Добра!—кіўнуў галавою Санька.—Мне ўсё роўна.

Аглядзеўшы казарму, ён папярэдзіў Проньку:

— Мне пакуль што няма чаго рабіць, я схаджу ў горад, а начаваць вярнуўся ў казарму.

Саньку вельмі хацелася схадзіць у свой дзіцячы дом і паказацца выхаванцам.

— Глядзіце, які я! вось мой шынелішча, вось мае бацішчы, вось я сам, Санька...

— Эге,—здзівіўся Пронька,—ты, выходзіць, зусім недысцыплінаваны і не ведаеш парадкаў. У горад можна пайсці толькі з дазволу начальніка каманды ў выходны дзень... А зараз „мёртвая гадзіна" і ты павінен спаць.

— А мне нешта не хочацца спаць, — сказаў Санька, скасавурыўшыся на дзверы. Не люблю я мёртвай гадзіны.

Пронька зняважліва паківаў галавою і расказаў пра ўвесь распарадак. Нават са століка ўзяў статут і прачытаў з яго пра дысцыпліну.

Трэба слухацца! Пронька, аказваецца, усё ведае. Ён ужо добра грае на флейце, старэйшы за Саньку на два гады і служыць у музычнай камандзе ўжо трэці год. Нічога не зробіш. Трэба слухацца!

Санька ўздыхнуў, распрануў шынель і лёг на свой ложак у гімнасцёрцы і ў ботах.

— Трэба скінуць боты, распранупца і накрыцца коўдраю. Як і ўсе. Вось так...

Пронька ўжо зусім раззлаваўся і сказаў гэтыя словы тонам загаду, што не спадабалася Саньку. Але ўсё-ж ён нехаця скінуў боты і буркнуў пад нос:

— Ну-ж і дысцыплінка!

Падвечар Санька ўжо ведаў імёны ўсіх выхаванцаў. Саньку адразу спадабаўся круглы, і шустры Цімка. Прозвішча ў яго было Вараны. А крыклівага, неспакойнага Лёшку Санька чамусьці не ўзлюбіў і ўвечары пасварыўся з ім за месца ў страю.

Усе хлопцы, як і Санька, былі ўзяты з дзіцячых дамоў.

Яны жылі асаблівым жыццём: вучыліся, працавалі, у вольны час многа смяяліся і дурэлі: але ў іх была свая моцная дысцыпліна.

У казарме выходзіла свая насценгазета пад назваю „Малады баец". А ў газэце быў гумарыстычны аддзел „Барабан". Рэдактарам быў Пронька.

Увечары, калі прагурчэў сігнал класціся спаць, Санька расказаў пра свае прыгоды.

— Ты не вельмі задзірайся, — перабіў яго Пронька, — і не хлусі. Помні, што ты цяпер ў Чырвонай арміі.

Санька нічога не адказаў. З Пронькам цяжка было спрачацца. Ды сам ён убачыў, што трошкі нахлусіў.

У першую ноч у казарме Санька аніяк не мог заснуць. Успомнілася даўно забытая вёска, рэчка і шырокае поле; успомніўся начлег у лесе і сінія-сінія зоры. К калі заснуў, прыснілася, што ён імчыцца галопам на вараным кані. Грыва ў каня доўгая, а сам конь шустры, нібы вецер. Санька ўчапіўся рукамі за грыву, як клешч. Конь імчыць па зялёным лузе. Лугі расцвітаюць рамонкамі, жоўтай мядуніцаю, курасляпам. Конь топча травы топ-топ!

У вушах у Санькі звоніць вецер. Развяваюцца на ветры яго русыя валасы. Вось-вось зваліцца... Бацька стаіць на пожні з касою ў руках і крычыць яму:

— Разаб'ешся, нягоднік! Тпру!

Маці ідзе лугавой дарожкай з граблямі на плячы. Яна пріставіла далонь да вачэй і прыглядаецца: хто гэта так імчыць на вараным кані? Потым замахала рукамі і спалохана закрычала:

— Са-а-нька! Уставай!

Раніцаю ўвесь полк пабудзіў гарніст:

— Уставай, уставай! Падымайся.

Мігам ускаквалі з ложкаў чырвонаармейцы і праз дзве-тры хвіліны ўжо стукалі ботамі па сходках. Беглі ў адных гімнасцёрках на пляц. Там маршыравалі і займаліся фізкультурай. А пасля гэтага мыліся, акуратна засцілалі свае ложкі і чакалі сігнала на снеданне.

Санька ўжо ведаў усе сігналы. На снеданне, абед і вячэру труба гарніста выгаварвала:

„Бяры лыжку, бяры бак—
Застанешся—будзеш так...

На заняткі прыходзіў высокі і вусаты капельмайстэр. Вывучалі ноты. Спачатку гралі лёгкія песні, а тады цяжэйшыя: і „Конніцу Будзённага“, і „Нас пабіць, пабіць хацелі“, і песню пра наркома, і „Па далінах, па ўзгор'ях“.

Гэта было зусім весела і цікава. Санька ў першыя дні толькі прыслухоўваўся да музыкі, а па вечарах распытваў у Пронькі.

Пронька ахвотна тлумачыў. Аказваецца, Пронька быў слаўны хлапец і таварыш. Ён аднаго разу прачытаў у голас пра прыгоды Робінзона Крузо. Саньку гэта так спадабалася, што ён стаў слухацца Пронькі ва ўсім і з гэтага дня падружыў з ім.

Дні пацягнуліся даўгія, як дарога ў стэпу. Кожны дзень прыносіў Саньку многа новага. Ён пачынаў прывыкаць ужо да новага жыцця, але аднаго разу з ім адбыўся такі выпадак:

Полк прышоў за восем кілометраў на стрэльбішча. Гэта было гладкае зялёнае поле. З двух бакоў сцяною стаяў лес. У далечыні, метраў на чатырыста, відаць былі мішэні—супраціўнік з ручным кулямётам і загадкавай лічбай на пагонах „37“. А яшчэ далей высокія белыя мішэні, а яшчэ далей на кургане нерухома стаяў вятрак і маленькі домік.

Камадзір палка перад строем сказаў аб тым, што сённяшняя стральба павінна паказаць, як чырвонаармейцы за зіму аўладалі баявой падрыхтоўкаю.

Сувязісты наладжвалі тэлефон і праводзізі провад у бліндажы. Стралкі чысцілі вінтоўкі, кулямётнікі здымалі з тачанак кулямёты і рыхтавалі іх да бою. Артылерысты аглядалі гарматы. Снайперы адзелі на сябе нейкія зялёныя і паласатыя халаты, ляглі ў траву, за купіны, і сталі ледзь прыкметнымі.

Пронька растлумачыў Саньку, што снайперы—гэта самыя лепшыя стралкі. Яны могуць пападаць вельмі далёка, а супраціўнік іх не заўважыць у зялёнай траве. Пронька таксама хоча стаць такім снайперам.

Санька ў першы раз быў на стрэльбішчы. Для яго ўсё было цікавым, ён слухаў гутаркі чырвонаармейцаў, шум веснавога леса, бачыў, як у сіняй вышыні неба купаецца жаваранак...

— Артылерысты, на лінію агня!—раптам скамандаваў кампалка.—

Навокал стала ціха і ўрачыста.

Выбухнуў першы снарад. У паветры загуло, задрыжэла. Сіні аганёк мігнуў. Знарад з гулам разарваўся за домікам, — пералёт! Другі знарад меў недалёт. Трэці знарад трапіў у самы домік. Домік загарэўся.

— Пажар—ускрыкнуў Санька,—а як-жа там—людзі?

Пронька ўсміхнуўся. Там людзі і не жывуць. Домік гэты зроблены з дошак і фанеры для таго, каб цэліцца і страляць па ім...

Пасля артылерыстаў стралялі кулямётнікі, снайперы і цэлыя ўзводы

чырвонаармейцаў. Аднекуль з бліндажоў тэлефаністы перадавалі, колькі ў якой мішэні куль.

Потым страляніна чамусьці прыціхла. Санька падумаў, што яна ўжо скончылася. Не спытаўшы ў свайго начальніка, ён адзін пашоў краем леса. На ўскраі стаяў вартавы і не пусціў яго. Санька схітрыў і падышоў да мішэняў з другога боку.

„Тут я назбіраю куль, — падумаў ён, — а можа знайду і гранату...“

Санька знайшоў некалькі расплюшчаных куль і хацеў яшчэ назбіраць, як раптам у баку, непадалёк нешта зазвінела, загуло, узарвала пясок.

Санька паваліўся і ад страху стаў белы, як зіма. Яму здалося, што ён валіцца ў бяздонную яму.

— Хутчэй залазь у бліндаж,—нехта трывожна крыкнуў, нібы з-пад зямлі.

Санька азірнуўся і ўбачыў, што ён ляжыць на краі бліндажа, а Кукарэка цягне яго за полы.

— Эх ты, сарока-варона,—цябе-ж застрэліць маглі...

— Я не ведаў,—прашаптаў Санька...

Ваенком заўважыў у бінокль хлапчука і ў момант загадаў спыніць стральбу. Кукарэка прывёў спалоханага Саньку да ваенкома.

Ваенком сурова паглядзеў на Саньку, зрабіў яму вымову. А начальніку музычнай каманды, які не дагледзеў, даў спагнанне, бо ў Чырвонай арміі такая дысцыпліна, што ніводны дрэнны ўчынак не павінен застацца не пакараным.

Калі варочаліся ў казарму, Санька выграб з кішэні знойдзеныя ім кулі і са злосцю адкінуў у бок дарогі.

— Праз вас я чуць не загінуў...

А Пронька злосна яму напомніў:

— Гэта праз цябе ваенком пакараў начальніка каманды. У, які ты разявака!

Санька быў хмуры і сумны цэлы дзень. На другі дзень раніцаю ён знік з казармы.

### 3. Санька-дэзертыр.

Пад вагонамі грукацелі колы.

— Гу-гу-гуу!—зазыўна крычаў паравоз перад станцыямі, паўстанкамі і раз‘ездамі...

Санька стаяў ля вакна, прыліпшы ілбом і носам да халаднаватай шыбы. За вакном мільгалі палі, лес, тэлеграфныя слупы, рэчка. Барадатыя плытагоны, унізе пад мостам, гналі па рацэ плыты...

На зялёных лугах хадзілі каровы і авечкі. На лазовай дудачцы граў пастух, ды так хараша, што Санька аж пазайздросціў яму. Па полі гужам ішлі трактары. Чорная тлустая глеба адкладвалася пад імі...

Усё навокал цвіло. Усё навокал смяялася. Смяяліся пасажыры ў вагоне. Смяялася сонца, лес і трава, здаецца, смяяліся каровы і ягняты.

А на душы ў Санькі было трывожна, боязна за свой ўчынак.

Учора ў казарме стала яму так сумна, што ён не вытрымаў і самавольна пайшоў у дзетдом. Ну, як было не схадзіць? Там яго з крыкам радасці спаткалі знаёмыя хлопцы. Яны разглядалі боты, гімнасцёрку. Санька нават дазволіў прымераць шынель.

— Ох, які ты шчаслівы, Са-анька!..—у захапленні гаварылі яны.— Ты можаш і камандзірам стаць?

Санька толькі ўсміхаўся.

— Магу! Мне ваенком гаворыць—ён у нас такі сур'ёзны і з ордэнам,—калі хочаш, таварыш Санька, стаць камандзірам, дык будзь ім... Толькі, вядома, не цяпер, а праз гады два, або пяць гадоў...

— Які-ж ты шчаслівы, Санька!..

Санька верыў, што ён шчаслівы! Прышоў у казарму, насвістваючы вясёлую песенку. А ў казарме адбылася непрыемнасць. Начальнік каманды за самавольную адлучку загадаў тры выходных дні не выходзіць з казармы: тры дні быць днявальным па казарме. Мала таго, ён папярэдзіў, калі яшчэ Санька зробіць такі ўчынак, яго адправяць назад у дзетдом.

А ўвечары ў „Барабане" з'явілася на Саньку карыкатура. Ды такая злая-злая. Стаіць нейкі разявака, падобны на Саньку; шапка ў яго на баку, шынель расшпілены, за спіною ў яго нейкі буржуй выскаляе зубы.

„Слухай, Санька, і чуй.
З цябе радуецца буржуй,
Бо ты дысцыпліны не любіш
І сам сябе губіш...

А ўнізе быў подпіс—псеўдонім „Штых".

Не іначай, як усё гэта падстроіў Пронька! Эх, а яшчэ быў таварышам. Вось і вер таварышам... А самае крыўднае, што гэты разявака падобны на яго, на Саньку. Зусім падобны—вось і нос гузікам, і вялікія боты на нагах.

Саньку стала крыўдна—да слёз. Сцяўшы зубы, ён кінуўся зрываць газету. Дарогу перагарадзіў Пронька.

— Толькі пасмей сарваць!—з пагрозаю крыкнуў Пронька і сціснуў яго за руку.

Пронька быў мацнейшы. Санька са злосці схапіў ў зубы свой рукаў, каб пры ўсіх не расплакацца, і кінуўся на ложак. Плечы ў яго ўздрыгвалі, ён ціханька хліпау, зарыўшыся галавою ў падушку

Да яго падышоў Пронька, ласкава пагладзіў па плячы.

— Дзівак ты, Санька! Перастань... Ну—перастань!..

— Адыйдзі!—нервова і з пагрозаю крыкнуў Санька.

А раніцай, калі ўсе пайшлі мыцца, Санька апрануў шынель і выбег з казармы.

Санька такі цвёрда рашыў уцякаць.

— Вось пайду, сяду на поезд і паеду. Усё роўна куды! Паеду на сваю радзіму! Мне ўсё роўна.

Але на білет грошай не было. Можна, вядома, ехаць зайцам, пад вагонамі, але-ж у Санькі новы шынель—запэцкаеш яго. Шкода новага шыняля...

За станцыйнымі будынкамі Санька зняў з сябе гімнаспёрку і аднёс на рынак. А праўдаўшы яе, купіў білет, самы сапраўдны білет да свайго паўстанка...

Што спаткае яго на радзіме, Санька не ведаў: ён ужо тры гады там не быў. Яго не спаткае там ні бацька, ні маці, ён самы нешчаслівы ў свеце чалавек. Калі-б жыва была маці, яна спаткала-б і рада была яго прыезду. Што-ж спаткае яго?

Пралятаі паўстанкі, раз'езды, палі. Санька з трывогаю думаў: прыдзе які-небудзь камандзір, паглядзіць падазронна, падміргне вокам скажа:

— Здароў, Санька! А ну, куды ты едзеш? Эге, дарагі таварыш, ты-ж дэзертыр, злазь!

Вядома, Санька нічога на гэта не адкажа. Ён сядзіць блізка ля дзвярэй. Ён спрытна юркне ў дзверы, а там—памінай, як звалі. Уцякаць яму не навіна...

Але шчыміць сэрца, робіцца маленькім-маленькім і нібы апускаецца ў самыя пяткі, калі ўваходзіць новы пасажыр. Уначы Санька залез на самую верхнюю паліцу. Там яго ніхто не заўважыў. Нават кандуктар не правяраў білета...

А на адной невялікай станцыі Санька ўбачыў двух вайсковых з малінавымі пятліцамі. Даўняя практыка падказала, што на ўсякі выпадак трэба схавацца. Нікім не заўважаны, ён саскочыў з вагона. Вайсковыя прайшлі вагон і вярнуліся назад на станцыю.

Поезд рушыў.

Санька ўскочыў нахаду.

— Ух, на гэты раз пашанцавала...

Ён быў зусім упэўнены, што вайсковыя шукалі яго. Не знайшлі! Саньку стала лягчэй. Цяпер ужо скора яго паўстанак.

Раптам ён пачуў працяжны і досыць такі суровы голас барадатага кандуктара.

— Ты што-ж гэта едзіш на падножках? Хочаш плаціць штраф?

— Я... Я нічога... Я магу і ў вагон улезці...

— А білет у цябе ёсць?

— Ну,—усміхнуўся Санька,—канешне ёсць... Я ніколі без білета не ездзіў. Білет можна... Адрымайце, дзядзенька!

Строгі „дзядзенька" адзеў на нос акуляры. Паглядзеў на білет, пакруціў яго ў руках. Білет быў самы сапраўдны. Тут ужо не падкапаешся.

— Усё ў парадку!—строга сказаў кандуктар, нібы шкадуючы, што ў Санькі ўсё ў парадку.—Скора злазіць... Наступная астаноўка...

— Будзьце спакойны!—запэўніў Санька і, баючыся, каб „дзядзенька" нічога не распытваў, юркнуў у вагон.

Сеў Санька на вольнае месца ля вакна, супроць старога дзеда. У дзеда сівая барада, у руках сукаваты кій. Вочы яго прыжмураныя, з чырвонымі павекамі.

— Дзед, што ў вас на вачах?—спагадліва спытаў Санька.

Дзед падставіў зморшчаную далонь да вачэй, як бы засланяючыся ад сонца, і прыглядзеўся да Санькі. А разгледзеўшы яго, сказаў ветлівым голасам:

— Ячмень у мяна на вачах... Курыная слепата... Як толькі сцямнее, нічагусенькі не бачу...

— Ячмень і курыная слепата!—здзівіўся Санька і заёрзаў на месцы, забыўшы на ўсе свае трывогі...

Дзед ахвотна расказаў, што ён едзе ў горад, у больніцу, там яго дактары вылечаць.

Пажылая жанчына, захутаная ў хусткі, і вялікім клункам, таксама спачувала дзеду. Яна запытала ў Санькі:

— А вы, відаць, вайсковы, таварыш—грамадзянін?

— Канешне,—адказаў Санька.—У водпуск еду на сваю радзіму. З маткаю хочу пабачыцца... Слаўная ў мяне маці. Сумуе без мяне, ох, і сумуе...

— Яно-ж так... Усякая маці сумуе... І мой сын даўно не прыязджаў дахаты... Таксама ў арміі служыць. Сымонам завуць, а па прозвішчу мы Белакапытыя. Можа часам ведаеце яго, таварыш?

— Канешне, ведаю...—Ого, каб Сымона не ведаць! Яго ведае ўвесь наш полк, уся наша ўдарная дывізія. А мы з Сымона самыя лепшыя прыяцелі...

— Вой ты!—завохала жанчына.—Такі-та яго ўсе ведаюць? А колькі-ж гэта дывізія?

— Дванаццаць палкоў і музычная каманда,—растлумачыў Санька.

Дзед нешта паківаў галавою і заўважыў:

— Калі я быў на імперыялістычнай вайне бамбандзірам—наводчыкам, дык у дывізіі было толькі тры палкі...

— Ну,—сказаў Санька,—дык то-ж, напэўне, пры цары было...

— А самі вы даўно служыце,—зацікавілася жанчына.

— Я ці Сымон?—перапытаў у замяшанні Санька.—Я ўжо даўно служу.

— Ай! Ай!—такі малады і так многа служыць. Дык перадайце-ж паклон майму Сымону. Не забудзьце ўжо, таварыш. Няхай прыедзе дахаты...

— Я ўжо не такі малады. Няма чаго дзівіцца—басам сказаў Санька.—А паклон перадам, калі ласка. Скажу: паклон табе, Сымон, ад Белакапытавай мамашы... Вось як толькі прыеду ў Менск, адразу перадам... Мусіць, рад будзе!

Жанчына збянтэжылася:

— Дык вы ў Менску служыце? А мой-жа сын недзе на японскай граніцы—далёка адсюль.

— Ну, гэта ўсё роўна... Не так важна... Я, значыць, другога Сымона ведаю. А паклон перадам—не турбуйцеся. Мы з ім, напэўна, калі-небудзь спаткаемся...

Саньку стала ніякавата перад дзедам і жанчынаю. Здаецца, і колы выстуквалі па чыгунных рэйках:

— Маніш! маніш! Дэзертыр! Дэзертыр!..

Стой! Спыніўся паравоз і, як малады, рэзвы конь, заірзаў і ўвесь ахутаўся сіняй грывай дыму.

Санька вылез на бязлюдны паўстанак. На яго тхнула з палёў свежым веснавым ветрам, пахам чорнай раллі. Нечым далёкім павеяла з поля, дзе цяпер гулі трактары. Санька расшпіліў шынель, уздыхнуў і голасна прагаварыў:

— Вось яна, мая радзіма... Мая Чырвоная Слабада... Толькі куды-ж мне пайсці?

## 4. Забытая радзіма

Чырвоная Слабада—Санькава радзіма—на беразе шырокай ракі. За ракою лес і бясконцая сіняя даль...

Вясною Санька самы шчаслівы. Вярнуўшыся са школы, ён бяжыць на рэчку. А там ужо і Федзька, і Грышка Лісіца. Рака стогне, бушуе, грыміць...

Памалу прыгравае сонца. Рака спакайнее і ўваходзіць у крутыя берагі. Над ракою праносіцца вясёлы свіст парахода, ідуць баржы з дрывамі.

Чырвонаслабодцы выпраўляюцца гнаць плыты цэлай арцеллю. Выходзіць і Санькаў бацька—Захар Шпак—шыракаплечы, каржакаваты, з чорнаю барадою. На беразе іх праводзяць сем'і. Санькава маці кончыкам хусткі выцірае вочы. Ці яна так шкадуе бацьку, ці можа баіцца, калі бацька вернецца п'яным, паб'е яе. Бацька абяцае прывезці які-небудзь падарунак, цікавую кніжку з малюнкамі, але часта забывае. Санька і сам паехаў-бы з бацькам, але той кажа, што ён яшчэ малы.

— Сядзі дома ды вучыся... Як вырасцеш, тады—вазьму.

Саньку ай як хочацца паехаць. Ён уначы не можа спаць. З вакна відаць на рацэ аганькі. Гэта плытагоны расклалі вогнішча. Караваны плытоў ідуць за сотні вёрст, да самай граніцы.

— Налета я абавязкова паеду,—думае Санька.—А колькі ім сустрэнецца ў дарозе цікавага! Добра не баяцца ні ветру, ні холаду, расшп-

ліць каўнер кашулі, грудзі падставіць ветру: на, вецер, дзьмі, лашчы, нічога не страшна!

І Санька ўжо ўяўляе, што ён плыве разам з плытагонамі, ён стаіць на плыце, шырока расставіўшы ногі.

— Эге-гей!—галасна крычыць Санька, і голас яго разносіцца па вадзе, стукаецца у круты бераг. Змрочны прыбярэжны лес адгукаецца яму глухім водгуллем.

— Эге-гэй, Санька!—магутным воклічам адказваюць яму барадатыя плытагоны, сярод якіх бацька яго, Захара Шпак—шырокаплечы і каржакаваты.

Яны плывуць і плывуць па глыбокай мутна-зялёнай вадзе. На берагах вёскі, хаты, зялёныя палі з азімым збожжам. На левым панурым беразе растуць сосны, крушына, кусты воўчай ягады.

Вечарэе. У нізкім хмарным небе мільганула маланка. У паветры запахла блізкай навальніцай.

— Будзе бу-ра!—крычыць Захара Шпак і голас у яго, як сама бура.

Саньку, напэўна, стане страшнавата, калі загудзе бура затрашчыць лес, застукае гром, але ён і віду не падасць. Але і старыя плытагоны чамусьці спахмурнелі: можа небяспека, можа быць бяда! Зараз будуць праяджаць самы страшны грымучы парог. Парог пеніцца, чмыхае, злуе—страшны парог!

Плытнікі настарожана чакаюць. Кожны на сваім месцы. І раптам нехта адзін з іх зацягвае песню. Яе спявае ўся арцель—і маладыя і старыя. Яны дружна і асцярожна нясуць песню над галовамі, над цёмна-бурай вадою, баючыся, каб яна не стукнулася ў крутыя берагі і не разбілася.

— Ай-яй-я-а-ай!—плавае прыпеў. Ад песні хочацца яшчэ мацней налегчы грудзьмі на стырно, ад яе не страшна бура...

Дома застаецца маці, Санька і яго васьмідзесяцігадовы дзед. Слаўны дзед! Ён многа пажыў і многа чаго ведае. Ён умее расказваць такія казкі, што толькі-ну! Вечарамі ён расказвае пра „сіўку-варонку“, „пра саву“. Ёсць ў дзеда такая—ці то песня, ці то казка.

Дзед расказвае яе глухім голасам:

Сядзіць мядзведзь на калодзе—
Дзяцей забаўляе.
Гарбаценькі зайчык
На скрыпачцы грае,
А сарока-белабока
Песні прыпявае.
А варона—стара жона
Пашла ў поле жаці,
А ты, сокал з ясным вокам,
Ідзі колас падбіраці...

— Ух ты!—аж заходзіцца Санька.

— Пачакай, яшчэ не ўсё,—кажа дзед, запальваючы піпку.—Адна сава не хоча працаваць. Яна збіраецца паляцець за сіняе мора.

— „Што я,—кажа,—дома не гаспадыня ці ў полі не жняя? у мяне сем катушак салёных лягушак, сем шастоў сабачых хвастоў...

— Ух ты!—здзіўляецца Санька і просіць расказаць новую казку.

А маці расказвае казкі ціхім голасам пра далёкае сіняе мора, якое цяпер зарасло кветкамі...

Часам маці абнімае Саньку і пытае, як у вялікага:

— Што з цябе будзе, як ты вырасцеш?!

Хто гэта ведае, што з яго будзе, як ён вырасце? Вось Федзька

думае быць шоферам, Яшка пашоў вучыцца на краўца. Грышка Лісіца—дык гэты марыць стаць матросам на вялікім акіяне.

— А я—плытагонам буду...

Але ўзімку, калі за вокнамі гула завіруха, памёр Санькаў дзед. Вясною, калі бацька ганяў плыты, памерла маці. Смерць была такой нечаканай, што Санька нават не заплакаў. Яго ласкавую маці, можа самую лепшую ў свеце маці, занеслі суседзі на могільнік. Толькі тады, калі яе закапалі ў сырую зямлю, Санька заплакаў голасна, наўзрыд.

Прыехаў бацька—п'яны і злосны. Ён за нешта ўдарыў Саньку па галаве і крыкнуў:

— Плач!

Санька не заплакаў, а ўцёк з хаты на рэчку. Да яго падыйшоў у гэты дзень лапавухі Грышка Лісіца і ласкава загаварыў:

— Цябе бацька б'е... Мяне дзядзька лупцуе... Давай уцячэм кудынебудзь на мора. Станем матросамі...

Яны ўцяклі, але матросамі не сталі. Сталі беспрытульнымі. Грышка старэйшы—з ім не прападзеш. Гэта ён, Грышка, навучыў Саньку красці і не баяцца пабояў. Яны ездзілі пад вагонамі, на плацформах з горада ў горад. Бачылі Чорнае мора, але матросамі ўсё роўна не сталі.

Яны жылі ў дзіцячых дамах і ўцякалі. А ў халодныя зімы зноў прыходзілі...

Так прайшло тры гады...

Санька зрэдку ўспамінаў аб сваёй радзіме. А больш сніў пра яе— і шырокую рэчку, і грушу пад вакном. Аднаго разу ўначы ехалі з Грышкам пад вагонамі. Грышка заснуў, Санька таксама драмаў. Пад'язджалі да станцыі, і раптам Санька пачуў трывожны свісток паравоза. Стаяў натоўп людзей, стрэлачнік пасвяціў ліхтаром...

Санька ўбачыў Грышкаў труп з адрэзанымі нагамі, зямлю залітую крывёю.

— Сарваўся, відаць, пад вагонам...—з жалем сказаў стары стрэлачнік.

Саньку апанаваў жах. Ён ускрыкнуў і што сілы кінуўся бегчы ў цемень ночы. Далёка мільгалі агні гораду. Ён нічога не бачыў перад сабою, падаў, падымаўся і бег у цёмную ноч на аганькі...

Сонца стаяла на поўдні.

Санька ішоў па шырокай вуліцы Чырвонай Слабады і не пазнаваў яе. Было многа новых хат—шырокіх і прасторных. На адным з двухпавярхавых дамоў з сінім дахам была шыльда:

„Чырвона-Слабодская ШКМ“.

Раней гэтага не было—была маленькая цесная школа, дзе вучыўся Санька. За агародамі, на палёх, не відаць было вузенькіх палосак і межаў.

— Усё новае! Усё новае! — з невыказаным захапленнем думаў Санька.—Там, на выгане, стаіць бацькава хата. Бацька яго, вядома, не пазнае. Але-ж як ён спаткае? Ці даруе ён?..

Па вуліцы насустрач яму ішлі жанчыны ў яркіх стракатых хустках і пра нешта жвава і весела гаварылі. Праходзілі мужчыны, але ніхто на Саньку не звярачваў увагі, а Санька толькі некаторых з іх чуць прыпамінаў.

Яму часам хацелася крыкнуць ім:

— Цетка Дар'я! Дзядзька Максім! Гэта-ж я, Санька, няўжо вы мяне не пазнаеце?

Але ён стрымліваў сябе.

На выгане, на тым месцы, дзе стаяла бацькава хата, сярод пабітай цэглы і гліны прабіваліся крапіва і бур'ян.

„Мусіць, згарэла бацькава хата. А дзе-ж тады ён сам жыве?"

Санька моўчкі пастаяў і пашоў далей. У садзе, абгароджаным шчакетам, каля сотні дзяцей—гэткіх маленькіх карапузаў, вадзілі карагод, узяўшыся за рукі; яны тоненька спявалі пра „Журавушку" ўслед за высокай русай дзяўчынаю з белым фартухом.

Санька шчыльна прыціснуўся да шчакета і не спускаў з іх вачэй. Дзеці пабегалі, пагулялі, і русая дзяўчына павяла іх па пясчанай дарожцы, асветленай сонцам, у глыбіню сада.

А Санька ўздыхнуў і пашоў дарогай па выгане. Там віднеўся нейкі чырвоны будынак з чорным комінам.

Насустрач ішоў невысокі, русы хлапец у замасленай блузе. Хлапец параўняўся, ціха і здзіўлена спытаў:

— Гэта не ты, Санька?..

Санька гэтых слоў не пачуў. Але, прайшоўшы некалькі крокаў, чамусьці азірнуўся. Хлапец стаяў на адным месцы здзіўлена прыўзняўшы бровы.

Тады Санька раптам крыкнуў, падаўшыся ўперад:

— Федзька!. Гэта-ж я...—і кінуўся да яго.

Федзька, захліпаючыся, прашаптаў:

— Дык ты жыў, Санька? Ого! А цябе ўсе лічылі ў нас, што ты загінуў... А ты жыў! Падрос!...

— А мой бацька?..

Федзька памаўчаў і апусціў вочы.

— Твой бацька ў той год, як ты ўцёк, утапіўся ў рацэ ў час паводкі...

Таварышы ішлі дарогаю да Федзькавай хаты. Санька ўсё расказаў, нічога не ўтаіў, бо яны з Федзькам былі лепшыя таварышы.

— А табе можа трэба вярнуцца,—параіў Федзька.—Можа так лепш...

І Санька, падумаўшы, згадзіўся.

— Цяпер я ведаю, што я павінен вярнуцца... У мяне нікога тут не засталося. Толькі ў мяне няма грошай на праезд...

— Санька!—затармашыў яго за плечы Федзька.—У мяне ёсць грошы. Я табе дам на дарогу... Ты ў нас пераначуеш, а заўтра паедзеш...

— Я табе вярну... —з удзячнасцю, дрыжачым голасам сказаў Санька.—Я табе іх скора вярну.

Федзькава маці накарміла Саньку. Прыклаўшы руку да шчакі, яна глядзела на Саньку і ўспомніла яго маці:

— Калі-б маці твая ведала, што ты вырас такі вялікі!

Увечары яны з Федзькам ляглі спаць разам. Яны многа гаварылі, ўспаміналі, як разам хадзілі ў школу, як ездзілі па рацэ на плытах, як слухалі дзедавы казкі...

А цяпер—ого! Яны ўжо выраслі вялікімі. Саньку—пятнаццаты, Федзьку—сямнаццаты год.

Пагаварылі, і Федзька скора заснуў, бо яму рана трэба было ісці на работу ў поле. А Санька варочаўся і не мог заснуць. Уставалі перад вачмі пройдзеныя гады. Як ні разу ў жыцці адчуваў ён сябе вінаватым перад людзьмі, перад ваенкомам, перад Савонькам і перад самім сабою.

У поўнач Санька ўстаў з пасцелі, адзеўся, на цыпачках вышаў за дзверы і больш не вярнуўся...

## 5. Прысяга.

Санька стаяў ля дзвярэй габінета ваенкома. Ужо некалькі разоў ён імкнуўся ўвайсці і ўсё не адважваўся.

Нарэшце, ён ціханька адчыніў дзверы і нясмела прасунуў галаву, бліскаючы вачыма. Ваенком сядзеў спіною да дзвярэй і нешта гаварыў па тэлефону—відаць, важнае.

— Алё, алё!.. Заўтра роўна а 9 гадзіне полк выходзіць на пляц прымаць прысягу... Алё!

— Мне можна зайсці?—кашлянуў два разы Санька і, ціха ступаючы, увайшоў у покой...

— Калі ласка,—не адрываючыся ад тэлефоннай трубкі, сказаў ваенком.

Санька яшчэ раз кашлянуў.

— Я—прышоў, таварыш ваенком...

Ваенком, не спяшаючы, павесіў трубку, павярнуўся да Санькі і сурова запытаў:

— Ты прышоў, а чаго ўцякаў? Дзе быў?..

Санька стаяў, апусціўшы галаву, замурзаны ў дарозе і сумны...

— Газету надумаў сарваць? Дэзертыраваў? Нам такіх чырвонаармейцаў не трэба...

— Я...—заікаючыся, прамовіў Санька,—ездзіў на сваю радзіму... Да свайго бацькі, але бацькі ў мяне даўно няма... а я не ведаў... Я больш не буду... чэснае слова...

Ваенком адвярнуўся і зноў стаў гаварыць па тэлефоне.

— Таварыш ваенком... Я больш не буду.

— Можаш ісці.

Ваенком стаў нешта пісаць, а Санька ўсё яшчэ стаяў ля сцяны, пазіраючы на наскі сваіх ботаў. Ён не ведаў, што рабіць і куды ісці. Ваенком маўчаў, і Санька маўчаў. Нарэшце, ваенком доўгім прыжмураным позіркам паглядзеў на Саньку і ўжо дабрадушна сказаў:

— Ну, заставайся, але помні...

— Дзякую,—шчыра сказаў Санька, а пра ваенкома падумаў: „Строгі, але добры. Баявы... Ух, які баявы!..

Санька адразу павесялеў і ўсміхнуўся, а ваенком спытаў:

— Ну што-ж ты бачыў на сваёй радзіме?

— Там усё новае,—адказаў Санька.—Не пазнаць!

Скоранька, захлёбваючыся, Санька расказаў, як ён быў малым і жыў у Чырвонай Слабадзе, а цяпер зусім не пазнаў яе. Расказаў і пра маці, і пра свайго дзеда і пра свайго таварыша Федзьку, а ваенком усё слухаў і ківаў галавою...

Так Санька зноў застаўся жыць у музычнай камандзе. Проньку ў той дзень ён сказаў, вінавата ўхмыляючыся:

— Пронька, ты на мяне не злуй...

— Дзівак ты,—адказаў Пронька.—Я на цябе не злую. Я толькі хачу, каб ты стаў дысцыплінаваным чырвонаармейцам... Ну, давай разам прыбіраць казарму... Заўтра ў нас вялі-і-кае свята... Першае мая... Маладыя чырвонаармейцы будуць на плошчы прымаць прысягу...

— Пронька,—папрасіў Санька,—ты мне не расказвай. Цікавей будзе, калі я сам пагляджу... Мне-ж можна будзе пайсці?

— Абавязкова пойдзем...

Казарму ўбіралі зялёнай хвояй. Пронька, стоячы на каленях, чырвонай фарбай маляваў плакат:

„Няхай жыве 1-е мая.

Санька з Лёшкам і Цімкам развешвалі ў кутку лозунгі.

А назаўтра, яркай і сонечнай раніцай, полк вышаў ў горад на парад. Чырвонаармейцы ў новых гімнасцёрках, без шынеляў, з вінтоўкамі.

Сонца залівала Савецкую вуліцу. Сонца свяціла з блакітнай вышыні, абдавала вуліцу, запоўненую вялікімі натоўпамі людзей. Грымела бурная музыка. Грала першамайскі марш. Ішлі калоны рабочых, студэнтаў, фізкультурнікаў, піянераў, чырвонаармейцаў.

— Ай колькі народу!—здзіўляўся Санька. — Паглядзі, Проня... Паглядзі!

— Гэта яшчэ нямнога. Сягоння па ўсіх гарадах на свеце ходзяць рабочыя са сцягамі і з песнямі. Толькі, вядома, не так, як у нас... Там фашысты страляюць у рабочых...

Над горадам гудзелі эскадрыльі самалётаў, падобныя на птушак. Адзін з самалётаў нібы выпусціў пачку белых галубоў. Галубы пакружыліся над вуліцай і апалі звычайнымі лістоўкамі...

У гэты дзень для Санькі ўсё было незвычайным. Было столькі ўражанняў, што і цяжка прыпомніць. Усё асвятляла бляскам і прыгожасцю.

Санька помніць, як яны прышлі на Пляц Волі. Гарадскі гадзіннік прабіў 12 гадзін. Чырвонаармейцы стаялі роўнымі шарэнгамі з вінтоўкамі напагатове.

Старшыня Совета народных камісараў чытаў з трыбуны словы чырвонай прысягі.

— Я—сын—працоўнага—народа...

Чырвонаармейцы гулка паўторвалі кожнае слова клятвы.

І Санька стаяў у калоне стройна, не міргаючы вачыма, і шаптаў.

— ...грамадзянін Саюза Совецкіх Соцыялістычных рэспублік, прымаю на сябе званне воіна рабоча-сялянскай арміі...

Санька гаварыў і сам запаўняўся да краёў гордасцю. У гэты дзень ён даваў прысягу стаць сапраўдным чырвонаармейцам.

Санька абарочваўся і паглядаў на Проньку. У Проньні блішчэлі вочы іскаркамі. Твар зіяў нейкім нявыказаным захапленнем. Саньку хацелася сказаць яму:

— Пронька, давай мы з табою будзем самымі лепшымі таварышамі. Дзе-б мы ні былі з табою, давай будзем заўсёды разам.

Але гаварыць у такі ўрачысты момант Санька не мог, каб не парушыць настрою. Усё ў ім, здаецца, ціха спявала. Усе людзі, Пронька, ён сам здаваліся песняй і музыкай.

А калі полк варочаўся ў казарму, па вуліцах лунаці сцягі, аграмадныя натоўпы людзей запруджвалі вуліцы, грымела моцная непаўторная музыка...

Пад вечар Санька напісаў ліст ў Чырвоную Слабаду.

„Федзька!—пісаў ён,—ты не злуйся на мяне, што я ўцёк. Мне хацелася хутчэй прыехаць у свой полк.

Сягоння ў нас быў такі ўрачысты дзень, што яго пяром не апісаць. Мы давалі чырвоную прысягу. Было многа людзей на вуліцах, столькі многа, што ты, напэўна, ніколі не бачыў.

Я сягоння даў нашаму ваенкому абяцанне, што заўсёды буду дысцыплінаваным чырвонаармейцам. І ён адказаў мне—„добра“. А яшчэ ёсць у мяна добрыя таварышы—старшына роты і Пронька... Гэта ўсё баявыя хлопцы!

Паклон табе, Федзька. Пішы і ты мне.

Санька заклеіў ліст у канверт, напісаў адрас і занёс яго ў штаб палка дзяжурнаму.

— Вось мой ліст. Толькі глядзіце, не згубіце яго...

Калі сцямнела, усёй камандай пайшлі ў клуб палка на вечар. Там—

поўна чырвонаармейцаў. Прышлі шэфы—рабочыя, работніцы швейнай фабрыкі. На сцяне вялікія партрэты Леніна, Сталіна і Варашылава асветлены чырвоным электрычным святлом. За сталом камандзір палка, ваенком, прадстаўнікі ад шэфаў і лепшыя ўдарнікі.

Пад воплескі вышаў і стаў ля трыбуны ваенком. Ён—высокі, шырокаплечы, а на грудзях ордэн і на ім пучок электрычнасці.

Ваенком сказаў:

— Таварышы!—і пачаў гаварыць зычна і горача. Ён гаварыў аб вялікай будоўлі ў краіне Советаў, аб слаўнай Чырвонай арміі і гнеўна гаварыў аб пагрозе новай вайны.

І некалькі сот ударнікаў-чырвонаармейцаў адказалі на гэта воплескамі.

— Мы будзем цвёрдымі і моцнымі, як сталь! У нас у руках тэхніка, якой мы абаронім сваю соцыялістычную бацькаўшчыну. Нас вядуць словы Леніна і наш вялікі капітан—таварыш Сталін. Таму ва ўсіх баях мы пераможам...

Под канец вечара ў прэзідыум прышла запіска:

„Таварыш ваенком ад імя ўсіх чырвонаармейцаў просім вас расказаць эпізод з грамадзянскай вайны".

Ваенком прачытаў запіску ў голас.

— Просім! Просім,—выгукнулі чырвонаармейцы,—Раскажыце,за што вы атрымалі ордэн...

Ваенком на хвіліну глыбока задумаўся, і ўсе чырвонаармейцы задумаліся, і стала тады такая цішыня, што чуваць было, як за вокнамі шумяць ліпы і па зямлі ходзіць зялёны май.

— Добра!—на вуснах ў ваенкома прамільгнула цёплая ўсмешка.— Добра раскажу...

І перад маладымі чырвонаармейцамі, якія толькі сёння прымалі прысягу, закружыла ветрам даўных жорсткіх баёў, паходаў.

### 6. Апавяданне ваенкома пра чырвоны сцяг

Чырвоны полк стаў на начлег.

Полк быў стомлены ў баях. Пасля страшных баёў засталося ў палку тры роты чырвонаармейцаў, тры кулямёты, адна пушка ды ярка-чырвоны сцяг.

Сцяг быў гонарам палка. На ім напісаны ўсе перамогі, усе адважныя паходы на ворага. Аддасі ў баі сцяг—не будзе і самога палка. Сцяганосцам быў 20-гадовы чырвонаармеец Іваненка...

На цёмным небе свяцілі ў тую ноч сінія і да чаго-ж буйныя зоры. Іваненка стаяў на варце. Ніколі, здаецца, не бачыў ён такіх буйных зор на сваёй радзіме, як тут, у Палескіх лясах.

Трашчаў лютаўскі мароз. Зайздросціў Іваненка чырвонаармейцам, якія спалі ў хатах. Трое сутак не спалі байцы, трое сутак не спаў Іваненка.

У сялянскіх хатах пахла анучамі, потам, лучынаю, але-ж было цёпла, аж душна.

Спалі чырвонаармейцы—хто седзячы на лаўцы, хто стоячы, абапёршыся на вінтоўкі. Ніхто не выпускаў з рук сваіх баявых вінтовак. Сніліся ім у гэты час сны яркія, як вясна. Барадаты чырвонаармеец па прозвішчу Лебяда ў сне шчасліва ўсміхаўся. А другі бялявы, зусім яшчэ хлапчук, крычаў спрасонку.

Спалі чырвонаармейцы і не чулі трывогі. Вораг набліжаўся з леса, абкружаў вёску.

А Іваненка бачыў скрозь ноч: мігцелі за курганамі злыя аганькі. То знікалі, то зноў успыхвалі, што гэта? Можа воўчыя вочы, можа зарніцы, а можа проста іскаркі?..

Не, гэта не іскаркі...

— Трывога!—закрычаў Іваненка. Белыя! Гарніст, трубі трывогу!.. Падыма-айся-а!

Выбеглі чырвонаармейцы з цёплых хат на люты мароз. А вораг ужо касіў з кулямёта, з вінтовак. Гарэла за ваколіцай хата. Полымя асвятляла на агародзе стог саломы, засыпаны снегам.

Камандзір чырвонага палка—суровы і моцны, як дуб, аддаў кароткі загад:

— Адступаць! У лес! Берагчы зброю!.. Берагчыся самім... Набірацца новых сіл...

Чырвонаармейцы стралялі, шкадуючы кожны патрон, кожную гранату, і адступалі ў глыбіню Палескага балота, бо сілы ў ворага было ўдвойчы больш.

Вартавы Іваненка, расстраляўшы патроны, кінуўся ў хату ратаваць сцяг. Як-жа пакінуць ворагу свой баявы сцяг, праслаўлены ў баях?.. Іваненку заўважылі белыя. Ён уцякаў з усіх сіл... Кулі звінелі ля вушэй. Адна з іх прастрэліла сцяг і шлем.

— Хутчэй бы ўцячы, выратаваць... Толькі-б хутчэй... Толькі-б хутчэй... Але не, не ўцячэш... Не ўцячэш...

Іваненка ў адчаі кінуўся ў стог саломы і закапаўся ў яго з галавою. Белыя прабеглі з настаўленымі ўперад штыхамі, прабеглі і, відаць не заўважылі...

Ужо далёка за вёскаю гучэлі стрэлы. Яго родны полк адступаў, а ён—адзін... І разам выратаваны сцяг. Іваненка прыціснуў сцяг да грудзей...

Прышла раніца. Прышоў марозны дзень. Паднялася ў полі, закружыла завіруха. Па вёсцы гулялі белыя афіцэры. Рыпеў гармонік і смех. У канцы вёскі галасіла пакрыўджаная жанчына.

Каля стога праходзілі белыя вартавыя. Яны ўздрыгвалі ад мароза і ціснуліся да стога, каб сагрэцца.

Адзін з вартавых закурыў цыгарку і сказаў другому:

— Холадна! Падпаліць-бы гэты стог... От дзе забушавала-б. Тады-б мы пагрэліся!..

— Што ты?—спалохана сказаў другі.—У суседняй хаце гуляюць афіцэры... Самагон жлукцяць. Ім—цёпла. Не трэба стаяць на варце...

— Сабачае жыццё! Абяцалі афіцэры многа, а выходзіць...

Вартавыя не дагаварылі і пайшлі, пераклікаючыся паміж сабою.

„Не ўцячэш, нікуды не ўцячэш,—думаў Іваненка.—Эх, трапіць-бы да сваіх таварышоў!..

Але як ты трапіш? Кругом моцная варта; адзінае, што засталося ў Іваненкі,—гэта родны сцяг, якога ён ніколі не аддасць ворагу.

У стагу было цёмна, як у бяздоннай яме, холадна, як у магіле. Ужо нельга было паварушыць рукою. Зліпліся калючымі ільдзінкамі павекі. І толькі сцяг, ярка-чырвоны сцяг, саграваe кроў.

Каб зараз хоць маленькі аганёк. Каб трошачкі цяплыні! А можа вылезці з стога, пайсці ў цёплую хату...

— Не! Не!

З шчыльна заплюшчаных вачэй пасыпаліся гарачыя, пякучыя іскаркі. Прышло на памяць Іваненку маленства і тое, як ён лавіў рукамі над вогнішчам іскаркі. Ах, залатыя, вясёлыя іскаркі!

Замест іскарак, сыпаліся з вачэй слёзы і пякуча апальвалі шчокі. Сухая рука голада сціскала за горла...

— Хлеба! Хоць-бы чэрствы кавалачак хлеба. Хоць-бы крошачку, маленькую крошачку...

А што калі ўстаць, пакуль ёсць сілы, зайсці ў хату і папрасіць...

— Хлеба! Маленькую крошачку хлеба...

А сцяг?..

І раптам шалёным віхрам загула мяцеліца, закружылася ў дзікім танцы і...

Успомніў Іваненка чырвоную Маскву. Пышная вясна была у сталіцы. Ён з таварышамі аднагодкамі, кожнаму з іх васемнаццаць слаўных год, запісваецца добраахвотнікам у чырвоны полк. Праводзіў завод іх, выпраўлялі рабочыя і давалі суровы наказ: берагчы краіну Советаў ад ворага.

У той дзень на іхным заводзе з'явіўся адзін чалавек. Іваненка ніколі не бачыў гэтага чалавека, але ён адразу пазнаў твар, чалавечую ўсмешку, што ярчэй усякага сонца, і пачуў агнявыя ленінскія словы... І ад гэтых слоў тысячы людзей абяцалі аддаць жыццё за краіну Советаў. Сам Іваненка ў Крэмлі даваў вялікую клятву, чырвоную прысягу.

Закружыліся дні, пайшлі паходы, баі...

І заўсёды ў баях і ў паходах стаяла перад вачамі ў Іваненкі постаць Леніна і яго словы, што абляталі ўвесь свет... І тады сцяганосец Іваненка яшчэ вышэй падымаў ярка-чырвоны сцяг, і вочы ў яго загараліся іскрамі. І сэрца ў яго пылала пякучым агнём, і ён кідаўся ў бой наперадзе за ўсіх.

— Чаму-ж цяпер няма ні агню, ні іскраў? Нават сэрца, такое маладое і гарачае сэрца, перастае біцца...

Вось яна прыходзіць, ужо ідзе смерць,—лёгкая і спакойная. Сцяганосец шчыльней прыціскае да грудзей многа разоў прастрэлены, родны ярка-чырвоны сцяг...

Прышла другая раніца, але не ўзыходзіла яшчэ сонца.

Тры роты чырвоных непрыкметна ўварваліся раніцай у вёску. Было ў іх тры кулямёты, адна пушка, але не было чырвонага сцягу...

Камандзір палка выражыў, што Іваненку і сцяг захапілі белыя. Рашуча і адважна ўдарылі чырвонаармейцы супроць белага палка. Адабраць сцяг! Не даць ворагам здзекавацца!

Белыя не чакалі такой адвагі. У першы момант яны замяшаліся. Загадалі афіцэры салдатам страляць з вінтовак і кулямётаў.

Затрашчэлі тады кулямёты, засвісталі кулі, разрываліся гранаты. Падалі людзі ў сыпучы снег, падкошаныя кулямі, а крывавыя ніткі навек прышывалі іх да халоднай зямлі...

Як скрозь сон, пачуў Іваненка страляніну. Устрапянуўся і шпарчэй забушавала кроў, і шпарчэй забілася сэрца.

— Няўжо свае? Нашы .. Родныя!

Паспрабаваў Іваненка раз устаць—не мог. Хацеў другі раз устаць—не мог. Разгарнуў рукамі салому і ўбачыў: узыходзіць над зямлёю сонца, і яркая кроў на снезе. Ён паспрабаваў трэці раз устаць—і ледзь устаў на ногі.

— Свае! Таварышы!—не мог крычаць, а толькі шаптаў Іваненка размахваючы сцягам.

Чырвонаармейцы ўбачылі Іваненку, убачылі свой сцяг і з апошняй страшнай сілай ударылі па ворагу.

— Ура! Наперад!

Адну хвіліну ад дыму нічога не відаць было, а потым убачыў Іваненка, як ускочылі недабітыя афіцэры на коні і паімчалі галопам.

Адну роту белых дагналі чырвоныя і ўзялі ў палон. А астатнія салдаты разам з афіцэрамі трусліва ўцякалі ў лясы...

Пасля боя камандзір палка пастроіў сваіх чырвонаармейцаў і сам зрабіў пераклічку. Рэдкімі былі рады. Той, хто быў з чырвонаармейцаў жывым, адказваў сам, а за таго, хто загінуў у баі—адказваў яго таварыш.

— Адважна загінуў у барацьбе за рабочую справу...

За барадатага кулямётніка Лебяду адказаў Іваненка...

— Загінуў... за краіну Советаў... за справу Леніна...

Прашаптаў Іваненка і толькі цяпер адчуў такую страшэнную стомленасць, што падкасіліся ногі, ён страціў прытомнасць—і паваліўся на снег...

Тады суровы і моцны, як дуб, кампалка зняў з галавы белую папаху і рукавом шынелі выцер з павек пушынкі снега. Усе чырвонаармейцы таксама з пашанаю знялі шапкі і стаялі моўчкі.

Потым сабралі байцы сваіх мёртвых таварышоў і пахавалі ў адной брацкай магіле. Зрабілі кароткі, скупы адпачынак і зноў пайшлі і паехалі даганяць ворагаў.

Ехаў наперадзе камандзір чырвонага палка. За ім ехаў Іваненка з разгорнутым ярка-чырвоным сцягам, не раз прастрэленым у баях. З гэтым сцягам полк прайшоў ад сыпучых пяскоў Кара-Кума да Палескіх балот. З ім перамагаў ворагаў...

Ішлі чырвонаармейцы на новыя баі. Перад імі слалася яшчэ далёкая баявая дарога. Лясы і ветры ў паходах спявалі ім песні пра іхнюю адвагу і мужнасць...

---

„Ага,—здагадаўся Санька,—дык вось хто наш ваенком!

Ваенком Іваненка—ён-жа і быў сцяганосцам. За баявыя паходы і адважныя ўчынкі ён мае ордэн Чырвонага Сцягу.

Вось хто-такі сцяганосец Іваненка!

## 7. Трывога

Улетку полк перайшоў з казармаў у лагер. Чырвонаармейцы жылі ў белых палатках. Навокал шумеў сасновы бор. Ярка цвіла зямля, пахла ў лесе смалою, а ў палях грэчкаю.

Раніцай чырвонаармейцы выходзяць на заняткі. Стройнымі радамі ідуць па дарозе ўзводы.

— Аць—два—левай! Аць—два—левай! Песню!

Запявала запявае:

За гарамі, за даламі
Э-эх! Нам не ў навіну

і ўвесь узвод грыміць баявой песняю:

Трубы песню зайгралі,
Песню пра вайну...

А за пералескам чутны кароткія стрэлы—у ціры вучацца добра страляць з вінтовак і кулямёта. А ў некаторыя дні ходзяць усім палком страляць на палігон, за восем кілометраў.

На палянцы ўкруг моўчкі сядзяць чырвонаармейцы. Там палітрук праводзіць палітзаняткі. Каля складаў і ружэйных майстэрняў ходзяць

вартавыя. Вінтоўка заражана, заўсёды напагатове. Вока ў вартавога пільнае: паспрабуй падкрасціся, вораг—не здабраваць табе!

Добра ў лагеры! Куды лепш, чым у душнай казарме.

Спаў Санька таксама ў палатцы. Уначы, калі станавілася душна, ён адварочваў рог палаткі. Свяцілі ліпеньскія зоры, была цішыня, і толькі часам чутны на лінейцы ціхія крокі вартавога.

Адзін раз уначы Санька пачуў скрозь сон: загарнілі гарністы, забегалі вартавыя.

— Трывога! Трывога!

Ноч напоўнілася зыкамі і шэптамі. Чырвонаармейцы беглі, нібы крадучыся, на цыпачках, ціха браскаючы зброяй.

— Трыво-ога!

Што такое—можа пажар, можа напад ворага?

Лёшка, хныкаючы, закрычаў спрасонку.

— Вайна! Белыя напалі на наш лагер!..

— Маўчы!—шэптам сказаў Пронька,—ты, мусіць, сніў пра вайну... Гэта—трывога... Хутчэй адзявайцеся, ідзем...

Праз пяць хвілін увесь полк выстраіўся на лагернай лінейцы і без шуму рушыў у дарогу. Ішлі шпарка і асцярожна. Санька нават баяўся кашлянуць.

А ў лесе стала так цёмна, хоць ты вока выкалі. На тры крокі нічога не відаць. Санька ішоў і спатыкаўся аб карчы.

Нарэшце полк вышаў з лесу і спыніўся на палянцы. Усе камандзіры падышлі да кампалка і ваенкома, а па ротах і ўзводах прайшло шу-шу-шшу...

Падышлі камандзіры да сваіх рот і ўзводаў. Санька таксама падыйшоў, прыслухаўся і пачуў ад камандзіра:

— А трэцяй гадзіне вышлі „сінія". Часці „сініх" ідуць на наш лагер. У „сініх"—танкі, самалёты і гарматы. Наша задача—заняць лес, вёску Навасёлкі...

І яшчэ нешта сказаў камандзір, але гэтага ўжо Санька не разабраў. Няўжо сапраўды вораг? Ну так і ёсць!

Узводы занялі абарону, залезлі ў акопы. Ні гуку, цішыня...

Узыходзіла яркае сонца... Санньку стала весела—нічога страшнага няма. Была, аказваецца, самая звычайная баявая трывога. А калі-б што, хіба Санька спалохаўся-б?

...За лесам пачулася перастрэлка. А потым у далечыні завухала гармата. За курганам выбухнуў снарад.

Пачуўся моцны гул. Здалося, што ўздрыгнулася зямля. Стральба цягнулася доўга. А потым сталася нешта невыказанае: „сінія" закрычалі „ура" і кінуліся на „чырвоных". „Чыроныя" закрычалі „ура" і кінуліся на „сініх".

— Гэта яшчэ не сапраўдная вайна, а толькі так,—сказаў Пронька.— Толькі вучацца ваяваць... А на сапраўднай вайне страшна. Наш ваенком да чаго-ж адважны, за геройства ордэн мае, а і то гаварыў, што ў першы раз страшна было...

— Уцякай!—спалохана крыкнуў Санька.—Танк!

Танк, падобны здалёк на велізарную чарапаху, ламаў па дарозе маладыя дрэвы і пёрся праз канавы проста на Саньку. Адзін чырвонаармеец прыгнуўся і кінуў танку пад колы цэлую звязку „гранат". Але „гранаты", відаць, не разарваліся. Танк спакойна, ломячы ўсё перад сабою, лез уперад.

Санька кінуўся ўцякаць у лес, а Пронька крыкнуў яму:

— Не бойся! Залазь у акоп. Тут ён нам нічога не дарадзіць...

Танк, не задаволена вухаючы, прайшоў міма...

Станавілася горача, пыльна. Чырвонаармейцы, стомленыя і потныя, рабілі перабежкі, падалі на траву, падымаліся і зноў беглі ў наступленне...

— А гэта цяжка...—сказаў Санька.

— А ты што думаў—лёганька, ці думаў, што гэта гульня? Гэта не смешачкі і не жарты...

Нарэшце, пратрубілі сігнал—„адбой". Скончылася стральба. І „сінія" і „чырвоныя" збіраліся ў круг, падавалі рукі, віталіся. Скончана „вайна".

Тады старшына Савонька ўзяў з рук у Кукарэкі гармонік і зайграў...

Лепшы танцор і запявала—кулямётнік Кукарэка пашоў у скокі. Пляскаў Кукарэка ў ладкі, моцна прысвістваў, ківаў галавою. То на цыпачках хадзіў па кругу, узяўшы рукі ў бокі, то нечакана пускаўся ў прысядкі, так выкідваючы нагамі, што толькі—ну ды ай!

— Ух ты!

Танцавалі рукі, танцавалі ногі, танцавала палянка, здаецца, пусцілася ў прысядкі маладая кучматая сасна. Здаецца, не вытрымаў разложысты дуб, узяўся ў бокі і тупнуў нагою.

— Іш ты!

Кукарэка прыпяваў:

„Комсамолачка Дарота,
Пойдзем разам ваяваць—
Страляць буду з кулямёта,
Ты патроны падаваць...

— Ух ты!

Нарэшце Кукарэка спыніўся, выцер пот, чапурна раскланяўся чырвонаармейцам і запрасіў:

— А ну, хто са мною на спаборніцтва?

Ніхто не мог выйсці супроць Кукарэкі. І ў танцах і ў стральбе першым быў Кукарэка.

Тады Санька скінуў з сябе шынельку.

— Дарогу Саньку,—жартаўліва сказалі чырвонаармейцы і расступіліся перад ім.—Няўжо Санька не дасць яму „ачко".

Санька дробненька прайшоў па кругу. Спрытна перакруціўся на адной назе. Высока падскочыў і перакруціўся ў паветры, а потым, як віхор, панёсся па кругу...

— Ну і Санька! Ён на ўсё здатны!

— Эх, ну і спрытна,—хвалілі чырвонаармейцы.

А Санька яшчэ лепш, яшчэ спрытней пайшоў. Мала гэтага, ён перакуліўся праз галаву і на здзіўленне ўсіх прайшоў адзін раз па кругу на руках.

Тут ўжо нават і сам Кукарэка пахваліў:

— Малайчына, Санька!.. Дай сваю лапу на дружбу,—сказаў Кукарэка і працягнуў сваю шырачэзную руку. Санька падміргнуў яму і хітравата ўсміхнуўся.

Так паміж ім і Кукарэкам завязалася дружба...

Перад адыходам у лагер полк пастроіўся ў шарэнгі, і кампалка перад строем сказаў:

— Працавалі добра! Ад імя камандвання выношу ўдарнікам падзяку...

І строй ударнікаў, як адзін голас, адказаў:

— Служым! працоўнаму! народу!

І Санька таксама паўтарыў:

Вярнуліся ў лагер з песняю. Грала музыка. Біў барабан. Гудзелі трубы. Тонка і зычна падцягвалі флейта і кларнет.

З гэтага дня Санька пачаў разумець, што такое баявая трывога і што такое паходы...

А ў паходах Санька быў сігналістам.

## 8. Герой

Стаялі апошнія дні лета. За лагерам пусцелі палі. Стала аранжавым лісце на дрэвах, па ветры лісце кружылася і мокла пад дажджом...

Першая кулямётная прышла ў апошні раз на стрэльбішча. Стралялі з кулямёта апошнюю, самую цяжкую задачу. Заключалі паміж сабою спаборніцтва. Кукарэка выклікаў на соцспаборніцтва старшыну Савонька.

Адзін Санька-сігналіст заставаўся як-бы ні пры чым. З яго жартаваў Кукарэка:

— Ну, а вы, таварыш Шпак, каго выклікаеце на соцспаборніцтва?

Санька падумаў і сур'ёзна прамовіў:

— Калі так, прыдзецца выклікаць вас, таварыш Кукарэка, бо я чуў, што вы лепшы стралок. З тымі, хто пушчае кулі па „малако", я не буду...

— Ого, здорава! На што спаборнічаем?

— Не менш, як на „добра".

Чырвонаармейцы засмяяліся. Дзе яму спаборнічаць з Кукарэкам? Жартаўнік гэты Санька!

— Зважай!—скамандаваў камроты.—Пачынаем стральбу. Першае аддзяленне на лінію агня—шагам—арш!

Санька падаў сігнал:

— Тру-ру-ру! Пападзі! Пападзі! Тру-ру-ру!

— Аго-оны!—крыкнуў камандзір.

І ўраз засакаталі кулямёты. Гу-гу—адрывіста загуло паветра. За мішэнямі ўзрываліся пыл і пясок.

Санька напружана сачыў за стральбою і за кулямётам.—Эх, пералёт! Эх, недалёт! А гэта, напэўна, у самае яблычка! Ён хваляваўся разам з усімі. І калі Бандарчук няправільна лёг ля кулямёта, Санька паправіў:

— Таварыш камроты, а Бандарчук не так лёг. Вельмі-ж ён шырока ногі раскінуў і цэлік забыў паставіць.

— Правільна! Бандарчук, чаму цэлік не паставілі?—зрабіў заўвагу камроты.

Камроты ў сваім сшытку запісваў, хто і як стрэліў. А старшына Савонька на вялікай фанернай дошцы крэйдай адзначаў лепшыя пападанні і лепшых ударнікаў па стральбе.

У Санькі аж вочы гарэлі. Ну проста палыхалі агеньком. Гэтак зайздросціў ён вялікім чырвонаармейцам. Гэтак хацелася хоць раз стрэліць у мішэнь баявымі патронамі. А тут яшчэ прыкасаўся Кукарэка з сваімі жартамі:

— Прайграў ты, Санька, спаборніцтва! Я стрэліў на „выдатна". Мне так шко-ода цябе...

— Мы яшчэ паглядзім,—чуць не плачучы, адказаў Санька.—Адна бяда, што камроты не дасць мне стрэліць...

І шкода і сумна было Саньку. Насміхаецца Кукарэка! Ну, чаму ён не такі рослы, як усе чырвонаармейцы.

— А ты паспрабуй папрасіць,—параіў Кукарэка,—можа і дасць...

Калі ўсе чырвонаармейцы адстраляліся, Санька адважыўся — раз-два—падышоў да камроты і, узяўшы пад казырок, як і ўсе чырвонаармейцы, гучна сказаў:

— Таварыш камандзір... дазвольце... мне... стрэліць... адзін раз... з кулямёта... Я з таварышам Кукарэкам заключыў дагавор, дык, ведаеце, не зручна зрываць спаборніцтва...

— Нельга,—строга сказаў камроты і адвярнуўся, а Санька панурыў галаву.

— Хоць адзін раз...

— Ды ты-ж і страляць не ўмееш,—ужо больш добрадушна загаварыў камроты,—для таго, каб добра страляць, трэба добра ведаць кулямёт.

— Кулямёт—я ведаю... Чэснае слова...—засыпаў ад радасці Санька словамі, як з кулямёта.—Вось гэта — руля. Гэта — замок... Стужку з патронамі заражаюць вось так... А тады ставяць прыцэл і цэлік. Націскаюць на падважнікі і—аго-онь!—на ўсё поле крыкнуў Санька так гучна, як камроты.

Камроты здзівіўся: адкуль Санька ўсё гэта ведае...

— А я—вывучаў кулямёт. Я люблю яго,—гаварыў Санька, ласкава пагладжваючы бліскучы кожух кулямёта.—Мяне вучыў старшына Савонька. Я хачу стаць сапраўдным кулямётнікам...

Камроты загадаў выдаць на спробу пяць патронаў. Савонька і Кукарэка дапамаглі зарадзіць. Ну і хваляваўся-ж Санька спачатку!

Лёг Санька па камандзе, усё як трэба. Спяшаючыся, паставіў прыцэл.

— Не спяшай,—папярэдзіў камроты,—не хвалюйся!

— Не падкачай, Санька,—нашэптвалі чырвонаармейцы.—Не гані кулі па „малако." Цэлься супраціўніку ў грудзі... пад самае сэрца... пад пячонкі...

Санька ўжо спакайней навёў чорную мушку пад мішэнь. Але рукі ўсё роўна трошачкі дрыжэлі і сэрца калацілася, і кашлянуць хацелася, і пачухаць у патыліцы, і шапка наехала на вочы.

Ну, цяпер засталося толькі прытаіць дыханне і цвёрда націснуць на падважнікі.

— Бух-та-та-ра-рах!

— Ах!—гукнуў Санька і заплюшчыў вочы на адну секунду.

— Скончана! Чаго-ж ты ляжыш, уставай...

Санька ўскочыў на ногі. Папаў ці не? Хоць бы-ж адну папасці, а то-ж засмяе Кукарэка...

Бадай што ўсе чырвонаармейцы і камандзір пашлі глядзець Санькаву мішэнь. Санька перагнаў усіх і першы прыбег да мішэняў, якія стаялі на 400 метраў ад агнявога рубяжа.

Мішэнь, у якую ён страляў, была, здаецца, трэцяя з краю. Санька глянуў на мішэнь, прыгнуўся і яшчэ раз глянуў, і яшчэ раз—ужо зусім блізенька, і аж у вачах пацямнела...

Што-ж гэта такое? Вось табе і на! Хоць бы-ж адна куля папала. Хоць-бы на смех! Дзе ты бачыў—ніводнай. Мішэнь гладкая, чысценькая...

Санька сумна адрапартаваў камроты:

— Усе прамазаў, таварыш камроты. Па „малако" пашлі. Дазвольце яшчэ раз стрэліць...

Комроты ўсміхнуўся:

— А ты ў каторую мішэнь страляў?

— Здаецца, у трэцюю з краю...

— Эх ты, снайпер... Зусім заблытаўся. Ты-ж страляў у другую з краю...

— Правільна! Цяпер я ўспомніў, чэснае слова страляў у другую мішэнь...

— То-та-ж, снайпер... Лічы свае ачкі...

А ў другой мішэні з краю былі прабоіны. Вось дзе яго кулі. Не прамахнуўся, значыць! Ого, адна куля трапіла ў самае чорнае „яблычка“—у дзесятку, другая трапіла ў круг 8, трэцяя ў 3, чацьвертая-зброднніца, толькі скаблянула край мішэні, ну а пятая, мусіць такі паляцела па „малако“.

— На першы раз добра. Сапраўды добра,—пахваліў камроты і назваў не Санькам, а таварыш Шпак.—У цябе, таварыш Шпак, зоркае вока і цьвёрдыя рукі, што і патрэбна байцу. З цябе можа быць слаўны кулямётнік...

Гэта з яго, з Санькі, можа быць слаўны кулэмётнік?

— Я-ж казаў, таварыш камроты, што люблю кулямёт і ведаю яго. А стрэліў я трошкі горш за Кукарэку таму, што я страляў першы раз. Ну, а спаборніцтва выканаў, ці не?

— Можна сказаць—умоўна,—адказаў камандзір.—На першы раз выканаў, а ў другі раз павінен лепш стрэліць.

— Ясна,—сказаў Санька.

Калі рота выстраілася ў шарэнгу, камандзір прачытаў прозвішчы лепшых стралкоў. Сярод іх былі Савонька і Кукарэка.

— А сігналісту, таварышу Шпаку, за добрае ўсваенне кулямёта,—голасна, урачыста сказаў камандзір,—абвяшчаю падзяку...

Такая цішыня тады была, што лес маўчаў, травы маўчалі, вецер змоўк. Гэта-ж вам не жартачкі атрымаць баявую падзяку! Яе запішуць у палкавы журнал і ўвесь полк будзе ведаць, і сам ваенком будзе ведаць, што Санька не толькі Санька-сігналіст, а сапраўдны чырвонаармеец, хоць яшчэ і малады гадамі. А калі ён неўзабаве вырасце, тады Санька абавязкова стане снайперам.

І ад гэтай пахвалы Санька заірдзеўся, як той чырвоны макаў цвет, азірнуўся навокал: на полі цвіла даль, ясная і блакітная. У адзін момант прамігнула чамусьці перад Санькам усё жыццё, і ён зразумеў, што ніколі ўжо больш не вернецца да таго, чым быў раней.

Тады Санька паправіў шапку, ступіў тры крокі ўперад, узяў правую руку пад казырок і гучна выразна сказаў:

— Служу! працоўнаму! народу!

Савонька, Кукарэка і ўсе чырвонаармейцы глядзелі на Саньку, як на героя, бо і сапраўды сягоння Санька быў героем, хоць маленькім, але героем першы раз у жыцці...

Пайшлі чырвонаармейцы стройнымі радамі ў лагер. Ува ўсіх на плячах вінтоўкі. Ува ўсіх на штыхах блішчыць сонца. Санька таксама павесіў сваю трубу на плячо і ў яго на мядзянай трубе блішчэла сонца, і ён ступаў уногу на левым флангу і гучна падхопліваў песню.

...Трубы песню зайгралі,<br>
Песню пра вайну...

Санька ішоў і разам з чырвонаармейцамі спяваў аб тым, што за гарамі, за марымі, у далёкай краіне, загралі трубы песню пра вайну. Збіраецца ў паход на савецкія граніцы белы генерал.

Нарком Варашылаў збірае свае баявыя палкі, сігналіст Санька трубіць трывогу:

— Трывога! Тры-вога! Устава-а-ай! Падыма-айся! На бой! На бой!

І тады, калі ўспыхне вялікім пажарам вайна, на заклік наркома падымуцца ўсе. Прыйдзе рабочы, калгаснік і комсамолец. Стануць у жалезныя шарэнгі снайпер, танкіст, лётнік, матрос.

Усе ўстануць за сваю бацькаўшчыну грознай непарушнай сцяною. І Санька абавязкова будзе разам: вось так пойдзе ўногу—раз два—левай!—і будзе страляць з кулямёта трапна без промаху...

А нарком Варашылаў паглядзіць на свае мужныя баявыя палкі і скажа:

— Мы вайны не хочам, але да вайны гатовы... а ну, Санька, трубі...

**Г. КАМЯНЕЦКІ**

# РОСТАНЬ

*З. Вітэнзону*

Ты ідзеш?—Ну, ідзі,
Толькі помні, глядзі,
Гэты дзень, гэты міг:
Я да палі прынік,
Зрок прыжмурыў, прыўстаў
І страляў з-за маста
На варожы вагон
Капітану ўздагон.

А праз хвілю адну
Ты рашуча-бадзёра ўзняла галаву
І касу запляла
І кудысьці пайшла.
Ноч. Імгла.
Ты прышла,
Прынясла
Дынаміт.
Больш не жмурыў я пільнага зроку затым—
Выбух. Гром.
Мост разбіт—
Хістануўся, ашчэрыўся ў змроку густым.
А мы разам пайшлі
Праз дубровы, палі
І званчэй, і званчэй
Рагаталі ўначы.
І у той самы час
Там,
Далёка ад нас,
За цяністай гарой
У хацінцы старой,
(Дзе мястэчка тулілася ў травах лагчын),
Сон прысніўся матулі тваёй уначы:
Што ты едзеш, што едзеш праз горы і дол,
А наперадзе конь твой ідзе, як арол.
Вабяць вока палітра і фарба калёс,
І набіты бітма срэбрам-золатам воз.
Сеў жаніх твой пад будай, глядзіцца удаль,
І блішчаць на ім шоўкі, брыльянты, крышталь.
А ты побач—на вуснах і шчасце і смех—

У сукенцы, у шлюбнай, бялюткай, як снег.
Ці то ўдзень, ці ўначы—цераз горы і дол
Вас да хаты вязе гэты конь, як арол.

Ціш і цемра ў лясах.
Асядала раса.
І мы селі ля дрэва спавіты ў туман,
І мы елі са смакам і хлеб, і таран.
І нам стала ямчэй,
І нам стала лягчэй.
І мы зноўку пайшлі
Праз лясы і палі.
Недзе енчылі, плакалі совы ў яры,
Ты скруціла цыгарку з крупчастай махры.
Мы званчэй і званчэй
Рагаталі ўначы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ад'язджаеш, ідзеш?
Ну дык едзь, ну ідзі,
Толькі помні, глядзі
Гэты год, гэты дзень.

З яўрэйскае мовы пераклаў
Ізраіль Плаўнік

БАРЫС МІКУЛІЧ

# ДОКТАР ПЕЦІН

*З цыкла навел пра грамадзянскую вайну*

Работа скончылася. Можна было, выпрастаўшы цела, адпачыць, заняцца нямудрымі справамі „для сябе“, можна было, зацягнуўшыся тытунём, глядзець на складанае вязьмо кольцаў, вытканае тытунёвым дымам, можна было, нарэшце, марыць ці філасофстваваць.

Фельчар даўно прызвычаіўся да абстаноўкі. Ён даўно навучыўся метка страляць, лоўка кідаць гранаты, навучыўся аддаваць загады, спаць пад плотам, есці адзін раз у суткі. Калі раней ён часам задумваўся над асобнымі выпадкамі смерці параненых, то цяпер—з цягам часу—гэтае пачуццё сумненняў неяк атрафіравалася, сцерлася. Апошнімі днямі былі цяжкія баі, работы было багата: за адны суткі ён і яго памочнік абслужылі дзвесце пятнаццаць параненых. Яны працавалі, не адрываючыся, і велікадушныя немкі (полк спыніўся ў нямецкай калоніі), кармілі фельчароў бутэрбродамі з сухой, старога прыгатавання, кілбасой.

Быў, праўда, адзін выпадак, які прымусіў фельчара здзівіцца чалавечай стойкасці. Аднаму з байцоў, таганрогскаму рабочаму, прабіла голень. Нага была амаль што перабіта, скрываўленая костка вылазіла вонкі. Паранены праляжаў на занятай ворагам тэрыторыі дванаццаць гадзін, стрымліваючы стогны: былі выпадкі, калі параненых па-зверску дабівалі штыхамі і прыкладамі. І калі пазней, як вораг быў адбіты, прыехаў па яго санітар, паранены рабочы адмовіўся ад дапамогі , трымаючыся рукамі за разбітую нагу, сам дапоўз да санітарнай павозкі.

Фельчар паліць новую папяросу і падыходзіць да акна. На шырокім дзядзінцы размясціўся яго санітарны атрад: трынаццаць павозак, людзі, рассеўшыся на траве, зацята і апетытна арудвалі над кацялкамі. Засоўваючы ў рот лыжку, малады рыжавалосы санітар расказваў нейкую бессаромную гісторыю. Крывячы ў плаксівую грымасу твар, рыжавалосы пісклявым жаночым голасам пытаўся: „А ты мяне будзеш паважаць?“ Санітары, давячыся кашай, голасна і бесклапотна рагаталі. Фельчар усміхнуўся таксама.

У суседняй хаце гаспадыня—дасціпная і строгая жанчына—гатавала вячэру. Шумеў урачыста і неабыякава самавар. Фельчар прыгадаў прыгожыя гаспадыніны вочы і чамусьці зірнуў на свае рукі. Яны пахлі сумессю іёдаформа і спірта, пахлі як звычайна, але ў гэтай чыста вымеценай ды пабеленай хаце пах быў гастрэйшы. Фельчар, прыгладзіўшы рукамі валасы, вышаў да гаспадыні.

— Ідзіце вячэраць.—сказала яна.

Ён, залазячы за стол, спехам зазірнуў у люстэрка на сцяне: у ім паказаўся твар са здаровай чырванню шчок, з двума радамі белых

роўных зубоў, з маленькімі англійскімі вусікамі. Спакоем і шчасцем веяла ад фельчарскага твару. Утульная цяплыня разлілася па яго целе і бадай толькі цяпер ён адчуў вялікую змору. Ён еў моўчкі, кіўкамі адказваючы на скупыя гаспадыніны словы. Толькі калі паявіўся на стале самавар, у сваю чаргу пачаў распытваць пра сяло, пра суседзяў, пра белых, пра паляванне.

Раптам у сенцах пачуўся шум. Сабака заліўся брэхам. І праз хвіліну ў хату ўвайшоў баец і за ім паказалася нейкая незнаёмая асоба.

— Вось, таварыш лекпом, да вас прывёў. Прасіўся ўсё.

Баец вышаў.

Чалавек стаяў пасярод хаты. Ён быў нізкарослы, шчуплы, неяк смешна ўзнімалася правае плячо. У чалавека былі маленькія палахлівыя вочкі, рэдзенькая, пакручаная ў кольцах, русая бародка. На плячах быў армейскі шынель са свежымі палоскамі ад пагонаў, хлясцік павіс на адным гузіку. Уся постаць чалавека была неяк скошана ўлева, нібы чалавека ўдарылі з-за вугла, і ён не паспеў апраўіцца.

— Вы доктар? Я прасіў, каб мяне прывялі да калегі. Я ў адчаі, я змучыўся. Я таксама доктар... маё прозвішча Пецін... Імя ёсць такое—Пеця... разумееце?

— Садзіцеся чай піць. Дайце, гаспадынька, кубак,—сказаў фельчар.—Я хоць і не доктар, але гэта не важна. Адкуль вы і што з вамі здарылася?

Доктар Пецін здзіўленым голасам, у якім не-не, а чуліся ноткі спалоху і адчаю, неяк разгублена сказаў:

— Чай піць?.. Бачыце, гэта... гэта не ўваходзіла ў мае... Гэта здзекі?.!

Фельчар развёў рукамі.

— Якія здзекі, што вы! Я прашу расказаць, што здарылася з вамі... прашу выпіць чаю.

— Выпіць чаю?

— Ну, але.

Доктар, здаецца трохі супакоіўся. Беражна паклаўшы на край лавы шынель, ён сеў каля яго і ўзяўся за кубак. Глытнуў гарачага, апёкся, засоп і неяк ураз яго прарвала:

— Я, разумееце, адстаў ад сваіх... некалькі гадзін бег па полі, забег сюды ў сяло, думаў свае, а тут аказваецца... Не думайце—я не шкадую, я змучыўся, мне ўсё адно. Мяне заездзілі, я быў не доктар, а ўсё, што вы хочаце... Мне ўсё адно... я да смерці прыгатаваўся. Я шукаў вас, вы—калега, вы павінны зразумець. Мне толькі хочацца выказаць усё, вы мне даруйце. Бываюць змучаныя вайной людзі, самотныя—а наўкола звяры! Вы не глядзіце на мяне гэтак, я звыкся з думкай, што не сёння, дык заўтра мне канец. Я ў руках чырвоных, я ведаю, чым гэта пагражае, гэта пагражае смерцю. Адным больш, адным менш...

Чалавек заёрзаў на месцы і з яго горла пачалі вылётаць хрыплыя ўсхліпванні. Чалавек плакаў слязмі адчаю. Фельчар зірнуў на гаспадыню. Тая вышла і праз хвіліну прынесла фельчарскую паходную сумку. Фельчар дастаў з яе бутэльку і наліў ў шклянку каньяка.

— Выпіце доктар,—сказаў ён,—у вас развінціліся нервы.

— Не,—рашуча прагаварыў доктар,—не, я не хачу, усё адно!—Але потым узяў шклянку і нагбом апаражніў яе.

— Ну, а цяпер ідзіце ў штаб палка, ён праз тры хаты адсюль. Там разбяруцца.

Нібы маланка прайшла па шчуплым доктаравым целе. Ніжняя губа адвалілася і дробненька задрыжала. Вочы пашырыліся ў адчаі і страху. Адмахваючыся рукамі, ён дрогка прашаптаў:

— Не... не... штаб палка... там мне канец...

— Ды што вы заладзілі?—абурыўся фельчар.—Што вы—генерал?

Той пакруціў галавой.

— Дык палкоўнік?

— Нне...—ледзь чутна выдыхнуў Пецін.—Я доктар... Але мне расказвалі пра зверствы...

— Звяры расказвалі!—рэзка перанывіў фельчар.—Сядзіце тут, я сам схаджу, пагавару.

Як пашоў фельчар, Пецін колькі хвілін сядзеў нерухома, потым ціха, крадучыся, падышоў да дзвярэй і зазірнуў у іх. Там было ціха і пуста. Насоўваўся вечар. Пецін на цыпачках прабраўся ў сенцы і гэткім-жа манерам высунуў галаву на вуліцу. Каля ганку нікога не было. Перапоўнены здзіўленнем, ён вярнуўся да стала.

Праз поўгадзіны прышоў фельчар і сказаў:

— Кладзіцеся спаць, заўтра відаць будзе.

— Заўтра...—глуха паўтарыў доктар.

Доўга варочаўся Пецін на лаве, уздыхаў, нешта шаптаў сам сабе. Фельчар сядзеў позна і працаваў, насвістваючы. Потым устаўшы, выцягнуўся, пачаў сцягваць боты, разгладзіў парцянкі. Пецін сачыў за ім. І, калі той лёг, доктар, узняўшыся на локці, спытаўся:

— І вы?..

— Што я?

— І вы ляглі?..

— Ну, а як-жа?

Прайшла ноч. Сніліся доктару адсечаныя ногі і рукі. Сярод наваленай кучы іх ён шукаў нешта. Нейкі чалавек аклікнуў яго. Ён адмахнуўся і крыкнуў: „Мая нага! Маю нагу адсеклі“.

Раніцай фельчар паслаў яго ў штаб брыгады, які размясціўся на хутары, за рэчкай. Пецін спытаўся пра канваіра. Фельчар разтлумачыў, што лішніх людзей няма. Доктар доўга развітваўся з ім, назаліва дзякаваў за прыём, даў адрас, па якому трэба напісаць жонцы пра яго смерць. Ён пашоў ад фельчара, азіраючыся, і, адышоўшы крокаў сто, раптам спыніўся і з адчаем крыкнуў:

— Ну, страляйце!

Фельчар адвярнуўся.

...Праз колькі дзён, ёдучы з санітарным атрадам услед за палком, фельчар напаткаў конніка. На рукаве была белая палоска матэрыі з чырвоным крыжам. Гэта быў доктар Пецін. Пры сустрэчы ён пачырванеў, і, апускаючы вочы, як дзіцёнак, наіўна выпаліў:

— Можаце віншаваць, я ваш начальнік! Прызначылі ўрачом па даручэннях. Здарова!

— Ну, а жонцы напісаць?

Доктар рвануў каня.

— Напішыце! Напішыце, што большэвікі—гэта такія людзі...

Фельчар засмяяўся.

Друць, 1934.

Д. ОСІН.

## ТРЫ ВЕРШЫ

### I

Прыходзіць пара,
	і аб сыне я мару,
Грук важкага сэрца
	мацнее тады.
Праз дождж ліпнёвы,
	праз снежныя хмары
Ён выйдзе у свет,
	у жыццё малады.

Ён выбяжыць ў свет
	пад вясновае сонца,
Зірне на прасцягі
	радзімы сваёй.
Віхор мой маленькі!
	мая злая бяссонніца!
Радасць мая ты!
	жыццё ты маё!

І будзе сачыць ён
	за ластаўкай спрытней,
За парасткам жыта
	на мяккай раллі,
За яркаю знічкай,
	за хваляй блакітнай,
За шумам вясны,
	шалясценнем калін.

Ён будзе расці
	загараць, узнімацца,
Нібы па вясне
	малады ясакар—
І з ворагам будзе
	упарта змагацца,
І мужна глядзець
	ўсім нягодам у твар.

А мы, франтавік,
	нашу маладосць ўспомнім.
Акопы, сыпняк,
	кроў на істужках дарог,
Завод нярухомы,
	стаптаныя гоні,
Галодных братоў
	і самотных жанок.

Ī толькі на крок
я стаю за табою—
Шырокі, плячысты
Ī дужы, як ты,
Ды выгараў вус
спакваля над губою,
Ī іней бліскучы
на скронях застыў.
Шумяць, як дубняк,
нашы дзеці наўкола,
Бадзёрыя песні
так звонка гучаць.
Сустрэнем з табою
мы радасна моладзь
Ī пойдзем з ёй ўперад
плячо да пляча.

Лёгкаю ценню
сачы, пагранічнік,
За грукам падкоў
на расстанках шляхоў,
За плынню рачною,
за яркаю знічкай
За подыхам кожным
вясновых лясоў.

II

Пяць год міне,
і мы пакажам сыну
Вясновы лёд
што ймчыцца на быкі,
Высокі б'еф
і моцную плаціну
Упоперак
суцішанае ракі.

Тут будзе горад,
ён сады раскіне,
Ī за заводам
загудзе завод.
Мы пастарэем,
пас крыві астыне,
Шмат будзе змен
за гэтыя пяць год.

Але мы не забудзем
той трыццаты
Славуты
непаўторны год:
Бетонны бой
зіму, мароз калматы,
Брыгады,
штурмаваўшыя пралёт.

Ты нарадзіўся тут,
ішлі снягі сівыя,
Мы дынамітам
рвалі берагі.
Была зіма,
і мерзлі вартавыя
Пад шум завей
працяглы і глухі.

Ты тут ўзрастаў
пад металёвы бразгат
Ты рос нячутна,
бы ў стэпу быльнёг.
Ў разрывах бур
з эпохай нашай разам,
І ўстаў на шумнай
хвалі перамог.

Я чую йзноў,
гудуць, імчацца воды.
Узрывае лёд
і плавіць снег вясна.
Зламалі мы
адвечны бунт прыроды,
Учарашні вір
турбіны круціць нам.

Прыслухайся:
на шырыні Кічкаса
Ў бетонных
непарушных берагах
Упарта б'ецца
сэрца класа,
Маланкі гонячы
па правадах.

І не загіну я:
ў агні,
ў бетоне,
ў сыне
Мяне вы знойдзеце,
калі памру.
Большэвікі ідуць
праз пушчы і пустыні
На Волгу,
на Севан,
на Ангару.

III

Шчокі мне
зіма зацалавала,
Я ўжо не малады,
дык што-ж,
Дзень ідзе,
мацнее ўсё навала
Бессемераў вогненная дрож.

Хлопчык мой,
ты спіш, раскрыўшы плечы
Жылка на ілбе тваім
дрыжыць.
Гэта для цябе
палаюць печы
І ліццё ўсякае ў каўшы.

Для цябе рака
ўзрывае йльдзіны,
Расцвітаюць
ўвесну дзеравы,
У стэпу,
над небам светла-сінім,
К сонцу цягнецца
густы кавыль.

Для цябе шукаем
медзь і срэбра
Ў нетрах горных,
у глухіх краях.
На рачныя берагі
і грэблі
Цень лягла
вялікая твая.

Над пустэльняй,
дзе цяпер сады,
Над чырвонасцяжнымі
палкамі
Голас твой
імчыцца малады.

З рускай мовы пераклаў А. Зарыцкі

Б. ГАРБАЦЕНКАЎ

# ШЫНЕЛЬ

*Н. Г. Царанкову.*

Калі узрастае трывога,
Гатоўнасць да бою правер...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гісторыю дня баявога
Расказвае нам шынель.

Поўнач.
Глухая бяздонная.
Змрок цішынёю прасяк.
Мясціна зусім невядомая,—
Вобмацкам бралі бальшак.

Пясок абсыпаў сыпучы,
Вецер з усіх канцоў.
Дарога—балоты і кручы
Ад Мозыра і да Клінцоў.

А чортавы час небяспечны!
Вінтоўку і зрэнк—
на прыцэл.
А цемра жахлівая плечы
Табе важкім грузам гняце.

Ідзеш, спатыкнешся на трупы,
І спіну праймае дрож.
Вайны гарлапанлівы рупар,
Крычыць над прасторамі скрозь.

Па двое,
па трое,
і проста
Чародамі,
урозваль
і строем,
і так
Лічылі маўклівыя вёрсты,
Пракладзеныя на бальшак.

Праз хмары прабіліся зоры,
Падае змрок начы.
Атруты глытаючы горасць,
Ворагу смерць імчым.

Мільгаюць агідныя твары,
Пагоны—наўскос плячэй.
Намераны трапныя ўдары
Ў скроню на ўзроўні вачэй.

Агні узняліся, касыя.
У пырсках скрываўленых рос
Пажар над сляпою Расіяй,
Прабітаю кулямі скрозь.

Маланкай штыховага бляску,
Свінцовай пургой—навылёт
Прамчаўся з грымотамі й ляскам
Мяцежны сямнаццаты год.

Па-новаму важка і строга
Узняўся абветраны дзень...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гісторыю дня баявога
Расказвае нам шынель.

Чад дыму парахавога
З манжурскіх плыве берагоў.
І поўнач няўрымснай трывогай
Кладзецца на рэбры штыхоў.

Мы ворагу кажам адкрыта:
— Рэспубліку
спробуй,
кранi!
Мы вершам,
штыхом,
дынамітам

Апошнія ўзнімем агні.
Вайна над распаленым светам
Раззявіцца пашчай сваёй.
І ўзніме улада Советаў
Сцягі над усёю зямлёй.

Пераклаў з рускага
*В. Казлоўскі.*

---

**ЗМІТРОК БЯДУЛЯ**

# НАБЛІЖЭННЕ*)

## XI

Дастаўшы адтэрміноўку па воінскай павіннасці, Гарэлік перастаў быць ціхім анёлам. Ён гаворыць цяпер са сваімі спульнікамі—Кантаровічам і Сакалоўскім—зусім новай мовай.

— Давайце мне сюды рахункі! Дзе мае пяць тысяч?

Гарэлік стукае кулаком па стале і робіць страшныя вочы.

— Рахункі і грошы!

Шагал знаходзіцца ў Тараса. Няма лішніх сведак. Шыман Кантаровіч і Сакалоўскі маўчаць. Сакалоўскі ўжо сказаў сваё, і Шыман з ім згодзен:

— Супакойся, Гарэлік, ёлап, тады мы з табой будзем гаварыць.

Яны чакаюць, пакуль Гарэлік супакоіцца. Чакаць прыходзіцца доўга. Кплівае маўчанне хаўруснікаў злуе Гарэліка яшчэ больш. Як ні хоча гаварыць спакойна, яму гэта не ўдаецца. У яго ўнутры сядзіць другі Гарэлік і цягне першага за язык:

— Рахункі і грошы!

Рахункі і грошы яго хвалююць да таго, што ён хапаецца рукамі за галаву, бегае па пакоі і аж раве. За дашчанай сценкай румзае Лейба Кантаровіч. Гарэлік бяжыць да яго на паратунак.

— Рэб Лейб! Мае спульнікі—круцялі. Я ад іх гэтага не спадзяваўся.

Лейба Кантаровіч углыблёны ў кнігу. Ён неахвотна адрываецца ад друкаваных густых літараў і незямнымі вачыма пазірае на Гарэліка. Яго голас ціхі і лагодны:

— Што ты хочаш, сын мой?

— Яны круцялі, ваш сын і Сакалоўскі. Рассудзіце нас па-божаму, рэб Лейба.

Стары кніжнік нюхае тытун, чыхае і кажа меланхалічна-спеўным голасам:

— Звычайная справа, сын мой. Калі такія мудрацы, як творцы Талмуду Шамай і Гілаль вечна між сабою спрачаліся, дык не дзіва, што гандлёвыя людзі перагіркваюцца. Звычайная справа, сын мой. Вы як-небудзь самі, я ў гэта не ўмешваюся.

І зноў насоўвае акуляры на нос і пачынае румзаць. Ён ужо недаступны ніякім справам зямлі... Ён гутарыць з богам.

На Гарэліка нападае роспач. Ён вяртаецца да сваіх спульнікаў і пачынае спакойным голасам:

— Жартачкі, пяць тысяч рублёў. Аддайце мне назад мае грошы, і я не буду глядзець вашых рахункаў. Заробкі мне не патрэбны.

---

*) Канец, гл. „ПР“ № 6—7.

Сакалоўскі жмурыць вочы і хваліць Гарэліка.

— Вось цяпер бачу, што Гарэлік не ёлап. Цяпер, калі супакоіўся, можна з табою гаварыць па-чалавечы. Грошы, як табе вядома, у гэты момант вярнуць не можам, бо яны ў тавары, а рахункі ты, не будзь ёлапам, і прагледзь. Тады пабачыш, што ў нас не толькі заробкаў няма, а наадварот. Мы шмат страцілі за апошні час. Прыёмачная камісія забракавала тавар і скруціла палавіну грошай. Дзякуй богу, пане дабрадзеенку, калі дастанеш чыстаганам тры тысячы, а вось і рахункі.

Сакалоўскі кладзе на стол некалькі запісных кніжак і пачынае тлумачыць лічбы. Вочы Гарэліка наліваюцца агнём, на губах паказваецца пена, і ён пачынае выць нямым голасам:

— Жулікі! Грабежнікі! Р-э-э-эжуць!

— Супакойся,—просіць Сакалоўскі,—не будзь ёлапам.

— Чаму вы раней цешылі мяне вялікім заробкам?

Стары кніжнік, які адным вухам прыслухоўваецца да спраў зямлі, выскаквае з свайго пакойчыка, як малады.

— Сынку мой...—кажа ён.—Ты-ж быў тады зайцам, быў такі нясшчасны... Не хацелі трывожыць твайго здароўя. А ты цяпер не злуйся. Адзін цадык*) гаварыў, што злосць такі вялікі грэх перад богам, усё роўна як маліцца ідалу.

Гарэлік уздрыгвае і пачынае скрыгатаць зубамі.

— Маўчаў-бы лепш, старая шэльма!—крычыць ён.—Анямеў-бы лепш, галаварэз, заверчаны ў тору*) Здох-бы лепш свіння з кашэрнай ножкай.

На гэта Лейба Кантаровіч кажа салодкім голасам праведніка:

— Сынку мой. Дарую табе тое, што так бэсціш маю сівізну. Але ці бог табе падаруе гэты грэх—яго ўласная справа.

— Годзе табе брахаць, сівы пёс!—і непрытомны Гарэлік кідаецца на старога кніжніка з кулакамі.

Яго з абодвух бакоў хапаюць за рукі Шыман Кантаровіч і Сакалоўскі і выкідаюць праз дзверы.

---

Ля самай прасёлачнай дарогі вецер скубе з бяроз скамечаныя пажоўклыя лісты, кідае іх у поле, падмятае, як злосная гаспадыня, узнімае ўгару, імчыць у даль стадкамі саранчы.

Па гэтай самай дарозе насустрач Левіну ідзе чалавек. На ім шэрае паліто. Ён размахвае рукамі. Зусім, відаць, малады дзяцюк з гарадскіх. Не. Гэты пажылы, голены, маленькія светлыя вусікі, шырокі зморшчаны твар і дабрадушная ўхмылка ў кутках губ. Глядзіць на Левіна спакойнымі вачыма і ўзнімае раптам бровы, быццам нешта ўспамінае.

— Скажыце, калі ласка, дзе тут дарога ў Каганцы?

— Ідзіце проста гэтай самай дарогай і трапіце якраз у мястэчка.

— Калі не памыляюся, мы з вамі ўжо недзе бачыліся. Вы не ехалі з Вільні ў чорнай палярыне?..

— Так, так. І я вас пазнаю. Гэта вы мяне тады выратавалі. Вы з Смаргоні?

— Ага. У Смаргоні камень на камені цэлым не астаўся. Вось і жыву ў сваякоў. А ў Каганцах мой зямляк.

— Шагал?

— Той самы.

— Дык пойдзем разам. А можа да мяне войдзеце?

---

*) Праведнік.
*) Пяцікніжжа Майсея.

— Дзякую. Вельмі-ж часу няма.

— Можа ёсць бліжэйшая дарога—полем, гародамі?

— Завяду вас гумнамі аж да Шагала.

— Вось-вось. Дзякую. Чуеце? Чуеце грукат гарматаў? Нічога сабе музыка. Даганяе нас вайна гэта. Тады, як ехалі з Вільні, фронт яшчэ быў далёка адгэтуль. Недзе каля Гародні.

Левіну трохі няёмка. Нават не сказалі адзін аднаму прозвішчы— і тады ў поездзе, і цяпер.

У Кантаровічаў Левін з смаргонцам п'юць гарбату. Кругленькая, як бочка, гаспадыня частуе яго з такой жа ветласцю, як сваіх смаргонцаў. Яна гаворыць аб сваіх знаёмых у родным зруйнаваным цяпер горадзе, і Левін сядзіць, як на турэцкім казанні. Шагал з гарбаром на „ты", разумеюць адзін аднаго з поўслова. Часта хто-небудзь з іх зірне на Левіна (бадай непрыкметна) такімі вачыма, нібы хочуць ад яго як найхутчэй збавіцца. Левін адчувае сябе чужым. Паднімаецца.

— Бывайце здаровы!

— Бывайце...

— Пасядзелі-б яшчэ, пане Левін,—не адстае гаспадыня.

— Дома чакаюць.

Калі Тарас з Шагалам застаюцца адны, Тарас папракае Шагала:

— Усё-ж такі нядобра, што ты тут жыў тры месяцы і не здружыўся з Левіным. Ён можа стаць нашым чалавекам. Вядома, над ім трэба яшчэ шмат папрацаваць, але з яго можа выйсці толк.

— Кінь аб гэтым,—нервуецца Шагал.—Добра знаю гэтае асяроддзе Нярвата аўчынка вырабу.

— Нярвата? А ці забыў, што калісьці і ты сам якраз такім быў...

Шагал чырванее...

---

На мяккай канапе Шагал з гарбаром. Гавораць ціха. Гаспадыня часта ўваходзіць у гэты пакой. Ловіць паасобныя словы: „Петраград", „заводы", „забастоўкі", „партыя", „гасударственая дума", „пролетарыят". Ад такога лексікона яна нічога добрага не чакае. Яна гэта ведае яшчэ з Смаргоні, з бацькоўскага дому, калі ў тысяча дзевяцьсот пятым годзе туды ездзіла ў госці.

Смаргонь—як узбураны вулей. Забастоўкі па гарбарнях, дэманстрацыі на вуліцах. Усе крамы пазачыняны, як у святочныя дні. Спяваюць „Смело, товарищи, в ногу", „Інтэрнацыянал", „Варшавянку". Над галовамі гарбароў палыхаюць чырвоныя сцягі. На вуліцах мора людзей, шквалы ўзбуджаных галасоў.

Для „ўсмірэння крамолы" прыехалі аж дзве сотні казакаў. Дзікія і злыя, яны гойсаюць па вуліцах. Ніхто не выходзіць з кватэр. Вобыскі, арышты. Гарбары галадуюць, а не здаюцца, фабрыкі не працуюць. Весткі плывуць з розных гарадоў Расіі: у Вільні на вуліцах барыкады, тое самае ў Менску, Пецярбузе, Маскве. Агульная забастоўка чыгуначнікаў. Кантаровічыха баіцца за брата. Цэлымі днямі яго дома няма, а калі з'явіцца на некалькі хвілін, дык паведамляе:

— Бярэм верх...

І зноў яго няма, Старая маці плача, і Кантаровічыха трывожыцца. А ён усё сваё:

— Бярэм верх...

Аднаго разу. Ноч. Вецер выганяе з гарбарняў на вуліцы смурод сырой скуры. Кружыцца галава ад паху розных адкідаў, што цэлымі горамі панакіданы на падворках заводаў.

Ї вось прыходзяць з вобыскам. Кантаровічыха адчыняе жандарам дзверы. Хатнія трывожацца. А брат спакойны, хоць-бы што. Шукаюць па ўсёй кватэры так старанна і павольна, аж дзівіцца трэба такой цярплівасці. Жандары перакідваюць пасцелі, мацаюць падушкі, пералістоўваюць кнігі, лезуць у печ, па сценах стукаюць. У некаторых мясцах узнімаюць дошкі з падлогі. Ніводнай скрынкі няма ў хаце, ніводнага гаршка, куды-б не паглядзела вока жандараў.

— Няма...

Злуецца жандарскі афіцэр, сам у пер'ях і пыле. Злуецца і пачынае крычаць:

— Шукайце! Павінна быць!

З ліхтаром у руках ідуць на гару. Там нямала працы перакідваць рознае барахло, што збіраецца дзесяткамі год. Скрыпіць пад жандарскімі нагамі столь.

— Няма...

Жандарскі афіцэр,—з кволым тварам, з блакітнымі вачыма, атрэсвае з сябе пыл, нібы кот, які выскачыў з сметніка. З яго шыняля сыплецца пясок і пер'е. Ён тупае нагамі, кашляе ад пылу, лаецца ды крычыць:

— Шукайце! Ведаю, што ёсць!

Бярэцца пад дзень. Ледзь шарэе. Над дамамі кружацца з крыкам вароны. Жандары, строгія і злосныя, ідуць у хлеў. Старая маці Шагала стогне і ўся дрыжыць, як у ліхаманцы. З кватэры нікога не выпускаюць, ля дзвярэй варта.

„Божа мой... божа мой..."—шэпча старая.

З двара нарэшце чуваць жандарская радасць.

— Знайшлі! Знайшлі!

Прыносяць у хату тоўсты вязак вузенькіх і тоненькіх лісткоў. Ужо зусім відна, калі прыгожы афіцэр піша нешта пры стале. Потым кпліва-ласкава кажа брату Кантаровічыхі:

— Апранайцеся і пойдзем·

Старая махае рукамі, як паломанымі крыллямі:

— Куды? За што? За гэтыя паперкі?

У прыгожага афіцэра добры настрой. Ён шчыра смяецца і нават са спачуваннем пазірае на старую. Нават брат, бледны і маўклівы, усміхаецца на матчыны словы, спакойна апранаючы паліто. Маці бяжыць да дзвярэй з такім спрытам, нібы памаладзела раптам на трыццаць год.

— Не пушчу! Сын не вінават! Ён-жа толькі настаўнік...

Афіцэр жартуе:

— Кепскі настаўнік, калі па гэтых лістках людзей вучыць.

Ї такі ў жандара лагодны голас, і такія прыгожыя блакітныя вочы... Старая нахіляецца, каб злавіць яго руку.

— Даруйце, паночак, майму сыну... Ен больш не бу-у-дзе...

Цяпер у брата Кантаровічыхі цямнеюць вочы, а голас, голас... Ніколі Кантаровічыха не чула такога:

— Перастань!—крычыць ён да маці.—Перастань!

Жандары адцягваюць старую. Брат выходзіць. Кватэра як пасля пагрому. Кантаровічыха злуецца на брата: „як селядца разарвала-б..."

— Хто яго прасіў лезці здаровай галавой у такую хворую справу? Што яму гарбары? Ен-жа настаўнік. Родных не шкадуе...

Больш за тры гады яго не было. Потым новая справа—правакатара шукаць. Дзякуючы таму, правакатару, дзесяткі людзей былі арыштаваны.

Ї хто-ж бы мог падумаць—стрыечны брат—Мойшка Ліберман... Ён

на ўсіх мітынгах першы выступаў... Гарачы такі... Строгі рэволюцыянер... Ах, сволач! Па ўсіх гарадах Расіі потым шукалі. У тысяча дзевяцьсот дзесятым годзе яго знайшлі на Каўказе. Яго ўжо няма...

Толькі сёння Кантаровічыха аб гэтым даведалася.

Праплылі гады. Бацькі Кантаровічыхі памерлі. Сёстры ў Амерыцы. Смаргонь са сваімі гарбарнямі знішчана толькі што вайною. З усяе іхняе сям'і адзін брат застаўся, і то пад іншым прозвішчам. Даўно ў Смаргоні не жыве. Толькі каганецкім кажуць, што з Смаргоні прыехаў.

І зноў старое вылазіць наверх, як кавалкі жалеза з попелу— пажарышча.

Ловіць Кантаровічыха з гутаркі гарбара і брата паасобныя словы— вядомыя ёй словы.—Плача. Яна старэйшая сястра. Яна яму—як маці. Гэтулькі цярпеў... Мабыць, забывае, забывае...

Кантаровічыха плача і пячэ коржыкі брату і гарбару на дарогу, плача і рыхтуе ім сыр і масла.

Дзівіцца Кантаровічыха:

Згарэла Смаргонь, дык яны па іншых гарадах робяць сваё ранейшае. Нейкія так ліцейшчыкі, ткачы—усё іх абыходзіць...

Былы гарбар і былы настаўнік выбіраюцца адгэтуль уночы пехатой на хутары. Добра, што няма ў хаце Шымана. Ён кудысьці паехаў з Сакалоўскім.

Шагал сказаў сястры, што паедуць у Менск, але з іхніх гутарак яна выпадкова падлавіла, што з Менска паедуць далей — ні то ў Маскву, ні то ў Петраград.

— Шыману ні слова не кажы, куды паеду,—просіць яе Шагал.

---

Ураднік Антон Заяц—сівавусы, са стрыжанай сярэбранай галавой з гладкім ружовым і ясным, як сонца, тварам, працуе ў паліцыі ўжо каля трыццаці год. Быў спачатку пісарам у мястэчку Гайнае, працаваў у канцылярыі станавога прыстава, а ў 1905 г. дaслужыўся да чына ўрадніка; вышэй не ідзе, і гэта яму вельмі крыўдна. Яго начальнік, станавы прыстаў Кіркевіч, можа быць яму сынам, а прыходзіцца падначальвацца маладому.

Ён калісьці так стараўся стаць ураднікам, ажно хацелі яго забіць. Каб не Шыман Кантаровіч (схаваў яго ў возе пад саломай і павёз да сябе дамоў), яго можа даўно на свеце не было-б. З таго часу ў яго з Шыманам вялікая дружба.

Цяпер ён марыць аб тым, каб стаць прыставам. Нецярпліва чакае новай рэволюцыі. Тады безумоўна выслужыцца. Роднага сына падвёў-бы пад соцыяліста і выдаў-бы начальству, каб толькі мець козыр на прыстава.

Зайцу не менш за пяцьдзесят пяць год, а едзе конна лепш за маладых. Едзе ўначы ў мястэчка Каганцы з трымя коннымі стражнікамі.

— Хутчэй!—падганяе ён стражнікаў.—Хутчэй!

А коні замыленыя, ад іх ідзе пара.

— Хутчэй! Хутчэй!

Ураднік Заяц са стражнікамі абкружае дом свайго лепшага прыяцеля Шымана Кантаровіча.

— Адчыні!—крычыць ён дзікім голасам.—Адчыні!

Яго сустракае перапалоханы Шыман.

— У чым справа, пане Заяц?

— Дзе Шагал?

— На што вам Шагал?

Друг і сябар Кантаровічаў упершыню за ўсе гады гнеўна і строга глядзіць на Шымана.

— Дзе Шагал?

— Уцёк адгэтуль два дні таму назад нямаведама куды. Мяне тады не было дома.

Ураднік Заяц ірве сябе за сівыя вусы і ледзь не плача.

— Вось не шанцуе...

Шыман глядзіць на яго спачувальнымі вачыма.

— У чым-жа справа, пане Заяц? Скажыце, мы-ж свае людзі...

— Твой Шагал—соцыяліст.

— Ён такі мой, як і ваш, пане Заяц. Каб я знаў аб гэтым, дык ён-бы даўно быў у вашых руках.

— Ах, чаму той мерзавец мне аб гэтым раней не сказаў.

— Які мерзавец?

— Гарэлік. Сволач гэта. Ведаў і не сказаў раней. Вось чорт! Так і не дастукаюся да прыстава, мой ты Шыман!

— Вельмі шкадую. Гэта-ж, каб я знаў... А Гарэлік не лепшы за Шагала, няхай-бы сказаў раней, калі ведаў. Паправімся другім разам, пане Заяц. Пакуль што будзьце ў нас гасцём. У мяне ёсць яшчэ сёе-тое з манаполечнага, прызнаюся, як роднаму...

## XII

Ніхто ў Каганцах начамі не спіць. Чакаюць нежаданых гасцей.

У загадкавай далі не спыняецца грукат. Ён перакрыжоўваецца між сабой у нейкім дыялагу двух асілкаў-заік. Бесперастанку палыхае зарыва пажарышч. Дрыжаць вокны. Дзынкае шкло. Вось акурат хтосьці невідочны (можа падобны да соцкага з бляхай жраца на грудзях, што збіраў людзей акопы капаць) ходзіць ад хаты да хаты і барабаніць пальцамі ў шыбы:

— Набліжаецца... Набліжаецца...

— Што рабіць?

— Як ратавацца?

Запытанні вырастаюць у вялізны цяжкі камень. Каганецкія пачынаюць драбіць гэты камень на кавалкі:

— Рабіць так, як Сакалоўскі і Кантаровіч: усё лепшае—у Менск. А як наблізіцца бяда—перабрацца туды.

— Сакалоўскі і Кантаровіч людзі багатыя. Гной у іхніх хлявах больш варты за ўсё наша дабро з намі разам. У Менску нам жабраваць прыдзецца. Нікуды не паедзем! Што бог дасць, тое і будзе.

— Пойдзем у бежанцы ўсёю грамадою разам. Будзем падтрымліваць адны адных.

— Ратуйцеся, як хто можа.

— Разам, разам будзем. Тады смялей неяк...

— Гэта каб нас разам адным махам казакі перарэзалі? Дзякую і зноў кажу: ратуйся, як хто можа.

— Расставім варту па ўсіх чатырох канцах мястэчка, і як вартаўнікі пабачаць войска, тады нам накажуць, і мы кінемся наўцёкі.

— Куды? Чаго? А бэбахі нашы? А каровы, козы? Яшчэ варту зловяць і падумаюць, што шпікі. Лепш дабро сваё схаваем па суседзях у ваколіцы.

— Чым суседзі забяспечаны лепш за нас? Немцы не толькі на Каганцы ідуць. Яшчэ сусед прысвоіць дабро і скажа, што салдаты ў яго забралі.

Кожны местачковец мае свой погляд на справу, а ў дадатак, яшчэ сочыць, што іншыя робяць. Ходзяць каганецкія з аднаго канца мястэчка ў другі і не ведаюць, што рабіць.

---

Цёмная ноч. Левін выбраў пагурак за хлявом на гародзе і капае яму. На землякопстве зубы свае з'еў. Пад варожымі аэрапланамі гэтым займаўся. Яшчэ мазалі не зышлі з рук... Капае Левін і чуе, як на суседнім гародзе ў салдаткі Ганулі тое самае робяць. Ён бачыць схілены сілуэт Ганулінага бацькі, чуе шорханне яго лапаты. Цераз вуліцу--за плотам тое самае. Крадучыся адны ад адных, каганецкія капаюць магілы для свайго дабра.

Яшчэ сягоння Сакалоўскі і Шыман Кантаровіч сказалі Левіну:

— Паедзем да нас у Менск.

— А сваіх у бядзе пакіну?

— Нічым тым ім усё роўна не поможаш, ёлап ты!

— Што будзе з імі—хай будзе і са мною.

Браты і сёстры, бацькі пакуюць у скрыні маёмасць: швэйную машыну, падушкі, вопратку, самавар і ўсё лепшае, што ёсць у хаце.

— Ну як?

— Зараз будзе гатова.

— Суха?

— Жоўты пясок. Нічога не згніе.

Нібы труны апускаюць у яму скрынкі і скрыначкі. Засыпаюць зямлёй і зверху ніякага знаку... Ніхто і не падумае... Шолам адмервае крокі да дрэва—дваццаць пяць. Воддаль круглы камень. Усё ў парадку.

І зноў раніца. І зноў дзень.

На тварах каганецкіх—патаемнасць. Ніхто нікому не кажа аб ночнай рабоце. Суседкі ходзяць адны да адных і саромліва просяць:

— Пазычце гаршчок.

— Можа ў вас лішняя лыжка?

Усе ідуць на паратунак да шаўчыхі Мэерыхі. Мэер апавяшчаў перад усім народам:

— Я нічога не закопваў, бо нічога не маю. А там лыжкі і гаршкі—ну іх! Дратвы і шыла не буду хаваць.

---

На трухлявым ганку карчмы моўчкі сядзіць дзядзька Левіна, стары Бенцыян. Старыя вочы таропіць на мястэчка, як на чалавека, асуджанага да кары смерці. Ува ўсёй яго постаці, разрыхленай і згорбленай, сумная пакора. Ён курыць люльку і не прыкмячае, што яна даўно патухла.

Міма праходзіць нечым незадаволены Левін. (Вельмі хочацца яму пабачыць Іру, але маці яе не выпускае на вуліцу).

Левіну не выпадае не пасядзець некалькі хвілін з дзядзькам. Стары пачынае гутарку такім тонам, нібы толькі што спыніў яе на хвіліну:

— А я сяджу і думаю. Вось ляціць час, імчыцца, як вецер, як цень бусла. На маёй памяці вось на гэтым месцы, дзе цяпер Каганцы, шумеў лес пана Манілоўскага. Яму належала тады ўся ваколіца— з вёскамі, з людзьмі. Чалавек быў у пана такой скацінкай, што сабака ці конь. Дзед цяперашняга Манілоўскага быў і царом і богам над мужыкамі. Тут у лесе на гэтым самым месцы ваўкі і мядзведзі пладзіліся. Адзін толькі гэты тракт на Менск быў яшчэ і тады. Небяспечна было ездзіць па гэтай дарозе: было тут ня мала галаварэзаў-разбойнікаў. Ад іх людзям праходу не было. І вось дзед цяперашняга

пана прасвістаўся ў карты, прадаў лес менскім купцам і давай разбіваць зямлю на ўчасткі ды ў арэнду. Бог розуму надаў яму, і пан Манілоўскі прадаў не малы абшар зямлі аднаму менскаму яўрэю—Боруху Давідовічу. Вось гэтая карчма—першая каганецкая хата. Што тут дзеялася ў гэтай карчме! Тут мужыкі святкавалі вызваленне ад паншчыны, тут яны праклiналі сваё жыццё і пасля, бо так ужо ад бога пастаўлена: пан—панам, а мужык—мужыком. Не пан у мужыка, а мужык у пана па сёнешні дзень ласкі просіць ды ў рукі цалуе. А Боруху Давідовічу бог дапамог. Яго карчма зрабілася магнэсам усяе ваколіцы. За гарэлку сюды вазілі і збожжа, і лён, і жывёліну, і шчэць, і ўсё, што хочаш. Тут ужо Борух Дівідовіч, не без божай рукі, пачаў прадаваць ад сябе кавалачкі зямлі яўрэям. Вось і вырасла невялічкае мястэчка. Борух Давідовіч цэлы асэсар. Каганецкія працавалі на Боруха Давідовіча і разам з мужыкамі праклiналі і Боруха Давідовіча і пана Манілоўскага. І адны і другія ласкі прасілі і ў пана і ў Боруха. Цяпер унукі Давідовіча купцы розных гільдый па розных гарадах. Апошні ўнук старога Боруха выехаў адгэтуль у Вільню тры гады таму назад і выпусціў зямлю ў арэнду Сакалоўскаму і Шыману Кантаровічу. Каганецкіх таксама—хто-куды, як бог кожнаму свой лёс напісаў на ілбе. Іншыя вось тут жывуць. Мястэчка цяпер на божай далоні ляжыць: альба-альба. Можа некалі тут зноў будзе лес, зноў ваўкі і мядзведзі і разбойнікі. Няма нічога новага пад сонцам. Усё паўтараецца. А можа вайна такую кашу заварыць, што і трава тут не будзе расці. Помніш біблію? Помніш горад Нініевію? Помніш прыгожы ліст, які прагрыз чарвяк? Можа гэты ліст—Каганцы, а чарвяк—вайна? Яшчэ пры стварэнні свету бог у кнізе сваёй запісаў усе падзеі на зямлі.

І дзядзька ад урачыстай гутаркі раптам пераходзіць на будзёныя словы:

— Ведаеш, Шлойма? я на цябе крыўду маю.

— А што?

— Мог—бы прайсці да старога дзядзькі і таксама наша дабро закапаць. Мы-ж старыя і слабыя, як дзеці, а жыць хочацца... Можа бог не скіне Каганцоў са свае далоні, як пудэлачку ад запалак...

— Сёння ўночы, дзядзька, закапаю.

— У мяне не ай-ай-ай колькі ёсць: медзяны гляк работы твайго дзеда, жончыны падсвечнікі і пара падушак...

---

— Ну іх к чорту з жорнамі! Ад людзей адбіўся.

У час такой завірухі рыжага Антося цягне да людзей. У іхніх новых, не зусім звычайных цяпер гутарках, трывожных і распачлівых, можна хоць на пэўны час забыць сваю слепату...

Ад кульгавага Макара ён часта чуе:

— каб можна было ў глыбокай і цёмнай яме праспаць гэтае ліха...

Словы Макара выклікаюць у рыжага Антося новую і цікавую думку. Ён ходзіць па вёсцы за местачковым выганам і па каганецкіх вуліцах, як святы апостал з кіем у руцэ. Другой рукой трымаецца за плячо залатавалосай Агаткі. Часта круціць махорачныя папяросы, і ясныя шэрыя вочы яго так глядзяць, нібы бачаць перад сабою ўвесь свет. І нікому не верыцца, што ў сляпога могуць быць такія вочы. Рыжы Антось усюды кажа адно і тое самае:

— Бліндажы. Трэба капаць ямы, рабіць на іх накат з бярвенняў, насыпаць зверху зямлі і пакінуць месца для ўваходу. У час перастрэлак можна там хавацца.

Рыжы Антось нясе ў сваіх вуснах людзям у вялікай бядзе нейкую надзею, бо ў справах вайны суседзі больш сляпыя за яго.

— Бліндажы...

У людзей, якія мо' ўпершыню чуюць такое слова, гэта здаецца паратункам.

Паводле інструкцыі рыжага Антося, і вясковыя і местачкоўцы капаюць бліндажы. Устаўляюць туды драбіны, і абарона гатова. У Каганцах агульнымі сіламі зроблены два бліндажы. Каганецкія глыбокадумна абмяркоўваюць гэты спосаб абароны. Вочы ў іх ліхаманкава гараць, а твары бледна-жоўтыя, як пасля хваробы. І дзіва—у кожнага з іх цяпер аднолькавыя рухі: локцямі цярэбяць бакі і, крадучыся адны ад адных, лезуць рукамі за пазухі ды з заядлым гневам і помстай шукаюць пальцамі пад кашуляй. Зусім не дзіва—больш за дзесяць дзён ніхто ў ваколіцы не распранаецца.

Дзеці заселі ў бліндажах і не хочуць вылазіць адтуль. Крычаць, свішчуць і не ведаюць, дзе дзецца з радасці.

Каганецкія гатовы сустракаць фронт у поўным узбраенні...

---

— Я, Шлёмка, да цябе іду,—кажа рыжы Антось.

— Садзіся, братку.

Левін падыходзіць да сляпога, бярэ яго за руку і вітаецца з ім.

— Ну як?

— Аніяк. Вось бліндажы параіў тут зрабіць, а ў мяне самога такая нуда, што ўсё роўна цяпер—заб'юць, не заб'юць... Згубіш грошы—забудзеш, памрэ хто з сваіх—забудзешся, а вось згубіш вочы, і, мабыць да самай магілы не забудзеш.

— Трэба мірыцца з бядой.

— Вось хаджу па людзях, надакучаю. Цягне да людскіх галасоў, як ніколі раней. Прашу вось кожнага: гавары са мною! Ах, ты...

— Вядома, што з людзьмі весялей.

— Я да цябе, Шлёмка, з просьбай. Ты-ж чалавек такі, помню цябе яшчэ як у лесе разам былі. Вечна кніжкі чытаеш.

— Ага...

— Пачытай мне што-небудзь... Я паслухаю... Прасіў я тут людзей, дык усе непісьменныя. Вось, брат, і ўспомніў цябе. Ах ты, думую, дай з нуды хоць кніжку паслухаю. Ніколі ў жыцці не прыходзілася.

— Гэта можна.

— Такая, Шлёмачка, нуда на мяне напала і такая злосць. Здаецца, выкалаў бы вочы ўсім тым, хто пагнаў людзей на гэту шалёную вайну. Няхай і яны ходзяць па людзях прасіць, каб ім кніжкі чыталі...

— Я-б ім такое чытаў, аж валасы вылезлі-б у іх ад страху. А што табе пачытаць?

— Што-небудзь аб народзе, аб жыцці... Рабі, брат, ласку сляпому...

Левін глядзіць на рыжага Антося і мяркуе. Нарэшце дастае том Некрасава. Пачынае чытаць павольна і з тлумачэннямі.

Рыжы Антось уважліва слухае і час-ад-часу ад хвалявання барабаніць пальцамі па стале.

Левін робіць маленькі перапынак, і рыжы Антось кажа:

— Ах, ты! Гэта-ж выходзіць, што я ўсё жыццё быў сляпы, калі не мог чытаць такіх кніжак пра народ, пра беднага нашага чалавека.

— Так, братку. Такіх сляпых у нас яшчэ мільёны. Начальству выгадна, каб народ быў сляпы.

— Яно так і ёсць!—згаджаецца рыжы Антось.—Ну, яшчэ крыху пачытай мне, рабі ласку. Так бы слухаў... і слухаў Ах ты...

---

Ад водбліскаў пажару змрок каганецкай ночы крыху радзее.

— Гэта зарыва можа і ёсць залаты хвост мае рамантычнае павыкупавы, кажа Іра Левіну.

Ёй удалося вырвацца з-пад хатняга арышту свае маці. Цёмнай вуліцай яны ідуць праз мястэчка ў бок выгану. Чорныя сілуэты дамоў нагадваюць цяпер дзівосны поезд без агнёў, з няроўнамернымі вагонамі, што стаяць у пустыры. Глухое дзынканне шыб ад гарматнага грукату наводзіць жуду. Здаецца, што дарослыя пасажыры ўцяклі з поезда і пакінулі ў вагонах бездапаможных дзяцей. Дрыжучымі ад спалоху пальцамі яны стукаюць у вокны вагонаў і просяць дапамогі.

А вось і школа з выбітымі вокнамі і расчыненымі дзвярмі.

— Назад, назад!..—просіць Іра.—Вернемся дамоў: мне страшна...

Сягоння яе голас зусім дзіцячы. Моўчкі варочаюцца яны дамоў. Іра асцярожна адчыняе дзверы. Левін чуе ўсхліпванні і злосныя словы яе маткі:

— Ты ўжо канчаткова сорам свой страціла. Усё мястэчка гаворыць. Дык навошта табе гімназія патрэбна была? Вось прападзі ты цяпер дома. Цётка сёлета адмовілася ад цябе. Мяне абакралі. Чым я табе дапамагу? Чым?

— Прападзі яна, гэта цётка, з гімназіяй разам.

— А ўсё-ж такі табе цяпер лепш было-б у Менску.

— Мне ўсё роўна.

Левін ідзе дамоў. Пра Іру забывае. З галавы не выходзіць сляпы Антось, якому чытаў Некрасава. Уваходзіць з двара праз другія дзверы, замыкае іх засаўкай і вобмацкам ідзе праз кухню да свае канапы ля вакна.

— Можа есці хочаш?—шэптам пытаецца маці.

— Не хочацца.

Ніхто з хатніх не спіць.

У кутку, адгароджаным дошкамі, шэпчуцца браты і сёстры. Ля старой камоды блішчыць светлячком бацькава папяроса. Бацька курыць і маўчыць з нейкім углыбленым несупынным сумам. Бацька ніколі такім не быў.

Саламон або Шлёма, старэйшы сын Шолама, помніць бацьку зусім маладым. Яшчэ з тых часоў бацька лічыцца „таленавітым чалавекам". Ён „усё ўмее". Пару чамаданаў збіў з дошчачак, абклеіў палатном ды афарбаваў. Сам змайстраваў канапу, на якой Левін спіць заўсёды, калі толькі бывае дома. Гадзіннікі папраўляе, грае на скрыпцы і вельмі любіць коняй. З узварушлівай пяшчотнасцю адносіцца да іх. Каня ён мае для возкі лесу ў купцоў, дык усе свае заробкі аддае на авёс і сена. Возка лесу скончылася з самага пачатку вайны, але бацька не прадае каня: „Без каня жыць не магу". Маці занята двума справамі—гадаваннем дзяцей і шыццём для сялянак. Апошнім яна больш займаецца па начы. Усё жыццё стракоча на швэйнай машыне. Браты і сёстры (старэйшай сястры шаснаццаць, а малодшаму брату шэсць год) ходзяць абарваныя. Бацька мае на гэта свой погляд: „Мой абавязак даваць ім хлеб, а ўсё рэшта—абавязак бога". І адзін і другі не выконваюць сваіх абавязкаў. Вось чаму сёстры з дванаццацігадовага ўзросту бяруць частку гэтых абавязкаў на сябе: знаемяцца з працай на швэйнай машыне. За новую машыну Зінгера яны яшчэ не скончылі выплаты. Хлапцоў бацька не выпускае з-пад свае апекі. Ён у іх выхоўвае сваё замілаванне да коняй. Яны павінны пасвіць каня, паіць і чысціць. Старэйшых дзяцей бацька ад сябе нікуды не адпускае: „Што бог дасць—тое і будзе. Не хачу, каб мае дзеці па свеце бадзяліся, як нейкія бязбацькаўцы". Пры вялікіх скандалах Саламон Левін, старэйшы

сын, сядзеў вечна над кнігамі, „адарваўшыся ад каня". Сядзеў у ночы (калі быў лясным праказчыкам), пры той самай лямпачцы, пры якой маці шыла гардэробы для сялянскіх нявест. Да стракатання машыны Левін прывык яшчэ з калыскі. Гэта яму не перашкаджала. Нават вершыкі пісаў пад гэты шум. Пасля вырваўся ў Вільню і пражыў там аж тры гады.

---

Левін чуе тупат конскіх капытоў. Ён глядзіць у акно праз шчыліну фіранкі і бачыць некалькі сілуэтаў коннікаў з доўгімі пікамі.

— Казакі...—шэпча ён бацьку.

Казакі спыніліся ля іхняй хаты і давай пікамі стукаць у акно. Потым давай трэсці, і рваць дзверы і крычаць нешта неразборлівае. У вялікім страху ўсе ўскакваюць з сваіх ложкаў.

— Дачакаліся,—шэпча бацька і ідзе адчыняць дзверы.

У гэты-жа час маці выпускае дзяцей на двор праз чорны ход. Левін вядзе іх на гарод за хлеў, дзе яны прытуліліся да сцяны, гатовыя ў любую хвіліну ўцякаць у поле...

## XIII

Стоячы з малодшымі сваімі братамі і сёстрамі на гародзе ля сцяны хлява, Левін успамінае пастушка, якога ён сустрэў, уцякаючы з грамадай каганецкіх ад неспадзяванай павіннасці—акопы капаць. Хлопчык-пастушок затуліў твар каравай рукою і апраўдваўся: „Людзей баюся..." Тое самае і цяпер ён, Левін: людзей баіцца... Нельга сказаць, каб дрыжэў ад страху, але ўнутры холадна, і ён адчувае ліхаманку ў каленях. Сёстры прыслухоўваюцца да глухіх галасоў з хаты і да рыпату дзвярэй. Праз пару хвілін яны чуюць голас маці:

— Дзеці, ідзіце ў хату. Гэта немцы...

Каганецкія так напалоханы чуткамі аб казацкіх учынках, што часам адзін-на-адзін можна чуць такую развагу:

— Хай ужо немцы забяруць гэту мясцовасць. Пры Вільгельме не горш будзе, чым пры Мікалаі. У Германіі пагромаў усё-ж не чуваць. Там свабадней.

У хаце светла. Пры стале сядзіць трох у касках, і адзін з іх водзіць пальцам па карце. Бацька гаворыць з імі „па-нямецку". Яны разумеюць з яго нямецкай мовы гэтулькі, колькі, ён з іхняй. Гутарка вядзецца галоўным чынам на мігі. Нямецкія разведнікі распытваюць у яго дарогу ў маёнтак пана Манілоўскага.

— Гэтыя хто?—пытаецца старшы з іх у бацькі.

— Майнэ зонэ унд тэхтэр*).

— Скуль так позна ідуць?

— Хаваюцца. Казакаў баяцца.

— А, козак,—смяецца старшы і нешта тлумачыць сваім.

Левін ловіць словы і разумее галоўны сэнс: „Расійскія падданыя баяцца сваіх уласных абаронцаў".

Разведнікі загадваюць гаспадарчым тонам даць ім есці. Левіну не па сабе. „Гэта з іх боку не вельмі культурна",—думае ён. Маці засцілае стол белым абрусам і прыносіць усё, што толькі ёсць у хаце: хлеб, малако, яйкі, сыр. Немцы накідваюцца на ежу. Хлеб і сыр бяруць з сабой у ранцы і загадваюць Левіну напаіць коняй. Кураць цыгаркі, ад якіх па хаце прыкры і незнаёмы пах.

---

*) Мае сыны і дочкі.

Коні напоены. Разведнікі спрытна на іх садзяцца, і тупат конскіх капытоў паволі аддаляецца ў ночнай глухамані.

— А цыгаркай не пачаставалі,—скардзіцца Шолам.—Далікатнасць іхняя наогул невялікая. Навошта ім пан Манілоўскі патрэбен? Ведаю. У пана жонка немка. Помніш, Шлойма? Нямецкія бракаўшчыкі прымалі тавар у віленскіх купцоў у лесе Манілоўскага. Бракаўшчыкі жылі ў маёнтку, хадзілі на паляванне па ўсёй ваколіцы. Але-ж у маёнтку цяпер адзін толькі аканом і то, здаецца, усё дабро адправіў за Менск у свой другі маёнтак,

— Ну іх к чорту!—злуецца Левін.—Адзін з іх, калі я паіў коняй крычаў на мяне „Флінк! флінк!“ *), як парабку ўсё роўна.

— Здаецца мне, Шлойма, што начальнік іхні з закручастымі вусамі, якому рэшта двое ўвесь час чэсць аддавалі, быў бракаўшчыком у лесе Манілоўскага..

Левін не помніць такога бракаўшчыка і не ведае немкі—жонкі пана Манілоўскага. Ён бачыў паноў вельмі рэдка, калі яны праязджалі праз мястэчка на тройцы альбо конна ў чорных доўгіх накідках, што затулялі і конскія клубы. Кожны раз яны праязджалі так хутка, што іхніх твараў нельга было добра ўбачыць. Мільгалі толькі доўгія вусы пана і чорныя бліскучыя вочы пані. З простых людзей мала хто іх ведае тут. Толькі прозвішча пана гучыць у ваколіцы не як міф, а як грозная сапраўднасць. Калі хто патрабуе панскай ласкі, дык мае справу з яго аканомам, перад якім нават на каленях стаіць і рукі яго цалуе. Левін бачыў таксама, як хлопчыкі Шымана Кантаровіча—Цодык, Борах, Мендаль, Зорах, выдрэсіраваныя сваім бацькам, здымалі шапкі перад карэтай пана і крычалі ў панскія спіны „дзень добры...“

---

Назаўтра зноў ціха. Ніхто з Левіных не хваліцца, што ўначы ў іхняй хаце былі немцы. Усе бачылі праз вокны, як праехалі ўночы вуліцай „тры казакі з пікамі“. Салдатка Ганулля заўважыла, як яны спыніліся каля Шоламавай хаты і паілі коняй.

Яшчэ дзень праходзіць у трывожным чаканні. А ў поўдні паказваецца войска. На гэты раз сапраўднае: абоз, лёгкая артылерыя, пяхота і коннікі. Многія з каганецкіх нават у бліндажы палезлі.

Каганецкія ашаломлены такой неспадзеўкай. Войска тут не спыняецца, з тракта накіроўваецца праз новы мост у маёнтак Манілоўскага.

— І хто-ж гэта мог падумаць, што так хутка немцы займуць Каганцы,— дзівіцца стары Бэнцыян.—Ні адна кропля крыві не пралілася. Ні адзін стрэл. Ёсць яшчэ бог!

Каганецкія выходзяць з бліндажоў, жартуюць, смяюцца. Бацька Левіна паглядае на ўсіх патаемна: нешта цікавае знае, ды сказаць не хоча. А маці гімназісткі Іры, прапахшая селядцамі і газай, высоўваецца на вуліцу і абвяшчае:

— Мы ўжо немцы!

Мястэчкоўцы рады, што жывы і цэлы, што для іх вайна ўжо скончана. Ніхто з іх не сумняваецца, што немцы захапілі гэту ваколіцу назаўсёды. Маці Іры, худая і высокая, ходзіць ад хаты да хаты, як спутаная (ад страху і радасці ў яе слабеюць ногі) і візгатлівым голасам называе ўсіх каганецкіх дзяцьмі.

— Дзеці, мы ўжо немцы!

---

*) Жвавей! Жвавей.

Яе паважная хада і востры голас робяць уплыў на іншых каганецкіх. Яны паўтараюць за крямнічыхай:

— Мы ўжо немцы!

Нямецкі патрыятызм крамнічыхі, які ўцягнуў у свой віхор нямала людзей, мае пэўную крыніцу: дачка крамнічыхі вывучала ў гімназіі нямецкую мову, і яе веды марна прападаюць. Іра, праўда, крыху паспела ўжо забыць гэту мову, бо ад пачатку вайны яна забаронена, як мова ворага, затое цяпер падвучыцца... Вось адкуль цягне сокі нямецкі патрыятызм гандляркі селядцамі і газай.

Пры такой нямецкай арыентацыі ў Каганцах Шолам не можа хаваць свайго сакрэту за трыма замкамі. Ён хваліцца, і ўсе яму зайздросцяць:

— Першая нямецкая разведка ўначы спынілася ў маёй хаце...

Але ў яго ёсць канкурэнт—мельнік Бэрка. Той даводзіць, што першая нямецкая разведка якраз у яго, Бэркі, спынілася... І толькі ў яго... Няхай хоць дваццаць Шоламаў скажуць адваротнае, а гонар гэты належыць яму, Бэрку.

Паміж двума шчаслівымі людзьмі адбываецца гарачая спрэчка за гонар пяршынства.

---

Левін з Ірай бяруцца за падручнік нямецкай мовы. Між сабою гавораць па-нямецку. Першае нямецкае слова, што яны вывучаюць, гучыць ім, як музыка: „Liebe“ *). Маці Іры забывае пра сваю строгую размову з Левіным на гэту тэму, і, пад абаронай нямецкага войска, „Liebe“ Левіна і Іры распускае свае пялёсткі.

Каганецкія знялі з сваіх плеч жудасці вайны так лёгка, як валасок з малака...

Крыху збянтэжаны толькі двое: Сакалоўскі і Шыман Кантаровіч. Палавіна маёмасці і сям'і ў Менску, а палавіна тут. А Менск цяпер на тым баку...

— Бога ніколі не перахітрыш,—канстатуе факт стары Лейба.

Аднак Шыман і Сакалоўскі не паддаюцца.

— Немцы і Менск зоймуць, усю Расію зоймуць,—кажа Шыман.

— Во-во! Правільна! Гандляваць усюды можна, абы толькі ёлапам не быць. Эх, гісторыя... гісторыя... Вайна—гэта гісторыя.

Атрад нямецкага войска з некалькі сот чалавек адным махам вырваў з сэрца невялікага вайсковага падрадчыка Сакалоўскага бога, і цара і ацечаства... Аперацыя прайшла небалюча, нібы зрэзалі мазоль з пальца нагі.

Аднак на ясным нямецкім небе Каганцоў і ваколіцы (у сялян быў такі-ж патрыятызм, як у местачкоўцаў) замільгала малюсенькае воблачка.

Ходзіць рыжы Антось з сваёй залатавалосай Агаткай і раскідвае вось якія каменьчыкі:

— Гэта яшчэ не канец. Можа нават горш для нас. Наша ваколіца пачне пераходзіць з рук у рукі. Немцы і нашыя будуць тут перакідвацца трупамі, нібы гнілымі яблыкамі...

---

У мястэчку спыняецца новы нямецкі атрад. Гоняць каганецкіх ачышчаць карчму і школу. Загадваюць:

— Каб блішчэла!

---

*) Каханне.

За нямецкую чыстату каганецкія пралiваюць нямала поту, і гэта іх расчароўвае.

Некалькі гадзін яны чысцяць запушчаныя будынкі пад грознымі выкрыкамі:

— Флінк! Флінк!

— Аказваецца, нямецкая нагайка мае такі самы смак, як і руская,—жартуе Левін у думках, калі нагайка аднаго з вайскоўцаў жарнула па адной з каганецкіх спін...

У гэтага вайскоўца чырвоны твар, алавяныя вочы і вільгельмскія вусы. Ён размахвае нагайкай ды ўсё крычыць: „Дайчлянд ібер алес“ *).

Каганецкіх называе „русішэ швайн“. Ён увесь час не перастае есці. Есць яйкі, сыр, масла, булкі і хлеб з той даніны, што першымі прынеслі кайзераўскаму атраду Сакалоўскі і Кантаровіч. Шчодрымі падарункамі яны адкупіліся ад гонару прыбіраць для немцаў памяшканне і паіць і чысціць іхніх коняй. Вось і чвякае апетытна гэты салдат з вусамі аля—Вільгельм, крычыць на каганецкіх, а каб паказаць ім сваю агіду да іх, часта задзірае нагу і пад заліхвацкі рогат сваіх таварышаў выдае трубны гук...

— Орднунг... Орднунг...—супакойвае каганецкіх і ваколічных сялян начальства атрада і з мясцовага насельніцтва назначае людзей для збору яек, хлеба, малака, аўса...

— У „русішэ швайн“ няма орднунг. У нас—орднунг.

І тлумач-пазнанец перакладае:

— Русішэ швайн—рускія свінні, орднунг—парадак.

У іх такі „орднунг“, што нават запісваюць ад каго, што і колькі ўзята—і выдаюць квіткі на атрыманне грошай... пасля заканчэння вайны.

Для навядзення „орднунг“ прыцягнуты самыя паважныя людзі: Кантаровіч і Сакалоўскі. Яны з начальствам за панібрата.

„Орднунг“ даходзіць аж да печаў каганецкіх гаспадынь. Салдаты выцягваюць з печаў гарачыя шабасовыя пшанічныя „халы“ і кладуць у свае мяшкі.

Гэта пачынае не падабацца каганецкім. Хоць тут ужо вайны няма, але такі мір хай разам з вайной прападзе і згіне ў пустых палях і лясах...

Каганецкія дзяўчаты хаваюцца ў цёмных алькерыках і стараюцца не паказвацца немцам на вочы. Немцы пытаюцца праз сваіх тлумачоў:

— Дзе вашыя пупхен?

— Няма ў нас тут дзяўчат,—адказваюць каганецкія.—Як прыедзем у Менск, мы вас з імі пазнаёмім.

Злуюцца немцы:

— Русішэ швайн!

Каганецкія разумеюць гэтыя словы без тлумачэння (яны крыху анямечыліся і дзівяцца зменьлівасці ўлады і нязменьлівасці лёсу: пры рускіх яны „нямецкія шпіёны“, пры немцах—„русішэ швайн“...

Дзядзька Левіна, Бэнцыян, мае на гэта свой погляд:

— Усе яны, і рускія, і немцы, праўнукі Гамана **), але ў нас ёсць абаронца—яўрэйскі бог.

---

Лейба Кантаровіч знаходзіць сярод нямецкіх салдат уцеху яўрэя.

— Па вачах і па носе пазнаў,—радуецца стары кніжнік.

---

*) Германія над усім.

**) Гаман—антысеміт, пагромшчык.

Той, праўда, па-яўрэйску гаварыць не ўмее. Ён гаворыць па нямецку. Стары кніжнік нічога не разумее, але „нямецкі яўрэй“ кажа яму, як пароль, пачатак малітвы:

— Шэма, Ісроэл!*).

І завуць таго—Генрых, і прозвішча яго—Розенкранц. Лейба Кантаровіч расчулены і частую яго, як сваяка, кашэрным абедам...

Пры абедзе выяўляецца, што Генрых Розенкранц ведае польскую мову—два яўрэі пачынаюць адзін аднаго разумець.

— Яўрэй нідзе не прападзе. У любой бядзе сваіх знойдзе,—радуецца Лейба Кантаровіч.

Тут радасць яго зацямраецца: на вайне і яўрэй яўрэя забівае. Стары ўяўляе сабе, як адзін яўрэй утыкае другому яўрэю штых у грудзі, а другі—першаму, і абодвы паміраюць з малітвай „Шэма, Ісроэл“. Адзін памірае за цара Мікалая, другі—за кайзера Вільгельма. З боку малітвы Лейбу чуліць хараство такой смерці, а з боку салдацкіх штыхоў яго палохае трагізм: „брат брата забівае“. У адзін і той самы час кожны з гэтых братоў з'яўляецца і Каінам і Авелем... Калі ў гандлі яўрэй яўрэя ашуквае, дык гандаль зусім іншая рэч, але вось тут... І стары кніжнік не разумее некаторых з божых дзеяў на зямлі. Каб асвяжыць сваю галаву, ён нюхае тытун і чыхае з апетытам да слёз.

Генрых Розенкранц глядзіць на справу проста. Усё гэта залежыць ад падданства. Гэтак-жа ўзаемна забіваюць і немец—немца, паляк—паляка, француз—француза. Падданства—гэта ўсё. Вайна не ведае ні крэўнасці, ні літасці. Забойства на вайне—палітыка падданства.

Стары кніжнік незадаволены тлумачэннем. Усю ноч ён будзе шукаць у кнігах, старых і пажоўклых, як яго сівая барада ад тытуну, новага тлумачэння. Вось, напрыклад, вайна між царом Давідам і яго родным сынам Авісаломам.

Стары кніжнік не раз чуў ад Шагала аб тым, што людзі павінны дзяліцца не на нацыі, а на класы, дык па-першае—Шагал бязбожнік і ад кожнага яго слова нараджаюцца тры нячысцікі, а па-другое: што гэта за класы? Чуў ён, Лейба, пра нейкія класы ў школах, там школьнікі пераходзяць з аднаго класа ў другі, а класы сярод народаў?—дзівосныя класы. Шагал тлумачыў яму пра бедных і багатых, пра рабочых і фабрыкантаў, дзе зноў выходзіць вайна паміж братамі. Зноў нейкая палітыка, як у справе з падданствам.

Трэба пашукаць у кнігах старадаўных „хахомім“ **).

---

Кайзераўскія салдаты дабіраюцца да святое святых, да таямніцы таямніц мястэчка: яны пачынаюць штыхамі даследваць гароды... Галоўны канавод доследаў—той самы круглатвары з вільгельмскімі вусамі, які любіць есці ўсё, што пападаецца ў гаспадынь, які біў каганецкіх нагайкай і крычаў „флінк“ і які вызначаецца дзіўнай здольнасцю спяваць без удзелу ірта і звычайнага чалавечага голасу.

Гэты кайзеравец хутка знаходзіць ключ ад сакрэта на каганецкіх гародах: дваццаць пяць крокаў ад будынкаў, па блізкасці камень, і смела капай лапатай—знойдзеш!

Дзіўны розум, дзіўны спрыт і дзіўная тактыка ў каганецкіх. Ува ўсіх учынках местачкоўцаў—жудасная аднастайнасць. Усе схавалі сваё дабро на адзін манер. А здаецца шчыра баяліся аднастайнасці і таіліся адзін ад аднаго... Каганецкія пасеялі дабро, а вырасла бяда.

---

*) Слухай, Ізраіль.

**) Мудрацы.

На гародах дзве супярэчнасці—лямант і смех. Каганецкі лямант і нямецкі смех.

Адзін салдат у аўстрыяцкай шапачцы-караблiку ўсё адцягвае ад гародных ям пышнавусага германа, нешта гаворыць яму, сарамаціць, але той робіць сваё і называе сваю работу „зборам вінаграда".

— Орднунг! Орднунг—крычыць пышнавусы, і ўсе ямы паадчынены, як раскапаныя магілы старадаўных цароў Егіпта. З цемры магіл выцягваюць на сонечнае святло скрыні і мяшкі з каганецкімі каштоўнасцямі.

Моршчацца салдаты і смяюцца з дзівоснага ўраджаю. Моршчацца каганецкія і плачуць з дзівосных дзей кайзераўцаў.

— Орднунг... Орднунг...

І вось у кайзераўцаў расчараванне: нейкая прадзедаўская старызна... Мядзяныя глякі, зашмальцаваныя падушкі, шабасовыя падсвечнікі, алавяныя лыжкі, самавары, дзе-ні-дзе швэйныя машыны.

— Гэта не цікава. Не будзем зінгераўскія машыны цягаць на бацькаўшчыну. І там іх шмат.

Каганецкія першы раз у жыцці пачынаюць пазнаваць радасць беднасці...

Але не—пачакайце. Салдаты не хочуць пакрыўдзіць гонар местачкоўцаў: выбіраюць сабе самае лепшае з мужчынскай бялізны...

Сярод нямецкіх салдат на гародах пры „зборы вінаграда" адзін вызначаецца сваімі залатымі акулярамі і фотаапаратам. Усе яго тытулуюць доктарам. Ведае Левін, што гэта не доктар медыцыны. „Доктар" увесь час фатаграфуе раскіданую старызну і ўсё гаворыць сваім аб этнаграфіі, археалогіі ды культуры. Ён бярэ сабе стары падсвечнік, алавяную лыжку і яшчэ сёе-тое.

У доктара-археолага вялікі запас фотаздымкаў. Ён паказвае Левіну некаторыя з іх: каганецкую карчму, старога Бенцыяна, падсвечнік з арнаментамі і Язэпаву „тройку". „Тройку" называе „русішэ трактар"

Каганецкія валакуць назад з гародаў у хаты свае мяшкі і скрыні.

---

Левін прыглядаецца да таго салдата, што на гародах адцягваў ад ям пышнавусага драпежніка. Чорныя вочы, невялічкія вусікі і лагодны голас. Яны сядзяць на канапе ў хаце Левіна і вядуць гутарку без тлумача: напалавіну словамі і напалавіну рухамі. Салдат гаворыць доўга. Ён вэбер—ткач. Дома пакінуў сям'ю без сродкаў.

— Не жадайце вы „орднунг" нашай арміі,—кажа ён Левіну,—не жадайце, каб кайзераўскія салдаты на доўгі час тут замацаваліся, бо апошнія сокі высмакчуць яны з акупаванай зямлі, вы ўсе будзеце паміраць з голаду, як мухі. Вось гэта ў кайзераўцаў завецца „орднунг". „Цум тайфель"—к чорту—і вашых царатаў і нашых кайзераўцаў! І адны і другія—ворагі бедных. І рускія і нямецкія рабочыя не хочуць „крыг"—вайны. Не хочам! Мы—браты! Мы таварышы!

Доўга ён гаворыць пра „рэволюцыён", „социялізмус" і „крыг". Левін увесь час ківае галавой у знак таго, што разумее.

Зноў Левін успамінае адозву супроць вайны, якую распаўсюджваў у Вільні адзін друкар, успамінае ўрывістыя выпадковыя гутаркі аб рэволюцыі, што прыходзілася чуць у розных мясцах.

Вось чаму яму цяпер так лёгка зразумець чужую мову...

Цёплымі вачыма нямецкі ткач аглядае хату, бедную абстаноўку, бледных напалоханых братоў і сясцёр Левіна, старую Шоламіху, што стаіць сагнуўшыся крукам ля печы; ён кладзе руку па-сяброўску на плячо Левіна, уздыхае ды ўсё шэпча:

— Арм... арм...*).

Левін расчульваецца, і на яго вачах навертваюцца слёзы.

— Мут, мут, геносэ, мут! **).

Салдат падзывае да сябе малога брата Левіна, садзіць яго—сарамліва і пачырванеўшага—на калені, гоцкае і смяецца:

— Зон, зон,—кажа ён і нешта доўга апавядае. Левін разумее, што ў яго, салдата, якраз такі сынок, такога росту, такія вочы, і салдат зараз-жа дастае з кішэні фамільную фатаграфію.

Пажылая жанчына ў чорнай вопратцы сядзіць на крэсле ля століка. Па баках—два хлопчыкі. У меншага сапраўды нейкае падабенства да брата Левіна.

Салдат сумна таропіць вочы на агонь. Чорныя зрэнкі становяцца залацістымі. Ён доўга і моўчкі гладзіць па галоўцы малога брата Левіна.

---

Раніцою немцы пакідаюць мястэчка. Едуць туды, куды колькі дзён таму назад паехаў увесь атрад. Салдаты запэўніваюць каганецкіх:

— Тут ужо намі занята, а вось мы дойдзем да Менска і пойдзем далей, каб з Руслянд зрабіць Дайтшлянд.

Каганецкія адносяцца да гэтага абыякава і бяруцца за сваю штодзёншчыну.

Каб не рыжы Антось з яго трагічным голасам і трагічнымі словамі аб тым, што „яшчэ не скончана“, каганецкія пачалі-б зноў жыць поўным жыццём, бачачы перад сабой свой звычайны маяк з надпісам: „Там добра, дзе нас няма“, але сляпы пакінуў свае жорны і ходзіць па вуліцах. Ён таропіць у даль шэрыя вочы і быццам бачыць перад сабой тое, чаго іншыя ніяк угледзець не могуць. Ён трымаецца рукой за пляча Агаткі, і яе рыжая галоўка здаецца пукам агню—сімвалам фронта, які яшчэ пагражае і гэтай мясцовасці. І ранейшы неспакой нараджаецца зноў, як баечная птушка фенікс.

— Ці мы ўжо станцавалі гэтае вяселле?

Хто ім, каганецкім, забароніць называць фронт вяселлем?

Ніхто не забароніць.

Які харошы і лагодны восеньскі дзянёк. Сонца яркае і цёплае, ледзь прыкметны ветрык шастае ў садзе Сакалоўскага і трымціць пазалочанымі дрэвамі. Яны шапочуць:

— Ці мы ўжо станцавалі гэтае вяселле?

І лісты, як пакамечаныя бляшкі, кружацца, апускаюцца плаўна ўніз на пахучую зямлю, і восень сцеле пад нагамі сваю сяўбу. Праз парадзелы сад, нібы праз невад, свеціцца возера адарваным кавалкам неба. Ветрык моршчыць яго шкляны твар, нібы лоб задумёнага чалавека. Здаецца, і возера думае-гадае:

— Ці мы ўжо станцавалі гэтае вяселле?

Левін і гімназістка ўжо станцавалі. Яны сядзяць на сваім аблюбаваным камені і вывучаюць з падручніка нямецкую мову:

— Дэр-ды-дас...

— Дэр-ды-дас...

Зараз і сад Сакалоўскага анямечыцца, і будучым летам у ім вырастуць не яблыкі—а апфельс, не слівы—а пфляумен.

— Дэр-ды...

І зусім блізка ў лесе бухае стрэл, другі...

Пошчакі растуць і павялічваюць сілу выбухаў.

---

*) Бедната.

**) Мужнасць, таварыш, мужнасць!

Левін і гімназістка выгаварваюць „дас“ няўпэўненымі галасамі і бягом з сада на вуліцу.

Навакол рыжага Антося з яго вогненнавалосай Агаткай тупаюць устрывожаныя людзі. З вуснаў сляпога яны слухаюць тлумачэнне інваліда вайны:

— Ага! Што я вам раней казаў.

— Мала хто дзе страляе,—не здае сваіх пазіцый маці Іры.—Хай сабе страляюць!

Рыжы Антось зусім не цікавіцца яе адпорам. Ён прыслухоўваецца доўга да нейкіх уваблражаемых гукаў.

— Што за тупат?

— Дзе? Табе, Антось, хіба сніцца.

Вялікая ўпэўненасць у пальцах правай рукі Антося. Вось як-бы гаворыць пальцамі, гаворыць гнеўна: „Мне не сніцца“.

Праз поўхвіліны ўжо ўсе чуюць. На іржышчы вырастае фігура конніка. Набліжаецца і расце.

— Вось ён... Вось ён...

— Э-э-э! Стары знаёмы...

Гародамі ён прабіраецца на вуліцу. Каганецкія яго пазнаюць. Пышнавусы немец, чалавек з вялікімі і разнастайнымі здольнасцямі. Ён падганяў іх нагайкай пры чыстцы школы і крычаў „флінк“, ён раскопваў на гародах каганецкія „Пампеі“; ён... Вось уваліцца ў адну з ям, якія сам выкапаў, вось...' Не. Пераскочыў.

Конь увесь замылены. Твар конніка чырвона-сіні, спалоханы. Вакол алавяных вачэй дробныя зморшчынкі, і ад шпаркай язды ў яго раззяўлены рот, не хапае паветра. Пышнавусы імчыцца далей, кінуўшы каганецкім на развітанне два словы:

— Козак—піф!

Усе яго добра разумеюць.

Рыжы Антось адчувае радасць перамогі. Ён зусім не радуецца нямецкаму правалу. Гэта яму, бадай, усё роўна цяпер, але яго ўласная тэорыя—тэорыя інваліда вайны і старога ваякі—бярэ верх...

Сляпы доўга гаворыць без слоў выразістымі рухамі, урэшце кажа ў голас:

Аг-га!

Ніхто яго ўжо не слухае. Каганецкім цяпер не да тэорый. У вайсковыя навукі іх уцягваюць без іхнай уласнай на гэта згоды.

— Ірачка,—шэпча Левін на вуха гімназістцы.—Трэба зараз-жа спаліць падручнік нямецкай мовы. Зараз-жа кідай у печ, а то казакі...

Ірачка не слухае да канца і бяжыць з кніжкай дамоў.

Зноў выслізгваецца з пальцаў хвост павы-купавы...

## XIV

Знік з каганецкай зямлі апошні немец.

Разам з прыглушаным тупатам конскіх капытоў згубілася ўпэўненасць у тым, што мястэчка „пераскочыла вайну“, як вузкую канаву. Па абшарах—цішыня. Местачкоўцы да таго збянтэжаны, што нават згубілі сваё заўсёднае „што рабіць?“ І вось апошняя апора аслабленай волі—бог.

Пачынае вастрыць сваю зброю каганецкае духавенства.

Замест аднаго рабіна, якога малое мястэчка не можа трымаць на сваім слабым карку, яно мае трох ганаровых падрабінаў. Так іх тут называе і сялянства—падрабіны. Тры падрабіны кіруюць невялічкай сінагогай, у „судны дзень“ тры падрабіны—нябесныя адвакаты, па

чарзе бяруць на сябе абавязкі падносіць грознаму суддзі Адэнаю ўсе каганецкія малітвы і прыносяць назад вызваленне ад грахоў. У звычайныя дні яны развязваюць вузлы ўсіх звычайных стычак і непаразуменняў паміж каганецкага насельніцтва. Адзін каганецкі брахун выказаўся аб трох падрабінах вось як: „Замест аднаго доктара маем трох фельчараў“.

Кожны з гэтай тройкі валодае ўсімі тымі дастойнасцямі, што даюць яму права насіць ганаровую годнасць падрабіна.

Першы з іх—Лейба Кантаровіч—самы багаты гаспадар у мястэчку і самы вучоны ў рэлігійных справах.

Другі з іх—Бенцыян, дзядзька Левіна, паходзіць з Ерусалімскай касты жрацоў. Ён „койган“ *), і ў кожную суботу бласлаўяе народ з узнятымі ўгару рукамі ў такой позе, нібы доіць нябесную карову.

Трэці з іх—местачковы разнік Сімха-Аба—можа быць падрабінам хаця-б таму, што рэжа жывёлу паводле рытуалу тых часоў, калі землеробам Ізраільскай зямлі было забаронена самім рэзаць жывёлу, бо лепшыя часткі мяса жрацы павінны былі забіраць „для бога“. Жрацы былі заўсёды круглыя і тлустыя: употайку карміліся „трэфным“ мясам.

Ї слаўная тройка каганецкіх духоўнікаў выймае з ножнаў духоўныя мячы і апавяшчае агульны пост. За дваццаць хвілін усе набожнікі мястэчка ўжо ў поўным зборы ў невялічкай сінагозе. Усе ў талесах—у белым адзенні старадаўных аравійскіх пустэльнікаў—накінутых на галовы ў выглядзе башлыкоў, спяваюць жалобнымі галасамі загавор-малітву, складзеную можа ў часы Егіпта ці Вавілона:

„Ойча наш, князь наш! Мы грашылі перад табою.

„Ойча наш, князь наш! Знішч усіх тых, хто жадае нам шкоды.

„Ойча наш, князь наш! Адвядзі ад дзяцей завета твайго пошасць і меч, і голад, і няволю, і пагібель, і злоўчынкі.

„Ойча наш, князь наш! Учыні гэта ў памяць тых, хто згінуў за тваё імя святое. Атулі крыллямі літасці дзетак нашых кволых.

„Ойча наш, князь наш! Учыні гэта ў памяць тых, хто ў полымя і ваду кідаўся дзяля праслаўлення імя твайго.

„Ойча наш, князь наш! Помсціся за пралітую кроў рабоў тваіх“.

Праз паўкруглыя вокны сінагогі на талесы льюцца жоўтыя струмені восеньскага сонца. Сонечныя плямы колеру пяску нагадваюць кавалкі пустыні, а багамолы—бездапаможных вандроўнікаў у бязводных мёртвых абшарах, засеяных дзе-ні-дзе белымі касцьмі людзей і вярблюдаў.

Кончыўшы маліцца, усе знімаюць талесы, складваюць іх і кладуць, нібы дарагія музычныя інструменты, у аксамітныя чахлы.

Бенцыян аглядае невялікае племя багамолаў, як гаспадар свой статак, і крытычна шаруе сівой бародкай аб шырокія кляпы старой халаміды:

— Не ўсе прыйшлі.

На гэта Лейба Кантаровіч дае злоснае тлумачэнне:

— Нашы шэйгецы-бязбожнікі лічаць сябе вельмі разумнымі. Яны і пасціць не будуць.

— Нашы дзеці пакідаюць веру патрыархаў Абраама, Ісаака і Якава

Разнік Сімха-Аба гаворыць гэта ўрачыстым голасам, каб заглушыць свайго нутранога „злога духа“, які тут-жа шэпча яму на вуха грэшныя словы: „Малітва і пост дапамогуць, як рыцына нябожчыку“. Чарвячок сумнення пачаў яго грызці з тых часоў, калі прысутнічаў аднаго разу на могілках пры ўскрыцці доктарам забітага сялянамі злога ляс-

*) Жрец.

ніка пана Манілоўскага. Сімха-Аба з вялікай цікавасцю прыглядаўся тады да „таямніц“ чалавечага жывата, ускрытага хірургічным нажом. Разнік пабачыў, што вантробы чалавека вельмі падобны да вантроб жывёлін, у якіх яму часта прыходзіцца поркацца нажом, каб выяўляць кашэрнасць. Гэтае падабенства зводзіць яго з боскіх сцяжын. Ён пачынае сумнявацца ў існаванні душы. Яго вера крышыцца, як лёд.

---

Маці Левіна кладзе ўвесь хлеб у шафу, замыкае дзверцы і хавае ключ.

— Нікому есці сёння не дам. Усе павінны пасціць.

Марудна, як слімакі, плывуць гадзіны. Злуецца Левін. Сёстры і браты шукаюць ключ ад шафы па розных кутках хаты—спачатку жартаўліва, а пасля з нецярплівасцю і злосцю галодных людзей.

— Дзе ключ?

— Не дам ключа. Пост.

Малы хлопчык пачынае плакаць:

— Есці хачу...

Заўсёды лагодная і такая добрая маці робіцца сёння тыранам—морыць дзяцей голадам.

— Усе павінны пасціць!

— Глупства гэта ўсё—вашы малітвы і ваш пост,—абураецца Левін.— Ты, маці, лепш малога накармі.

— Што?—дзівіцца Шоламіха,—„вашы малітвы, ваш пост“ (яна робіць націск на словы „вашы“, „ваш“). А ты сам на старане? З боку прыпёку? Выключаеш сябе з кагалу? У Вільні гоем*) зрабіўся...

Шоламіха глядзіць на свайго старэйшага сына гнеўнымі вачыма. Зусім не матчыны вочы. Усё, што яна выцерпела за сваё жыццё, гарыць цяпер у яе вачах агнём гневу і крыўды. І голас яе зменены— не голас маці.

— Выгадавала цацу на сваю галаву. Усё ў яго глупства! Знайшоўся разумнейшы за ўвесь свет. Калі ты такі хохам**), дык выратуй нас ад бяды! Ну, выратуй! Ну...

— Як гэта выратую...

— Ага! Вось які ты хохам!

— Але пры чым тут пост?

— Пры чым? Каб мы бога адчулі ў голадзе. Богу ахвяра патрэбна.

— Не прызнаю такога бога, якому патрэбны ахвяры...

Шоламіха нямее. Вочы яе робяцца двума кавалкамі лёду.

— Навошта яе чапаеш,—звяртаецца бацька да старэйшага сына крыўдлівым голасам.—Не можна паганіць апошняй надзеі чалавека ў часе бяды.

Злосная Шоламіха адмыкае шафу, кідае на стол булку хлеба і губы яе дрыжаць.

— Наце вам, лопайце!

Ніхто не бярэцца за хлеб. Ад пагрозлівай цішыні аж у вушах звініць.

---

Прыносяць навіну:

У маёнтку пана Манілоўскага—казакі. Іх начальства балюе. А казакі самі знайшлі ў панскіх заховах некалькі бочак спірту. За казакамі ідзе вялікая вайсковая сіла.

*) Гой—не яўрэй.
**) Хохам—мудрэц.

Ніхто не ведае, хто гэту вестку прынёс, але яна распаўсюджваецца ад чалавека да чалавека са шпаркасцю дэпешы.

П'яныя казакі... Гэта куды страшней за варожыя кулі, за знарады, за бомбы.

Нямала наслухалася ваколіца аб казаках.

Рыжы Антось ходзіць па вуліцы са сваёй дачкой-павадыркай і маўчыць. Нават пальцы сляпога сёння „маўчаць". У шэрых вачах ён тоіць загадку.

Што ўжо рабіць каганецкім, калі інвалід вайны—чалавек бывалы ў вайсковых справах—маўчыць?.. Людзі забываюць і аб посце і аб ядзе.

Медным круглым шчытом сонца вісіць над лесам зусім нізка—на адзін локаць. Яго праменні завостранымі пікамі колюць вочы сляпога Антося. Рыжая галоўка Агаткі выглядае акрываўленай.

І стукатанне многіх конскіх капытоў напамінае град. І свісты, і песні, і заліхвацкія выгукі-крыкі нічога не напамінаюць—ніколі каганецкія нічога гэткага не чулі. Усё гэта надыходзіць з аддалення—з боку панскага маёнтка. У мястэчку няма ні страху, ні роспачы. Не. Усё гэта ёсць, але душыць грудзі, нібы жорнамі. І здаецца, што ўсё жыццё прапала, згінула ў пустых лясах... Каганецкім усё роўна. Не. Зусім не ўсё роўна, бо ўсе, апрача дзяўчат, вылазяць грамадкамі на ганкі. Не выйдзеш—за ворагаў лічыць будуць... Сустракаюць казакаў са словамі:

— Нашы! Нашы!! Нашы!!!

Радуюцца прыходу сваіх. Радасць—апошняя стаўка. Радасць—апошняя апора. Як можна не радавацца, калі сваё войска ідзе?..

Маці гімназісткі Іры выгарнула з печы попел падручніка нямецкай мовы і высыпала ў яму на двары. Цяпер яна радуецца разам з усімі:

— Нашы...

Вось зараз яна скажа ў захапленні:

— Дзеці, мы ўжо казакі!

А за ёю пойдзе водгаласак ад чалавека да чалавека па ўсёй ваколіцы:

— Мы ўжо казакі...

Залоцяцца праменнямі сонца конскія вушы, казацкія шапкі і чубы. Сярод казакаў нямала барадатых і пажылых. Яны аглядаюцца па баках на людзей, на вокны, круцяцца на сёдлах направа і налева, нібы з-за кожнага вугла падазраюць здраду, і з нічога не спускаюць з вачэй. Некаторыя з іх кідаюць каганецкім запытанні:

— Калі адгэтуль герман уцёк?

— Мабыць усё герману аддалі і для нас нічога не пакінулі...

На кончыках пік гуляюць апошнія сонечныя праблескі. Цэлы лес пік выглядае дзівоснымі запаленымі свечкамі.

Левін глядзіць праз акно і дзівіцца своеасабліваму дзікаму харастве. Каб гэтым коннікам цяпер дэкарацыя вольнага бязмежнага стэпу. Левін прыглядаецца да казацкіх твараў, якіх ведае дагэтуль толькі з апісанняў. Але абветраныя барадатыя і голеныя твары шпарка праносяцца міма.

З двара салдаткі Ганулі высоўвае галаву рабая карова. Адзін з казакаў, малады і чорнавалосы, на поўным бягу смаліць нагайкай карову ў самыя вочы. Карова ўцякае. Гануля сарамаціць казака з-за брамы;

— Як не сорамна жывёлу біць?

Той казак ужо далёка на перадзе. Замест яго адказвае другі:

— Мабыць думаў, што жыдоўская...

Ён шчэрыць на Ганулю белыя зубы і не чуе яе кплівай заўвагі:

— На гэта вы ваякі, а вось немца так папрабуйце.

„Мабыць думаў, што карова жыдоўская“ ўрэзваецца ў грудзі Левіна вострай пікай. Ён ведае, што казацтва з'яўляецца адной з галоўных апор самадзяржаўя. Яно, казацтва, немалая сіла пры „усмирении крамолы“,—карыстаецца вялікімі прывілеямі ад царскага ўраду і жыве заможна; там казак можа мае больш зямлі і жывёлы за тутэйшую шляхту. Але багацце жывіцца на касцях беднасці. Сярод іх пэўна яшчэ больш бедных, парабкоў, малазямельных.

Гэта крыху пацяшае Левіна. Бяднейшыя напэўна не такія лютыя. І ўсе-ж яны людзі. Няўжо будуць здзекавацца без дай прычыны з мястачкоўцаў? Многа брэшуць пра казакаў.

Патухлі кончыкі пік. Сонца схавалася. У мястэчку казакі не спыняюцца. Едуць на хутары за млын, у бліжэйшыя вёскі. Тут застаецца толькі іхняе начальства.

— Гэта ўсё-ж такі абарона. Начальства не дасць сваволіць падвыпіўшым казакам,—мяркуюць местачкоўцы.

Дзе спыніцца начальству, калі не ў самых багатых людзей мястэчка? Сакалоўскі і Кантаровіч ўжо знаёмяцца з ім.

— Мы сваё дабро ратавалі ад немцаў, заўчас у Менск адправілі... Мы дастаўляем скот для арміі... Мы... не тое, што іншыя.

Начальства адчувае шчодрасць ежы і пітва, мяккія, чыстыя пасцелі. Адзін з местачковых падрабінаў—Лейба Кантаровіч—робіць гуллівыя вочы і піскліва хіхікае:

— А якія ў нас дзяўчаты-красуні...

Начальства хлопае па спіне старога кніжніка.

— Малайчына стары!

— Няхай толькі паны пабачаць нашых дзяўчат... Прыгожыя... Шкада, што мне ўжо пад семдзесят.

Начальства рагоча.

Стары мае на ўвазе служанак—адна ў іх, у Кантаровічаў, другая ў Сакалоўскага.

Пасля паста і малітваў сам бог дыктуе такія словы старому, каб адсоўваць агонь ад сваіх...

Лейба Кантаровіч тут прыпамінае ў сваё апраўданне адну гісторыю: Бал Шэм *), каб выслужыцца перад богам, спакушаў аднаго ксяндза, які глядзеў на жанчын, „быццам на белых гусей“... Бачачы такую бязгрэшнасць ксяндза, бог хацеў пакараць грэшных яўрэяў. Вабнымі вобразамі з „Песні песень“ Бал Шэм так абмаляваў перад старым ксяндзом адну яго маладую парафіянку, што каталіцкаму духоўніку сніліся ўсю ноч нячыстыя сны... Такой тонкай тактыкай Бал Шэм выратаваў свой народ...

Гэту тактыку ўжывае цяпер і падрабін Лейба Кантаровіч.

---

— Казакі гаварылі, каб уначы нікуды не выходзіць, бо на вуліцы будзе перастрэлка з немцамі.

Гэта перасцярога перадаецца ад хаты да хаты ўсяму мястэчку.

Ноч паволі насоўвае на ваколіцу вялізную цёмную бурку. Што прынясе гэта ноч ваколіцы?

У Левінаў, як ува ўсіх іншых хатах мястэчка, сядзяць у поцемках. Усе прывыклі сядзець вечарам без святла. Нейк спакайней... За дзень паста так адвыклі ад яды, што цяпер у горла нічога не лезе. Толькі малы брат Левіна есць у кутку хлеб з малаком.

*) Яўрэйскі „святы“.

— Ежце, вы, нарэшце. Цэлы дзень пасцілі...

Шоламіха дамагаецца цяпер, каб дзеці і муж елі. З тым-жа імпэтам і гневам, з якім раней замыкала хлеб ад сям'і, цяпер гаворыць:

— Сытасць напала на вас... Зусім аслабееце...

Усе маўчаць па кутках. У цемры блішчыць чырвонай кропкай папяроса Шолама. Пры святле бацькавай папяросы Левін глядзіць на свой ручны гадзіннік. Хутка поўнач. Стралянiны на вуліцы няма. Можа міне ліха.

Цішыня.

За лесам змоўк гарматны грукат. Не дзынкаюць шыбы. За апошнія тыдні так прывыклі да гэтага „пульса вайны“, што заціш прыкрая цяпер для вушэй, як мароз. Ад зорак спускаецца на зямлю слабае валакно водсвету. Праз вокны відаць чорныя груvасткія сілуэты хат і застылыя фантастычныя сілуэты старых бяроз. Здаецца, што яны то аддаляюцца ад акна, то набліжаюцца ў бясслоўнай напружнасці.

Раптам Левін уздрыгвае.

Не. Гэта толькі пеўні спяваюць. Пераклікаюцца па ўсёй ваколіцы, як дазорцы. У іх паўночных галасах няма заўсёднага прытулу і цяплыні. Хочацца, каб і яны маўчалі, каб у маўчанні было забыта мястэчка каб забыліся, што тут дрыжаць ад страху па кутках Борухі і Шоламы, на якіх царскі ўрад не забараняе спаганяць любую злосць. Наадварот, урад падбухторвае на тое, што Шоламы і Борухі нібы вінаваты ў розных бедах...

Спевы пеўняў—сігнал для новых гукаў ночы. З блізкай вёскі, дзе спыніліся нанач казакі, чуваць трымканне на балалайках і заліхвацкія выкрутасы гармоніка. Вясёлы народ гэтыя казакі. А пасля выпіўкі ў маёнтку пана Манілоўскага яны, казакі, такія падатлівыя людзі. Для іх не трэба чысціць ні школы ні карчмы. Яны любяць прытул цесных хатак.

Гармонік і балалайкі весела набліжаюцца. З хаосу гукаў выплываюць кавалкі песень, музычныя фразы. Не мясцовая музыка. Тутэйшую песню Левін пазнае з аднаго-двух гукаў.

Зноў тупат конскіх капытоў.

Ці-ж зараз пачнецца перастрэлка з немцамі? Не. Тое адбываецца звычайна без музычных інструментаў. Праз акна відаць як цямнеюцца казацкія сілуэты на конях. Спыняюцца яны па два, па тры ля кожнай хаты...

З суседніх акон паказваецца скупое святло. Мястэчка пачынае прыймаць гасцей... Ходзяць па вуліцы балалаечнікі і гарманісты. Конныя заходзяць у хаты пад музыку. Балалайкі, гармонікі, свісты заглушаюць сустрэчную местачковую музыку:

— Ра-ту-у-уй-це... Гва-а-алт...

— Пачынаецца...—шэпча Левін.

Бацька тушыць папяросу. Нечалавечыя крыкі растуць і сыплюць жудасць у грудзі, студзяць кроў. Маці Левіна мармыча бесперастанку сваю замову.

— Божа мой... Божа мой...

Меншыя дзеці спяць, Левін абапіраецца локцямі аб стол і цвёрдымі кулакамі сціскае скроні да болю. Думкі, нібы гарачыя вуголлі, апальваюць яго нутро:

— Няўжо ўсіх перарэжуць? Выйсці на двор? Уцячы? А мо' якраз там наткнешся на пагібель? Ужо... Стукаюць у дзверы...

---

Іх двух. Яны загадваюць:

— Запаліце лямпу!

Знаёмыя галасы салдат, з тых, што адчуваюць сябе ў любой хаце прыфрантовай паласы поўнымі гаспадарамі. Маці запальвае лямпу. Пры святле адны адных з цікавасцю аглядаюць. У звычайных абставінах гэтыя дзяцюкі з казацкімі лампасамі на штанах можа быць самыя найлепшыя людзі. Шырокія твары. Вясёлыя вочы. Сялянская свойскасць. У Левіна нейдзе ў глыбокіх шчылінах свядомасці, нібы куслівы мароз, тоіцца страх.

— Што сынкі, скажаце?—пытаецца ў гасцей чорнабароды Шолам.

Казакі глядзяць адзін на аднаго, нібы сапраўды не ведаюць, чаго сюды прыйшлі. Адзін з іх кажа:

Мястэчка наша. Начальства аддало яго нам за тое, што германа прагналі.

— Вельмі рады,—кажа старэйшы сын Шолама і душыць свой нутраны страх.—Мы—вашы, а вы—нашы. Што-ж вы хочаце?

— Есці...

Старэйшы сын зварачваецца да маці павесялеўшым гасцінным голасам:

— Маці, есці давай.

Старая прыносіць малако і хлеб.

— Усё, што ёсць, нясі сюды!—просіць ён.

Яна прыносіць сыр, яйкі і кажа:

— Больш нічога няма.

Казакі ядуць не зусім рупна, стоячы, аглядаючыся па хаце. Відаць што сёння менш пасцілі за мястэчкоўцаў. Хутка казакі пакідаюць есці і самі адчыняюць старую камоду.

— Нам-бы кашулі,—кажа адзін з іх, і давай перакідваць рэчы ў шуфлядах.

— У трэцяй шуфлядзе мая бялізна ляжыць,—і Левін сам адчыняе.— Вось.

Бацькі глядзяць на Левіна спуджанымі вачыма. Ён знакамі паказвае, каб яны не ўмешваліся. Казакі бяруць дзве пары бялізны. Адзін з іх мерае сабе на галаву чорны капялюш Левіна, глядзіць у старое люстэрка, што вісіць на сцяне, плюецца і кідае капялюш на падлогу. Другі дастае бацькаву скрыпку і звяртаецца да яе, як да знаёмай.

— Скры-ыпачка...

Ён пачынае трымкаць. Першы тым часам аглядае ўсе куткі хаты і, заўважыўшы цёмны алькерык, пытаецца:

— А тут, што?

— Дзеці спяць.

Казакі заходзяць туды.

Сёстры Левіна жаласліва просяць;

— Не чапайце нас...

Адзін казак цягне другога за рукаў.

— Кінь, пойдзем. Не варта будзіць малых,—і да дзяўчат:—А вы, барышні, схавайцеся лепш. Другія прыдуць, дык горш будзе...

Цяпер Левін разумее, чаму казакі загадалі вечарам, каб з хат не выходзілі. Гэта, каб дзяўчат ад іх не хаваць.

Як толькі госці выходзяць за дзверы, дзяўчаты апранаюць цёмную вопратку і праз чорны ход уцякаюць на двор. Яны хаваюцца за вуглом хлява, на гародзе.

Новыя госці.

Адзін высокі, стройны, малады, з бліскучымі вачыма. Другія два—барадатыя і нізкія.

На „здравствуйце" Шолама яны нічога не адказваюць і воўчымі позіркамі правізваюць усе куткі хаты. Высокі і малады кажа да сваіх расчараваным голасам:

— Тут ужо былі.

— Былі... Былі...—падхоплівае Шолам гэтыя словы, як паратунак.

Адзін з казакаў—барадачоў строгаківае пальцам на Шолама.

— Не хітры, стары! Ведаем, сам параскідаў анучы і кажаш, што казакі былі. Без лішняй гутаркі—давай грошы!

— Не маю,—просіцца Шолам.—Не маю браточкі.

— Давай, давай, „браток", а то біць будзем!

Яны адсоўваюць ад сцяны шырокі зэдлік і ставяць яго пасярод хаты. Міжволі Левін успамінае, як калісьці бацька біў яго на гэтым самым зэдліку. Адзін з барадачоў бярэ бацьку Левіна за руку і цягне да зэдліка. Чорнабароды Шолам стогне.

— Браточкі, мілыя мае...

Гаспадыня пачынае плакаць.

— Ціха! Без крыкаў, а то горш будзе!—пагражае высокі.

— Не чапайце бацьку,—просіць Левін.—Вось вам усё, што ў мяне ёсць—Ён дастае з кішэні бумажнік.—Тут дваццаць рублёў. А вось і гадзіннік.

Адзін з іх пералічвае грошы і варочае Левіну гадзіннік са словамі:

— Мне-бы залаты, а гэты—дрэнь!

Левін да таго збянтэжыны, што пачынае хваліць гадзіннік.

— Добры гадзіннік. Новы. Правільны ход. Некалькі месяцаў таму назад купіў у Вільні. Каштуе дзесяць рублёў.

— Ну, давай ужо, калі так...

Бацька глядзіць на Левіна такімі вачыма, нібы зараз возьме ў казака нагайку і адсцёбае сына вось на гэтым зэдліку.

— А можа есці хочаце?—пытаецца Левін.—Дык вось на стале. А бялізна тут, у камодзе...

На Левіна з дзівам глядзяць не толькі бацькі, але і казакі.

— Вось маладога хвалім, але нам толькі грошы. Больш нічога не бярэм. Толькі грошы.—І зноў да Шолама:—Ну, стары! Давай, калі не хочаш пакаштаваць казацкай нагайкі.

Шолам плача:

— Дальбог, не маю...

— Скарэй, а то...

Яны намерваюцца нагайкай.

— Лепш мяне біце.—просіць Левін.—Не чапайце бацьку...

— Адыдзі, малады:

— Мы людзі бедныя,—лемантуе маці.—Бойцеся вы бога.

— Грошы давайце! А то... Мы за вас кроў праліваем. Гэта вы, жыды, нагаварылі немцаў ваяваць з намі.

— Што мы вінаваты,—плача гаспадар.

Дзівіцца Левін упартасці бацькі. Ён ведае, што ў бацькі павінна быць сорак пяць рублёў.

Толькі адзін раз ляснула нагайка па бацькавай спіне. Ён аддае апошнія сорак пяць рублёў і кажа:

— Спажывайце на здароўе!

— Не жартуй, стары!—пагражае адзін з барадачоў і кажа сваім:—Хадзем, ну іх к чорту.

---

— Навошта ім аддаў загарак і грошы?—злуецца на Левіна бацька.— Ніхто ў цябе не прасіў...

— Што аб гэтым гаварыць, яшчэ добра абышлося. Магло быць горш. Мне нагайка зусім непатрэбна.

Зноў прыкручваюць кнот у лампе і сядзяць моўчкі. Левіна агортвае такая агіда, што сам сябе зараз разарве.

— Лепш на фронце, у акопах, пад кулямі, чымся перажываць такі подлы нечалавечы страх і цярпець здзекі. Як тую мыш, цябе затопчуць розныя вось такія. А як-жа ты будзеш бараніцца?

Дзікія ляманты чутны з суседніх хат. Нейкае бляянне замест чалавечых галасоў. Стыне кроў і звініць у вушах:

— У-э-э-э...

А вось і чалавечы голас і чалавечыя словы. Гэта крычыць у суседняй хаце салдатка Ганупя:

— У мяне малое дзіцё... Мужа на вайне забілі... Злітуйцеся...

— Хадзем, маладуха, на сена!

— Злітуйцеся...

— Нічога з табой не станецца. Нашы жонкі таксама спяць з чужымі.

Левін вельмі трывожыцца. Сёстры на гародзе. Ці добра схаваліся? Цяпер яму нельга выходзіць да іх. Як выйдзе, дык толькі пакажа азвярэлым людзям дзе сёстры схаваліся. Што рабіць?

Доўга думаць не прыходзіцца, бо ў хату ўваходзяць новыя госці. Адразу з крыкам:

— Дзе вашы дзяўчаты?

— Няма ў нас дзяўчат.

— Казалі, што ў вас ёсць.

— Шукайце самі.

Раз'юшаныя людзі лезуць пад ложкі, шукаюць па кутах, засоўваюць вілачнік пад печ, лезуць у сенцы. Чырвоныя твары не падобны да чалавечых. З гэтымі ўжо жартаваць боязна. Левін маўчыць. Новыя госці нічога не бяруць з хатніх рэчаў, нават грошай не просяць, нагайкамі не пагражаюць. Равуць звярынымі і галоднымі галасамі:

— Дзе вашы дзяўчаты?

Яны раскідваюць усё са стала. З шуфлядаў камоды ўсё ляціць пад ногі. Ад шуму прачынаецца і плача малы брат Левіна. Большы даўно ўжо не спіць. Ён глядзіць застылымі вачыма і нямее ад страху. Адзін з азвярэлых людзей страляе ў столь.

— Дзе вашы дзяўчаты?

Казакі скрыгочуць зубамі, вылупленыя вочы растуць і наліваюцца крывёю. Чырвоныя ілбы хмурацца і пацеюць. Пырскаюць слінай— і пот, агідны і смярдзючы, лезе ў нос. Яны тупаюць цвёрдымі ботамі па раскіданай бялізне. Пад іхнімі нагамі крышацца талеркі, шклянкі і разбітыя гладышы. Яны бяруць кожнага з Левіных загрудкі, шмалытаюць з усіх сіл:

— Давайце дзяўчат!

Пачынаюць штурхаць у плечы старую Шоламіху.

— Не даеш дачок, дык хадзем сама!

З суседніх хат ужо не чуваць ніякіх крыкаў. Саламон Левін глядзіць на сваіх. У кожнага з іх раззяўлены рот, як у рыб, выцягнутых з вады. Іхніх крыкаў Левін не чуе, бо сам крычыць. Усе рвуць старую з рук звяроў. Левін сыпле на казакаў самыя брыдкія лаянкі. Яны слухаюць спачатку з дзівам, пасля як-бы пачынаюць ачухвацца, пачуўшы з чужых вуснаў родную мацяршчыну. Вочы ў іх становяцца больш прытомнымі, і яны, як апараныя, выскакваюць на вуліцу.

## XV

Далей ад Каганцоў... Далей ад агіднай местачковай ночы...

Толькі цёплую вопратку захапілі з сабою Левіны. Гародамі і полем бягуць у лес. За імі—лямант і крыкі мястэчка. У Саламона Левіна на спіне малы брат. Хлопчык моцна трымае яго за шыю. Левін чуе, як у малога стукаюць зубы. Левін цяжка сапе. Нарэшце ён ставіць хлопчыка на іржышча. Супакойваюцца яны толькі ў лесе. Саламон Левін прыглядаецца да сваіх—твары, як цені. Левін хацеў-бы, каб уся сям'я цяпер у акопах сядзела. Было-б больш бяспечна.

— Дзякаваць богу, усе мы цэлы засталіся...

— За ўсё маці богу дзякуе,—хоча Левін сказаць у голас, як папрок. Ён ледзь стрымліваецца, каб не паказаць небу пару фіг, як гэта зрабіў Язэп перад сваёй „Тройкай".

На сівым фоне раніцы пачынаюць вызначацца хваіны. Над вяршынамі крычаць вароны. Ад узмахаў крылляў разыходзіцца навакол буйны шолах, нібы шолах дрэў пад ветрам. Уся сям'я адпачывае. Лес паволі супакойвае людзей. Ён наліваецца ружовым святлом. Чорнабароды Шолам шкадуе, што не ўдалася запрагчы каня і ўзяць з сабою лепшыя з хатніх рэчаў, ежу. Гаспадыня непакоіцца аб карове. Стаіць у хляве замкнёная разам з канём. Гаспадары засталіся без гаспадаркі...

Сюды набліжаюцца нейкія гукі, нечыя галасы...

Ці-ж зноў?..

Саламон Левін крадзецца каля дрэў, ідзе ў разведку.

„Гэта местачкоўцы бягуць сюды".

Адна сям'я нават на фурманцы, праз некалькі хвілін у лесе шмат народу. Вось Іра са сваёй маткай. Крамнічыха абнімае маці Левіна і абедзве плачуць. Крамнічыха доўга шэпча ёй нешта на вуха. Левін ловіць паасобныя словы: „Гвалцілі... усіх... кажуць... і вясковых дзяўчат..." Іра сядзіць маўклівая. Пад вачыма сінія кругі. Твар такі жоўты, нібы ўсю кроў высмакталі. Затуманеныя і пустыя вочы яна таропіць у даль. Саламон Левін да ея падыходзіць ціха, як-бы баіцца спалохаць. Вось-вось закрычаць ад дзікага болю. Кладзе руку на плячо Іры. Яна сцёпвае плячом, хоча скінуць яго руку і шэпча чужым голасам:

— Адстаньце.

Левін дзівіцца·

— Іра, што з табою?

— Адчапіцеся... Ненавіджу вас...

— Іра...

— Чаму вы мяне не баранілі? Вы-ж ведаеце, што я адзінокая. Апрача мамы, нікога тут у мяне няма. Які вы аднак рыцар.

Іра смяецца горкім смехам.

— Лепш мець справу з казакамі, чымся з вамі. Казак за сваю каханую дзяўчыну і жыццё не пашкадуе. А вы... „вечнае каханне"... Спявайце ...

— Што я мог рабіць, Ірачка...

— Не завеце мяне Ірачкай. Адыдзіце ад мяне.

— Цішэй... пачуюць...

— Няхай. Мне ўсё роўна.

Левін адыходзіць з паніклай галавой. Нічога рабіць не мог супроць такой навалы. Ледзь родную маці адбаранілі, старую...

У лесе ўжо зусім светла. Дрэвы і травы ўсюды пераплецены павуцінай. На павуціне блішчаць маленькія кроплі расы.

Хто гэта так плача?

Левін бяжыць на гэты плач, як на паратунак ад сваіх думак пра Іру.

Плача надрыўна мельнічыха. Яе муж, Бэрка, застаўся з дзяцьмі дома. Яна ледзь вырвалася з рук аднаго, які гнаў яе ў млын...

На плач мельнічыхі збегліся ўсе. Якія панурыя і страшныя людзі. Нават дзеці маюць выгляд старых.

— Вось ён! Вось яны!

Мельнічыха выцягвае рукі наперад і бяжыць насустрач мужу і дзецям. У мельніка на руках маленькі хлопчык. Дзяўчынку гадоў сямі за ручку вядзе. Высокая і прыгожая мельнічыха з крыкам радасці бярэ на рукі адразу абодвух дзяцей.

— Дарагія... мілыя...

Нізенькі Бэрка, з светлымі вочкамі, з рыжаватай стрыжанай бародкай, стаіць, апусціўшы рукі, і слёзы капаюць па барадзе буйнымі кроплямі.

— Са мною нічога кепскага не было...—супакойвае мельнічыха мужа.

Бэрка моршчыць дробны і востры камарыны твар. Не можа супакоіцца. Ён заікаецца ад нахлынуўшых слоў.

— Гэт-та-ж не немцы і то так не здзе-здзекваліся з нас... Нічога сабе на-нашыя абар-ронцы.

— Ад цара Мікалая адукацыю атрымалі,—кажа нехта.

— У маёнтку пана Манілоўскага напіліся.

— У першых атрадах заўсёды самыя галаварэзы.

— Не апраўдвайце казакаў. Чулі мы пра іх і раней.

— Каб іх першыя кулі трапілі!

---

Каганецкія брыдуць з лесу хто куды. Ідуць у вёскі, на хутары. Многія з сялян іх у хаты не пускаюць—баяцца казакаў. Даюць па кавалку хлеба, як жабракам...

Сонца грэе па-летняму. Па-летняму чылікаюць птушкі. Прыгожа цвіце верас.

Толькі Левіны застаюцца ў лесе.

Сядзяць на зямлі і маўчаць. Саламон дрэмле, прыхіліўшыся спіною да хвоі. У салодкай дрымоце забываецца, дзе ён і што з ім. Прыемна так на сонцы. Яно не пячэ, а грэе-грэе... Саламон Левін часта апускаецца ў бяздонне сну і зноў усплывае на ўзверх. Яго будзіць хныканне малога брата.

— Есці!..

Кавалак хлеба, што даў адзін жаласлівы селянін пры іхняй вандроўцы ад хаты да хаты, даўно з'елі. Плач малога манатонны і надакучлівы. Малы ўвесь час торгае маці за локаць.

— Есці...

— У лесе хлеб не расце. Дзе я вазьму...

Апрача малога, усе дрэмлюць. Часта прачынаюцца. Аглядаюцца са страхам. Саламон Левін спустошаны, ніякіх думак няма ў галаве. Адно жаданне цягне яго ўсімі сіламі—спаць... Перад ім кружыцца сонца і смяецца ў самыя вочы. Хвоі перасоўваюцца з месца на месца, елкі рухаюцца стагамі сена, а вольхі і бярозы, з пажоўклымі лістамі, ўспыхваюць полымем. Кроплямі дажджу льецца чыліканне птушак, і ўвесь час голкамі коле вушы голас малога брата.

— Есці...

— Што лепш: есці ці спаць?—думае Левін, і ад жадання спаць тупіцца жаласлівасць да галоднага хлопчыка. І Левіна зноў няма. Ён захлынаецца ў цёплай багне сну. А праз сон чуе:

— Шоламка... Сусядок ты мой... Хадзем да нас... Ці-ж можна так у лесе...

Левіну ўсё роўна—ён спіць. Можа яму толькі сніцца знаёмы голас? Ніяк не ўспомніць, дзе чуў гэты голас, які запрашае іх сям'ю ў сваю хату. „Ага... вось той... той самы...“ Левін на момант расплюшчвае вочы: сялянскі твар, ускалмачаная бародка.

— Уставай-жа, Шлойма!

Левін ойкае і літасці просіць, каб яго не чапалі, мармыча п'янымі ад сну губамі:

— Спаць...

— Шлойма, уставай!

Голас маткі. Левін ускаквае, аглядаецца:

— Зноў казакі?

— Ну і ў знакі даліся казакі гэтыя...

Перад ім Язэп—уладар трох „балярын“, якія цягнуць яго саху.

---

Гарачая, рассыпчатая, як снег, бульба. Малако. Вялізны каравай хлеба прыносіць суседка з другой хаты—нізкая, чырвонатварая сялянка.

Ці мелі калі Левіны такую радасць? Мабыць ніколі.

Шоламіха расказвае жудасці мінулай ночы падрабязна і доўга. Язэп слухае і кладзе на стол жмут тытуну-самасейкі.

Жанчыны слухаюць Шоламіху ўважліва, глытаюць кожнае яе слова. Яны ўздыхаюць і дзякуюць богу, што выратаваў іх ад такой бяды. Гэта-ж і яны маглі-б так бяздомна блукацца па лесе... І ў аплату за божую міласць яны будуць трымаць Шоламаву сям'ю, аж пакуль міне ліха ў Каганцах...

Язэп вострыць на прыпечку нож, дастае дошчачку і крышыць на ёй тытун для курцоў. Ніколі Левін нічога смачнейшага не еў і лепшага тытуну не курыў, як вось у Язэпа...

Ледзь не чвэрць хаткі займае печ. Гліняная падлога. Тры дробныя, нібы прыжмураныя, вакенцы. Стол, зэдлік і два шырокія ложкі.

Старэйшыя два сыны на вайне. Даўно ад іх няма лістоў. Цяжка жывецца Язэпавай сям'і. Нядаўна паў конь. Скардзіцца Язэп на паганае жыццё. Няма за што другога каня купіць. Усё яшчэ пану Манілоўскаму за зямлю выплачвае. Гэта забірае ўсю яго працу, і да вайны ўсе заробкі сыноў ішлі на гэта. „Вось сыплеш і сыплеш, як тую бульбу ў дзіравы мяшок“. Левін слухае і патыліцай да сцяны прыліпае. Глядзіць на Язэпаву дачку—на самую малодшую з „тройкі“. У Язэпавай дачкі русая галава, даўгаваты твар, паўкруглыя і цемнаватыя, нібы вугалем падведзеныя, бровы. Вочы глыбокія і сінія. На яе матавым твары вызначаецца кволы абрыс тонкіх яркіх губ. У яе прыгожы правільны нос.

„Адзець такую па-гарадскому,—думае Левін,—дык першая красуня“.

— Граматная?—пытаецца ён.

За яе адказвае Язэп:

— Пры нашай беднаце няма калі вучыцца.

Яна ходзіць таропка па хаце, прыбірае са стала. Крокаў яе босых ног зусім не чуваць. Перад вачыма Левіна мільгае чырвоны грабеньчык у яе валасах і чаруе на сон. На міг пагасне грабеньчык і зноў успыхне. Эк, спаць хочацца... нялоўка...

Выратоўвае малы брат Левіна. Ён цяпер пад'еў і...

— Мама, спаць.

Маці апраўдваецца перад гаспадарамі:

— Каля двух тыдняў, бадай, не спім.

— Хай цяпер суседзі ідуць спаць,—загадвае Язэп сваёй „тройцы".— Вось на ложках. Сена можна прынесці ў хату.

У Язэпа цяпер зусім іншы выгляд і іншы голас, чым тады на полі, калі Левін бачыў яго за сахой, што цягнулі тры жанчыны. Няма рэзкіх пераходаў ад пакут Хрыста да гневу і злосці разбойніка. Выраз твару ўраўнаважаны і ветлы, голас гасцінны і ласкавы. Няма лішняй жаласлівасці да Левіных, каб не даць ім адчуваць замнога свае бяды... У яго куды больш тонкі такт, чымся ў жанчын. Тыя часта выціраюць вочы, ківаюць жаласліва галовамі ды ўсё паўтараюць.

— А божанька... божанька...

— Мае-ж вы бедныя...

— Каб хаця з намі так не здарылася...

На ўсялякі выпадак (можа казакі сюды прыймчаць) Левінаву сям'ю пасылаюць спаць на гару, дзе з сянец без даху (усё няма калі кончыць) яны, Левіны, забралі драбіны з сабою наверх: „мала што можа здарыцца..." На сене пасцілкі, падушкі. Эх, як добра.

Уся сям'я адразу засынае.

Ад напльву розных думак якраз цяпер Левін не можа заснуць. Праз шчыліны пранікае сонца і залоціць на кроквах павуцінне. Ён чуе прыглушаныя галасы:

— Гу-гу-гу-гу. Гу-гу-гу-гу...—Якраз калыханка.

Лопат крылляў і крык пеўня. Маці Левіна ўздрыгвае са сну. Усе іншыя спяць моцна. Іхнія твары жоўта-васковыя, як пасля тыфуса. З блізкага лесу з боку прасёлачнай дарогі—грукат жалеза. Бацькі прачынаюцца.

— Што за шум?

— Гэта абоз праязджае, артылерыя,—супакойвае Левін.

Галасы на гародзе. Левін паднімаецца, глядзіць праз шчыліну на двор. Язэп з сваёй „тройкай" выбірае бульбу.

Левін зноў ляжыць і пазірае на залатое павуцінне пад кроквамі. Павуцінне апускаецца да самых вачэй, зацягвае твар і адплывае назад да крокаў, як туман.

---

— Вячэраць пара!

Гэта будзіць іх знізу Язэп.

А здаецца адна хвіліна праплыла. У маленькае пад дахам вакенца, праз якое ледзь пралезе дзіцячая галоўка, аганьком папяросы свеціцца зорка. Левін спускае вобмацкам драбіны ў цёмныя сенцы і ўсе злазяць уніз. Вячэраюць у хаце пры святле лучыны. Язэп гаворыць пра вайну:

— Няхай скруцяць карак тыя, хто яе пачынаў!

У Язэпа цяпер грозны голас і праз меру цёмныя вочы. Няроўнае святло лучыны мільгае па твары ў перамежку з ценямі. Здаецца, што шчокі то ўспыхваюць, ад гневу, то цямнеюць ад болю. Тлустая суседка, што прынесла ў дзень булку хлеба, глядзіць на ўсіх спалоханымі вачыма і глыбока ўздыхае. Трывожна ўзнімаюцца і апускаюцца яе грудзі. Ёй нешта не сядзіцца на месцы, яна ёрзае на шырокім тапчане. Ціскае адной рукой другую, нібы сама з сабой вітаецца і развітваецца і нарэшце ўзнімаецца з тапчана і бярэ за руку гаспадыню. У яе патаемны і неспакойны голас:

— Хадзем!

Шэпча нешта гаспадыні ў цёмных сенцах. Праз колькі хвілін гаспа-

дыня варочаецца ў хату адна. Яна ціскае плячыма, хіліць галаву на правае плячо, і пальцы яе рук нервова пераплятаюцца між сабою.

— Суседка сказала, што казакі шукаюць па ваколіцы яўрэяў. Яны злосныя, вельмі злосныя, гэтыя казакі, бо яўрэі ад іх крамы схавалі. У дзень адзін казак аж сюды на хутары прыехаў, пытаўся, ці няма яўрэяў...

— Слухайце толькі, што яна там нагаворыць, тая лапатуха. Вось меле языком. Вы, суседзі, на гэта не зважайце. Павячэрайце і спіце спакойна. Уночы сюды і чорт не прывалачэцца,—супакойвае Язэп.

Пасля вячэры сам Язэп свеціць лучынай, пакуль Левіны ўзбіраюцца па драбінах на гару. Ён задзірае галаву, і з гары здаецца, што Язэп свеціць з падзямелля. Грукат абоза ўсё яшчэ не спыняецца. Цяпер на гары цёмна да таго, што сваёй рукі не пабачыш. Вялізная хмара глынула той жмуток зорак, што пазіралі ў дробненькае вакенца пад дахам.

— Што цяпер дома робіцца?—непакоіцца Шоламіха.

— Не трэба аб гэтым думаць,—радзіць Шолам.

Але перад сном аб гэтым думаюць усе...

Прачынаюцца раніцой ад новага спалоху: страшныя грымоты і грукаты гармат, дрыжаць вокны, калышацца Язэпава хата, нібы стаіць на курыных ножках. Стогне зямля. Над зямлёй разгортваецца ні то хмара, ні то дым. Беднае сонца часта выплывае з гэтага дыму і яно такое цмяное, што можна глядзець на яго, не зажмурыўшы вачэй, нібы праз закуранае шкло.

— Нешта страхотнае,—кажа Язэп,—вось чортава ліха!

Жанчыны стаяць перад абразамі на каленях і шэпчуць малітвы. З незвычайным стараннем хрысцяцца на ўсе староны маленькай хаткі. Шоламіха слухае гэту малітву з вялікім спачуваннем. У яе вачах блішчаць слёзы. Яна адварачваецца ад абразоў і тут-жа пачынае гаварыць шэптам гарачы сакрэт свайму богу...

Снеданне сёння нікому ў горла не лезе.

Тоўстая суседка прыходзіць з новым страхам:

— Казакі перарэжуць і тых, у каго яўрэі хаваюцца.

— Няхай перарэжуць,—дазваляе ўзбураны Язэп.—Шоламаву сям'ю не выганю з хаты.

Шолам упіраецца:

— Мы, Язэпка, не хочам, каб дзеля нас і твая сям'я пакутвала...

— Я вас з хаты не пушчу.

Язэпава сям'я сёння бульбы не выбірае. Гаспадар бароніцца ад гэтага тым, што „рукі апускаюцца".

— А то грамадой пойдзем,—прапаноўвае Левін.—Не хочам быць у вас дармаедамі.

Такая прапанова падае Язэпу ахвоту, бяруцца за работу ўсе; зноў прыбягае тая самая суседка. Вочы яе спалоханы і голас дрыжыць:

— На хутары прыехалі казакі, яны аўса просяць і пытаюцца, ці тут не хаваюцца яўрэі...

Левін недаверліва паглядае на гэту жанчыну. Кожны раз яна прыносіць непрыемныя весткі, кожнае яе з'яўленне атручвае ўсім жыццё. Левін пачынае ненавідзець яе...

Зноў Левіны ў Язэпавай хаце на гары—у адзінай захове. Казакі сапраўды з'яўляюцца. Пояць коней ля студні і едуць далей. Левіна сям'я сядзіць тут і пакутуе ад таго, што гаспадары пачынаюць баяцца. Вочы язэпавых жанчын спалоханыя, Язэп таксама задумёны і сумны. Малы брат Левіна стаіць на гары ля маленькага вакенца, пазірае ў

даль і „пільнуе“ казакаў... Стаіць доўга і цярпліва на сваёй добраахвотнай варце. І вось ён ледзь не ўзрадаваным голасам крычыць:

— Едуць! Едуць! Казакі...

— Ціха,—просіць маці,—а то яшчэ пачуюць.

Усе ляжаць прытаіўшыся. Набліжаецца знаёмы тупат конскіх капытоў. У Левіных заміраюць сэрцы. Успываюць страшныя думкі. Яны, Левіны, тут у адзіноце, хаваюцца ў чужой хаце. Раз хаваюцца, значыць нешта ўчынілі такое, чаго трэба баяцца. Ці не лепш было быць у сваёй хаце? А то яшчэ дзеля іх чужым дастанецца. А можа ад страху ці з іншай прычыны, круглая суседка наўмысля казакаў сюды прыслала. Не можа быць. Яна-ж прынесла ім, Левіным, вялікую булку хлеба. Але тут сядзець на гары Язэпавай хаты горш, як дома. Там у Каганцах, у выпадку чаго можна начальству паскардіцца (а чаму ў тую ноч не паскардзіліся?). Там пэўна цяпер іншыя казакі ды іншае начальства. А калі тыя самыя, то даўно працвярозіліся ад спірта пана Манілоўскага і ўжо больш-менш з людзьмі пазнаёміліся. Самыя лепшыя казакі тут, на хутарах, могуць з імі, Левінымі, расправіцца жорстка, бо западозраць нядобрае, калі людзі ад іх хаваюцца...

На гары чуваць з хаты казацкая гутарка.

Галасы растуць і словы, пагрозлівыя і гнеўныя, даходзяць да слыха Левіных, як вострыя гантал:

— Дзе схаваны яўрэйскія крамы?

У Левіна лоб пакрываецца халодным потам. Ён пільна слухае.

— Скажы, хадзяін, дзе яўрэйскія крамы, а то горш будзе!

З хаты чуваць плач жанчын і прыглушаны голас Язэпа:

— Тут няма. А дзе схаваны—не знаю.

— Ілжэш! Знаеш!

Моцна ляскае нагайка. Мабыць па стале—пужаюць Язэпа... А вось мякчэйшы лёскат. Гэта па жывой чалавечай спіне. Страшны крык жанчын, прарэзлівы і нечалавечы. Няўжо рэжуць каго? У Левіных камянеюць твары. Плакаць не можна, бо пачуюць. Нават хлопчык не плача... Ён добра разумее... Эх, каб нейкі чараўнік перакінуў іх, Левіных, цяпер хоць на гадзіну ў мышэй, у птушак, у тараканоў. Яны вылецелі-б праз малое ваконца, яны ўгрызліся-б у сцяну, яны ўцісуліся-б у шчыліны. Пэўна, зараз пачнуць шукаць і палезуць на гару... знойдуць... Перадушаць... А можа злезці ўніз да казакаў—няхай забіваюць. Навошта пакутуе дзе ля іх Язэпава сям'я?

---

Левіны зноў у лесе.

На шчасце на гары не шукалі. Шукалі ў хаце, у хлявах, на гумне, а забыліся шукаць пад дахам на гары. Крамы тут не знайшлі-б, затое знайшлі-б Левіных. Цяпер і Язэпава сям'я счарнела, як вугаль... Жанчыны на абразы божкаліся, што няма ў іх ніякіх яўрэйскіх крам. Паехалі казакі.

Язэп упарта не выпускаў Левіных з хаты, але-ж маўчалі жанчыны, і смяртэльны спалох рабіў іх вочы непрытомнымі.

Левіны зноў у лесе.

Цяпер яны маюць з сабою хлеб, малако, сыр. Грукаты спыніліся. Незвычайная цішыня. Левіны ў такім гушчары, дзе іх ніхто не знойдзе. Тут гэтулькі карчоў-вываратняў, што на кані ніяк сюды не дабярэшся... Тут і ў дзень сінія цені. Паволі змаўкаюць спевы птушак, і плаўна апускаецца ноч. Воўчымі вачыма блішчаць зоркі, па лесе дрыжаць шолахі, і Левіны адчуваюць сябе адарванымі ад усяго свету... Малы хлопчык прыслухоўваецца:

— Нехта ходзіць па лесе...

— Гэта вецер галінамі шастае,—кажа Левін.

Не можа супакоіцца малы. Па чарзе туліцца да кожнага з сям'і, затыкае пальцамі вушы і прыплюшчвае вочы. Але доўга так не можа, і вось ён паказвае рукой на карчы:

— Вунь людзі...

— Няма чаго баяцца, гэта не людзі, а карчы.

Хлопчык усоўвае галаву ў плечы, горбіцца, як стары дзед, рукамі прыціскае вочы, каб нікога і нічога не бачыць... У яго дрыжаць калені, дрыжыць спіна ад ціхіх усхліпаў.

— Баюся ваўкоў і мядзведзеў...

Страх хлопчыка хвалюе ўсіх. Яны ўпэўнены, што ўночы сюды ніхто не прыдзе, і ў дзень нялёгка знайсці іх—самае бяспечнае месца. Хлопчык пытаецца:

— Чаму гэта казакі на нас злуюцца?—і не дачакаўшыся адказу, засынае на матчыных каленях.

Паволі засынаюць усе, апрача Саламона.

— Добра, што няма дажджу і так цёпла,—думае ён.

Доўга, як вечнасць, цягнецца восеньская ноч. Саламон курыць Язэпаву „самасейку“. Смаліць папяросу за папяросай, хаваючы ў далоні аганёк: на ўсялякі выпадак. Па ранейшай прывычцы падсоўвае руку пад аганёк папяросы, каб паглядзець на ручны гадзіннік... Ледзь казакаў угаварыў, каб забралі, а то бяруць выключна залатыя гадзіннікі. Узялі толькі шануючы яго, Левіна... Ён міжволі ўсміхаецца. Вось хаваемся ў лесе ад страшнага злоўчынка... Зусім не страшна смерць, а страшна быць бездапаможным, як тая курыца... Наглядаць з боку над жыццём. Быць з усімі і ні з кім... Любавацца харобрасцю віленскіх друкароў і смаргонскіх гарбароў і ў той-жа меры, можа яшчэ і больш, з боку любавацца харобрасцю п'яных казакаў?.. Вось што значыць стаяць з боку староннім назіральнікам... Далей так нельга.

Мітусяцца думкі ў стомленай галаве Левіна.

Разам з Ірай „паву-купаву“ шукаў. Шукаў нешта рыцарска-прыгожае, небывалае... І ніводнага залатога пяра не вырваў у рамантычнай птушкі... І рыцарам не быў...

Ад ночнага ветрыка Левіны туляцца бліжэй адны да адных. Саламону вельмі спаць хочацца. Ходзіць каля сваіх, каб не заснуць. Прасынаецца маці. Цяпер яна будзе „вартаваць“,—і ён апускаецца на мяккую падушку сну.

Праз галіны і карчы залатымі доўгімі мячамі раніца сячэ ноч на дробныя кавалкі. Саламон чуе радасную вестку:

— Можна ісці дамоў.

Яшчэ як ён спаў, бацька знайшоў каганецкіх, што варочаліся дамоў. У Каганцах шмат войска, яно нікога не чапае. Бой адбыўся за дваццаць вёрст ад мястэчка.

## XVI

— Вось мы і дома,—радуецца маці.

Згорбленая цётка Тыся шморгае венікам па падлозе і бурчыць нешта без слоў. Лятае пер'е, звініць шкло і шорхаецца куча падзёртай паперы. Левіны глядзяць на старую цётку з дзівам: Чаму-ж гэта яна не дома? Цётка спыняе працу, застывае з венікам у руках і галава яе дрыжыць больш чым заўсёды. Яна пільна таропіць вочы ў Левіных.

— Гэта вы? А я ў вашу хату перабралася. Бенцыян ужо ўсе роўна нікога не баіцца. Нават і вайны-шмайны.

— А што?—непакоіцца Шоламіха.
— Ён усім нам доўга жыць загадаў. Учора пахавалі ў вечным доме.
— Борух данён эмес*),—кажа Шоламіха.—Калі ён памёр?
— Ён не памёр.—Яго казакі забілі ў пазаўчарашнюю ноч. Ляжыць сабе на ложку стары, а казакі прычапіліся „грошы давай!" Я ім кажу: „Адкуль у нас грошы-смошы? Мы старыя людзі". Яны смяюцца і крычаць: „Нам стары дасць, ён лепшы за цябе, ведзьма старая". Яны прысталі да старога. „Грошы!" Толькі два разы нагайкай далі... Лейба Кантаровіч і разнік Сімха-Аба дасталі дазвол у начальнікаў і ўчора на вашым кані завезлі яго на яўрэйскія могілкі. Дай бог кожнаму дажыць да яго год. Яму было больш за восемдзесят. Думала я, думала, і вось да вас перабралася. Што мне рабіць адной у старой карчме?
— Добра, цётка, зрабілі, што перабраліся да нас.
— Конь цэлы, карову даіла. У поле не выпускала, дык сенам карміла. Тут у хаце адну ноч пераначавалі нейкія новыя казакі, дык хлеба мне далі, цукру.
— Казакі?—дзівіцца Шоламіха.
— Ну так, казакі. Не ўсе-ж яны разбойнікі.
Усё ў хаце паломана, пабіта, падзёрта і паколата. Фатаграфічныя карткі на сценах пранізаны штыхамі, на дробныя аскепкі падрузгана люстэрка; ад сценнага гадзінніка засталася адна драўляная шафка, увесь механізм рассыпаны на камодзе. І камода паколата. Большасць шыб пазатыканы сапсутай бялізнай. А вось цэлы стог падзёртых кніг. Саламон Левін купляў іх з малых год, пачынаючы ад пяцікапеечных „Боваў-каралевічаў". Пасля былі школьныя падручнікі, рускія і яўрэйскія класікі, пераклады з французскіх, нямецкіх і ангельскіх пісьменнікаў, філасофія, слоўнікі, часопісі. У свой час Левін усё гэта збіраў, як самае неабходнае. Выдаткаваў на кнігі тую частку сваіх заробкаў, якую ўдавалася выратоўваць ад агульнага бюджэта сям'і, бо яго пенсію забіраў бацька. Кожны раз, як Левіну прыносілі з пошты павестку на атрыманне кніг, яго агортвала незвычайная радасць. Не заўсёды ён мог карыстацца бацькавым канём і ён пехатою валок з пошты кнігі за дзесяць вёрст ад Каганцоў Пасля працы ў лесе ён цэлымі начамі сядзеў над кнігамі, узброены рознымі слоўнікамі. Як цяжка было яму,—які апрача „хэдэра" нідзе не вучыўся,—арыентавацца ў вялікіх акіянах незнаёмых вобразаў і думак. Кожная старонка была для яго цяжкай дарогай з набітым шклом, па якой трэба было хадзіць босымі нагамі. Перачытваў адзін раз і другі, пакуль радкі не ўпіталіся ў яго мозаг, кроў і нервы. Ніцшэ, Спіноза, Гегель, Огюст Конт, Салаўёў былі для яго каменнымі княжацкімі палацамі, якія толькі на адну шчылінку адчынялі яму свае цяжкія дубовыя дзверы. Доўга працískваўся ён праз гэтыя дзверы. Блукаўся ў анфіладах разнастайных і рознакаляровых строгіх пакояў з ключом у руках—з кароткай гісторыяй філасофіі. Чытаючы мастацкую літаратуру, ён сам перажываў хваляванні кожнага з герояў твора, уяўляў самого сябе на месцы кожнага з іх. Ён тапіўся ў хаосе вобразаў і думак. У вясковай глушы не было з кім гаварыць аб прачытаных кнігах, і яны прыгіналі яго да зямлі, як цяжкія гіры. Праз канкрэтныя вобразы мастацкай літаратуры яму лягчэй было глядзець на жыццё, чымся праз томы філасофіі. Вакольнае жыццё і вобразы, вычытаныя з кніг, у яго так пераблытваліся ў адно, што часам вычытанае ў кнігах здавалася яму бачаным, а факты жыцця—вычытанымі ў кнігах. Мастацкая літаратура вучыла яго назіраць за людзьмі і іхнімі ўчынкамі. Ён пачаў

*) Благаславён той, хто судзіць праведна.

вывучаць жывых людзей. Марыў аб тым, каб напісаць калі-небудзь раман. У Вільні знаёміўся з гімназістамі і студэнтамі, ад якіх чакаў дапамогі, пакуль не агледзеўся, што яны ведаюць менш за яго. І ён сам знайшоў сабе лінію: харэство. Ад ландшафтаў прыроды да змагання між народамі, групамі і класамі людзей ён шукаў харэство жыцця. У розных рэвалюцыях ён у першую чаргу захапляўся харэством і рамантыкай змагання без пераважнай сімпатыі да адной пэўнай групы ўдзельнікаў гэтага змагання. Ён лічыў сябе „вышэй“ за ўсё гэта... Вось у якую кашу кнігі ператварылі яго думкі і пачуцці...

Падзёртыя казакамі кнігі нагадваюць цяпер такую-ж кашу: перамешку аўтараў і эпох. Левін толькі дзівіцца цярплівасці казакаў: у кнігах не засталося ніводнага цэлага лістка, нібы людзі стэпу ўгледзелі ў друкаванай паперы „нячыстую сілу“.

У мястэчку ўцалелі ад казакаў толькі дзве хаты—Кантаровіча і Сакалоўскага,—дзе начавала начальства. Нібы моцныя дубы, хаты багачоў вытрымалі налёт завірухі. Толькі дзве найміткі—служанкі тульгаюцца цяпер па кутках гэтых багатых хат і стараюцца схаваць ад людзей свае напухшыя ад слёз вочы.

---

На вуліцы вялікі рух. Праходзіць рознага роду войска, тарахцяць павозкі. Нібы вялізная небывалая рака расплываецца па каганецкай вуліцы, канца няма людской ракі. З якіх частак Расіі няма тут людзей. На якіх мовах і дыялектах яны толькі не гавораць. Не гледзячы на аднастайнасць салдацкіх вопратак, якая рознастайнасць твараў. Колькі матак і дзяцей плача па іх і нецярпліва чакае лістоў? Колькі запушчаных гаспадарак чакае гэтых запыленых, абветраных у спякотах і дажджах людзей? Іх так многа, што маленькае мястэчка Каганцы для іх толькі саломінка пад нагамі. Гэтакіх стаптаных саломінак сотні і тысячы. Левін глядзіць на гэты рух, і перажытыя ім самім непрыемнасці здаюцца яму цяпер такімі дробнымі і нікчэмнымі, аб якіх не варта і ўспамінаць...

Іра і Маўра, прыбраныя ў лепшыя вопраткі, гуляюць падруку з афіцэрамі. Абыходзяць войска цесна каля платоў і ганкаў і паводле выразу іх твараў відаць, што адчуваюць сябе, як на шматлюдным бульвары. Адзін з афіцэраў, нізкі, з шырокім тварам, галантна грае вачыма і шэпча нешта такое на вуха Маўры, ад чаго яна ўвесь час смяецца. Другі, высокі, у акулярах, прапаршчык з скромным тварам вясковага настаўніка, моўчкі прыціскае да сябе руку маленькай Іры, аглядаецца па баках і шукае вольнага месца для праходу. Пільна глядзіць падслепаватымі вачыма, нібы грыбоў у лесе шукае. Часам адзін-другі з сустрэчных салдат аглядае гэтыя парачкі загадкавымі і галоднымі вачыма. У прысутнасці гэтых двух парачак Левін чуе больш часта, чым раней, мацярынае слова з павозак і больш моцнае пахлёстванне па спінах коняй.

Некалькі разоў гэтыя парачкі праходзяць каля вакон Левінавай хаты. Іра і Маўра смяюцца, і вочы ў іх блішчаць зусім па-новаму. Відаць, што страхотныя ночы сцёрты з іх памяці, нібы гумкай з паперы лёгкія штрыхі алоўка. Левін упэўнены, што Іра наўмысне стараецца тут гуляць, каб паказаць яму, Левіну, што знайшла новую „паву-купаву“. Яму цяпер усё роўна. Сам дзівіцца, што гэта мала яго цікавіць. Нават папракае сябе ў гэтым і лічыць, што ён бяздушны чалавек.

— Немцы! Немцы! — крычыць малы брат Левіна. — Глядзі! Вось немцы!

Праходзіць атрад нямецкіх палонных. Вось яны— нядаўныя каганецкія багі, гаспадары мястэчка на некалькі дзён, строгія дазорцы „орднунг". Тады зусім не такі выгляд у іх быў. Яны цяпер нейкія пакамечаныя. Не аглядаюцца па баках на вокны, позіркі ўтаропленыя перад сабой і ніяк нельга вызначаць тых кропак, куды яны, палонныя, тарапяць вочы. Левін шукае вачыма „трубача" з вільгельмскімі вусамі. На жаль, няма яго сярод гэтых людзей. А вось той дробненькі ткач, з якім так цёпла гутарыў. Той задумёны, нешта шэпча свайму суседу. Куды цяпер лёс пакіруе гэтага чалавека? У палоне будзе яму горш ці лепш, чым на пазіцыі? Левіну сумна. Каб што-небудзь было ў хаце пасля пагрому ды каб не баяўся, Левін падаў-бы гэтаму чалавеку на дарогу што-небудзь з ежы.

Рускія салдаты глядзяць на сваіх палонных загадкавымі вачыма. Яны шкадуюць палонных, ненавідзяць іх, як ворагаў або зайздросцяць, што тыя ўжо пакончылі з вайной? Левіну ўсё-ж такі лягчэй зразумець гісторыю філасофіі, чымся вочы абветраных і змучаных салдат...

Адзін з рускіх салдат, барадаты, лупавокі дзядзька, аглядаецца па баках, хутка вымае з свае сумкі акраец свежага хлеба і дае аднаму востраносаму палоннаму аўстрыйцу. Той спрытна хавае ў кішэнь і дзякуе асцярожна аднымі вачыма, каб ніхто з рускіх афіцэраў не ўгледзеў. Ён разумее, што рускі салдат можа за гэта пацярпець ад свайго начальства, як нямецкія салдат ад нямецкага начальства.

Палонны нямецкі афіцэр з голенай галавой, з ружовымі і круглымі, як рыжыкі, вушамі, гутарыць па-нямецку з рускім афіцэрам. Адзін аднаму цёпла ўсміхаюцца, кураць і трымаюцца між сабою, як рыцары. Адзін афіцэр не павінен адчуваць, што ён у палоне, што ён у залежнасці ад другога афіцэра... Роўны з роўным.

Можа аднаго і другога разам ненавідзяць і рускія і нямецкія салдаты?..—думае Левін.

За палоннымі ідуць і едуць рускія раненыя. На павозках мільгаюць дзе-ні-дзе белыя касынкі сясцёр міласэрдзя.

Вось атрад пяхотных з забінтаванымі рукамі. У некаторых вузкія павязкі на тварах. На вопратцы цёмныя плямы крыві: нядаўна вярнуліся з бойні... З павозак чуваць стогны. Адзін раве немым голасам, як жывёліна. У яго забінтаваны жывот і ногі. Твар жоўты. Вочы вільготныя. Губы раззяўлены, і з іх цягнецца, і плыве, як струмень, несупынны крык болю. Колькі такіх крыкаў і войканняў засталося ў распачлівым бездапаможжы на разбураных, раскапаных гранатамі палях.

Недарма так дрыжэла зямля, і Язэпава хатка выглядала пучком растрыбушанай саломы. Колькі такіх баёў было да гэтага, колькі яшчэ будзе.

Каганцы і ваколіца—маленькі выпадак вялікай вайны. Такіх ваколіц з „мірным" насельніцтвам—тысячы... Яны дробныя, непрыкметныя пункты на вайсковых мапах. І нават не ўсе яны абазначаны мушынай кропелькай на рознакаляровых аркушах карт генеральных штабаў. Часам адна такая малюсенькая кропелька, мала прыкметная нават сярод людзей гэтай-жа ваколіцы, раптам вырастае ў якіян, выбухае, як вулкан: „Тут, у Трохдубаўках ці Жоўтых Ручаях, адбываліся гераічныя ўчынкі." „Раненых гэтулькі". „Забітых столькі". „Без вясцей прапалі—яшчэ лічба". Жоўтыя Ручаі, Трохдубаўкі, ці можа ў хуткім часе Каганцы, становяцца небяспечнымі. На іх кідаюць бомбы з аэрапланаў, уночы іх асвятляюць ракеты, намацваюць пражэктары, абсейваюць кулямётныя сяўркі, аглушаюць і руйнуюць гарматы. Шмат „пушачнага мяса" застаецца на гэтых палях. Рускае „пушачнае мяса",

нямецкае. Пад нейкім страхам, куды мацнейшым за страх смерці з рук „ворага",—пад страхам свайго начальства,—нішчаць рабочы рабочага, селянін селяніна, абываталь абываталя. Ці ведаюць яны, за што гэта робяць? Не ведаюць... У гэтым і ўся жудасць. У паведамленнях генеральнага штаба красуюцца агнёвай кветкай нейкія там Жоўтыя Ручаі, Трохдубаўкі ці можа хутка Каганцы... Яны пераходзяць з рук у рукі, нібы гумовыя мячыкі. Іхнія назвы друкуюцца ў газетах, набываюць славу на ўсіх мовах свету. Аб іх супроцьлеглыя штабы пішуць у розных стылях і па-свойму высвятляюць падзеі.

Жоўтыя Ручаі ці Каганцы ў гэтай вайне—то дымок ад папяроскі, а то цэнтр свету.

Левіну перабіваюць думкі. У хату часта заходзяць салдаты і просяць вады. Якія яны запыленыя і замурзаныя. Ад іхняга смроднага поту кружыцца галава. Яны цярэбяцца і ваююць з шасціножкамі пад сваімі кашулямі, куды больш старанна і злосна за каганецкіх. Ім зусім не сорамна. Яны не зазіраюць з просьбай у вочы гаспадароў хаты, але няма ў іхніх словах і нядобрых нотак салдацкага загаду; як запрацаваныя члены сям'і, якім няма часу доўга важдацца, яны просяць піць.

Левін часта ходзіць з вёдрамі да студні, аж рукі ныць пачынаюць насі і насі. І яшчэ горш: не хапае ў студнях вады, высыхаюць. Прыходзіцца хадзіць аж да рэчкі. Там, ля рэчкі, шмат народу з вёдрамі. Салдацкімі ваданосамі парабіліся. Хтосьці з каганецкіх жартуе:

— Хай нас кормяць за гэта, дык будзем ваданосамі вайны. Будзем добраахвотнікамі, як Іра і Маўра.

— А што Іра і Маўра?—цікавіцца Левін.

— У міласэрдныя сёстры падаліся.

---

Зноў казацкія сотні.

Местачкоўцы іх цяпер не баяцца. Казакі нікога не чапаюць. Часам заходзяць да каго-небудзь па сена, па авёс, але добра за гэта плацяць.

Да Левіна прыходзяць—па сена. Два з іх ідуць з бацькам у пуню. Трэці застаецца ў хаце з старэйшым сынам гаспадара, просіць малака. Шоламіха адмаўляецца ад платы, расказвае аб тым, што казакі ўчынілі тут, як здекваліся з людзей. Казак уважліва слухае. Ён ужо не малады. Твар круглы і голены, нават вусоў не носіць. Стрыжаная галава. Зусім да казака не падобны. Каб не лампасы на штанах, дык і малы брат Левіна яго не баяўся-б...

— Гэта была нейкая банда, а не казакі,—тлумачыць казак.—Сярод нашых розныя ёсць.

Казак цікавіцца, чым займаецца Левін.

— У рэдакцыі адной з віленскіх газет працаваў.

— Добрая справа. І вершы пішаце? Аб чым вы пішаце? Лірыка... Прырода... Ага...

Сінія вочы казака глядзяць на Левіна пранікліва з ледзь прыкметным дакорам.

— І ў часе вайны займаецеся лірыкай прыроды?

— Нічога не пішу.

— А як вы адносіцеся да вайны?

— Баюся яе, і вось пакутуем ад яе,—прызнаецца Левін.

— І толькі?

Левін маўчыць.

— Гэта мала...

— Ці думаеце хаця аб прычынах вайны?

Левін бянтэжыцца. Не ведае, што казаць гэтаму казаку. Баіцца гаварыць з ім шчыра і стараецца накіраваць гутарку ў іншы бок.

— Вы вось казак. Чым займаліся да вайны?

— Служыў бухгалтарам у Пецербурзе.

З далейшай гутаркі Левін выяўляе, што гэты казак соцыяліст. Гэта яго, Левіна, вельмі дзівіць.

— А я думаў, што казакі...—далей Левін не ведае як сказаць...

Казак смяецца.

— І сярод казакаў ёсць багатыя і бедныя, прыгнятальнікі і прыгнечаныя. Яшчэ казакі пакажуць сябе. Вайна навучыць і іх чаму-небудзь. Ведайце раз назаўсёды, што гэта вайна закончыцца нечым такім, ад чаго зямля ўся ўздрыгнецца. За гэтай вайной, па яе слядах і ўнутры мас, асуджаных на „пушачнае мяса“, нешта расце. Расце незадаволенасць, нараджаецца думка аб прычынах вайны. І гэта думка страшнейшая і мецнейшая за гарматы. Вы не думайце, што рабочыя, якія дзесяткамі і сотнямі тысяч уліліся у фронт, забылі 1905 год. Яны могуць паўтарыць тое самае толькі з багацейшай, чым тады практыкай, без ранейшых памылак. Сярод людзей у казацкай форме таксама ёсць шмат батракоў і нямала рабочых.

— А што ўсе гэтыя могуць рабіць?—павучнёўску пытаецца Левін.

— Што могуць рабіць? Не выпусцяць зброі з рук, як вернуцца з вайны. Накіруюць зброю супроць тых, хто іх паслаў на „пушачнае мяса“. Вось яно як можа быць. Ды час пакажа. Цяжка цяпер гаварыць падрабязна і прадбачыць усе магчымасці.

— Значыць у нас не адна вайна, а дзве вайны,—кажа Левін.

— Так. Дзве вайны. А другая вайна будзе такой, за якую сапраўды варта праліваць сваю кроў. Чырвоны цень рэволюцыі пачынае ўжо непакоіць арганізатараў вайны. І на афіцэраў нападае страх. Самым горшым з іх на пазіцыі пускаюць кулі ў спіну. Усё гэта ў канцы канцоў так абернецца, што...

Уваходзяць у хату новыя казакі і гутарка спыняецца.

Потым Шоламіха, маці Левіна, якая слухала ўрыўкамі гэту гутарку, папракае сына:

— Навошта ў гутаркі такія ўваходзіць з казакам. Ён табе ўсю сваю казацкую „тору“ нагаварыў, а пасля можа так падвесці, што не дай бог. Трэба асцерагацца. Ен, пэўна, цябе выпрабоўваў, а ты вушы развесіў і патакваў.

---

Якраз праз паўгадзіны пасля гэтай гутаркі прыходзіць у хату казак і забірае бацьку Левіна, чорнабародага Шолама.

— Можа Шлойму Левіна?—пытаецца ўстрывожаны сын.

Казак глядзіць у паперку і чытае па складах:

— Левін Шолам Мендалевіч.

Казак вядзе Шолама да свайго начальства. А Шоламіха да сына са слязамі на вачах:

— Вось табе, сынок, і казацкая „тора“. Ты нешта, мабыць неасцярожна сказаў гэтаму казаку. Навошта было табе з ім гаварыць? Навошта?

Маці ў роспачы.

— Мяне-ж бы забралі за мае гутаркі, а не бацьку.

— Можа імя зблытаў. Ды бяда аднолькавая—цябе ці бацьку.

— Той казак не ведае ні майго імя, ні прозвішча.

— Дурань ён, думаеш? У цябе пытацца стане? У суседзяў пытаўся. Вось табе казацкая „тора“...

Праз некалькі хвілін даведваюцца, што і мельніка забралі.

І Левіна, нібы куля, пранізвае думка: яны—бацька і мельнік—хваліліся пры немцах, што першая нямецкая разведка да іх заехала. Мельнік з бацькам за пяршынства спрачаліся... Мабыць нехта на іх набрахаў, і іх цяпер вінавацяць у шпіянажы: „нямецкія шпіёны“... А калі той казак... тады... пры чым тут бацька? Пры чым мельнік? А можа быў ён у і ў мельніка з такой рэволюцыйнай гутаркай?.. Не можа быць. Не такі выгляд у чалавека... Шчыры голас... шчырыя вочы... А можа вышкалены?..

Начальства спынілася на выгане ў былой школе. Там стаіць варта, і туды нікога не пускаюць.

Шоламіха і мельнічыха ідуць да Кантаровіча і Сакалоўскага:

— Ратуйце...

— Што мы можам зрабіць?

Ёсць важнейшыя асобы—Іра і Маўра. Яны ўжо апрануты ў форму сясцёр. У іх ужо ёсць „свае афіцэры“. Іра і Маўра даведваюцца праз „сваіх афіцэраў“, што бацька Левіна і мельнік запёрты ў хляўчуку пры школе. Справа вельмі кепская. Шпіянаж...

Шоламіха насоўвае на нос акуляры і чытае малітвы. У Левіна разгублены ўсе думкі. Няма сілы нават хваляваццa і непакоіцца аб лёсе бацькі. Усе ў хаце ляжаць на падлозе, засланай сенам, і ціха ўсхліпваюць. Старая цётка Тыся цяпер поўная гаспадыня ў хаце. Яна знаходзіць новыя рыфмы і крычыць на ўсіх, каб ішлі к сталу есці.

Левін не бачыць, як праходзіць дзень. Вось і ноч,—восеньская, цягучая, як дзёгаць,—праплывае перад ім каламутнай рэчкай.

Бацькі няма.

На раніцу прыходзіць мельнічыха—саюзніца ў новай бядзе.

— У школе ўжо нікога няма. Нашых вывезлі ў Менск.

— Адкуль даведаліся?

— Салдаты гаварылі.

— Добра, калі ў Менск,—мяркуе Левін.—Там разбяруцца, у чым справа. Бо хто-ж гэта не разумее, што нямецкая разведка магла спыніцца ў любой хаце. Хто-ж яе прагоніць?

Аднак унутры, у думках вялікая трывога не рассейваецца. Сярод афіцэрства ёсць такія, што маюць садысцкую прыемнасць „знаходзіць шпіёнаў“. Яны іх „знаходзяць“ у кожнай мясцовасці, па мястэчках і вёсках, дзе толькі праходзіць армія. Вешаюць і страляюць сотні невінаватых людзей.

Раптоўнае грукатанне спыняе думкі. Здаецца, што правальваецца зямля. З вакон сыплюцца рэшткі шыб. Нейдзе блізка нібы цапамі малоцяць: „тах-тах-тах“.

Мельнічыха бяжыць дамоў да дзяцей. Па вуліцы на конях імчацца казакі. Крычаць:

— Выбірайцеся!

— Зараз герман прыдзе!

— Вы-бі-рай-це-ся!

## XVII

Па дварах спешна запрагаюць коняй. Валакуць на вазы хатнія рэчы. Штосьці пакуюць, скідваюць, як непатрэбнае, і зноў паднімаюць. Ловяць курэй, свіней і ва ўсіх дварах віскатня, крыкі, плач і лямант.

Дзе-ні-дзе па вуліцы паказваюцца бежанскія фурманкі. Вось у возе на мяшках едзе інвалід вайны—рыжы Антось. Ён зноў у сваёй старой салдацкай вопратцы. Да воза прывязана карова.

Левін з братам-падлеткам запрагаюць каня. У брата дрыжаць

рукі. Маці і сёстры валакуць на воз розную рвань і ламачча—усё тое, што казакі пакінулі як брак, як нягоднае для сябе. Маці ўспамінае швэйную машыну, новую машыну Зінгера. Яе няма. „А так прыгадзілася-б. Кажуць, што па гарадах і мястэчках бялізну шыюць для арміі. Можна было-б зарабляць на хлеб. Дзе цяпер машыну дастанем?..

Прыносяць падсвечнікі, падзёртыя кашулі.

— На што ўсё гэта?—непакоіцца Левін.

Больш за ўсіх стараецца старая цётка Тыся—новы дэспат сям'і: яна кідае на воз усе свае цабэркі і вёдры. Левін чырванее ад злосці. Ён крычыць:

— Скіньце вы гэта к чорту!

Старая яго перадражнівае:

— Скіньце-шміньце! Раве, як той казак!

Левін з усяе сілы шпурляе з воза цэбар, які раскідваецца на паасобныя клёпкі.

— Табе пэўна клёпкі ў галаве нехапае, вось цяпер з гэтых вазьмі,—вучыць цётка.

На двор забягае казак.

— Хутчэй! Хутчэй! Жыва!

Намерваецца падганяць нагайкай, але спыняецца і пачынае радзіць.

— Барахла гэтага не трэба, а вось хлябца пабольш, хляб-ца-а.

Апошняе слова ён кажа свойскім і спеўным голасам, паглядае на ўсіх цёплымі і затуманенымі вачыма.

На воз садзяць малога брата, цётку Тысю і маці. Карова прывязана павадком з боку.

Грукат не спыняецца.

Шэрая каламутная раніца. Неба зацягваецца дымам. Дзе-ні-дзе ўспыхваюць саламяныя стрэхі. Казакі хваляцца:

— Нічога герману не пакінем!

Левін, абросшы барадой, у чорным капялюшы, выглядае шылераўскім разбойнікам.

У гэты час завірухі забыт бацька. Левін — старэйшы сын, і ён адчувае цяпер адказнасць за сям'ю. Аб тым, што будзе далей рабіць, ён цяпер не думае—трэба вырвацца з гэтага пекла.

Страляніна падганяе.

Гудзіць, свішча, малоціць, вые і вохкае зямля.

Бежанцы едуць гародамі, полем. З розных куткоў, нібы ручайкі ў рэчку, усе імкнуцца на тракт. Усе рухаюцца наперад у задымленую даль.

— Мне нядобра сядзець,—скардзіцца цётка Тыся.

— Пасля паправім.

Цётка нешта мармыча, як загавор. Маці Левіна так плача, нібы зараз усю сябе выплача і разыйдзецца ў сваіх уласных слёзах, як лёд у вадзе.

Левін час-ад-часу падсцёбвае карову. Яна аглядаецца па баках, упіраецца і жаласліва рыкае. Ёй адказваюць рыканнем каровы, прывязаныя да іншых вазоў.

Мінаюць мястэчка.

Полем едзе на лёгкай брычцы Сакалоўскі, за ім конна яго сын. Тут-жа на возе ўлегцы Кантаровічы, бацька з сынам. Іхнія сем'і і маёмасць завезена была ў Менск раней. Цяпер яны абмінаюць абоз бежанцаў шпарка і лёгка. Яны аб нечым вельмі жвава гутараць і паказваюць рукамі на бежанскіх кароў.

Грамадкамі, з ношкамі за плячыма, ідуць тыя, у каго няма коней'

Хтосьці вядзе на павадку чорную цялушку. У адной старой жанчыны кошык з пэўнем. Яна ў святочнай хустцы, з чаравікамі ў руках, нібы ідзе на фэст з падарункам дукоўніку.

Вунь і Язэп з сваёй „тройкай". Цяпер ён сам упрэжаны ў воз за каня. Воз падпіхваюць дзве жанчыны, а трэцяя вядзе на павадку карову.

За Язэпам—хутаранін сусед з сям'ёю на фурманцы. Конік старaецца з усіх сіл, расцягваецца і выгінаецца да самай зямлі, а гаспадар з ўсіх сіл сцёбае яго пугаўём па рэбрах. Да першага воза прывязаны аглоблямі другі воз, на якім ляжыць плуг, барана, хамут і начоўкі. У начоўках сядзіць маленькі хлопчык і дзьме ў паліванага коніка.

За фурманкай Левіна едзе нізенькі Герасім са сваімі і кульгавы Макар. Абоз бежанцаў з Каганцоў і ўсёй ваколіцы расцягваецца далёка. Пярэднія хаваюцца ўжо ў хмурай далі кацярынінскіх бярозавых прысад. Па абодвых баках дарогі цягнуцца полем яшчэ два шнуркі фурманак і людзей.

Кульгавы Макар аб нечым горача спрачаецца з Герасімам, абодвы махаюць рукамі, але Левін не чуе з-за грукату іхняй гутаркі.

Мяжой ідзе салдатка Ганиуля з дзіцём на руках.

Вось на тракце апошні ўзгорак, скуль, як на далоні, відаць Каганцы і ваколіца. Левін глядзіць смаглымі вачыма. Не ён адзін пазірае цяпер туды... Па палях і прасёлачных дарогах мітусяцца эшалоны войска і вайсковы абоз.

Гараць хутары.

Гэтыя воблакі дыму са снапамі іскраў засланяюць сабою будынкі. Мястэчка ўспыхвае адразу ў некалькіх мясцах. Агонь перакідваецца з хаты на хату вялізнымі жоўтымі языкамі. Старая карчма стаіць чорнай грамадзінай. Адна хвіліна—і знутры праз дах у некалькіх мясцах узнімаюцца сінія струменьчыкі дыму, пасля выбухае полымя. Дрэвы ў садзе Сакалоўскага апранаюцца ў агонь.

Мінаюць узгорак. Каганцы хаваюцца ў полымі і дыме. Адтуль лятуць чароды варон і вераб'ёў.

Па дарозе некалькі новых хат. З гэтых хат раптоўна выскакваюць людзі з каламі і сякерамі; яны бягуць, злосныя і чырвоныя, насустрач тым бежанскім фурманкам, што топчуць цяпер кволую зеляніну жытняй руні...

— Дурні,—смяецца кульгавы Макар.—Вы шкадуеце засеянае поле? Можа яшчэ да полудня і вы за намі паедзеце.

Па абодвых баках шырокага тракту шумяць старыя бярозы. Жоўтыя лісты плывуць у паветры і паволі сыплюцца на вазы. Прасейваецца дробны, як пясок, ледзь прыкметны дождж.

Бежанцаў даганяе грукат гармат і пах горкага дыму.

---

Па вузкай гліністай сцяжынцы насустрач абозу дыбае салдат. Шынель на плячах у накідку. Пільным вокам ён пранізвае ўсе фурманкі і людзей. Рукавы шыняля матляюцца туды і сюды ад ветру, і ён адной рукой прытрымлівае шынель, каб ён не ўпаў з плеч. На яго спіне пад шынялём, мабыць, мяшок прывязаны, бо нешта тырчыць гарбом.

— Міхалка! Міха-лач-ка!

Гэта крычыць кульгавы Макар. Салдат бяжыць на гэгы крык. Левін пазнае сына Макара і спыняецца ля яго фурманкі.

— Вось, сынку, які дом ты нам адваяваў на пазіцыі! — крычыць патэтычным голасам Макар і паказвае рукой на дарогу і поле.—

Едзем! Куды? Чорт яго ведае! С-с-сукіны каты, душагубы! У нас цяпер пажар. Твой ліст, сынку, мы чыталі. Ты... Макар разгортвае ў сына крысы шыняля і нешча шукае вачыма. Матляецца правае пустое рукаво старой гімнасцёркі.—Дык гэта праўда? Няма рукі?

— Няўжо-ж я жартаваў у лісце...

— Так. Але вось як паглядзеў...

Кульгавы Макар хліпіць, хоча нешта казаць ды не можа.

— Дзе мая жонка і хлопчык?

— Са сваімі бацькамі,—і Макар паказвае бурай рукой назад на канец абоза.

Салдат, больш нічога не пытаючыся, бяжыць туды.

Нізенькі Гарасім спакойна разважае:

— А жонка адраклася ад яго, бо навошта ёй цяпер аднарукі чалавек?

---

— Шлой-мэ! Шлоймэ! Вось тата!

Левін не ведае, чый гэта голас. Голас маці такі незвычайны.

— Дзе? дзе?

Ля адной з прыдарожных бяроз стаіць грамадка людзей. Гэта адтуль чуваць лямант маці і віскат мельнічыхі.

На паўаршына вышэй над галовамі грамадкі бацька Левіна і мельнік Бэрка нібы стаяць на каменнях. Яны вісяць на крывіх суках старой кацярынінскай барозы адзін супроць аднаго, і нібы гутараць між сабою са схіленымі галовамі і нібы дражняць адзін аднаго страшнымі грымасамі. Дробныя кроплі дажджу расплываюцца па іхніх вопратках. Недалёка ад іх стаяць дзве пары такога парванага салдацкага абуцця, што можна дзівіцца, як іх людзі насілі. Салдаты, відаць, сарвалі з мёртвых ног добрыя боты і сумленна пакінулі свае. У бацькі Левіна з парваных шкарпетак тарчаць пасінелыя пальцы з чорнымі пазурамі. Смурод потных ног яшчэ не вытхаўся паветрам і дажджом.

Мельнічыха ірве на сабе валасы, і яе плач падобен да нейкага шалёнага рогату. Плачуць дзеці ды ўсе чужыя, што стаяць навакол. Левін адварочваецца. Яму прыкра глядзець, як маці туліць да сябе падатлівыя, вісячыя бацькавы ногі. Левін хоча плакаць і ніяк не можа. Акамянелае здзіўленне скоўвае яго нутро.

Першым ачухваецца кульгавы Макар.

— Растуліцеся!—крычыць ён і нажом перарэзвае вяроўкі.—Дайце лапаты. Трэба магілы капаць.

Ні ў кога няма лапат. Макар злуецца:

— Эх вы, с-с-сукіны каты! Едуць у такую дарогу ды лапат з сабою не бяруць... Яшчэ нямала нам капаць прыдзецца па дарозе...

— А ты сам маеш лапату з сабою?—пішчыць тоненькім галаском нізенькі Гарасім.

— Сам...

Кульгавы Макар вінавата апускае галаву.

— Завязем куды-небудзь на яўрэйскі могільнік. Тут усё роўна хаваць не дазволю,—кажа ціхім голасам маці Левіна.

Хтосьці скідвае з воза Левіных цабэркі і пасудзіны старой цёткі. Туды кладуць асцярожна, як жывога, труп Шолама. Шоламіха падсоўвае яму пад галаву падушку, прыкрывае старой коўдрай.

Труп мельніка кладуць на другі воз.

Цяпер Левіны ўсе пехатой ідуць. На возе з трупам адна толькі старая цётка Тыся, якая мармыча ўвесь час злосныя словы. Не можа забыць цабэркаў і вілачнікаў, што засталіся ля старых бяроз разам

з парваным салдацкім абуццем. Старая цётка бесперастанку мармыча і ў той-жа час засоўвае пад свой стары парваны салоп, які ўзяла з сабою, кавалачак вяроўкі з шыі павешанага—„на шчасце“...

---

Плача Шоламіха па Шоламу і аглядаецца па баках: няўжо ніхто з местачкоўцаў не падыдзе пабедаваць разам з ёю? Дзе там! Кожны мае цяпер сваю бяду, хоць не такую вялікую, як у яе, Шоламіхі, але... Ага... не забыўся стары... ідзе ткі сюды... Самы шаноўны кагалецкі жыхар успомніў няшчасную ўдаву... Вось ён—Лейба Кантаровіч—з божым словам на вуснах...

У яго постаці ёсць нешта ад прарока Ерэмія, які аплакваў на ерусалімскіх руінах былую славу божага хорама, пабудаванага царом Саламонам.

Падышоўшы да Шоламіхі, ён пачынае выцірадь вочы.

— Эхэ-хе...Эхэ-хе... Цяпер жывыя павінны зайздросціць мёртвым. Мёртвыя ўжо адпакутавалі сваё, а нам бог ведае колькі яшчэ прыдзецца пакутваць. Усё гэта ідзе ад бога, ён найсправядлівейшы суддзя. Ён строга карае, але ён і літасць мае. А каго ён больш любіць, таго ён больш строга карае. А каго цяпер больш карае, таго пасля ўзнагародзіць шчодрай рукой.

І стары кніжнік пачынае на спеўны біблійны лад:

— Жыў чалавек у зямлі Уц. Імя яго Іёў...

І Лейба Кантаровіч апавядае гісторыю легендарнага Іёва. Шоламіха слухае і плача.

Раптам стары спыняе святую гутарку і пераходзіць на будзённы тон:

— Цяжка вам будзе ў дарозе з каровай. Яна схудае, і задарма яе ў вас забяруць. Вось нашыя скупліваюць для войска. Раджу і вам прадаць, па-суседску раджу. Возьмеце дваццаць пяць рублёў, дык хоць такія-сякія грошы будуць, а там—бог бацька.

— Гэтак танна?—дзівіцца Шоламіха.

— Па-суседску кажу, вось вам дваццаць пяць рублёў, потым і дваццаць ніхто не дасць. Усе бежанцы прадаюць. Вазьміце грошы і дзякуйце богу. Верце, калі я кажу...

— Няхай ужо,—кажа плачучы Шоламіха.—За вашыя добрыя і святыя словы.

Стары кніжнік плаціць грошы і забірае карову.

Сакалоўскія і Шыман Кантаровіч гоняць полем цэлую чараду кароў, скупленых тут-жа на дарозе ў бежанцаў. Скупшчыкі спачатку аб'ехалі ўсіх бежанцаў полем, каб ніводнага гаспадара не праварон іць, і вось варочаюцца назад і скупліваюць жывёлу па чарзе ўва ўсіх, нібы невадам ахапілі дарогу. Нанялі тут-ж некалькі хлапчукоў, якія гоняць чараду ў Менск.

---

За сваёй спіною Левін чуе разважанні нізенькага Гарасіма:

— Жыццё чалавека цэніцца цяпер танней за жыццё мухі. Людзі гібеюць тысячамі мільёнамі без усялякага толку.

А які толк табе патрэбен у гэтым?—пытаецца кульгавы Макар.— Можа кепскі толк у сукіных катоў? Вешаюць, страляюць, рукі і ногі адрываюць, ды мала якіх калек ёсць цяпер. Халера яго ведае. Можа нішчаць нашага брата, каб потым не было каму бунтавацца супроць цароў і генералаў?

— Можа і так,—згаджаецца нізенькі Гарасім.

— Пэўне і немцы і туркі ды ўсе іншыя там людзі з народу, вось такія, як мы з табою, так сама не хочуць ваяваць. Думаеш, іх кулі не бяруць?

— Пэўне.

— А там цары, генаралы між сабою, сукіны каты, і нашыя і нямецкія, і турэцкія ды іншыя чэрці разам вінцо п'юць і салам закусваюць.

— Можа і так.

І з нашага брата, з беднага чалавека, ці ён француз, немец, рускі— разам там смяюцца.

— Яно-ж гэтак.

— І ў акопах, і тут—салдаты—не салдаты—усе роўна адна пагібель.

— Адна пагібель...—паўтарае, нібы рэха, за Макаром нізенькі Гарасім. Калі не павешаюць, дык з голаду здохнеш. Такая дарагоўля пайшла на ўсё, што ўсе роўна капут нашаму брату.

— Чалавек там на Піліпоўскіх хутарах жыў, з Смаргоні, дык аб усім гэтым гаварыў,—кажа кульгавы Макар.—Шмат аб чым гаварыў там Заблоцкаму. Ведаеш Заблоцкага?

— Гэты, гэты самы, што з Шоламам Левіным коні мяняў вясной?

— Ну ён. Дык ён гаварыў, што народ доўга так цярпець не будзе. Чымся паміраць у акопах без дай прычыны, людзі пусцяць штыхі ў грудзі сваіх начальнікаў, што гоняць іх на пагібель. Шмат яшчэ аб чым мне Заблоцкі расказваў.

— Можа калі што і будзе,—згаджаецца Гарасім,—але вось чакай. Мой сын таксама быў супроць цара. А вось цяпер у Сібіры чакае. Нават у войска яго не бяруць.

— Каб ён больш бяды не меў.

— І то праўда. А можа і дачакаецца. Бо дайшло вунь куды.

Левін, прыслухоўваючыся да гутаркі, адварочваецца назад. Пры словах „вунь куды" нізенькі Гарасім паказвае на сваё горла і гаворыць далей:

— А вось глядзіце як яно ўсё ў жыцці ідзе шыварат навыварат. Вось глядзіце, знакам тым, сотні гаспадароў з торбай во пайшлі ў свет, а Сакалоўскія і Кантаровічы ў іх апошнія каровы задарма забіраюць. І дзе-ж тут дзецца беднаму чалавеку? А багаты і тут на людскім горы нажываецца. Колькі-ж гэта яны заробяць! Бач вунь, якую чараду гоняць у Менск...

— Нічога,—кажа кульгавы Макар,—прыдзе час, калі мы возьмем за гарлякі Сакалоўскіх і Кантаровічаў і яшчэ такіх сукіных катоў ды скажам ім: плаціце нам за нашу кроў, за наш пот, за нашы слёзы!

Левін далучаецца да іхняй гутаркі. Ён пачынае ім тлумачыць, што тое, аб чым яны гаворыць, набліжаецца шпаркімі крокамі. Ён забывае ў гэты час пра труп бацькі і гаворыць з вялікім захапленнем.

І калёсы бежанскіх фурманак і тупат ног старых і малых на шырокім тракце нібы паўтараюць:

— Набліжаецца.

Менск. Студзень-май, 1934 г.

ЕФІМ САДОЎСКІ

# РАНА

Несупынны аднастайны гуд. Тонкія і густыя галасы, смех, выкрыкі спляліся ў адной працяглай і няўлоўнай ноце.

Такі верхал бывае на масавых—зборышчах на дэманстрацыях на сходах, калі да стомы доўга чакаюць пачатку.

Вы хочаце ўлавіць асобныя гукі—заткніце пальцамі вушы і хутка то затульвайце, то адтульвайце іх. Тады вы адрозніце бас Алеся Мельнічэнка, смех Паўлюка Глікава, яшчэ дзесяткі іншых гукаў, якія выказваюць узнёслы настрой і радасць.

Вузкі пакой. Сцены нібы набеглі адна на адну. Дзесці ўгары, амаль ля самай столі цмяныя шыбы. Калі-б не электрычнае святло, якое бесперапынна асвятляе пакой, тут было-б заўсёды змрочна.

Горача. Да столі плывуць густыя клубы пары. Там яны на момант асядаюць, а пасля падаюць на падлогу маленькімі слязінкамі.

З суседняга пакою, калі адчыняюць дзверы, як хвалі ў час прыбоя, увальваюцца новыя патокі пары. Густой павалокай нібы ў прасцірадла ахутвае яна людзей, пасля паступова радчэе, але на змену ідуць новыя хвалі, і трэба звыкнуцца, каб адрозніць твары.

Вузкі расцягнены ўдоўжкі, але сціснуты сценамі пакой—гэта распранальня. Яна размежавана на шафкі з палінялымі ад заўсёднай сырасці дзверцамі і ледзь прыкметнымі нумаркамі. Каля шафак доўгія лаўкі, на якіх байцы, нібы ўступіўшы ў спаборніцтва, спяшаюцца распрануцца.

Ці доўга?

Вы былі раніцой у казарме, у час пад'ёма. Вось яшчэ цішыня, яшчэ моцным ранішнім сном прыкованы людзі да ложкаў. Павольна белыя плямы на вокнах пачынаюць прыкметна расці. У пакоі яшчэ цемнавата. Над дзвярыма, як уначы, цмяна гарыць лямпачка, клапатліва абвінутая ў чырвоную паперу. Асцярожна ступаючы, каб не парушыць сна байцоў, вылічваючы кожны крок, абыходзіць вузкія праходы паміж ложкамі дзяжурны. Ён не спаў усю ноч, але бадзёрасць і пільнасць не страчаны.

Ці ўсё ў парадку, ці усё гатова да пад'ёма?

Раптам аднекуль здалёк, камечачы цішыню, уразаецца сігнал пад-ёма. Міг—і казарма напоўнена святлом, міг—і з ложкаў нібы на спружынах, ускокваюць байцы. Рухі разлічаны, як па хронаметражу. Яшчэ не праходзіць пяці хвілін, а ўсе апрануты, ложкі засланы, і пасярэдзіне казармы ля калон выстройваюцца байцы ў першы ранішні строй для зарадкі.

І зараз ў цеснай распранальні байцы спяшаюцца абагнаць адзін аднаго, каб хутчэй зачыніць сваю шафку з вопраткай і пайсці туды, адкуль хвалямі плыве пара і густая прыемная цяплыня.

У Алеся Мельнічэнка гісторыя з левым ботам. Правы—прыкраніся, як па масле, сам зляціць, а левы—упарты бык. Цягні яго, пацей над ім, а ён ні з месца... Хлопцы распрануліся, шайкамі запасліся, парыцца пайшлі, а тут хоць забіся,—бот ні з месца.

Вясёлы чалавек Алесь, а зараз туга надыйшла. Так, глядзі, праз бот і ў лазні не пабудзе. Пары напэўна мабыць не застанецца... Вось табе і лазня без пары.

Дзякуй яму, аддзелькам Саушкін цэлую каманду на дапамогу паклікаў, —сцягнулі бот. Мельнічэнка з радасці скакануў, як быццам з вышыні ў ваду, да таварышоў парыцца.

— Ура, Мельнічэнка,—смяюцца навокал распараныя, непазнаваныя твары. Яму клапатліва саступаюць месца, даюць шайку, і ён пакрываецца пульхным мыльным снегам, спяшаецца дагнаць таварышоў.

— Алесь, ужо стары прышоў?

— Не яшчэ.

— Што гэта—ён сёння, заўсёды ў гэты час ужо тут?

— Прышоў,—сказаў хтосьці, на секунду высунуўшы галаву ў распранальню.

Даўно, вельмі даўно байцы нават не памятаюць месяц ці два, ці год, але быццам як стрэл меткага стралка ў дні, калі байцы ідуць у лазню, прыходзіць разам з імі мыцца і гэты стары.

Сустрэчы гэтыя былі кароткія, але байцы добра запамяталі і твар і фігуру і нават кожны гэст старога.

Ён прыходзіў з палкай. Пакідаў яе зразу ля дзвярэй. Потым здымаў шапку для агульнага прывітання і шоў да сваёй шафкі. Байцы ведалі, што сорак сёмы нумар за ім, і ніхто ніколі не адважыўся-б заняць яго месца.

Стары Фок хадзіў павольна. І калі ішоў, рукі яго, нібы прывязаныя да месца, застывалі.

Павольнасць была ў кожным руху. Ён займаў сваё месца. Левая рука і зараз была нібы застыўшай. Правай даставаў вышыты ў зоркі глыбокі кісет, зубамі адцягваў шнурок і перакульваў люльку.

Так было кожны раз. Байцы звыкліся з ім. У старога густыя хвалістыя валасы. На сівізне лапінкамі пападалася чорная смоль і гэтыя праменні маладосці былі незвычайнымі. Твар ён брыў. Гэта асвежвала маршчакі. Стары быў ахайна апрануты. Цёплая заячая шапка, поўкажушак з такім-жа каўняром. Шэры фрэнч, галіфэ і валёнкі. Распранаўся ён павольна. Левая рука была ўсё яшчэ нерухомай. Амаль што не падскокваючы, ён скідаў паліто, потым з такімі-ж патугамі здымаў фрэнч. Калі ён спускаў левы рукаў, відаць было па сашчэмленых зубах, што ён церпіць вялікі боль.

Некалькі раз байцы кідаліся памагаць яму, але, ён раззлаваны, адпіхваў іх здаровай рукой.

— Будзенаўцаў нянькі не даглядаюць. Пашлі на месца,—таксама хутка, як і сердаваў, адпускаўся стары.

Нарэшце „47“ замкнуты і папыхкаваючы вузкагорлай люлькай, стары хаваўся ў густых воблаках пары. Левая рука, як прыкаваная на месцы, і цяпер была нерухомай. Вышэй локця яна была бязлітасна скрамсана шрапнеллю.

...Галасоў не чуваць. Несупынны аднастайны гуд.

* * *

Мястэчка „ШэрыяВаўчкі“ ўзабралася на схон гары. Карабкалася, цягнулася да вяршаліны і вежай пажарнай амаль дабралася. Вежа адкрывае вуліцу, а вуліца, быццам мяч з горкі пушчаны, коціцца ўніз,

Вялікая вуліца-вёрст са дзве, а цікавага нічога. Домік да доміка, нібы суседкі плячом да пляча, цісяуцца. Тратуараў няма, ліхтароў таксама няма. Толькі канавы і равы, быццам хтосьці раней здагадаўся і акопы выкапаў. Садоў няма і рэчкі няма. Калі што ёсць, дык гэта мураваны дом папа Валакха Анастасьевіча Разанцава і пры доме тым унутраным бокам, не на вуліцу значыць, а ўглыб, пабудова вялікай каштоўнасці.

Над Валакхам Анастасьевічам ужо надмагільны помнік стаіць. А быў ён чалавек, апрача лісінай хітрасці, яшчэ і бытапісец. Уласна ён адзін і выявіў, адкуль узяліся „Шэрыя Ваўчкі". Меркаваў нават поп пра гэта працу пісаць. Паперу з горада выпісаў. Загаловак прыдумаў. Подпіс сваю каліграфічна вывеў. На гэтым і кропку паставіў. Расказваў Валакх Анастасьевіч, што калісьці паўз „Ваўчкі" тракт праходзіў, ездзіла па гэтым тракце чыноўнікаў безліч, а аднойчы і сама Екацярына праязджала. Да „Ваўчкоў" ехала—жыццю радавалася, а тут уночы раптам ваўкі. Перапалохалася да смерці і загадала тракт ад гэтага воўчага рова ў бок адвесці. Так і засталіся Ваўчкі без дарогі.

Стары Фок пускае сінія кольцы. Яны роўнамернымі прамежкамі бягуць адно за адным, быццам іх фокуснік спрытна нанізвае на палку. У ленінскім кутку мяккая канапа. Стары пасярэдзіне... Выхадны дзень.

— Так вось,—працягвае свой расказ Фок,—Валакх Анастасьевіч значыць у царкве гарачыя казанні гаварыў і ўсё ён заклікаў парафіян агульную лазню пабудаваць. Адно слова поп. Парафіян заклікаў, а сам сабе такую лазню пабудаваў, адным вокам зірні, хочаш, не хочаш,—мыцца пацягне.

Ехалі мы дзень, ехалі мы два, тры, чатыры, месяц, першы, другі, трэці... Раніцою бой ці ўдзень бой. Уначы бой. Кулямётнаму эскадрону заўсёды справы многа.

А мясцовасць, як на злосць—цемра і гразь. Ну, думаем. Бяляк не возьме—вош з'есць. Правільна Ільіч гаварыў—рэволюцыю замацаваць хочаш,—бі вош. А калі ты яе, чортава насенне, біць будзеш? Адну знішчыш—дваццаць новых... Вам смешна хлапчукі... Цяпер добра... Камандзір аддзялення адну-адзіную знойдзе,—палкавы мітынг скліча. Пайшлі мы ў штаб, да камэска нашага Блакітнага.

— Блакітнага,—прыўскоквае Алесь Мельнічэнка з месца,—цяперашняга камдзіва выходзіць.

— Ну, так, да яго. Ён тады камэскам быў. Так і так камэск. Даведаліся мы, што ў „Шэрых Ваўчках"—трыццаць вёрст адгэтуль—лазня ёсць, кажуць—на славу лазня. Просім камэска: „Шэрыя Ваўчкі" ўзяць, вельмі-ж памыцца не шкодзіла-б. Ну Блакітнага ўсе, спадзяюся ведаеце? Любы чалавек. Паглядзеў камэск на сваіх птушанят запэцканых ды запыленых і толькі два словы сказаў:

— Вяжыце венікі.

Радасць узнялася, як тополь выгінаецца. Пашла па конях каманда—не сядлай, не садзіся, а вяжы венікі.

Быў у нас такі кулямётчык Мазурык. Маленькі, вінтоўка яму вышэй галавы, а танцор—быццам спружыны ў нагах. На каня ўскаквае—танцуе, на тачанку лезе—танцуе, да камандзіра з рапартам ідзе—і то амаль не скача.

Так вось ён гэты Мазурык з радасці да таго ашалеў, што заскакаў між радамі гапака. Глядзі—коні задушаць, а ён хоць бы што. На тачанку ўскочыў і там не ўтаймуецца.

Біццам мы можам, а тут адчуваем, небывалай байцы быць. Вярнуліся разведчыкі, кажуць—сілы многа, умацаваны добра, а ў папоў.

скім доме—штаб і ў лазні той афіцэрыкі з бабамі мыюцца. З сабой панавезлі.

Рушыліся мы на „Ваўчкі“ нацянькі—нас адбілі. Кулямётамі, гранатамі такую калатню ўзнялі, што мы ледзь сілы адвялі. Блакітны аддае загад удвайне ўзняць меткасць, але лазню берагчы, ні куляй не кранудь.

Мазурык з кулямёта шпарыць, нагамі ў такт б‘е. Люба глядзець, як страляе.

Што за чорт? Камандзір даў загад рушыцца, а ён ляжыць, быццам загад не ўсіх тычыцца. І нагамі не водзіць. Падбеглі. Няма Мазурыка, не быць яму ў лазні, не кунежыцца ў мармуровай папоўскай ванне, не крычаць „пары, паддавай пары,“—узабраўшыся на самую высокую паліцу, пад столь.

Спі, дарагі таварыш! Асірацеў бедны „максім“, сіротамі засталіся і два вараных, Алесь ды Петрык, і тачанка, празваная Нюрай за тое, што на адным з прывалаў грамадзянка Нюра з цёмна-сінімі вачыма ласкава і клапатліва сцірала з яе пыл і анучкай абмывала колы.

Адышлі.

Прырода музыку сваю мае. Не ведаю, як хто з вас, а я яе адчуваю. Раніцою самыя ціхія тоны і дрэвы, і вецер, і жыта на полі захапляюць. А гэткай ціпыні, як у тую раніцу, я і не памятаю. Моцна слова не хочацца сказаць. Да таго цішыня, што стук свайго сэрца чуеш.

Што могуць кулямётчыкі пасля боя рабіць? Угадаць не цяжка. „Максімку“ змазваць ды чысціць. Былі ў нас у эскадроне два задушэўныя сябры—Шах і Мат. Шахноў і Мацюшэнка. Мы іх для каротkaсці шахматыстамі і празвалі. Абодва высокія, як пікі.

Комэск гэтых сяброў і ў разведку выслаў. Чысцім мы „максіма“, рулю і затвор, каробкі, станіну і колы. Раптам нашы разведчыкі бягуць і адзін аднаго за папружкі наровяць ухапіць:

— Дай, я.

— Не, я.

— Дзе камэск?

У абудвых выгляд, быццам чалавека на чатырох нагах убачылі. Мы бясспрэчна ад кулямётаў да іх.

— Што, Мацюшэнка, можа ў лазні папарыўся?

— Дзе камэск?

— Таварыш камэск „Шэрыя Ваўчкі“ вольныя. Афіцар‘ё ўначы адышло.

Камэск чалавек бывалы, але і яго ў першую хвіліну збянтэжылі.

— Пастка ці сапраўды адыход?

— Самі бачылі ці з размовы ведаеце?—пытае ён у разведчыкаў.

— Таварыш камэск, добра ведаем.

Камэск у хвіліны раздумлення ручку круглай шаблі вярцелкай круціць. Тады спакойна.

А сонца вышэй, і раніца ўсё глыбей уцягваецца ў дзень. Маўчым і цішыня такая, быццам і ветру ў прыродзе няма. Быццам лес песень ніколі не спявае.

Стаім і ў вочы камэску пытальнікам глядзім, а Блакітны ўсё ручку ад шаблі вярцёлкай верціць, і шабля ад гэтага ходырам ходзіць.

* * *

Лазня, трэба вам сказаць, Валакха Анастасьевіча пабудавана была ў самы раз для байцоў. І душ, і ванна, і палічкі папарыцца.

Ах, Мазурык, Мазурык, рана сваю голаву склаў. І да чаго-ж дажылі—вадою цела нібы ў шоўк перарабілі.

Хто памыўся,—ідзі змяняць пасты. Мой „максім" на даху папоўскага дома. З коміна лазні шызы дымок. Вокны расчынены. Горача хлопцам. Ірвецца смех. Барацьба загартавала. Лазня ў той дзень, што гулі на бомбах, а песня ўсё роўна з намі. Баец Чырвонай арміі песню ніколі не загубіць, заўсёды з сабою.

Сонца ўзнялося на ступень вышэй, потым яшчэ на адну. Ляжу я на даху ды з „максімам" гавару.

— Што, „максімка", нябось стаміўся? Даўно мы з табою... Ну, ды нічога. Цяпер мала засталося...

А сонца на „максімку" зайчыкамі гуляе і выходзіць, што ён мне ў адказ смяецца.

— Бач, які ты, Фок, сёння чысты. А наконт адпачынку не выдумляй, а не, дык камэску далажу.

— Добра, добра, „максімка".

Закурваю.

Выбух, быццам кацёл разарваўся. Адкуль? Адзін... другі. Больш я нічога не памятаю.

* * *

Неба вышыта зорамі. Начны лес... Дрэвы жывымі страшыдламі бягуць па баках.

— Дзе мы?

У твар вострымі іголкамі ўтыкаюцца саломінкі. Галава звісла ніжэй тулава, але няма сіл узняць яе... Воз цягнецца павольна па начной дарозе, яго бесперастанку кідае з боку на бок і ад гэтага—нясцерпны боль.

— Куры-ы-ць...

Абозны Катомка з хвіліны на хвіліну чакае гэтай просьбы. Загараецца светлячок запалкі.

— Катомка, Катомка, дзе нашы, хто ў „Ваўчках"?

— Потым, Фок, цябе загадалі не трывожыць.

— Трывожыць,—крычу я з апошніх сіл... З вялікімі патугамі ўздымаюся і зноў бездапаможна кідаюся.

— Катомачка, хто ў Ваўчках?.. Вязі мяне да нашых.

Ён садзіцца каля мяне і нахіляецца да твару.

— Паслухай, Фок, як ты сябе адчуваеш?

— Катомка, пакінь глупства, дзе нашы?

— У Ваўчках.

— Не падманвай, табе так загадалі гаварыць.

— Ды не... Фок, Табе патрэбна левая рука. Ты моцна паранены шрапнеллю. Наўрад ці яна застаенецца ў цябе. Але мы не разумеем, як ты выпусціў стужку... Нас пачалі абстрэльваць. Адзін знарад у паветры разарваўся над папоўскім домам. „Максімка" адкаціўся назад і ледзь не скінуў цябе з даху. Мы ледзь расчапілі далонь твае здаровай рукі, так яна сціснула ручку... Мы вышлі з Ваўчкоў, але на сёмай вярсце сустрэлі Сцяпана Пятроўскага з яго конніцай. Ваўчкі за намі—на заўсёды... Фок, а праўда добрая лазня... Слухай, Фок, Блакітны ўсміхаючыся загадаў перадаць, што ўзнагароджвае цябе „пажыццёвай лазняй"... дзе-б ён ні быў...

...Я засынаю. На момант перад вачыма зноў мільгае аксамітны вышыты ўзорамі дыван неба...

Яшчэ некалькі хвілін у ленінскім кутку была цішыня. Яе парушыў Мельнічэнка:

— Дык вось чаму мы цябе сустракаем у гарнізонцы.

Пераклаў з рускай мовы
В. Казлоўскі.

Д. КОНІК

# БЕЛАРУСКАЯ СОВЕЦКАЯ ЛІТАРАТУРА НА УЗДЫМЕ *)

## Пра паэзію.

Калі ў галіне прозы мы канстатуем адставанне, дык у галіне паэзіі гэтае адставанне яшчэ больш відавочнае. Праўда, рост паэзіі да апошняга часу бясспрэчны. Гэты рост сапраўдны. Ён ідзе як па лініі ідэйнага зместу, так і па лініі аўладання паэтамі мастацкім майстэрствам, майстэрствам паэтычнага слова, вобраза.

Апошнія гады вызначыліся паяўленнем значных твораў совецкіх і пролетарскіх паэтаў. Досыць назваць імёны Янкі Купалы, Александровіча, Харыка, Кульбака, Броўкі, Глебкі, Куляшова, Аксельрода, Камянецкага, Тэйфа, Кавальскага і шмат іншых. Асобна трэба адзначыць у гэтай сувязі буйны твор Янкі Купалы „Над ракою Арэсай“, твор пра перамагаючую моц социялістычнага будаўніцтва. Гэты твор вялікай мастацкай сілы, вялікага майстэрства. Ён ярка сведчыць пра каласальнае значэнне совецкай социялістычнай тэматыкі ў справе перавыхавання старога пакалення пісьменнікаў, у справе перагляду імі сваіх светапоглядных і творчых пазіцый. Ён яркі доказ сілы социялістычнага рэалізма як асноўнага метада совецкай літаратуры. Ён паказвае, што калі пісьменнік сумленна, сур'ёзна ставіцца да фактаў і з'яў нашай социялістычнай рэчаіснасці, сур'ёзна прыглядаецца да іх, вывучае іх, дык ён непазбежна ідзе да нас.

Аднак, як-бы высока ні ацэньвалі гэтага твору, усё-ж нельга цалкам згадзіцца з радам крытыкаў у ацэнцы яго. Купалу ў гэтым творы яшчэ шмат чаго не хапае. Не хапае яму ўсебаковага і глыбокага падыходу да з'яў социялістычнай рэчаіснасці, ахопу яе. Не хапае ў гэтым творы той паэтычнай сілы, якая ўласціва лепшым яго дарэволюцыйным вершам. Калі ў паэме „Над ракой Арэсай“ адчуваецца значная лірычная цяплыня ў абрысоўцы совецкіх людзей, з'яў совецкай рэчаіснасці, дык у ёй усё ж недастаткова адлюстравана сіла размаху, уласцівага социялістычнаму будаўніцтву, адсутнічае паказ арганічнай сувязі ўчастка „Над ракою Арэсай“ з усёй сістэмай социялістычнага будаўніцтва.

У сваім уступе да паэмы Янка Купала з вялікай сілаю мастака адлюстроўвае тое новае, што ўнесла рэволюцыя ў побыт і свядомасць людзей, пераробку чалавека Палесся, барацьбу за новае жыццё. Прыглядаючыся да новага жыцця, новых людзей, Янка Купала адкрывае многае, што для яго было схавана да гэтага часу.

Янка Купала, пераацэньваючы свае каштоўнасці, набліжаючыся, шчыльна да социялістычнага будаўніцтва, упяршыню пачуў песні комунараў, песні, якія ведае новае Палессе—новая калгасная вёска.

*) Прамова на першым з'ездзе ССПБ. (Канец, пачатак глядзі ў № 6—7).

Успамінаючы цяжкае жыццё мінулага, дарэволюцыйную Беларусь, паэт, на жаль, абыйшоў рост рэволюцыйнай самасвядомасці сялянства і праяўленне класавай барацьбы.

Жывуць людзі ў хатах,
Плятуць сабе лапці,
Каб з торбай у латах
Пайсці жабраваці.
Праз леты і зімы
Паданне йшло ў векі:
— Паляшукі мы,
А не чалавекі.

Рэчаіснасць была іншая. Паляшук не толькі лапці плёў і не толькі жабраваў, але і вёў класавую барацьбу з самадзяржаўем і памешчыкамі.

Або, паказваючы разгортванне соцыялістычнага будаўніцтва, паэт зводзіць паляшука да пасіўнага глядача, а не актыўнага барацьбіта

Не дабачыў паляшук
З хаты беззаконнай
Дзён надыходзячых без мук,
Без трудоў прыгонных.

Паляшук не толькі бачыў прыход гэтых вялікіх дзён перамогі Совецкай Буларусі, але ён асабіста актыўна ўдзельнічаў у гэтай барацьбе з ворагамі совецкай улады.

Таксама не менш памылковы погляд паэт паказаў у выступленні старшыні комуны Модзіна. Падамо выступленне Модзіна на сходзе комунараў:

Ліквідуйце гаспадарку—
Парасят, авечак, коні,
І прыводзьце у комуну
Комунаркі хоць сягоння.
Хто жанаты, вязі жонку—
Без падушкі ці з падушкай,
Хто не мае жонкі, звонку,
Пашукай сабе падружку.

Модзін тут агітуе за дробнабуржуазную ўраўнілаўку, пра што тав. Сталін гаварыў на XVII з'ездзе партыі, як „пра самы слабы бок комуны".

Не гледзячы на ўсе гэтыя паасобныя памылкі, якія ёсць у паэме Янкі Купалы, „Над ракой Арэсай" з'яўляецца адным з лепшых твораў Совецкай Беларусі. Паэт паказаў, як змянілася палескае балота, самы адсталы куток царскай калоніі,—Палессе балот, каўтуноў, гразі, адзічання,—і як на гэтым балоце вырасла комуна. У гэтым творы Янка Купала паказвае таксама сваю ўласную рашучую перабудову. Як цёпла гучаць словы паэта пра перамогу соцыялізма на Палессі:

А па рэчцы па Арэсе
Бегае маторка,
Стары човен, як карыта,
Пазірае горка.
Дажывае свайго веку
На яве ўжо новай,
Бо ўжо човен у Палессе
Урэзаўся сталёвы.

Астаецца пажадаць, каб Янка Купала паказаў, як „сталёвы човен" плыве далей па шляху соцыялістычнага будаўніцтва Беларусі. І будзем верыць, што Янка Купала апраўдае словы, сказаныя ім-жа:

Ды час прыдзе, ды паклічуць
Да новай работы.,
Пойдзем асушаць з вінтоўкай
Пінскія балоты!

Паэт Купала, як верны сын калгаснага сялянства, усвядоміўшы ролю рабочага класа, як гегемона пролетарскай рэволюцыі, вышаў на шырокую дарогу, якая вядзе яго ў адным толькі кірунку—да соцыялізма.

Аднак, трэба адзначыць, што працоўныя масы, рабочыя і калгаснікі чакаюць ад Купалы больш актыўнага і жывога, водгуку на запатрабаванні сучаснаму этапу соцыялістычнага будаўніцтва*).

Паэт А. Александровіч з'яўляецца адным з выдатных пролетарскіх паэтаў. За гэтыя гады ім напісаны такія творы, як „Хлебная зіма", „Векапомная восень", „Шчаслівая дарога", „Песня пролетарскай еднасці" і г. д.

Для Александровіча характэрна яго жывая адзыўчывасць на баявыя задачы партыйнай палітыкі. Прычым адзыўчывасць не на шкоду мастацкаму яго росту. Такія яго творы, як „Песня пролетарскай еднасці", „Векапомная восень", „Шчаслівая дарога", з'яўляюцца выдатнымі і ў мастацкім сэнсе сярод твораў беларускай паэзіі апошніх год.

Асаблівасцю Александровіча з'яўляецца тое, што ён тэм для сваёй паэзіі не выдумляе, падобна некаторым іншым, бярэ іх з жывой практыкі класавай барацьбы, з жывой практыкі соцыялістычнага будаўніцтва.

Ён не грэбуе пісаць на тэму пра нарыхтоўкі. Ён умее любое закранутае ім пытанне падаць у мастацкіх вобразах значнай сілы. Ён не грэбуе паказваць у мастацкіх формах новыя формы кулацтва, выкрыць яго; заклікаць чытача да масавай пільнасці; апяяць правадыра партыі; паказаць інтэрнацыянальнае адзінства працоўных СССР.

Творчасць Александровіча не з'яўляецца простым „адлюстравальніцтвам", яна класава актыўная, партыйна завостраная. Яна заклікае бадзёрыць. Да таго-ж яна і праблемная. „Шчаслівая дарога" з'яўляецца значнай паэмай для дадзенага этапа соцыялістычнага будаўніцтва. Паэма „Шчаслівая дарога" цікавая, займальная і з'яўляецца каштоўным мастацкім падаркам нашым дзецям.

Рост Александровіча у прыватнасці і выражаецца ў яго рэалістычным аналізе з'яў, ў яго пранікненні ў глыб з'яў, людзей, не ў іх знадворнай абрысоўцы, а знутра.

Аднак, варта адзначыць рад недахопаў, якія ёсць у творчасці Андрэя Александровіча. У гэтых адносінах варта вылучыць пытанне, якое з'яўляецца актуальным пытаннем у творчасці Андрэя Александровіча. Справа ідзе пра паказ сапраўдных людзей—будаўнікоў соцыялізма. Не гледзячы на рост герояў Александровіча, усё-ж трэба прызнаць, што паказаць у мастацкіх вобразах рабочага-ўдарніка, члена партыі, комсамольца Александровічу не ўдалося. Бадай усе героі яго значных твораў хварэюць на той ці іншы дэфект. Для ілюстрацыі гэтага палажэння падамо наступныя прыклады.

Як паказвае Александровіч большэвіка Бахрыма па кіраўніцтву асобным участкам соцыялістычнага будаўніцтва?

> Першым, што зрабіў я—напісаў загад:
> скараціць распухшы канцылярскі штат,
> зменшыць лік камісій, сходаў, пасяджэнняў,
> разам з тым і лішні папяровы чад.
> Не для ўвасхвалення, а скажу сумленна,
> я дабіўся ў трэсце поўнай перамены.

*) Мы павінны адзначыць далейшую творчую актывізацыю Янкі Купалы. За апошні час Я. Купала надрукаваў шэраг вершаў, („Чэлюскінцам", „Трэба нам песні" „На што канстытуцыя" і інш.), якімі ён уключаецца ў баявую актуальнасць соцыялістычнай будоўлі.

У чым выразілася гэтая „поўная перамена"—невядома.

Большэвік Бахрым на фоне безумоўнай значнасці гэтага паэтычнага твора тав. Александровіча не ў дастатковай ступені бальшэвізаваны.

Паказ соцыялістычнага будаўніцтва дадзены ў выглядзе „загаду"—Бахрыма пра скарачэнне штата.

На той стадыі соцыялістычнага будаўніцтва, калі паэт Александровіч пісаў гэтую паэму, пытанні рэжыма эканоміі і скарачэння штатаў дзяржапарата—была не менш важная задача, чым цяпер. Але паказаць Бахрыма, як кіраўніка гаспадарчай арганізацыі ў такім выглядзе, як яго паказвае ў паэме тав. Александровіч,—гэта значыць значна абмежаваць ролю большэвіка, як актыўнага будаўніка соцыялізма.

Перад арыштам Бахрым успамінае:

Помню сход партыйны, білі адмыслова
Па акопах склокі жорстка, так сурова.
Дырэктыва сходу—для мяне загад:
Скараціць нягодных, скласці новы штат...

За межамі скарачэння штата апарата Бахрым сябе не праявіў, а задачы-ж Бахрыма былі больш шырокія, чым тыя, якія ён сабе ставіў.

Клім у „Напоры" значна вырас як член партыі, але таксама мае яшчэ багата недахопаў.

Клім заяўляе, што „дысцыпліна партыі—закон", што партыя ў краіне—кіраўнік яе—галоўная кіруючая роля.

Гэта публіцыстыка, а задача паэта—вобразна паказаць большэвіка такім чынам, каб кожны адчуваў сілу і моц кіруючай ролі партыі.

Клім сваімі дзеямі не заваяваў сабе аўтарытэту, хоць паэт стараецца падняць аўтарытэт Кліма ў вачах мас.

Ці вазьміце, напрыклад, разуменне Александровічам адносін да кахання і працы? Калі ў паэме „Большэвік Бахрым" паэт раіць свайму герою ніколі „не злучаць любові і барацьбы", дык у паэме „Восень" гэтае супроцьстаўленне таксама знаходзіць сваё месца.

Пакуль зладзіш добры лад
Справы гаспадарскай—
Ой, не ўспомніш пра дзяўчат,
Пра пяшчотнасць, ласкі.

Мы гэты прыклад узялі толькі для таго, каб паказаць, што і Янук у паэме „Векапомная восень", не гледзячы на яго значны рост у параўнанні з Бахрымам, усё-ж яшчэ поўнацэннага паказу не атрымаў.

Не гледзячы на ўсе гэтыя недахопы, як я ўжо сказаў, уласцівыя ўсім нашым пісьменнікам, Андрэй Александровіч, безумоўна, растучы паэт і вялікі майстар паэтычнага слова.

Слаба актывізуецца такі выдатны паэт, як Міхась Чарот. Чарот з'яўляецца заснавальнікам рэволюцыйнай пролетарскай паэзіі ў Беларусі. Рад яго твораў, як „Босыя на вогнішчы", „Суровы прыгавор подпісваю першым" да гэтага часу астаюцца выдатнымі палітычнымі творамі беларускай паэзіі. Партыя, рабочы клас ад яго патрабуюць паэтычнай творчасці, не адпачываць на дасягнутым. І тут трэба кінуць сур'ёзны папрок Аргкамітэту, які мала зрабіў для актывізацыі Чарота, для стварэння яму адпаведнай абстаноўкі і ўмоў творчай работы. (Трэба перагмагчы хадзячую думку, што Чарот больш нічога не дасць. Гэта шкодная думка, якая не толькі не памагае творчай актывізацыі таварыша, а, наадварот,—перашкаджае ёй).

У творчасці П. Броўкі варта адзначыць актуальнасць, палітычную завостранасць, ідэйную мэтанакіраванасць. Гэта асноўная палітычная

якасць яго твораў. Броўка—паэт чулы да совецкай рэчаіснасці. Ён, падобна Александровічу, умее браць жыццёвыя тэмы, праблемы і пытанні, хвалюючыя мільёны будаўнікоў соцыялізма. Ён умее намацваць жыццёвую рэчаіснасць і браць у яе значныя, жывыя пытанні, умее іх ставіць і ў радзе выпадкаў палітычна правільна іх развязваць. Гэтая якасць вельмі істотная для паэта.

Мы лічым, што яго верш „Наша бацькаўшчына СССР" з'яўляецца вельмі актуальным у справе соцыялістычнага выхавання працоўных мас. Тое самае і ў дачыненні да паэмы „Так пчыналася маладосць",— паэмы пра героіку комсамольскага падполля, якая (паэма) з'яўляецца значным укладам у совецкую паэзію. Пры ўсіх staноўчых якасцях Броўкі, як паэта, яго творы носяць сляды недапрацоўкі, часамі недастаткова сур'ёзнага і глыбокага вывучэння матэрыялу, асэнсоўвання яго.

Крыху інакай даводзіцца гаварыць пра паэтаў Глебку і Хведаровіча. Глебка з'яўляецца адным з даволі паэтычна-пісьменных паэтаў, у мінулым даволі творча актыўным. Рад яго твораў, напрыклад паэма „Арлянка", становяць сабою значную паэтычную каштоўнасць. Аднак паэт Глебка цвёрды ідэйна-творчы шлях толькі намацвае, пра што сведчаць яго апошнія некаторыя вершы, як верш „Пра вясну і рэволюцыю", які носіць на сабе груз не нашай рамантыкі.

Нельга сказаць, каб верш „Кара", напісаны тав. Глебкам на смерць члена ЦК КПП тав. Рэдыко быў пазбаўлены сур'ёзных недахопаў.

Глебка слаба разумее класавы сэнс той барацьбы, якую вёў т. Рэдыко, як член комуністычнай партыі.

> І ты,
> Калі быў над Млавай
> Падняты чырвоны сцяг,
> Пайшоў ваяваць за права
> На роўную долю жыцця.

Уся гэтая сэнтыментальна-народніцкая лексіка „за права на роўную долю жыцця" яўна не да твару комуністу.

Тав. Глебку варта больш удумліва вывучаць совецкую рэчаіснасць, жывую практыку мільёнаў, жывое жыццё, якое-б апладатварыла яго і тэмамі, і вобразамі, і ідэямі.

Што да Хведаровіча, дык не гледзячы на рост гэтага паэта, яго паэтычная індывідуальнасць яшчэ не зусім ярка акрэслена, не вызначана.

Апошнія творы Хведаровіча „Палітаддзел МТС" нельга, вядома, не вітаць. Хведаровіч пры агульцым замоўчванні гэтай тэматыкі, узяўся за гэту тэму і ў асноўным яе распрацаваў. Вялікі недахоп гэтага верша— гэта неглыбокае вывучэнне і веданне паэтам палітаддзела, як партыйна-выхаваўчага органа партыі на вёсцы. Ён успрыняў ролю палітаддзелаў МТС крыху павярхоўна. Палітаддзел МТС у Хведаровіча з'яўляецца ў калгасе „любімым гасцём". Тав. Хведаровічу трэба ўважліва ўлічыць заўвагі, зробленыя на яго адрас паасобнымі пісьменнікамі на з'ездзе.

З маладых, асабліва комсамольскіх паэтаў, трэба адзначыць таленавітага паэта А. Куляшова. У пошуках уласнага паэтычнага шляху ён нярэдка спатыкаецца („Аманал"), але ў ім ужо адчуваецца арыгінальная паэтычная сіла.

### Драматургія

Рост совецкай літаратуры БССР падцвярджаецца і тымі рэальнымі фактамі значных поспехаў, якія дасягнуты ў нас на вядучым і прытым найбольш цяжкім участку літаратуры—у галіне драматургіі.

Для ўсіх вас зразумела тое аграмаднае значэнне, якое мае драматургія, як магутны сродак соцыялістычнага выхавання праз тэатр шырокіх мас працоўных.

Скарыстоўваючы living разнастайнасць жанраў (драма, камедыя і інш.), драматургія найбольш наглядна, найбольш моцна ўздзейнічае на глядача, павышае класавую пільнасць працоўных, мабілізуе, дае зарадку для ўпартай, радаснай працы на фронце будаўніцтва соцыялізма.

Драматургія і тэатр з'яўляюцца, такім чынам, моцным сродкам комуністычнага выхавання.

Добры драматургічны твор падымае на аграмадную вышыню ідэйна—мастацкую якасць работы тэатра, яго папулярнасць сярод савецкай грамадскасці. Досыць прыгадаць, напрыклад, ролю п'есы т. Кобеца „Гута“ і Гурскага „Качагары“ ў справе ідэйна-мастацкага росту белдзяржтэатраў, каб наглядна пераканацца ў вялізарным вядучым значэнні драматургіі ў галіне стварэння сілы соцыялістычнага ўздзейнічання тэатральнага мастацтва на гледача.

З разумення гэтага значэння драматургіі выходзілі і нашы некаторыя празаікі, паэты, якія далі паасобныя драматургічныя творы—„Бацькаўшчына“ Чорнага, „Напор“ Александровіча і інш. Аднак, кадры драматургіі ў нас аставаліся вельмі абмежаванымі. Мы маем толькі паасобных таварышоў, якія працуюць як драматургі: Кобец, Гурскі, Рамановіч.

Рост творчай актыўнасці пераважнай большасці нашых пісьменнікаў, які ёсць у апошні перыяд, у сувязі з перабудовай работы літаратурных арганізацый, на аснове рашэння ЦК ВКП(б), і ЦК КП(б)Б, даў станоўчыя вынікі і ў галіне далейшага развіцця нашай драматургіі. Указанне любімага нашага правадыра т. Сталіна на неабходнасць і важнасць дасканалага аўладання адказнейшым вядучым участкам літаратуры—драматургіяй для забеспячэння высокага ідэйна мастацкага развіцця ўсёй літаратурнай справы—знайшлі практычнае праламленне ў апошні перыяд у рабоце нашай літаратурнай арганізацыі.

Правядзенне спецыяльнай нарады па пытаннях драматургіі, а таксама правядзенне конкурса на лепшую п'есу павярнулі ўвагу пісьменніцкай грамадскасці да чарговых задач развіцця драматургіі.

Значная колькасць (каля 70) пададзеных на конкурс п'ес, напісаных прафесіянальнымі драматургамі, пісьменнікамі-празаікамі, настаўнікамі, работнікамі разнастайных участкаў нашай соцыялістычнай будоўлі,—сведчаць пра каласальную зацікаўленасць пытаннямі развіцця драматургіі і тэатра.

Шырокі прыток кадраў, якія хочуць працаваць над стварэннем п'ес для савецкага глядача,—паказчык аграмадных зрухаў у справе магчымасці стварэння пры ўпартай рабоце моцнага ядра драматургаў.

Конкурс таксама абагаціў ідэйна-тэматычна нашу драматургію. Барацьба з беларускім контррэволюцыйным нацыянал-дэмакратызмам, сцвярджэнне калгаснага ладу, рэволюцыйны рух у капіталістычных краінах, пытанні класавай барацьбы, барацьба за чыстату радоў партыі і вялікая колькасць іншых тэм разнасталі змест пададзеных на конкурс п'ес.

Журы конкурса ў выніку разгляда паступіўшых п'ес дало адпаведную ацэнку толькі васьмі п'есам. Двум п'есам прысуджаны другія прэміі—„Канец дружбы“ Крапівы і „Забастоўка жняцоў“ Зыскінда Лева. Трэцюю прэмію атрымала п'еса „Великодушие“ Галаўчынера. Апошнія пяць п'ес, якія вы ведаеце, журы палічыла магчымым рэка-

мендаваць да пастаноўкі пры ўмове грунтоўнай далейшай работы над імі аўтараў.

Вынікі конкурса, як бачыце, маюць вялікае рэальнае значанне у прыватнасці, з пункту погляду дадатковага абагачэння канкрэтнай прадукцыяй нашай драматургіі. Але, вядома, яны далёка не могуць нас задаволіць. Той факт, што журы не здолела прысудзіць першай прэміі, а гэтая думка падзяляецца не толькі складам журы, сведчыць пра адставанне драматургіі, пра адставанне п'ес, ідэйна-мастацкая якасць якіх адказвала-б высокім культурным запатрабаванням працоўных нашай соцыялістычнай эпохі.

Бясспрэчна, што ідэйна-мастацкі ўзровень совецкай нашай драматургіі ўзрос асабліва ў выніку конкурса, але для ўсіх нас відавочна, што драматургія астаецца яшчэ на больш нізкім узроўні ў параўнанні з нашай прозай і паэзіяй. Недахопы, уласцівыя ўсёй совецкай літаратуры БССР у галіне драматургіі выяўляюцца з вялікай сілай. Тут патрэбна асабліва ўпартая работа аўтара над творам. „П'еса-драма, камедыя,—гаворыць вялікі пролетарскі майстар літаратуры А. М. Горкі,— самая цяжкая форма літаратуры, цяжкая таму, што п'еса патрабуе, каб кожная дзейная ў ёй адзінка характарызавалася і словам і справай самасільна—без падказванняў з боку аўтара".

Прыклад работы паасобных пісьменнікаў паказвае, як яны шляхам упартай працы над п'есай пачынаюць перамагаць гэтыя цяжкасці.

Узяць, напрыклад, адну з лепшых конкурсных п'ес—„Канец дружбы" Крапівы. Тав. Крапіва даў добрую рэч, тэматычна ідэйна-завостраную. У першых варыянтах ён асноўных пытанняў не мог развязаць, але пасля ўпартай працай, самакрытычна ставячыся да сваёй работы, прыслухоўваючыся да голасу крытыкі, тав. Крапіва прышоў да станоўчых вынікаў у сваёй рабоце.

Гэтай якасці—упарта працаваць—не хапае многім нашым драматургам, у прыватнасці тав. Гурскаму, які, працуючы над п'есай „Маці", ствараючы вялікае палатно з устаноўкай на большэвіцкі паказ грамадзянскай вайны ў Беларусі, не задумаўся яшчэ і яшчэ раз над выпраўленнем дапушчаных ім ідэйна-мастацкіх зрываў, у прыватнасці ў падачы такіх асноўных дзейных асоб, як Алеська і інш.

Істотнай заганай у справе барацьбы за развіццё драматургіі з'яўляецца пасіўнасць у гэтых адносінах рада пісьменнікаў, якія далі ў мінулым драматычныя творы. Я маю на ўвазе тт. Александровіча, Харыка, Коласа, Купалу.

Трэба змагацца за пашырэнне тэматыкі нашай драматургіі. Адсутнасць на конкурсе п'ес з індустрыяльнай тэматыкай з'яўляецца велізарным мінусам і лішні раз падкрэслівае адставанне драматургіі БССР ад узроўня соцыялістычнага будаўніцтва.

Таксама мы не маем за апошні час п'ес па пытаннях абароннай тэматыкі, а гэта ва ўмовах БССР з'яўляецца нічым не апраўданым прарывам у рабоце літаратурнай арганізацыі. І зусім правільна завастралі тут таварышы пісьменнікі ўвагу на неабходнасці рашучага павароту літаратуры да пытанняў абароны Краіны Советаў. Стварэнне высокіх ідэйна-мастацкіх твораў абароннай тэматыкі з'яўляецца справай гонару совецкіх пісьменнікаў БССР.

Вельмі неабходна абагаціць жанры драматургіі БССР. Асаблівую ўвагу трэба аддаць стварэнню камеды, якой у нас зусім няма. На прыкладзе поспехаў, з якімі ідзе ў рускім дзяржаўным тэатры БССР п'еса „Чужой ребенок", можна бачыць актуальнасць гэтага жанра, патрэбнасць у здаровым жыццярадасным смеху, вырашым у выніку

карэннага паляпшэння матэрыяльна-бытавых умоў шырокіх працоўных мас у нашай краіне.

Зусім нездавальняюча, за выключэннем, бадай, БДТ 1, пастаўлена сувязь тэатра з драматургамі, і наадварот. Пра гэта, таварышы, амаль не гаварылі тут. Між тым пытанні работы тэатра, сумеснай работы драматургіі з тэатрам, павінны быць у цэнтры ўвагі не толькі секцыі драматургаў, чым яна, на жаль, таксама мала займаецца, але і кроўнай справай усёй літаратурнай арганізацыі.

І апошняя заўвага пра нашу тэатральную крытыку.

Тэатральная крытыка, крытыка ў галіне драматургіі ў нас, у БССР, пачынае толькі станавіцца на ногі. Яна ў нас прадстаўлена толькі двума таварышамі—тт. Вольскім і Модэлем, калі не лічыць паасобных артыкулаў некаторых таварышоў па гэтых пытаннях, напісаных імі „паміж справы". Было-б зусім няправільным не даацэньваць значэння тэатральнай крытыкі, асабліва ўлічваючы адставанне драматургіі і аграмадныя задачы яе далейшага развіцця. Да таго-ж наша крытыка драматургіі, не гледзячы на яе малады ўзрост, паспела зарэкамендаваць сябе не толькі з боку добрых паводзін. Элементы крытыкі па прынцыпу „сваіх людзей", пра што гаварыў т. Стэцкі, маюць месца ў нашай крытыцы драматургіі.

Некаторыя таварышы, якія захвальвалі ў пачатку п'есу „Маці", зрабілі мядзведжую паслугу т. Гурскаму, не штурхнуўшы яго на далейшую ідэйную работу над ёй. А счакаўшы невялікі прамежак часу, ці амаль у той-жа час, гэтыя таварышы даюць зусім іншую, супроцьлеглую, ацэнку, „Маці". Параўнайце, напрыклад, выступленне т. Вольскага ў „Звяздзе" і яго ацэнку, дадзеную ім „Маці" на з'ездзе, ці выступленне т. Модэля ў часопісі „Полымя рэволюцыі" № 3 па пытанню „Маці" і яго-ж выступленне на II пленуме Аргкамітэта. Ясна, што падобныя зігзагі не зробяць з нашай крытыкі сродка, дапамагаючага росту аўтара, устанаўліваючага сувязь апошняга з чытачом, з гледачом.

Гаворачы пра памылкі тт. Вольскага і Модэля, я зусім не хачу сказаць, што яны толькі гэтым характэрны. Наадварот,—гэтыя таварышы робяць вялікую работу ў справе развіцця крытыкі драматургіі і тым самым актыўна змагаюцца за наступныя вышэйшыя ступені развіцця драматургіі БССР.

Трэба ўпарта папрацаваць усёй нашай пісьменніцкай грамадскасці над гэтым важным, складаным і самым цяжкім жанрам літаратуры— над драматургіяй,—і мы напэўна даб'емся ўзораў высокаякаснага драматургічнага мастацтва, мабілізуючага працоўныя масы на развязанне найвялікшых задач пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

**Пра крытыку**

Некалькі слоў пра нашу крытыку. Мы маем у нашым асяроддзі нядрэнных крытыкаў, памойму грунтоўна намацаўшых асноўныя шляхі і вехі сваёй работы. Тт. Бранштэйн, Клімковіч, Дунец, Кучар, Вольскі, Модэль—гэтыя таварышы працуюць упарта над развязаннем пытанняў крытыкі і паднялі ўжо цэлы рад праблем.

Некалькі заўваг пра даклад т. Бранштэйна. Я яго, праўда, не чуў, але я пазнаёміўся з яго тэзісамі. Даклад надзвычай багаты, у ім закрануты рад асноўных пытанняў нашай літаратуры.

Тав. Кучар у сваім дакладзе паказаў нам, што ён нядрэнна ведае нашу паэзію, што лінія ў яго ёсць, але ў яго ёсць рад недахопаў. Ён падаў шмат фактычнага матэрыялу, вырванага з канкрэтнага кантэк-

ста паэзіі, і не абагуліў яго, не ўвязаў, не пераварыў гэтага матэрыялу і не зрабіў неабходных вывадаў з закранутых ім цікавых пытанняў.

Крытычныя працы класікаў марксізма вызначаюцца найвялікшай партыйнай завостранасцю, уважлівымі адносінамі да пісьменніка, глыбокім, усебаковым аналізам твора. Іх цікавіў не толькі ідэйны змест твораў, але і форма, і якасць, і, самае галоўнае, рэальны паказ мастаком гістарычнай праўды.

Наша крытыка далёка яшчэ не заўсёды стаіць на тым высокім тэарэтычным і палітычным узроўні, які неабходны для развязвання задач, што стаяць, у сучаснасці. Першачарговая задача нашай крытыкі, выцякаючай з гістарычных рашэнняў ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый і іх работы, і рашэнняў XVII з'езда нашай партыі, з'яўляецца паглыбленая тэарэтычная вучоба і, перш за ўсё, вучоба нашай крытыкі ў класікаў марксізма-ленінізма. І ў гэтай рабоце немалаважную ролю можа іграць багатая літаратурна-мастацкая спадчына Маркса—Энгельса—Леніна і гістарычныя выступленні т. Сталіна.

Для таго, каб даць правільную ацэнку таму ці іншаму твору, наша крытыка павінна выключна вялікую ўвагу аддаваць усебаковаму і глыбокаму даследванню пытанняў светапогляду пісьменніка. Крытыка здолее дапамагчы пісьменніку і ўскрыць недахопы і станоўчыя бакі твора толькі на аснове грунтоўнага разбору твора пісьменніка.

Наша крытыка, на мой погляд, слаба кіруе даручаным ёй участкам. Наша крытыка не сістэматычная, а выпадковая. Яна часамі павярхоўная, не распрацоўвае глыбока таго ці іншага твора. Па зместу і асабліва па форме яна мала сочыць за кожным у паасобку пісьменнікам, за яго ростам, светапоглядам, не заўсёды памагае яму. Калі з пункту погляду зместу мастацкі твор атрымлівае тую ці іншую ацэнку, дык з пункту погляду якасці і мастацкай формы не заўсёды— рэдка. Гэта, вядома, не значыць, што крытыка „наогул“ абыходзіць форму, не цікавіцца ёю. Не, яна яе не абыходзіць, яна твора не пакідае без увагі і з боку формы, але які разгляд? Вельмі часта даецца ацэнка „высокамастацкая“ ці „маламастацкая“ і г. д., і некаторыя крытыкі лічаць на гэтым сваю місію вычарпанай.

Калі ўважліва прааналізаваць нашу крытыку з пункту погляду падыходу да пісьменніка, да твора, дык, на маю думку, можна ўстанавіць тры віды адмоўнай крытыкі. Першы від крытыкі—гэта крытыка куранячага парадку: па зернятку падзяўбе і ставіць штамп „маламастацкі“, ці іншага парадку ацэнку, сур'ёзна нават не прачытаўшы твора. Другі від крытыкі—гэта крытыка салаўінага парадку, калі сапраўдная крытыка разбору твора падмяняецца салаўінымі песнямі, што, моў, „твор надзвычайны“, „высокамастацкі“ і г. д. і т. п.

Трэці від крытыкі—гэта ўсім нам вядомы метад. Не мала з вас тут прысутных перанёс яго на сваёй спіне—гэта арліная крытыка. Гэты крытык ужо калі паклюе, дык не толькі твор расклюе, але часта і пячонка пісьменніка пасля падобнай крытыкі астаецца пашкоджанай. Некаторыя таварышы называюць гэты від крытыкі яшчэ і „аглабельнай“, бадай і гэта будзе правільнае азначэнне. Падобная крытыка мае на ўвазе, відавочна, адну мэту—прышчапіць пісьменніку перакананне, што „рожденный ползать летать не может“. „Ці не лепш табе змяніць сваю прафесію?“, „патрымайся за пяро і хопіць, дай другому патрымацца“ і г. д. Які від з пералічаных найгоршы? Ясна, што ўсе мною пералічаныя віды крытыкі найгоршыя.

Мы павінны падняць нашу крытыку на больш высокі ідэйна-мастацкі ўзровень. Наша крытыка павінна змагацца за аўладанне тэхнікай сваёй справы. Падыход да пісьменніка павінен быць чулы. Максімум увагі да кожнага твора, сур'ёзны разгляд яго. Вялікая адказнасць ускладзена на нашу крытыку за рост і выхаванне нашых маладых падрастаючых пісьменніцкіх кадраў, да гэтай катэгорыі пісьменнікаў патрэбен асобны падыход. Разам з рашучым ускрыццём недахопу твара, павінна быць сапраўдная вучоба, трэба паказаць маладому пісьменніку, як у далейшым папраўляць гэтыя недахопы. Пісьменніцкая крытыка, якая здзейснівае кіраўніцтва нашай літаратурай, абавязана звязаць пісьменніка з чытачом ніцямі большэвіцкага разумення нашай літаратурнай творчасці.

Задача крытыкі—раскрыць перад масай пісьменніка, яго ідэйна-творчае аблічча, яго вобразы.

Прыгадайце геніяльны артыкул Леніна пра творчасць Талстога. Гэтыя артыкулы з аграмаднай сілай ускрываюць сутнасць талстоўства ў літаратуры і ў філасофіі. Яны раскрываюць перад вамі Талстога, як своеасаблівае „люстэрка рускай рэволюцыі". Або вазьміце крытыку Белінскага. Прачытайце яго артыкул пра Лермантава. Прачытаўшы гэта, вы самі ўпэўніцеся, што магутная прыгожасць лермантаўскай паэзіі непараўнальна лепш адчуваецца вамі цяпер, як адчувалася раней, да таго, як вы пазнаёміліся з водгукамі пра яе Белінскага.

Поруч з гэтым наша крытыка павінна, не „заклёўваючы" белетрыстаў, прад'яўляць ім самыя сур'ёзныя патрабаванні. Адзін з важнейшых недахопаў нашай крытыкі ў тым, што яна гэтага не робіць. Пра гэта не дрэнна гаварыў Чэрнышэўскі. „Прычына бяссілля сучаснай крытыкі (між іншым) тая, што яна стала занадта ўступчывая, неразборлівая, малапатрабавальная, здавальняецца такімі творамі, якія рашуча нікчэмныя, захапляецца такімі творамі, якія больш-менш нішто. Яна стаіць на ўзроўні з тымі творамі, якімі захапляецца; як-жа вы хочаце, каб яна мела жывое значэнне для публікі? Яна ніжэй за публіку. Такой крытыкай могуць быць здаволены пісьменнікі, дрэнныя творы якіх яна ўсхваляе. Публіка застаецца ёю нагэтулькі здаволена, наколькі тымі вершамі, драмамі і раманамі, якія рэкамендуюцца ўвазе чытачоў у яе далікатных разглядах... Не, крытыка павінна стаць куды стражэйшай, сур'ёзнейшай, калі хоча быць вартай імя крытыкі. Многаму можна навучыцца нашай крытыцы ў класікаў рускай літаратуры".

Дазвольце падаць некалькі фактаў, якія характарызуюць нашу крытыку таксама пад тым жа кутом зроку пра месца комуніста ў нашай паэзіі. Пачну з „Напора" Андрэя Александровіча. Вось як ацэньвае наша крытыка Кліма.

„Клім, як сакратар партыйнага калектыва, адчуваецца на кожным участку вытворчага працэса завода. Іменна яму належыць апошняе слова ў развязанні вытворчых ці бытавых пытанняў. Уся ўдарная напорыстая праца комсамольцаў адбываецца пад яго непасрэдным кіраўніцтвам. Клім глыбока ўваходзіць у кожную з'яву заводскага жыцця. Ён крок за крокам з усёй большэвіцкай цвёрдасцю праводзіць на заводзе лінію партыі, не дапускаючы ніякіх ад яе адхіленняў".

Ці правільна дадзена крытыкай ацэнка гэтага твору? Памойму, не.

Не верна, што Клім „крок за крокам" з большэвіцкай цвёрдасцю праводзіў на заводзе лінію партыі. Навошта-ж крытыка ўводзіць у заблуджэнне чытача?

Найбольш яркія і мастацкія моманты ў паэме Александровіча „Пагранічная вясна"—гэта тыя, дзе Александровіч у простай, яснай напеўнай дынамічнай форме заклікае:

> Ї чуе сэрца гул падземны:
> Сей агонь!
> Падымайся, пад'ярэмны,
> Сей агонь!
> У далінах Віслы, Шары
> Сей агонь!
> Край збярэ ўраджай пажараў,
> Сей агонь!
> Больш агню—запалу болей,
> Сей агонь!
> Воля родзіцца ў падполлі.
> Сей агонь!

Па-мойму, верш надзвычай добры.

Аднак і ў гэтай паэме крытыка знаходзіць лішнюю стракатасць, знарочнае ўжыванне эпітэтаў, метафар, якія, моў, толькі перашкаджаюць агульнаму развіццю паэмы (Ал. Кучар).

Чаму крытык абмяжоўваецца галаслоўным сцвярджэннем недахопаў у паэме, не паказаўшы ніводнага канкрэтнага прыклада? Якая карысць ад такой крытыкі буйнога майстра, якім з'яўляецца Александровіч? Тым больш, што гэтых недахопаў, пра якія гаворыць крытык, па сутнасці справы, і няма ў гэтым урыўку верша.

Гэтакі-ж падыход гэтага крытыка і да верша Чарота „Сын партызана":

> Мы зломім ворага калоны,
> Пераплывем крывавы вір...
> Непераможны стан чырвоны,
> Ваюем мы за вечны мір.

Крытык падае гэтыя радкі і каментыруе іх: „Можна было-б падаць і слабыя месцы гэтага верша. Але асноўным з'яўляецца тое, што гэты верш напісан у простай, яркай і даступнай форме. Верш паказвае, што паэзія Чарота мае вялікія магчымасці для свайго развіцця".

Не толькі „можна было", а і неабходна паказаць на недахопы і ў буйных майстраў, а не змазваць іх, абмяжоўваючыся агульнай фразай. Або як ацэньвае крытыка твор Зарэцкага „Сымон Карызна"? „Зарэцкі ўпершыню ў сваёй творчасці даў вобраз рабочага комуніста Зеленюка, хоць у абстаноўцы вёскі, а не ў абстаноўцы завода". Вось і ўся ацэнка. Гэта далёка недастаткова верная ацэнка п'есы Зарэцкага „Сымон Карызна". Творчыя заганы гэтай п'есы больш значныя. Асноўныя станоўчыя з'явы, пра якія гаворыць Зарэцкі, у п'есе, разгортваюцца недзе за кулісамі, і глядач іх не бачыць. У сувязі з гэтым „загібы" ў калектывізацыі цалкам запаўняюць п'есу.

Тут, да рэчы хачу, адзначыць, што некаторыя таварышы крытыкуюць паэтаў Купалу і Коласа пад кутом зроку формы і мовы. Не ў гэтым трэба шукаць перабудовы паэта. Іх моўны жанр выпрацаваны імі на працягу дзесяцігоддзяў. Маладое пакаленне вучыцца мове ў Купалы і Коласа.

Адмоўным у паэме „Над ракою Арэсай" наша крытыка лічыць тое, што, не гледзячы на вялікую лірычнасць паэмы, у самой форме яе ёсць налёт пасіўнасці ў адносінах да рэчаіснасці. Паэт—проста наглядальнік, які лірычна і шчыра ставіцца да гэтага будаўніцтва.

Хіба Купала ў „Над ракою Арэсай" толькі „просты наглядальнік", і ў чым выражаецца гэта пасіўнасць да рэчаіснасці? Няверныя і голыя сцвярджэнні.

Што правільна сказала крытыка—гэта тое, што паэт становіцца твар у твар з вялікай будаўнічай работай эпохі і шчыра захоплен будаўнічым размахам, што сама эпоха, сапраўды падымае яго творчасць на большую мастацкую вышыню.

Ацэньваючы „Дрыгву“ Коласа, некаторыя крытыкі заяўляюць, што недахопам твора з'яўляецца тое, што ў ім галоўная ўвага канцэнтруецца на абрысоўцы гераічных учынкаў паасобных адзінак (Талаш, Рыль, Нявідны), але мала паказана маса, калектыў. Робячы асноўны ўпор на героіку паасобных індывідуумаў, а не мас, Колас, памойму, зусім не дрэнна паказаў удзел сялянства ў гэтым руху. Упор на паасобных герояў, зроблены Коласам, натуральны.

Сур'ёзных недахопаў твора, крытыка, памойму, не заўважыла. Не зусім удачна аўтар паказвае ў „Адшчапенцы“ працэс раскулачвання кулака Чыкілевіча:

„Ну дык вот!—гэтак пачаў сваю прамову старшыня сельсавета.—З твайго, васпан Чыкілевіч, двара, вярней, з быўшага твайго, пачынаецца тут, у Загонні, калгас“.

Выраз няўдачны, ён можа быць парознаму вытлумачаны.

„Покі што,—дадаў далей старшыня,—ты астаешся жыць тут, але гаспадар на гэтым двары і ў гэтым доме не ты, а ён.

Старшыня паказаў рукою на Кандрата Казея.

— Ніякаю быўшай тваёй маёмасцю распараджацца сам не можаш: ні прадаваць ні мяняць не менш права. Уся яна будзе апісана! А ўсё, што трэба табе і скаціне, якая пакуль што лічыцца за табою, будзе выдаваць таварыш Кандрат. Вось! Далейшае тваё тут прабыванне будзе залежаць ад самога“.

Гэтая ўстаноўка супярэчыць лініі партыі ў галіне калектывізацыі. Тут праглядае адрыжка ад тэорыі „ўрастання кулака ў соцыялізм“. Чытаем далей:

„Гэта значыць: калі выявіцца тваё шкодніцтва, хоць замах на злачынства ў дачыненні да калгаса або да якога-небудзь з калгаснікаў, то ты будзеш не тут, а дзе-небудзь у іншым месцы. Зразумеў?..“

А калі не выявіцца „замах“, дык выходзіць, што Чыкілевіч можа спакойна ўрасці ў калгас. Дадзены паказ раскулачвання з'яўляецца яўным зрывам у творы Якуба Коласа. Вось яшчэ прыклад падобных зрываў. Чытайце, як Пракоп з „Адшчапенца“ ўспрыймае калгас:

„І другое назіранне, якое спасцярог тут Пракоп, не магло не звярнуць на сябе яго ўвагі—і мужчыны, і жанчыны, малыя і старыя калгаснікі ў гэтым калгасе рабілі ўражанне новай пароды людзей. Усе яны былі рухавыя, жывыя, гаваркія, ветлівыя, вясёлыя і, у дадатак да ўсяго гэтага, выражаючыся груба, гладкія, падкормленыя і неяк пасвойму адзетыя“.

Тут Колас занадта прымітыўна рысуе пераробку аднаасобніка у свядомага соцыялістычнага работніка і заможнасць калгаса (у 1932 г.!!).

Як Якуб Колас развязвае праблему прыватнай уласнасці ў калгасе?

„Ну, а ці маюць калгаснікі сваю асабістую маёмасць, ну, скажам, кароў, свіней?—дапытваўся Пракоп.

— Такога права ніхто з нас не пазбаўлен,—тлумачыў Мікола,—але вось цяпер сталася так, што гэтым правам ніхто не хоча карыстацца. Чаму? Ды проста няма ніякага разрахунку! Нашто мне той лішні клопат хадзіць за каровай, за свіннямі, мець для іх і памяшканне, і корм, калі і малака і свініны, колькі мне трэба, дасць наш-жа калгас. Яшчэ год таму назад сёй-той чапляўся за гэтую рэштку дробнаўласніцкай гаспадаркі, а потым пабачылі ўсю недарэчнасць і непатрэбнасць іх і кінулі“. („Адшчапенец“).

Колас не верна развязвае пытанне пра прыватную ўласнасць у калгасе. Гэта супярэчыць лініі партыі. Тут яўны лявацкі загіб! Пераскокванне праз этапы!

Не гледзячы на ўсе гэтыя недахопы, „Ашчапенец“ адлюстраваў цікава адрэзак эпохі.

Як расцэньвае крытыка твор Самуйлёнка „Тэорыя Каленбрун“? Крытыка паказвала, што да недахопаў твора трэба аднесці бледныя, крыклівыя вобразы Веста—кіраўніка райпартарганізацыі і Станіслава Дроба—сержанта і комуніста, што вобраз Дроба зусім непераканальны; што шлях перабудовы Дроба аказаўся скамечаным і нацягнутым; што перабудова адбылася за дзвярыма аповесці. Вось і ўсё, што сказала крытыка пра героя твора Эдуарда Самуйлёнка „Тэорыя Каленбрун“. Ці можна парай фраз пра „скамечаны і нацягнены“ шлях Дроба навучыць маладога пісьменніка майстэрству стварэння такога складанага вобраза, якім з'яўляецца Дроб?

Выходзячы з дадзенай мною ацэнкі нашай крытыкі, няправільна было-б зрабіць вывад, што наша крытыка мала памагала развіццю літаратурнай творчасці Беларусі. Наша крытыка прарабіла велізарную работу па ачыстцы нашай літаратуры ад нацдэмаўшчыны і нацдэмаўскіх элементаў. У гэтай барацьбе з нацдэмаўшчынай вырасла і замацавалася наша совецкая літаратура ў цэлым, і падняты новыя пласты літаратурнай творчасці непасрэдна з радоў пролетарыята.

У гэтай вялікай рабоце нямалую ролю сыгралі тт. Бэндэ—у свой час, Бранштэйн, Клімковіч, Дунец, Вольскі, Кучар і Модэль. Таксама пераацанілі свае каштоўнасці, перабудоўваючыся, праф. Піотуховіч і акад. Замоцін. Растуць маладыя крытыкі: Ляпіч, Галубок, Куніцкі, Рубіна, Ларчанка, Хатулёў, Царт, Курлянд і рад іншых.

Варта асобна адзначыць ролю т. Бранштэйна ў нашай крытыцы. Ён па праву заняў вядучую ролю ў нашай крытыцы. Тав. Бранштэйн паставіў цэлы рад новых праблем, ён даў глыбокі аналіз праблем, пастаўленых перад дзіцячай літаратурай. Упершыню даў аналіз асноўных праблем маладой беларускай прозы, памагаючы сваёй кваліфікаванай крытыкай росту маладых літаратараў. Характэрнай асаблівасцю Бранштэйна — спалучаць у сваіх артыкулах разбор ідэйнага зместу твора, пры поўным уліку мастацкай спецыфікі, умельства паказаць, як глыбокія ідэі знаходзяць сабе выражэнне ў мастацкіх вобразах, у мастацкай форме.

Палітычная завостранасць характарызуе ранейшыя крытычныя артыкулы т. Бэндэ і іх накіраванасць на выкрыццё класава-варожых уплываў у беларускай літаратуры. Тав. Бэндэ, безумоўна, прарабіў у мінулым вялікую работу ў барацьбе з нацдэмамі. Значным недахопам яго з'яўляецца тое, што ён карыстаецца часта метадам перахлёствання і вульгарызацыі, а галоўнае, што па сутнасці справы з'яўляецца палітычным недахопам Бэндэ, як літаратурнага крытыка, гэта тое, што ён пасля рашэння ЦК ВКП(б) пра перабудову літаратурных арганізацый па сутнасці не перабудаваўся, а адышоў ад крытыкі.

Гаворачы пра маладую крытыку, трэба асобна падкрэсліць перавагу разгляду ідэйнага боку мастацкага твора без сувязі з яго спецыфікай, што часта вядзе да спрашчэнства, выклікаючы справядлівыя нараканні аўтараў на нездавальняючасць такой крытыкі.

Мы патрабуем ад крытыкі ўсямернага садзейнічання росту нашай совецкай літаратуры, асабліва па лініі якасці. Крытык здаволіць гэтае патрабаванне толькі пры ўмове ўпартай работы над сабой. А нашы крытыкі, як і паасобныя пісьменнікі, хварэюць на гонар, які вырастае

якраз не ад лішкаў, а ад недастатковасці ведаў. Напісаў крытык добры артыкул (я падкрэсліваю слова артыкул, таму, што вялікіх крытычных работ, на сорам нашых крытыкаў, пакуль яшчэ няма) і от здаецца яму, што і вучыцца ўжо асабліва няма чаму, і чытаць непатрэбна. А пасля гэтага ў такіх крытыкаў выходзіць ужо не крытыка, а крохаборчаство.

У Ноўгарадскім летапісе XV ст. за 1473 г. ёсць такі запіс: „И той же зимы некоторые философы, начавши петь: „О, Господи́, помилуй“, а другие: „Господи помилуй“. На гэтай глебе адбылася дзікая сварка.

Вельмі цікава супаставіць спрэчку гэтых „некаторых філософаў“, якая адбылася каля 500 год таму назад, з сучаснымі спрэчкамі, таму што спрэчкі вельмі часта адбываюцца з поваду адной літары, а сутнасць твора прапускаецца.

Гаворачы пра крытыку, нельга не спыніцца на самакрытыцы, „без якой далейшае наша развіццё наперад нямысліма“.

Самакрытыцы, самакрытыцы здаровай, большэвіцкай трэба вучыцца ў нашай партыі, партыі Леніна—Сталіна. Узор такой самакрытыкі паказвае Алексей Максімавіч Горкі, жыццё і творчасць якога становіць сабою адну з самых бліскучых і надзвычайных старонак у нашай совецкай літаратуры.

Чаму Алексей Максімавіч Горкі не толькі заваяваў імя найвялікшага пісьменніка ў свеце, але і паказвае ўзор, прыклад таго, як трэба ставіць пытанні крытыкі і самакрытыкі ў пісьменніцкім асяроддзі, вучыць, як трэба працаваць усім нашым пісьменнікам і маладым і старым так, каб наша совецкая літаратура стала літаратурай, вартай нашай вялікай эпохі?

Таму, што Алексей Максімавіч ўпарта працуе над самім сабою, чытае і перачытвае гібель кніг, вучыцца ў класікаў марксізма: Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна ўпартаму і абавязковаму руху наперад. Таму што Алексей Максімавіч Горкі злучыў велізарны жыццёвы вопыт з велізарнай культурай, якую ён здабыў сам сваімі рукамі. Вось гэтым якасцям упартай і настойлівай работы над сабою, злучэнню жыццёвага вопыта з аўладаннем культурай трэба вучыцца, таварышы, у Горкага. Без гэтага нельга быць добрым пісьменнікам. Без гэтага нельга быць і добрым крытыкам.

## Дзіцячая літаратура яшчэ не здавальняе патрабаванняў дзяцей.

Некалькі слоў пра дзіцячую літаратуру, пра літаратуру для нашай змены. Нашы совецкія дзеці, калі пра іх гаварыць, як пра чытатоў, дык гэта—чытаты прагныя і патрабавальныя. Усе яны скардзяцца, і скардзяцца справядліва, што патрэбных для іх кніг вельмі і вельмі мала. Не сакрэт, што дзеці не рэдка гадзінамі сядзяць у бібліятэцы і чакаюць, ці не прынясе хто-небудзь з іншых гэтакіх-жа чытачоў якой небудзь цікавай кнігі. Не сакрэт, што дзеці ў той-жа бібліятэцы часта запісваюцца ў чаргу на атрыманне цікавай кнігі. Усё гэта вядома, але ўсё-ж дзіцячая літаратура застаецца самым адстаючым участкам у рабоце беларускіх пісьменнікаў.

У гэтым вінаваты толькі пісьменнікі. У нас-жа ў БССР, на сёння толькі Янка Маўр і Якімовіч больш-менш стала клапоцяцца пра дзяцей і пішуць для дзяцей. Праўда, дзякуючы конкурсу 1934 г., у дзіцячую літаратуру ўключыліся і „дарослыя“ совецкія пісьменнікі, У выніку гэтага нашы дзеці атрымалі цяпер здавальняючыя творы: „Шчаслівая дарога“ Александровіча, „Ад полюса да полюса“ Харыка. „Міхасёвы прыгоды“ Якуба Коласа, „Петрык Завадатар“ Шынклера

і інш.—гэта вынік праведзенага конкурса. Але гэты добры вынік супакоіў крыху пісьменнікаў, і папаўненне дзіцячай літаратуры бадай спынілася. Такія пісьменнікі, як Лынькоў, Чарот, Галавач, Крапіва, Броўка, Гурскі, пісьменнікі комсамольцы: Мікуліч, Бліснінаў, Куляшоў зусім у конкурсе не ўдзельнічалі і, не гледзячы на многія абяцанні, нічога для дзяцей не напісалі.

Вінаваты ў гэтым і Аргкамітэт, які вылучыў у свой час лепшых пісьменнікаў для ўдзелу і дапамогі ў творчай рабоце секцыі дзіцячых пісьменнікаў, але не рэагаваў на тое, што вылучаныя таварышы ні разу не ўдзельнічалі ў абмеркаванні творчасці таго ці іншага дзіцячага пісьменніка. Не дзіўна пасля гэтага, што з усяго былога складу секцыі дзіцячых пісьменнікаў, якая налічвала дваццаць чалавек, прынята ў саюз совецкіх пісьменнікаў толькі трое: Маўр, Якімовіч, Мальцінскі, а астатнія таварышы яшчэ не адказваюць тым запатрабаванням, якія ставяцца ў наш час да совецкага пісьменніка. Не дзіўна пасля гэтага, што якасць дзіцячай літаратуры ў нас яшчэ вельмі нізкая, а тэматыка зусім бедная. Бадай цалкам адсутнічае ў дзіцячай літаратуры індустрыяльная тэматыка (напісана ўсяго адна кніжка Шынклера „Аб транспарце"), няма кніжак на тэму пра совецкую школу і школьнікаў, за выключэннем Маўра „ТВТ", цалкам адсутнічае гістарычная тэматыка, вельмі бедная навукова-папулярная геаграфічная тэматыка. Не дзіўна пасля гэтага, што нават нашы вядомыя, пісьменнікі ў дзіцячай літаратуры дапускалі памылкі ў сваіх творах для дзяцей. Вось, напрыклад адной з такіх памылак у кніжцы Маўра „Аповесць будучых дзён":

— „Няўжо-ж вучні займаюцца без настаўніка,—здзівіўся Юзік.

— Чаму так?—не разумеў Кім.—Бачыш, вунь настаўнік.

— Але вучні адны. І яны не вучацца, а так сабе нечым займаюцца.

— Гэта нешта і ёсць сапраўдная навука. Кожны з гэтых вучняў вывучае пэўнае навуковае пытанне. Настаўнік ужо растлумачыў ім яго і, апрача таго, яны ў працэсе працы звяртаюцца да яго, калі што незразумела.

— Гэткім чынам яны могуць і не вучыцца, калі ніхто не прымушае,—з сталым выглядам прамовіў Юзік.

— Вось яно што! Вы там прывыклі вучыцца толькі тады, калі хто з кіем стаіць над каркам, а калі ты майструеш сабе якую рэч ці прымушае цябе хто"?

Тут Янка Маўр, як бачыце малюе ідэал лявацкага метада праектаў, пры якім ліквідуецца школа і скасоўваецца сама сістэма навучання. Падобныя „ідэалы" прыносяць шкоду. Усім вядома, што партыя і ўрад рэзка асудзілі „метад праектаў", і выгналі яго з нашай совецкай школы.

Але я закранаю самы факт наяўнасці памылак таму, што гэта яшчэ адно сцвярджэнне няўважлівасці нашых пісьменнікаў да такога важнага ўчастка, якім з'яўляецца наша дзіцячая літаратура.

Запытайцеся ў дзяцей, якія кніжкі вытрымалі ў іх экзамен на ганаровае званне, „кніжкі, ад якой не адарвешся". Яны вам назавуць сваіх любімых класікаў: Пушкіна, Гогаля, Некрасава, Свіфта, Дэфо, Дыккенса, поруч з імі дзеці вам назавуць Жуль Верна і Марк Твэна. Яны вам назавуць сваіх любімых сучасных пісьменнікаў Горкага, Шолахава, Серафімовіча, Фурманава. З дзіцячай літаратуры яны назавуць „Дэрсу Узала", Арсеньева (у пераробцы для дзяцей), „Рэспубліку Шкід" Белых і Панцелеева, „Кандуіт" Касіля, „Пакет" Панцелеева, „Школу" Гайдара, „Жыццё і прыгоды Максіма Горкага" і г. д. Але разам з гэтым нашы дзеці гавораць:

— Мы хочам, каб старыя добрыя кнігі перадрукоўваліся, а нашы каб былі лепшыя і цікавейшыя за старыя".

Нашы дзеці не толькі чытаюць, але і крытыкуюць пісьменніка. Вучань 8-й Менскай школы Ліпкінд Залман пытаецца, чаму яўрэйскі паэт Фефер у сваіх казках і песнях ужывае слова „гой". Ён скардзіцца, чаму ў літаратуры няма такой кнігі, якая адлюстроўвала-б работу нашых лепшых ударнікаў вучобы.

Хаймовіч (8-я школа)—гаворыць, што Ізі Харык у сваёй паэме „Кайлахдыке вохн" мог паказаць работу піянераў у барацьбе з рэлігіяй. А гэтага т. Харык не зрабіў і ён патрабуе, каб пісьменнікі ў мастацкай форме паказалі ўдзел піянераў у барацьбе з рэлігіяй і клерыкалізмам.

Лыкава Рыва адзначае, што пісьменнік Маркіш выбраў у сваім творы „Братья" герояў дробных уласнікаў, якія нібы зрабілі рэвалюцыю, і Рыва пытаецца, чаму не паказана кіраўнічая роля пралетарыята.

Вы бачыце, што наш чытач дзіцячай літаратуры крытычны і патрабавальны.

Піонер Яцкевіч (3-я менская школа, 6-я група), ставіць пісьменнікам наступныя патрабаванні:

„Ад пісьменнікаў мы хочам таго, каб яны пісалі кнігі, якія не былі-б пазбаўлены прыгод, падарожжаў. Няхай выходзяць кнігі, у якіх пісалася-б пра адкрыццё пакладаў каштоўных металаў, пра будоўлю новых гарадоў, пра розныя экспедыцыі і г. д., толькі ўсе гэтыя кнігі павінны быць напісаны з усякімі цікавымі прыгодамі і падарожжамі. Вось такія кнігі захопяць дзяцей і дадуць ім каштоўныя веды. Яшчэ няхай апісваюць у кнігах месца, дзе адбываецца дзея, г. зн. мора ці суша, лес, пустыня, прырода дадзенага месца".

Гофман і Юдлін (м. Глуск) гавораць: „У нас вялікае жаданне чытаць кнігі пра Чырвоную армію, і просім мы нашых пісьменнікаў напісаць кнігу пра Будзённага, Варашылава, а таксама зрабіць даступным пераклады класікаў лепшых твораў заходняй літаратуры".

Мінкоў (м. Чарэя)—„Хацеў-бы прачытаць пра піонераў і школьнікаў Туркменіі, Каўказа, аб эксплаатацыі дзяцей у Еўропе".

Рэзнік Яша (м. Глуск)—Прачытаў у „Юнгер Ленінец" паэму Ліфшыца „Петэр" і просіць пісьменніка напісаць што-небудзь пра барацьбу піонераў Захада, пра фашысцкі тэрор, пра работу партыі і комсамола ў падполлі.

Заўлеў Х. (Дрыбін) паведамляе, што ў іх у класе ёсць таленавітыя дзеці, якія самі пішуць вершы, фельетоны, і прапануюць пісьменнікам напісаць такую кнігу, на якой дзеці маглі-б павучыцца, як пісаць.

Трэба, таварышы, ганарыцца ўсім нам гэтым патрабавальным чытачом. Трэба патрабаванні і просьбы гэтага чытача здаволіць, каб даць яму вартую яго кнігу, якая ўсяляла-б у яго радасць, узвялічвала-б сумленнасць і ўдарнасць у рабоце, падымала-б гнеў, нянавісць і пагарду да класавага ворага, да падкулачніка, да лодыра і злодзея. Кожны пісьменнік павінен лічыць для сябе за гонар даць дзецям такую кнігу, якая вытрымала-б у іх экзамен на ганаровае званне „кніжкі, ад якой не адарвешся", „кніжкі, якую хочацца чытаць і перачытваць".

### Яўрэйская, польская і літоўская літаратура ў перадавых радах совецкай літаратуры Беларусі

Разам з ростам беларускай совецкай літаратуры расце і мацнее ў Совецкай Беларусі пад кіраўніцтвам КП(б)Б яўрэйская, польская і літоўская літаратура.

Вось тры лічбы росту яўрэйскай совецкай літаратуры ў БССР. У 1928 г. было выпушчана 52 назвы літаратурных твораў, а ў 1932 г.

гэтая колькасць узрасла да 145. Калі ў 1928 г. аб'ём гэтых літаратурных твораў складаў 396 аркушаў, дык у 1932 г. ён узрос да 746 аркушаў. Тыраж вырас з 148 тысяч да 440.175 экз. За чатыры гады мы маем павелічэнне ў тры разы. Аналагічнае становішча мы маем і ў росце польскай і літоўскай совецкай літаратуры. Гэта яшчэ адзін з паказчыкаў росту нашай культуры нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу. Рост гэты з'яўляецца вынікам правільнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі.

Зусім працілеглыя працэсы ў фашысцкай Польшчы. Калі ў 1928 г. колькасць выданых назваў яўрэйскай літаратуры складала 421, дык к 1932 г. яна знізілася да 222. Колькасць аркушаў за гэты перыяд зменшылася з 269 да 72, а тыраж знізіўся з 628.500 да 382.200 экз. За чатыры гады фашысцкай Польшчы змяншэнне па лініі яўрэйскай літаратуры ў два разы. Змяншэнне гэтае з'яўляецца вынікам нацыянальнага і культурнага прыгнечання нацыянальных меншасцей у фашысцкай Польшчы.

Толькі ў соцыялістычнай краіне магчымы ўсебаковы рост культуры ўсіх нацыянальнасцей. Рост нацыянальных культур у нас з'яўляецца не проста колькасным ростам. Наша нацыянальная совецкая культура няўхільна расце якасна па лініі пролетарскага соцыялістычнага зместу твора. У гэтым найвялікшая моц нашай совецкай культуры. У гэтым— найвялікшая моц і нашай совецкай літаратуры.

Спынюся коратка на гэтым якасным баку яўрэйскай, польскай і літоўскай совецкай літаратуры ў БССР. Да Кастрычніцкай рэволюцыі ў Беларусі зусім не было колькі-небудзь значнай групы яўрэйскіх пісьменнікаў. А цяпер?

1) Колькасна вырас кадр пісьменнікаў, у прыватнасці за лік рабочых-ударнікаў;

2) рад твораў яўрэйскіх пісьменнікаў БССР вывеў апошніх на ўсесаюзную арэну і зрабіў вядомымі за граніцай;

3) цэнтральнае месца ў тыражы літаратурных твораў пачынае займаць станоўчы вобраз рабочага-ўдарніка, калгасніка, комуніста, праблемы соцыялістычнай будоўлі;

4) вырасла салідная група крытыкаў, у стварэнні маладых кадраў яўрэйскіх крытыкаў БССР ідзе на першым месцы сярод іншых рэспублік Совецкага Саюза.

Яўрэйская совецкая літаратура БССР мае буйнога майстра мастацкага паэтычнага слова—Ізі Харыка.

Творы Харыка апошняга часу—паэмы „Душой і целам", „Круглыя тыдні", „Ад полюса да полюса" і цыкл вершаў пра чалюскінцаў падняли яшчэ вышэй паэта Харыка, як вялікага майстра і мастака слова. Харык стаіць цяпер у радзе лепшых паэтаў БССР і СССР.

Таленавітымі пісьменнікамі з'яўляюцца Кульбак і Аксельрод, Камянецкі і Тэйф. Памайстэрску напісаная паэма „Чайльд Гарольд з Дзісны" сведчыць пра вялікі паварот у творчасці Кульбака. У гэтай у значнай ступені аўтакрытычнай паэме Кульбак паказвае свой адыход ад буржуазнай культуры і пераход на бок пролетарыята. Пісьменніку Кульбаку трэба яшчэ сур'ёзна вывучаць канкрэтную совецкую рэчаіснасць. Без гэтага ён не здолее падняць высока свае творчасці.

Расце па тэматыцы пяцігодкі празаік Даўгапольскі. Яўрэйскія паэты: Аксельрод, Камянецкі і Тэйф вылучаюцца з групы паэтаў, як арыгінальныя таленавітыя пісьменнікі ў маштабе ўсяе яўрэйскай паэзіі СССР. Растуць маладыя і пачынаючыя кадры. Трэба толькі з вялікай упартасцю і настойлівасцю вучыцца шырэй і смялей разгортваць самакрытыку ў сваёй творчай рабоце.

Польская совецкая літаратура БССР, не гледзячы на свой няўхільны рух наперад, усё яшчэ адстае ў параўнанні з ростам беларускай, яўрэйскай і тым больш рускай літаратуры. Контррэволюцыйная работа польскіх нацыяналістаў Віткоўскага, Мястоўскай і інш. не мала дала сябе знаць на ўчастку польскай літаратуры. Гэтыя контррэволюцыянеры пад прыкрыццём „лявацкай" фразеалогіі не дапускалі скарыстання польскіх класікаў у вучобе маладых. Сваю шкодніцкую работу на культурным фронце яны маскавалі нібы-та барацьбой супроць уплываў фашызма на польскую мову. У якасці аб'ектаў для вывучэння літаратуры ў школах яны раілі слабенькія творы пачынаўшых у той час маладых пісьменнікаў Свіжынскага, Гараўскага, Рамаоўскай і некаторых іншых.

Рашэнне ЦК ВКП(б) 1932 г. пра перабудову пісьменніцкіх арганізацый забяспечыла рашучы зрух і на ўчастку польскай літаратуры ў БССР. Аднак, мы маглі мець значна больш дасягненняў у польскай совецкай літаратуры БССР, калі-б пісьменнікі Жарскі, Краінскі, Рамаоўская, Кавальскі і інш. працавалі над сабою, над сваімі творамі з вялікай упартасцю, настойлівасцю і сур'ёзнасцю.

Пры больш сур'ёзнай рабоце на гэтым участку, пры большай увазе гэтаму ўчастку з боку Саюза совецкіх пісьменнікаў Беларусі, мы маем усе магчымасці падняць польскую совецкую літаратуру на вышэйшую ступень. У нас невычарпальная крыніца талентаў у нізах, трэба толькі працаваць з імі. Вось што піша настаўнік т. Быкаўскі: „Літаратурны гурток пры калгасе імя Дзержынскага, Замастоцкага сельсовета, Менскага раёна, правёў вялікую работу сіламі настаўнікаў; кожны месяц выдавалася насценгазета, у якой змяшчаліся літаратурна апрацаваныя допісы, частушкі, вершы. Частушкі з газеты пра прагульшчыкаў, спекулянтаў спяваюць калгаснікі ў часе работы. Рад таварышоў паказалі свае літаратурныя здольнасці. У нас ёсць драматычны гурток, які арганізаваў 17 масавых вечароў. Але нам не памагаюць. Польская секцыя совецкіх пісьменнікаў замкнулася ў сваёй шалупайцы. Мы крыўдзімся на тое, што польская літаратура бедная на творы, неабходныя для масавай работы".

Пісьменнікам польскай літаратуры трэба ўлічыць гэтыя заўвагі, а секцыі польскіх пісьменнікаў неабходна пабольшэвіцку разгарнуць сваю работу. Праўленню Саюза трэба ўзмацніць кіраўніцтва гэтым важнейшым участкам.

Секцыя літоўскіх пісьменнікаў у Беларусі больш актыўна пачала працаваць толькі з пачатку 1932 г., з часу перабудовы пісьменніцкіх арганізацый. Літоўская секцыя совецкіх пісьменнікаў у БССР з 1 студзеня 1934 г. спаборнічае на лепшую пастаноўку работы з маскоўскай секцыяй літоўскіх пісьменнікаў. Гэта значна актывізавала творчую работу пісьменнікаў літоўскай совецкай літаратуры ў БССР. Пісьменнікі Паўлюкевіч-Джугас, Вайшнорас, Стамеліс, Койко і інш. далі ўжо рад высокамастацкіх літаратурных твораў. Койко нядаўна скончыў пісаць гістарычную драму ў 5-ці дзеях „У кіпцюрах царызма". Паўлюкевіч па сваіх творах стаіць у радах лепшых літоўскіх белетрыстаў. Але ўсё-ж і літоўскія пісьменнікі маглі даць значна больш, чым яны далі. Напрыклад, за апошнія два гады адзін з найбольш здольных пісьменнікаў літоўскай секцыі тав. Паўлюкевіч бадай не даваў новай літаратурнай прадукцыі. Літоўская пісьменніца тав. Меркіс Людміла, пачаўшы літаратурную дзейнасць з 1921 г., у перыяд 1927-32 г. не напісала ніводнага літаратурнага твора, і гэтаму ўчастку праўленне Саюза совецкіх пісьменнікаў павінна больш памагчы.

Пытанні класавай барацьбы ў нашай літаратуры не зняты з парадку дня. У сваёй рэзалюцыі пра ход падрыхтоўкі да 1-га з'езда ЦК адзначыў, што нашымі пісьменнікамі, у прыватнасці Аргкамітэтам Саюза совецкіх пісьменнікаў БССР, праароблена вялікая работа па барацьбе з нацдэмаўшчынай. Але заявіць цяпер пра тое, што ў нас у гэтым кірунку ўсё скончана, што ўсё зжыта, разумеецца, нельга.

Многія факты гавораць пра тое, што ў гэтым кірунку яшчэ трэба грунтоўна і многа папрацаваць. Дазвольце пазнаёміць з'езд з некаторымі матэрыяламі, якія характарызуюць нацдэмаўшчыну апошняй фармацыі. Я маю на ўвазе справу беларускага нацыянальнага цэнтра. Як вам вядома, нядаўна, 4 — 5 месяцаў таму назад, была выкрыта контррэволюцыйная арганізацыя, кіруемая былымі паслам; польскага сейма, членамі былой „грамады", перакінутымі з Польшчы да нас для контррэволюцыйнай работы. Іх работа зводзілася да наступнага:

перакідка з Заходняй Беларусі ў БССР контррэволюцыйных кадраў;

унядрэнне контррэволюцыйных элементаў ва ўсе сітавіны дзяржаўнага і партыйнага апарата, гаспадарчыя органы, навуковыя ўстановы, партыйныя і грамадскія арганізацыі:

устанаўленне самага цеснага кантакта з мясцовымі нацдэмамі;

вярбоўка кадраў сярод былой буржуазіі, кулацтва і нацыяналістычнай інтэлігенцыі;

сеянне нездаваленна сярод насельніцтва супроць совецкай улады;

вядзенне контррэволюцыйнай нацдэмаўскай работы ў Заходняй вобласці з мэтай аддзялення часткі гэтай вобласці ад РСФСР.

БНЦ займаўся, вядома, не толькі пытаннямі арганізацыйнага парадку. Ён сабе ставіў і мэты дыверсійнага парадку.

Уся гэта контррэволюцыйная работа, накіраваная ідэалогамі і палітыкамі „адзінай" нацыі, ставіла адну мэту — гэта адабраць заваяванне Кастрычніка ад рабочых і сялян Беларусі, для чаго была намечана нацдэмамі адпаведная „канстытуцыя".

На пасяджэнні „Палітычнага цэнтра" была разгледжана і зацверджана распрацаваная Астроўскім і Луцкевічам праграма, якая павінна была легчы ў аснову „канстытуцыі" будучай „вялікай Беларусі".

Зямельнае пытанне развязвалася праграмай наступным парадкам:

Цвёрда ўстанаўляўся прынцып дробнай прыватнай уласнасці на зямлю, гранічная норма колькасці зямлі і паасобных гаспадарак не павінна была перавышаць 100 га, выключэнні дапускаліся ў бок павелічэння для такіх гаспадарак, якія вядуцца „культурна".

...Бяручы на ўвагу, што ўсходняя частка „БНР", якая знаходзіцца пад савецкай уладай, да часу ўзнікнення БНР успее моцна большэвізавацца і асабліва большэвіцкім духам будуць прасякнуты пазнейшыя пакаленні насельніцтва,—праграмай устанаўлялася, што права для выбараў у сейм маюць асобы абодвага роду не маладзей 25 год, а для выбараў у сенат—не маладзей 35 год.

Праект вышэйпададзенай праграмы быў складзен кіруючым „Палітычным цэнтрам" беларускай контррэволюцыйнай арганізацыі яшчэ ў часы дзейнасці „Грамады" ў Вільні ў 1926 годзе. Аўтарамі яго былі Рак-Міхайлоўскі, Луцкевіч.

Аднаўленне кулака і зварот памешчыка — гэта была асноўная задача буржуазных нацыяналістаў.

Вось праграма „ратавальнікаў" беларускай нацыі, якія прыехалі сюды і арганізавалі „нацыянальны цэнтр".

Я, таварышы, падаў гэта не для таго, каб нагадаць вам пра далёкі гістарычны факт. Гэта было ўсяго толькі чатыры месяцы таму назад. Людзі працавалі ў нашых установах, у нашым апараце, карысталіся

ў нас даве'рем, былі добра замаскаваны, схаваны; ясная справа, што не мала ім удалося нашкодзіць нам, а адсюль трэба рабіць нам адпаведны вывад. Мы бачылі, як нацдэмы арыштавалі ў 1-2 ночы дзве тысячы беларусаў Заходняй Беларусі; мы бачым, як яны направа і налева прадаюць беларускі народ у імя сцвярджэння капіталізма, у імя звароту да старога. Не раз ужо працоўныя масы Беларусі паспыталі на сваёй спіне гэтых абаронцаў беларускага народа, мы ведаем, чаго хочуць гэтыя агенты польскага фашызма.

Я думаю, што выкажу агульную думку, калі скажу: „Няхай пакарае вас пролетарскі меч па заслугах вашых“. (Апладысменты).

Ці ёсць агульнае ў нацдэмаўскіх палітыкаў і ў нацдэмаўскай літаратуры? Так, бясспрэчна. Хіба нацдэмы-фашысты—Мятла, Дварчанін, Гаўрылюк, Бурсевіч і інш. не з'яўляюцца прамымі прадаўжальнікамі нацдэмаўскіх „ідэй“, якія знайшлі свой адбітак у літаратурнай творчасці нацдэма Лужаніна, што выліваў сваю нацдэмаўскую „душу“ ў вершы:

> О,так гаротныя крыўцы
> Ламалі косці за чужую справу,
> Сваёй крывёй і мазалём
> Ішлі купляць чужынцам славу.

Увесь працэс будаўніцтва соцыялістычнай беларускай культуры разглядаўся нацдэмамі, як „чужая справа“, да якой „свядомыя беларусы“ не маюць дачынення. Толькі „несвядомыя“, „цёмныя“ масы ўдзельнічаюць у ім, граючы на руку „Маскве“.

Лужанін у якасці „свядомага беларуса“ адмаўляўся прымаць дары Кастрычніка, звонку прынесеныя Беларусі:

> Мы не хочам радасці вітаць.
> Што чужымі дадзена рукамі...

Ліквідацыя кулацтва як класа на базе суцэльнай калектывізацыі ў БССР, рост тэхнічнай базы нашай сельскай гаспадаркі выклікаюць у іх сум і тугу безвыходную.

> Шкадую старую я вёску,
> Бо знішчаць яе машыны,
> Не будзе больш пахнуць бярозка—
> Вёска запахне бензінай.

Гэтак ные па старой вёсцы Аўгень Бартуль, паэт фашызма, актыўны пагромшчык культурна-асветніцкіх устаноў у г. Вільні, які памагаў беларускім нацфашыстам разбураць „Таварыста беларускай школы. Голас ва ўсіх нацдэмаў агульны. Гэта пратэст супроць заваяванняў беларускіх працоўных, супроць соцыялістычнага будаўніцтва БССР. Гэты-ж матыў цягнулі на ўсе лады ва ўмовах БССР беларускія нацыянал-дэмакратычныя паэты як Пушча („Лісты да сабакі“) і інш.

Нацдэмы не толькі абмежаваліся прамой агітацыяй. Цяпер у Заходняй Беларусі нацдэмы вельмі тонка атручваюць мазгі беларускаму народу сваімі літаратурнымі прыправамі.

Прыслужваючыся да акупантаў, адзін з выдатнейшых спевакоў беларускага нацыянал-фашызма, Аўгень Бартуль, гэтак піша народным масам:

> Хай намі хто хоча кіруе—
> Менш-бы падаткаў—і дос,
> Хоць чалавек пагаруе,
> На тым свеце лепш мо, ёсць?

Класавай барацьбы—кажа—няма, змагацца не трэба, на тым свеце будзе жыць лягчэй.

Вось куды накіроўвае рэволюцыйны рух Заходняй Беларусі Бартуль і інш.

## Заключэнне і вывады

Таварышы, каб коратка абагуліць сказанае мною па пытаннях савецкай літаратуры БССР, я не магу не спаслацца на ўсім вам вядомую пастанову бюро ЦК КП(б)Б „Пра ход падрыхтоўкі да першага ўсебеларускага з'езда пісьменнікаў". У гэтай пастанове сказана натупнае:

„Беларуская савецкая літаратура прыходзіць да ўсебеларускага і ўсесаюзнага з'езда пісьменнікаў са значнымі поспехамі. Гэтыя поспехі забяспечаны ростам сопбудаўніцтва ў краіне, арганізацыйнай перабудовай пісьменніцкай арганізацыі на аснове пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка і ЦК КП(б)Б ад 27 мая 1932 г., ачысткай літаратуры ад нацыяналістычных элементаў, узмацненнем класавай пільнасці і мабілізацыяй пісьменнікаў для актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве пад непасрэдным кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ЦК.

Павысілася творчая і грамадская актыўнасць як старэйшага пакалення пісьменнікаў (Колас, Купала, Бядуля), так і ўсіх пісьменнікаў БССР. Вырасла кіруючая роля пролетарскай часткі літаратуры і комуністаў-пісьменнікаў (Александровіч, Харык, Лынькоў, Браніптэйн). Вырасла рабочая і сялянская пісьменніцкая моладзь, ёсць значны пералом у развіцці маладой польскай і літоўскай літаратуры".

Гэтая заслужаная ацэнка гаворыць пра вялікі рост нашых савецкіх пісьменнікаў, якія працуюць пад кіраўніцтвам ленінскай партыі і яе вялікага правадыра т. Сталіна.

Высокая і заслужаная ацэнка нашай савецкай беларускай літаратуры, дадзеная да з'езда пісьменнікаў Цэнтральным камітэтам КП(б)Б, абавязвае вас, таварышы пісьменнікі, не самазаспакойвацца, а яшчэ больш мабілізавацца ў сваёй рабоце, каб быць на ўзроўні тых патрабаванняў, якія пастаўлены перад вамі грандыёзнымі задачамі другога пяцігоддзя. Памятайце, таварышы, што няма нічога небяспечней, як самазаспакоенасць і ап'яненне поспехамі. Памятайце, што поруч з бясспрэчнымі поспехамі наша савецкая беларуская літаратура мае яшчэ і вялікія недахопы. Пра гэтыя недахопы бюро ЦК КП(б)Б у вышэй згаданым рашэнні сказана наступнае:

„Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што літаратура БССР усё яшчэ адстае ад павышаных запатрабаванняў да яе з боку палітычна і культурна вырасшых рабочых і калгасных мас.

а) Маруднымі тэмпамі ідзе асваенне вытворчай тэматыкі, абсалютна недастаткова распрацоўваецца абаронная тэматыка.

б) Якасць літаратуры (глыбіня ідэй, навуковая аснова твораў, цікавасць сюжэту, паказ станоўчага вобразу ўдарніка, комуніста) усё яшчэ з'яўляецца недастатковым.

в) Застаецца нездавальняючай работа з літаратурным маладняком па лініі Аргкамітэта і поўная адсутнасць работы па лініі ДВБ, профсаюзаў, рэдакцый газет і часопісаў.

г) Аргкамітэт ССПБ, пераключыўшыся з арганізацыйных на вытворчыя пытанні, не дасягнуў яшчэ патрэбнай якасці ў гэтай рабоце. Газета „ЛіМ" не стала арганізатарам творчых пытанняў і не ўзначальвае дапамогі пісьменніку ў яго ідэйна-мастацкім росце.

д) Літаратурная крытыка ўсё яшчэ астаецца найбольш слабым участкам літаратурнага руху і не аказвае патрэбнай канкрэтнай дапамогі пісьменніку".

Гэтыя ўказанні абавязваюць вас да таго, каб моцна, пабольшэвіцку мабілізавацца на ліквідацыю пералічаных недахопаў і забяспечыць

далейшы, яшчэ больш шпарчэйшы якасны ідэйна-мастацкі рост літаратуры БССР на аснове аўладання вамі—пісьменнікамі метадам соцыялістычнага рэалізма.

Трэба так пісаць, як гаварыў т. Постышэў у пісьме да першага Усеўкраінскага з'езда пісьменнікаў, каб працоўныя яшчэ больш любілі совецкую літаратуру, а чытачы яшчэ мацней любілі сваю краіну Советаў. Для гэтага трэба вучыцца, вучыцца пасапраўднаму, не перастаючы. Для гэтага трэба ведаць жыццё, ведаць яго добра. Жыццё-ж наша цяпер, як ніколі, вялікае і глыбокае, шматграннае і багатае. Вывучаць жыццё з габінета нельга, у яго трэба акунуцца, як кажуць, галавою. Не будучы на прадпрыемстве, у калгасе, МТС, соўгасе, вы не будзеце ведаць тых людзей, якія будуюць гэтае новае жыццё.

Умела, у яркіх фарбах адлюстроўваць новае жыццё вучыць вас такі выдатны чалавек эпохі, як А. М. Горкі. Гэты вялікі майстар эпохі, інжынер душ перамогшага пролетарыята, настаўнік мастацкага слова для мільёнаў, парваўшых свае ланцугі прыгнёту, варварства, адзічання, правадыр і настаўнік пролетарскай совецкай літаратуры, які здолеў увабраць у сябе ўсю лепшую, перадавую, прагрэсіўную спадчыну мінулага. Палітычна востра і большэвіцкі прынцыпова ставіць Горкі перад совецкай літаратурай пытанні якасці. Лозунг правадыра нашай партыі тав. Сталіна пра аўладанне тэхнікай папулярызован у пісьменніцкім асяроддзі з дастатковай яснасцю і пераканальнасцю Алексеем Максімавічам Горкім. Стоячы пры рулі нашай літаратуры, ён з геніяльнасцю вялікага мастака праўдзіва ацаніў найвялікшае значэнне нашай літаратуры вялікай эпохі, літаратуры, якая мае каласальнае агітацыйнае і выхаваўчае значэнне для мільённых мас.

Вашы творы, таварышы, павінны быць радасныя, прыгожыя, хвалюючыя. Яны будуць такімі, калі вы, не спыняючыся, будзеце працаваць над аўладаннем тэхнікай мастацкага слова так, як аваподвае і ўжо валодае ёю Горкі.

Па ініцыятыве А. М. Горкага за апошні час арганізавана творчая работа лепшых пісьменнікаў над „Гісторыяй фабрык і заводаў". Рыхтуюцца і хутка будуць выданы творы пра лепшых людзей першай і другой пяцігодкі, кнігі па гісторыі грамадзянскай вайны і г. д. Уся гэта работа мае асабліва важнае значэнне і вялікую, як літаратурную, так і палітычную каштоўнасць. Але, на жаль, беларускія пісьменнікі здорава адстаюць у справе ўдзелу ў стварэнні „Гісторыі фабрык і заводаў". „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі", у стварэнні кніг пра людзей першай і другой пяцігодкі. Вось чаму адным з вынікаў з'езда павінна быць узмацненне работы па гэтай лініі. Гэта работа мае буйнейшае значэнне яшчэ і як школа пісьменнікаў, таму што пісьменнікі пры гэтай рабоце не толькі сумесна пішуць, але і рэдагуюць адзін аднаго, вучацца адзін у аднаго літаратурнаму майстэрству, накапляюць матэрыял, вучаць маладых пісьменнікаў такой вялікай справе, якою з'яўляецца ўмельства валодаць мастацкім словам.

Таварышы, паралельна і адначасова з вашым ростам растуць рэволюцыйныя пісьменнікі Заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам КПЗБ. Яны, не гледзячы на нечуваны тэрар і зверствы польскага фашызма, горда і смела змагаюцца вялікай сілай мастацкага слова з белапольскім фашызмам і яго памочнікамі—нацыянал-фашыстамі. У процівагу нацыяналістычнай абмежаванасці заходне-беларускіх буржуазных паэтаў і пісьменікаў, у працівагу іх заалагічнаму, шавінізму—рэволюцыйныя пісьменнікі Заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў сваіх літаратурных творах адлюстроўваюць ідэю аздінства працоўных усіх народаў, барацьбы працоўных усіх краін свету, плячо

ў плячо з пролетарыятам, пры гегемоніі пролетарыята. У той час, калі ў нацыянал фашысцкай літаратуры беспадзельна пануе ўпадніцтва, багема, страх перад грознай зданню немінучай пролетарскай рэволюцыі, у творах рэволюцыйных пісьменнікаў Заходняй Беларусі гучыць бадзёрасць, адважнасць, смеласць і непахісная вера ў справу канчатковай перамогі пролетарыята, у справу трыумфа ідэй соцыялізма не толькі на адной шостай, але і на ўсіх шасці шостых зямнога шара, гэта значыць ва ўсім свеце.

Магутны размах рэволюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, грандыёзныя поспехі нацыянальна—культурнага соцыялістычнага будаўніцтва Совецкай Беларусі—з'яўляюцца вернай парукай таму, што рэволюцыйная літаратура Заходняй Беларусі будзе і надалей няўхільна ісці па лініі шпаркага росту на страх ворагам, на радасць працоўным. Наш творчы рост натхняе рэволюцыйную літаратуру Заходняй Беларусі.

Канчаючы, скажу некалькі слоў пра работу Аргкамітэта. Аргкамітэт прарабіў вялікую работу ў галіне згуртавання пісьменніцкіх кадраў. Кіраўніцтва работай пісьменнікаў з боку Аргкамітэта трэба прызнаць у асноўным здавальняючай. Тая перабудова, якая праводзілася Аргкамітэтам у кірунку павароту тварам непасрэдна да творчага працэса, да творчай работы пісьменніка, павінна быць значна паглыблена. Трэба пазбягаць лішніх паседжанняў і непатрэбных нагрузак пісьменніка. Калі гаварыць пра бліжэйшую работу Саюза пісьменнікаў, дык неабходна сказаць, каб пісьменніцкія арганізацыі больш займаліся творчымі пытаннямі. Кожнае паседжанне павінна разабраць творчасць якоганебудзь пісьменніка, менш канцыляршчыны ў рабоце камітэта пісьменнікаў і больш творчага кіраўніцтва.

Трэба работу кіруючага органа Саюза совецкіх пісьменнікаў Беларусі арганізаваць на аснове далейшага інтэрнацыянальнага выхавання пісьменніцкіх кадраў, рашучай барацьбы супроць нацыяналізма: супроць беларускага нацыяналізма, супроць рускага вялікадзяржаўнага шавінізма, супроць усіх праяўленняў нацыяналізма і ўсялякіх нацыяналістычных ухілаў.

Непрымірымая барацьба супроць буржуазнага нацыяналізма, супроць новых форм супраціўлення класавага ворага ў справе соцыялістычнага будаўніцтва з'яўляецца першачарговаю задачаю совецкай літаратуры БССР. Важна ўмець распазнаваць і выкрываць новыя формы праяўлення буржуазнага нацыяналізма, ускрыць сувязь буржуазнага нацыяналізма ў літаратуры з яго агульна-палітычнымі ўстаноўкамі на новым этапе. Неабходна змагацца за павышэнне большэвіцкай пільнасці на літаратурным фронце, за кваліфікаваную марксісцкую крытыку і бязлітаснае выкрыццё работы „ціхай сапай“ у літаратуры, прыкрытай маскай лаяльнасці і нават спачування совецкай уладзе.

Дазвольце закончыць свой даклад наступнымі словамі, выказанымі т. Л. М. Кагановічам на XVII з'ездзе нашай партыі.

> „Нашы перамогі з'явіліся вынікам таго, што на чале нашай партыі стаіць чалавек, які здолеў мабілізаваць масы з такой-жа рашымасцю і няўхільнасцю, як і Ленін, абараніць чыстату вучэння Маркса—Леніна, здолеў абагаціць гэтае вучэнне, здолеў высока падняць сцяг барацьбы за соцыялізм, здолеў распазнаць агентуру класавага ворага ў нашай партыі, здолеў запаліць агнём энтузіязма партыю, рабочы клас і працоўнае сялянства і рушыць гэтую вялікую армію працы на апошні штурм капіталізма ў нашай краіне, на пабудову пераможнага соцыялістычнага грамадства“.

Гэты чалавек—вялікі Сталін. Пад кіраўніцтвам яго наша краіна з герaічнай упартасцю рухаецца па шляху да поўнай перамогі соцыя-

**лізма. Пад яго кіраўніцтвам ва многа разоў павысілася якасць і колькасць творчай работы совецкіх пісьменнікаў, асабліва пасля пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. Пад яго кіраўніцтвам краіна нараджвае і выхоўвае атрады таленавітых мастакоў і стварае такое вялікае і нябачанае мастацтва, якое непамерна перавысіць мастацтва мінулых вякоў. Іначай і быць не можа. Бо толькі такім можа быць і будзе мастацтва спцыялістычнага будаўніцтва.**

---

Я. БРАНШТЭЙН

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ СОВЕЦКУЮ ПРОЗУ

Таварышы! З трыбуны першага з'езда совецкіх пісьменнікаў БССР наша проза, магчыма, больш чым які-небудзь іншы від беларускай мастацкай літаратуры можа расказаць пра цяжкі, але слаўна пройдзены шлях, пра вялікія перашкоды і яркія перамогі.

Вось нядаўна, у плане падрыхтоўкі да нашага з'езда, мы праводзілі спецыяльную нараду маладых празаікаў. Але-ж, па сутнасці, і нашы „старыкі", як кажуць, „масцітыя" нашы празаікі—усе яны—калі не лічыць, дакастрычніцкага пакалення празаікаў—маладыя празаікі!

Удвая маладыя!

Багата хто з іх увайшоў у літаратуру зусім нядаўна, у гады аднаўленчага перыяда.

Багата каму з іх яшчэ няма сарака год.

І вось, таварышы, гэты, па сутнасці, літаратурны маладняк, разам з невялікаю групаю дарэволюцыйнага пакалення беларускіх празаікаў, вынес на сваіх плячах цяжар стварэння ў мінімальныя гістарычныя тэрміны беларускай совецкай прозы!

А бойкі былі лютыя.

Наша проза вырасла ў краіне, якая мае гонар стаяць у дазоры першае ў свеце краіны соцыялістычнае працы.

Тут збіраліся адборнейшыя сілы інтэрвентаў усіх краін. Тут найбольш хітра і ўпарта наступаў класавы вораг. Тут складаней, чым дзе, перапляталіся соцыяльныя і нацыянальныя ўзаемаадносіны. На пэўным этапе тут засілле нацыяналістаў, кулацка-эсераўскіх і іншых антысовецкіх элементаў было надзвычай вялікае. Даводзілася з бою браць кожную пазіцыю. Не толькі барацьба за ідэю, у непасрэдным сэнсе гэтага слова, але і барацьба за слова, за канструкцыю фразы, за метафару, за вобраз, за сюжэт, у якіх ідэя апасрэдавана—усё гэта, па сутнасці, было і ёсць—класавая барацьба, барацьба за гегемонію на фронце ленінскай культурнай рэволюцыі, на фронце совецкай мастацкай літаратуры.

У гэтыя баі наша проза, як і ўся наша беларуская мастацкая літаратура, ішла пад кіраўніцтвам найвялікшай у свеце партыі, партыі большэвікоў.

І мы, таварышы, перамаглі.

Мы перамаглі—вось першае слова, якое мы маем права і павінны сказаць сёння з'езду.

Дынаміка колькаснага і якаснага росту беларускай совецкай прозы за перыяд, які ідзе пасля гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г., ідэйна палітычныя, класавыя і стылевыя зрухі ў ёй, змены яе тэматычнага профіля і вобразнай структуры за вышэй-

адзначаны перыяд—усё гэта надзвычай ярка сцвярджае палітычную мудрасць і празорлівасць ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі і, у прыватнасці, правільнасць яе большэвіцкай літаратурнай палітыкі.

Адзначаны яшчэ ў пастанове ЦК ВКП(б) працэс ідэйна-палітычнай перабудовы значнай групы пісьменнікаў, што спачуваюць соцбудаўніцтву, нарастаў за апошнія гады ў галіне нашай беларускай прозы паскоранымі тэмпамі ў шырыню і ў глыбіню. Але было-б, зразумела, наіўна гаварыць, што ва ўмовах вострай класавай барацьбы ў краіне, гэта перабудова праходзіла плаўна. Перабудова—гэта асобая канкрэтна-гістарычная форма класавай барацьбы на літаратурным фронце. Яна суправаджалася і суправаджаецца вылазкай класавага ворага, які імкнецца скарыстаць гэтую перабудову ў сваіх класава-варожых мэтах. Яна суправаджалася і суправаджаецца радам зрываў, пры плённай у асноўным творчай рабоце шырокіх пісьменніцкіх мас.

Нацыяналісты і антысовецкія элементы розных масцей, а ў першую чаргу беларускія нацдэмы, зрабілі, у апошнія гады, рад спроб, каб вярнуць свае страчаныя пазіцыі. Для гэтага яны пусцілі ў ход устаноўку аб тым, што пастанова ЦК нібыта з'яўляецца амністыяй класаваму ворагу. Для гэтага яны імкнуліся выступаць супроць партыі і партыйнага кіраўніцтва на літаратурным фронце пад выглядам барацьбы супроць РАПП,а. (Прыгадайце хоць-бы выступленне Сідарэнкі). Таму яны імкнуцца да гэтага часу падмяніць совецкую перабудову антысовецкай ці халтурнай „прыбудовай“.

Праблема перабудовы і „прыбудовы“ стаіць перад нашай крытыкай, як выключна цікавы комплекс творчых пытанняў.

Мы, таварышы, не мала і не дрэнна білі класавага ворага на літаратурным фронце, агаляючы змест яго твораў, яго ідэйную класавую накіраванасць. Але мы не былі да гэтага часу прыстасаваны да таго, каб своечасова ўскрыць той манеўр класавага ворага на літаратурным фронце, пра які гаварыў тав. Сталін, калі ён дапасоўваў тэрмін „ціхай сапы“ ў адносінах да наступлення кулака на пэўным этапе. Мы не навучыліся ўскрываць тэндэнцыі наступу класавага ворага ў замаскаванай форме, у форме стылявой „ціхай сапы“.

А між тым, калі мы ставім цяпер практычна і тэарэтычна пытанне пра тое, што такое „прыбудова“ і якім чынам класавы вораг імкнецца пад фальшывым сцягам перабудовы мініраваць нашы пазіцыі, мы немінуча сустракаемся з неабходнасцю па-новаму, „унікаючы ў тэхніку справы“, у „дробязі“ стыля аналізаваць літаратурныя працэсы, удараць па класаваму ворагу і тады, калі ён ідзе ў наступ пад маскай літаратурнага „наватарства“, калі ён маскіруецца ў „зараслях“ мала вядомых нам тонкіх кампанентаў стыля, калі ён хаваецца ў пейзажы, рытмы, метафары. Мы, крытыкі, да гэтага часу не навучыліся як след гэтага рабіць. За нас, за крытыкаў, робіць гэта нярэдка пісьменнік. Бліскуча гэта робіць, напрыклад, Змітрок Бядуля. У радзе раздзелаў другой часткі рамана „Язэп Крушынскі“ Бядуля, як вам вядома, заняты дыскрэдытацыяй нацдэмаўскіх прыёмаў пісьма, нацдэмаўскай паэтыкі. Міма гэтай работы крытыка не можа прайсці. Ёсць у Бядулі адно выключна цікавае месца, дзе ў плане памфлета, накіраванага супроць нацдэмаўскай паэтыкі і нацдэмаўскага стыля, аўтар дае цікавую схему нацдэмаўскага стылявога „шыфра“. Бядуля гаворыць пра нацдэмаўскага паэта Цярэшку наступнае:

„Цярэшка прыдумваў розныя шыфры. Ён займаўся гэтым з захапленнем вынаходцы.

Свае затоеныя думкі, галоўны стрыжань твору, ён з усіх бакоў

абкідваў чырвоным пясочкам „рэволюцыйных“ строф. Перакройваў пасвойму народныя казкі, дзе ў сімволіцы жывёлін, вятроў і дажджоў чулася змяінае сыканне яго захаваных настрояў. У шматпланавасці „валасоў палёў“ ён шпурляўся сумам і радасцю з такім спрытам, што няспрытны чытач не ведаў, дзе канчаецца сум і дзе пачынаецца радасць, чым выкліканы сум і чым выклікана радасць“.

Як белетрыст, які ўважліва прыглядзеўся, удумаўся ў асновы нацдэмаўскай паэтыкі, Бядуля з надзвычайнай выразнасцю ўскрывае тут рад асноўных элементаў гэтай паэтыкі. Папершае—нацдэмаўскую спробу скарыстаць зброю алегорыі і сімвала ў барацьбе супроць пролетарскай дыктатуры; падругое—іхную спробу скарыстаць лакіроўку мастацкага слова ў барацьбе супроць пролетарскай дыктатуры („чырвоны пясочак“) і ўрэшце—іхную спробу скарыстаць народны фальклор і рамантыку ў барацьбе супроць пролетарскай культуры („перакройваў пасвойму народныя казкі“).

Цікава, што Бядуля, гаворачы пра стылявыя прыёмы нацдэмаўскай літаратуры, зазначае на тое, што шматпланавасць, кампазіцыйная анархія „лірычнай прозы“ нярэдка давала „прыбудоўваючымся“ нацдэмам магчымасць вельмі спрытна „лавіраваць“ між настроямі суму і радасці“, гэтак лавіраваць, каб совецкая наша цэнзура ці літаратурная крытыка не змагла своечасова заўважыць. Гэта, зразумела, не нова. Нацдэмы не заўсёды выступаюць з адкрытым забралам. Разбітыя ў краіне пролетарскай дыктатуры, яны нярэдка дапасоўваюць стылявы шыфр „ціхай сапы“. Прыгадайце словы нацдэмаўскага паэта Пушчы аб тым, што „ўсе мы носім маскі“; прыгадайце пагрозу таго-ж самага Пушчы, што настане час, калі „ён расставіць кропкі“. І вось, калі гаворка ідзе пра спробы ворага скарыстаць перабудову ў сваіх мэтах, нам неабходна ўважліва прыглядзецца: а як-жа вораг дзейнічае „ціхай сапай“ спецыфічнымі срокамі зашыфраванага мастацкага слова?

### Нацдэмаўскі „наватар“, ягоныя „анекдоты“ і „здарэнні“.

Я прыгадаю адзін прыклад, які вельмі характэрны для такога варожага стылявога „шыфра“ і які недастаткова яшчэ прапрацаваны ў нашай літаратурнай крытыцы. Пісьменнік, пра якога я буду гаварыць—Калюга, а рэч яго „Цеснаватая куртачка“. Наша крытыка, праўда, намацала адразу нацыяналістычны сугуба-кулацкі пафас гэтай навелы, але не здолела абагуліць гэтага пытання.

Навела напісана на калгасную тэму. Вонкава нацдэм Калюга імкнуўся, значыцца, стварыць ілюзію, нібыта ён уключыўся ў справу стварэння нашай калгаснай тэматыкі. Але глядзіце, як гэты чалавек „зрабіў“ навелу, імкнучыся ўсыпіць пільнасць нашых крытыкаў. Як напісана навела „Цеснаватая куртачка“? Яна напісана ў плане фармалістскай бязвіннай развязнасці. Аўтар, бачыце, „агаляе прыём“. Аўтар хоча пераканаць чытача ў тым, што ён не гаворыць пра сур'ёзныя рэчы—ён толькі „гуляе“, ён—„наватар“. І вось пачынае аўтар так: „Нікуды не варта такая работа: пачынаць з надвор'я, з ветру, з дрэў, абсаджаных навокал дзеі. Але хто мне казаў, што я лепшы за іншых? І цвёрда трымаючыся гэтага пераканання,—што не лепшы з іншых—смела начну яшчэ горш: з пазалеташняга снегу“.

Аўтар, бачыце, выступае ў якасці „наватара“ супроць устанавіўшыхся сапраўды нядобрых традыцый у цэлага рада беларускіх празаікаў-натуралістаў пачынаць свае творы з бясконцых пейзажаў. Калюга „па традыцыі“ пачынае з „пазалеташняга снегу“.

Ён адразу ўводзіць чытача ў іранічную абстаноўку!

Але-ж у навеле гаворка ідзе пра год вялікага пералому! Гаворка ідзе пра 1930 год, калі рабочы клас і працоўнае сялянства ішлі на барацьбу за ліквідацыю кулацтва як класа. Памятны гераічны год! І вось гэты гераічны год і гераічную тэматыку Калюга распрацоўвае, „гуляючы“ і „жартуючы“, фармалістычна „агаляючы прыёмы“ пад іранічным знакам „пазалеташняга снегу“.

Наццэм Калюга, бачыце, „наватар“!

Як-жа ён імкнецца пад маскай наватарства весці наступ супроць пролетарскай дыктатуры? Калюга расказвае чытачу пра няўдачную спробу маладога калгасніка трапіць на вучобу ў рабфак. Гэты малады калгаснік-каваль пададзен на фоне „глухога беспрасветнага“ калгаснага жыцця. Усе бягуць з калгаса ў Менск, які прыцягвае да сябе электрычным з'яннем. Каваль Адась Банькоўчык імкнецца трапіць на рабфак, але замест таго, каб трапіць на рабфак у Менск, ён п'яны трапляе ў нейкую вёску ў якасці жаніха. Там у яго крадуць камандыроўку на рабфак, і ён зноў варочаецца назад у „глухі, цёмны“ калгас. На гэтым анекдатычным фоне Калюга распачынае літаратурны дыспут. Ён называе адну вёску „Анекдот“, а другую—„Здарэнне“. Гэтыя дзве вёскі алегарычна абыгрываюцца наступным чынам: „Быў непаваротны, цяльпукаваты Адась Банькоўчык—акурат традыцыйны герой беларускае літаратуры. Абы абмінуць сцісла трапны—так нязвыклы ў нас—анекдот,—ён гатоў быў даць вярсты тры апісаўчага, матывавальнага кругу.

Але быў з традыцыйным Адасем Антось Драніцкі — утрапёны чалавек.

— Іначай няма дарогі ў Здарэнне: толькі праз Анекдот ехаць трэба—а ён добра знаўся ў гэтым баку“.

Як „павучальна“ загучэла навела!

Для таго, каб трапіць у вёску Здарэнне, трэба, бачыце, праехаць праз вёску Анекдот,—гэта значыць, каб напаткаць выпадак (а гаворка ідзе пра багаты „выпадкамі“ 1930 год), трэба прайсці праз антысовецкі анекдот. Барацьба Калюгі за анекдот у літаратуры, гэта не ёсць нявінная барацьба наватара супроць сюжэтнай шэрасці,—гэта барацьба заклятага ворага, барацьба нацыяналіста супроць соцыялізма—гэта здзе класавага ворага з праблемы фабульнасці ў нашай літаратуры. Наццэм Калюга не абмяжоўваецца гэтым. Ён імкнецца сугуба нявінна падняць пытанне сюжэтнасці нашай прозы. Ён агітуе за сюжэт, за сюжэтнае багацце нашай прозы. Але звярніце ўвагу, якімі сродкамі: пад маскай, здавалася-б, чыстай літаратурнай дыскусіі ён зноў ідзе ў наступ супроць дыктатуры пролетарыята.

Вось што ён піша ў канцы навелы: „На вялілі жаль, у жыцці здараюцца сыжэты рэдка, а ў беларускай літаратуры ўдаюцца яшчэ радзей. Калі на жыццё разы два чалавеку выпадзе такая ўдача, дык і то ён не ведае, што з ёю рабіць—да таго доўга ўсё гэта зацягне, што аж абрыдзе ўсім і самому сабе. Не ўдалося гэта і маім героям: не зацягнулі, дык спынілі яны яго заўчасна. Зусім не вышаў, мабыць, самы цікавы, у Менск перанесены працяг. Ды дзе там Менск! І знаку ад яго не было ў гэту халодную відную ноч“.

Сюжэт навелы „Цеснаватая куртачка“ не ўдаўся... Калгаснік не трапіў на рабфак. А воддаль мігціць агнямі светлы Менск... У Менску хораша, а ў калгасе глухая цемра... Не ўдаюцца сюжэты беларускай літаратуры...

Праблема сюжэта ставіцца тут наццэмам як праблема палітычная.

Наша крытыка гэтага не заўважыла. І калі мы гаворым, што наша крытыка адстае, мы маем на ўвазе, што наша крытыка яшчэ не навучылася палітычна вычытаць усяго паэта. Яна сяк-так вычытае фабулу, публіцыстычныя рэмаркі, але яна яшчэ не навучылася чытаць спецыфічнага паэтычнага „шыфра“ пісьменніка, той мовы мастацтва, якою гаворыць пейзаж, натурморт, партрэт, метафара і г. д. А няўменне разбірацца ў гэтых „дробязях“ пазбаўляе магчымасці поўнасцю ўсвядоміць ідэю твора.

Старая раппаўская крытыка, у пераважнай сваёй большасці, не заўважала гэтых „дробязей“. Яе эстэтычны кодэкс быў таму вельмі нескладаны. Выказваючы свае ісціны, гэтая крытыка часцей за ўсё нагадвала граданачальніка з твораў Салтыкова-Шчэдрына. У граданачальніка была пустая галава, але ў галаве функцыянаваў арганчык: граданачальнік мог вымаўляць толькі два словы: „разганю“ і „не пацярплю“. На жаль, у нас не мала было гэткіх крытыкаў-граданачальнікаў. „Спадарожнікам“-жа, як правіла, належала знаходзіцца ў тым стане „трепета“, пра які гаворыць той-жа Салтыкоў-Шчэдрын у „Истории одного города“. Салтыкоў-Шчэдрын гаворыць, што грамадзяне трапяталі перад граданачальнікам у трох „ликах“—папершае—„бессвядома“, па другое—„з усведамленнем уласнай карысці“ і, патрэцяе—„возвышались до трепета исполненного доверия“.

Цяпер пасля гістарычнай пастановы ЦК пра перабудову, пасля неаднаразовых указанняў партыйнага друку, для кожнага з нас ясна, што ў гэткай атмасферы трэпета, у якой-бы то ні было форме, кіраваць літаратурай немагчыма.

Няўменне ўнікаць у тэхніку справы, няўменне „расшыфровываць“ пісьменніка, няўменне канкрэтна дапамагаць пісьменніку—вось што з'яўлялася асноўным недахопам нашай старой крытыкі.

### „Пароль інтымнасці“ і соцыялістычны рэалізм.

Я ўжо гаварыў, што мы не ўмелі своечасова ўскрыць хітрых манеўраў класавага ворага на літаратурным фронце. Але мы таксама не ўмелі своечасова дапамагчы пісьменніку, які ідэйна творча блукаў, які літаральна задыхаўся ў творчых пошуках, кожным сваім радком молячы нас, каб мы дапамаглі яму. У сувязі з гэтым я хачу сказаць некалькі слоў пра Скрыгана. Скрыган прыйшоў у літаратуру са значным цяжарам буржуазнага псіхалагізма і ідэалізма. Прачытайце, таварышы, яго навелу „Запіскі майго суседа“, вы ўбачыце, што Скрыган літаральна кідаецца ў творчых пошуках і падае пад цяжарам ідэалістычнай рамантыкі. Чытайце гэтую навелу і вы ўбачыце, што Скрыган падымае вельмі сур'ёзныя набалелыя пытанні, на якія ён аднак не атрымаў адказу і таму, магчыма, заблытаўся яшчэ больш.

Скрыган стварае ў гэтай навеле вобраз пісьменніка, які на сваім творчым шляху сутраваджаецца двума сімвалічнымі апанентамі. Адзін—гэта Шэф, як яго называе Скрыган, прадстаўнік суб'ектыўнага ідэалізма і другі—Балтазар—прадстаўнік паўзучага эмпірызма. І вось Скрыган кідаецца паміж гэтымі двума крайнасцямі—між суб'ектыўным ідэалізмам, па якому ўвесь свет, уся аб'ектыўная рэчаіснасць—комплекс успрыняцця суб'екта, і паўзучым эмпірызмам, які знаходзіцца „на падножным карму ў быта“. Бальтазар прыкры Скрыгану сваёй павярхоўнасцю. Скрыган разумее, што „трэба бачыць хараство і за вульгарнаю схемаю“, але ў пошуках гэтага хараства пісьменнік сустракае містычную прапаведзь хараства ў вуснах Шэфа. „Саліпсіст,—крычыць Скрыган Шэфу,—чаму-ж ты носіш сінія акуляры“?

Гэтак Скрыган кідаецца паміж сваімі двума спадарожнікамі. Ён імкнецца заняць сярэднюю пазіцыю паміж імі. Ён шукае інтымнасці ў мастацтве: „Тады ў ім падымаецца тое, што завецца інтымнасцю. Гэта пачынаецца другі чалавек, той, які нікому не паказваецца абы калі. Каб разгадаць яго, трэба мець той-жа самы пароль — інтымнасць“.

Такім чынам пароль інтымнасці, як гаворыць Скрыган, раўняецца выключэнню індывідуальнасцей з калектыва! Скрыган разумее трагізм гэтай інтымнасці, якая хаваецца ад калектыва. „І нікога няма, хто-б пастукаўся паролем у інтымнасць. Гэтую адсутнасць пачынаеш успрымаць гіпербалічна. Яна кладзецца тады на кожную рэч, пачынаючы ад запыленага стала, забытых аркушоў рукапісу і канчаючы тугавічным целам. Нават забываешся, што ты нясеш соцыяльную функцыю“.

У выніку гэтага трагічнага разрыва Скрыган траціць адчуванне рэальнасці сваёй творчасці. „Можа нават і не было нічога, ні Мары, ні лістоў, ні Шэфа, ні Бальтазара і я іх выдумаў. Запісаў як мадэлі абстрактных суадносін. Бо чалавек носіць з сабою права шукаць. Шуканне-ж гэта абстрагаваная рэальнасць, якую трэба дапаўняць самому“.

Няправільна, таварыш Скрыган, што „шуканні“—гэта „абстрагаваная рэальнасць“. Марксісты таксама гавораць пра абстракцыю, але наша абстракцыя заключае ў сабе ўсё багацце канкрэтнага і адзінічнага. Паняцце „тавар“ у Маркса—гэта таксама абстракцыя, але абстракцыя з багацейшым рэальным зместам.

Калі мы гаворым пра інтымнасць, мы выступаем супроць крыкуноў у літаратуры. Скрыган-жа мае на ўвазе выключэнне суб'екта-пісьменніка з калектыва. І недарма гэтак сумна канчаецца гэта навела. Вось як Скрыган канчае свае „Запіскі“. Ён шукае ідэальную дзяўчыну, ён спатыкае яе на вуліцы і пасылае ёй ліст. Дзяўчына піша яму ў адказ: „Дурань—чытаю я,—вам мабыць няма чаго рабіць і вы ходзіце па вуліцах, выглядаючы, каму-б паслаць ліст. Небарака рамантык! Спачуваю вам, але сабою памагчы не магу. Я не распазычваю сябе на пахвалы“. Гэтак аўтар падпісваецца ў сваёй трагічнай бездапаможнасці.

Справа нашай крытыкі—гэта справа канкрэтнай дапамогі такім, як Скрыган, бо такіх у нашай беларускай прозе не мала.

### Арганічная перабудова.

Аднак, і не Скрыган дае вядучую формулу нашай літаратурнай перабудовы. Калі гаварыць пра вядучую формулу, то яна заключаецца ў сцверджанні, што асноўныя і лепшыя майстры нашай мастацкай прозы перабудаваліся ўсур'ёз. Тут гаворка ідзе не пра знадворную перабудову. Гаворка ідзе пра тое, што буйныя майстры слова прарабілі выключна цікавую ў гісторыі нашай літаратуры арганічную перабудову на ўласным мінулым вобразным матэрыяле. Я гэта падкрэсліваю, бо такая перабудова вельмі складаная і ў большасці выпадкаў найбольш шчырая перабудова. Пісьменнік выклікае з нетраў мінулага сваю ўлюбёную галерэю вобразаў і ў новым класавым аспекце ва ўпор развенчвае іх, дыскрэдытуе іх новымі мастацкімі сродкамі.

Мы не мала гаварылі пра творчасць Коласа, але вельмі мала вывучалі своеасаблівыя шляхі яго перабудовы за апошнія гады. Узяць хоць-бы „Дрыгву“. Гэта—гераічная аповесць пра Палессе. А Палессе—не чужая вобразная сістэма для Коласа. Колас некалі пісаў і пра

дзеда тыпа Талаша і пра палескую глуш. Цяпер Колас варочаецца да сваіх паляшкоў, каб дыскрэдытаваць старыя свае вобразы і вышэй узняць новыя. Работа—вельмі павучальная!

Вы ведаеце дзеда Талаша з „Дрыгвы"—параўнайце яго з дзедам Мікітам з „Палескай глушы". Вось як некалі пісаў Колас пра дзеда Мікіту—будучага Талаша:

„Вось хоць бы гэты дзед Мікіта. Сівы, як голуб. Востры погляд, калючыя вочы, гатовыя пранізаць. Старасць прыгнула яго крэпкі стан і кінула на твар яго і на высокі лоб цэлую сетку маршчын. Але што за дока быў дзед Мікіта ў маладыя гады! Ī не было ў сяле роўнага яму! Такія штукі выкідваў дзед Мікіта, на якія цяпер ніхто не патрапіць, бо хіба цяпер такі народ? Ды што маладыя гады? Нават і цяпер, не гледзячы на свае восемдзесят год, дзед Мікіта маладога за пояс заткне. Вось толькі няхай падгуляе, няхай ачнецца ў ім маладая бунтоўная кроў—не выцерпіць".

Звярніце ўвагу, што тут Колас дае вобраз блізкі да моцнай самабытнай фігуры дзеда Талаша з рамана „Дрыгва". Дзед Мікіта—папярэднік дзеда Талаша. Вы ведаеце, якую ролю адыгралі ў нацдэмаў гэтыя „самабытныя" дзяды-паляшукі, „гэтая чысцейшая, сапраўды беларуская, парода".

У „У палескай глушы" Колас наступным чынам разгортвае нацыянал-рамантычную тэорыю пра палескую глуш і яе „самабытнае насельніцтва": „Але гэтыя гутаркі не выходзілі за межы тых пытанняў, якія закранаў сам настаўнік, бо паляшукі—**людзі паважныя, сталыя, асцярожныя**, не адразу і не кожнаму расчыняюць сваю душу, бо ўжо, мусіць, **сама гэта прырода Палесся** налажыла на іх сваю адзнаку. Бясконцыя балоты вучылі іх **мудраму разважанню**, мора лясоў выхоўвала ў іх асцярогу, бо так лёгка тут напаткаць небяспеку".

Колас смакуе гэтую глуш:

Ад гэтых балот патыхала нейкім невыразным смуткам: **ціхім жалем** веяла ад гэтых аднатонных малюнкаў палескіх куткоў, дзе ўсё-ж такі жыццё стварала свае асобныя формы і, не гледзячы на ўсё ўбоства, **мела сваю павабнасць і хараство**, свой твар, поўны пужлівага задумення" („У пал. глушы").

Тут перад вамі тыповая нацыянал-рамантычная тэорыя аб „натуральнай прыродзе" чалавека, аб харастве першабытнасці, аб прыгожасці глушы. Але што-б сказаў з гэтага поваду Талаш, які таксама нарадзіўся у гэтых бясконцых балотах? Што-б сказаў дзед Талаш з поваду хараства „глухога і пужлівага задумення і ціхага жалю" і інш. Палесся? Ён адказаў-бы тым, чым адказваюць комунары з паэмы Купалы „Над ракою Арэсай", калі яны бесцэрамонна распраўляюцца з„палескай глушшу".

Ніякага хараства няма ў гэтай глушы, у гэтай спрадвечнай адсталасці вясковага жыцця! Ī да ніякага „мудрага разважання" не схільны палескія батракі і працоўныя!

У „У палескай глушы" Колас ставіць праблему узаемаадносін паміж інтэлігенцыяй і народам. Вы памятаеце, як ён там вырашае гэтае пытанне. Ён гаворыць, што „навязваць людзям сваю волю, вымагаць ад іх, каб яны рабілі іменна так, а не іначай, мы не маем права, бо хто можа паручыцца за тое, што мы не памыляемся".

Але дзед Талаш надзвычай добра ведае з свае партызанскае практыкі, што якраз так, як ён кіруе сваім маленькім партызанскім атрадам, партыя большэвікоў кіруе ягоным атрадам і ўсімі працоўнымі. Дзед Талаш не ведае пакут разрыва паміж „натоўпам" і правадырамі!

Яму не праходзіцца звонку навязваць некаму сваю волю, так сама, як ён сам са сваім партызанскім атрадам, натуральна, падпарадкуецца ўказанням Чырвонай арміі і партыі.

Я прыгадаў вам усе гэтыя месцы для таго, каб паказаць вам, што для Коласа напісаць такую кнігу як „Дрыгва" азначала—зусім панову зірнуць на Палессе, на Беларусь, на ўвесь свет. Гэта азначала—рэзкую крытыку старой канцэпцыі Палесся, пра якое некалі, знаходзячыся пад уплывам нацыяналістычнай стылізацыі, той-жа Якуб Колас пісаў, скажаючы жыццёвую праўду. Гэта азначала—убачыць Палессе, у якім палае жорсткая класавая барацьба, узрываючая нацыяналістычныя тэорыі „самабытнасці".

Вось у чым, у першую чаргу, характэрнасць і цікавасць кнігі Якуба Коласа „Дрыгва".

Гэта зусім не лёгкая справа. У Коласа, так сама як і ў Купалы, гэтая ідэйна-творчая палеміка з стылізаваным Палессем не заўсёды вычарпальна. Ёсць зрывы.

Але варта тут успомніць імя Клейнборта—„таго самага". Ён напісаў багата нацыяналістычнай пошласці пра „маладую Беларусь"—пра Коласа-ж ён пісаў: „Коласа ўпікалі за тое, што ён даў дробнабуржуазны быт з яго індывідуалізмам. Але чым багаты, тым і рады. Мастак апісвае тое, што бачыць".

Не, не хараством „Палескай глушы" Колас багаты. Не, Колас не засуджан на тое, каб бачыць толькі гэтыя „бясконцыя балоты". Ніколі не зразумець гэтага пашлякам тыпу Клейнборта. Таксама не зразумець ім ніколі сілы Коласа-рэаліста. Нават у „Палескай глушы" у Коласа ёсць рад элементаў, якія сведчаць пра тое, што перад намі буйны рэаліст, які знаходзіцца пад уціскам буржуазнага нацыяналізма і народніцкай стылізацыі. Там, дзе перамагае рэаліст, Колас, незалежна ад сваіх нацыянал-рамантычных поглядаў, паказвае праўду жыцця і тады чытач бачыць усю бездапаможнасць „хождения" народніцкай інтэлігенцыі ў народ.

Рэалізм—вось сіла Коласа!

У гэтым сіла і „Дрыгвы". Але гэты твор разам з тым ёсць сведка таго, што новая трактоўка старых вобразаў нясе новы, сапраўдны рамантычны пафас. Па сутнасці „Дрыгва"—рамантыка-гераічная эпапея. Якуб Колас, які ў беларускую літаратуру прыйшоў, насычаны народнай рамантыкай, фальклорам, не мог не напісаць „Дрыгвы"—аповесці, якую можна прыблізна назваць народным лубком у лепшым мастацкім і савецкім сэнсе гэтага слова. Сам Колас раскрывае стылявую сутнасць свайго рамана „Дрыгва" ў наступных радках: „Людская гутарка аздабляла сапраўдныя падзеі... Ганусаўскія падзеі набывалі значэнне гераічнай быліны, дзе партызаны выступалі, як волаты, а іх атаман рысаваўся, як народны герой, як рука караючай справядлівасці і помсты".

Калі вы хочаце ведаць, што такое „Дрыгва" Коласа, удумайцеся ў сэнс гэтых слоў Коласа. У „Дрыгве" Колас сапраўды выступае ў якасці рамантыка—рэвалюцыйнага рамантыка. Ён аздабляе, упрыгожвае сапраўдныя падзеі. Партызаны Коласа—гэта сапраўды былінныя героі, і Талаш—гэта народны герой у лепшым фальклорным сэнсе гэтага слова,—адсюль сіла і слабасць гэтага вобраза.

Я прыгадаю другі прыклад арганічнай перабудовы на аснове самакрытыкі. Гаворка ідзе пра другую частку рамана Бядулі „Язэп Крушынскі". Для Бядулі перабудова азначала не „крыкнуць грамчэй за ўсіх", але зноў сустрэцца твар у твар з тымі вобразамі, якія ён раней ідэалізаваў для таго, каб мастацкімі сродкамі дыскрэдытаваць

іх. І не выпадкова рад яркіх раздзелаў гэтай кнігі прысвечаны зрыву масак з ваяўнічага нацыяналізма; Бядуля робіць пры гэтым палітычна актуальную патрэбную справу, калі ў мастацкіх вобразах паказвае змычку беларускага нацыянал-дэмакратызма з інтэрвентамі. У радзе месц Бядуля надзвычай добра агаляе сувязь беларускага нацыянал-дэмакратызма з інтэрвентамі, паказваючы, як „мірныя“ прафесары і „самабытныя“ нацдэмаўскія паэты рыхтавалі крывавую расправу над працоўнымі Совецкай Беларусі.

Але апрача гэтага палітычнага зрыву масак, у дадзеным дакладзе мяне цікавіць зрыў масак з нацыянал-дэмакратычнай паэтыкі. З нацдэмаўскай эстэтыкі.

Вы ведаеце, якую ролю адыгрываў рамантызм у нацыянал-дэмакратычнай эстэтыцы. Нацыянал-дэмакраты гаварылі, што прыродзе беларуса ўласцівы рамантызм. І вось Бядуля бярэ вядомы выпадак з нацыянал-дэмакратычнай дамай, якая любіла рамантычныя здарэнні, шукала рамантычных герояў. Урэшце яна знайшла свайго „героя“. Рамантычны герой аказаўся, аднак, звычайным „злодзеем“, які сцягнуў у легкавернай дамы залаты гадзіннік...

Дык вось ён—„пераапрануты каліф“ нацыянал-рамантык!

У памфлетнай трактоўцы Бядулі гэтае здарэнне гучыць сімвалічна.

Я прыгадаю яшчэ адзін прыклад. Вы ведаеце, якую ролю адыгрывае народніцкі пейзаж у беларускай нацыянал-дэмакратычнай літаратуры. Гэты пейзаж і цяпер яшчэ пагражае нашай прозе. Бядуля падае пейзаж „стылізаваны“ ў звычайным нацыянал-рамантычным духу.

„Сонца і цень. Сасновая жывіца і спозненыя сыраежкі.

Не лес—балада.

Не лес—палацы.

Не лес—рамантыка.

Госці расселіся, дзе хто хацеў.

І раптам перад вачыма Язэпа Крушынскага праплыў ледзь прыкметным воблачкам урывак дня з мінулай восені на тэму „я“ і „яна“.

...Тут...

...На гэтай самай паваленай бярозе я пацяшаў Мэру...

...Яна засталася ляжаць...

...Я ўцёк...

...Яна кінулася ў рэчку...

...Мяне тут ужо не было...“

Звярніце ўвагу на кантрастнае супастаўленне славутай, стылізаванай бярозкі з „той самай паваленай бярозай“, на якой кулак Крушынскі „пацяшаў Мэру“. Баладны рамантычны лес, куды нацдэмаўскі паэт Цярэшка кліча свайго чытача, стаў фонам кулацкага разгула.

Пейзаж пахне крывёй! Гэта не той нацыянал-рамантычны „пах зямлі“, які займаў вялікае месца ў нацыяналістычнай беларускай літаратуры. Гэта пах крыві, і Бядуля пра гэта сказаў у плане памфлета і пародыі вельмі моцна.

Ад нацдэмаўскага „паху зямлі“ доўгі час не маглі вызваліцца многія нашыя празаікі. Вазьміце такога празаіка, як Кузьма Чорны. Яго раман „Зямля“ ідзе пад знакам народніцкай і нацыяналістычнай стылізацыі „паху зямлі“. Як хараша, як сакавіта пахнуць яго яблыкі, са стукам падаючыя на зямлю, пантэістычна акампаніруючы комсамольскаму сходу. Чорны захапляецца гэтым стукам падаючых яблык, ён не чуе за ім пульса социяльнай рэчаіснасці.

Што-ж Чорны зрабіў для таго, каб пазбавіцца гэтага стылізаванага „паху зямлі“? Што-ж ён зрабіў для таго, каб скінуць з сябе

прах той рэакцыйнай талстоўскай філасофіі пасівізма, якая заключаецца ў яго акордзе на смерць дзеда Тамаша. „У той дзень зямля прымала ў сябе Тамаша. Яна была раскапана і разварочана... На тры аршыны ўглыб адчыніла зямля нетры свае і маўчала цяжкасцю кожнае жмені пяску перад холадам усіх недарэчнасцей свету. Тры аршына пяску ўпарта чакалі, і нічога не трэба было больш чалавеку".

К. Чорны таксама выбірае вышэй адзначаны шлях творчай самакрытыкі. Бо што такое яго раман „Бацькаўшчына"? Гэта, па сутнасці, якасна новае, ідэйна-палітычнае новае выданне „Зямлі"!

„Бацькаўшчына"—гэта страсная творча-палітычная палеміка з „Зямлёй" па ўсіх магістралях стыля. Бацькаўшчына"— гэта выклік славутаму „паху зямлі". Калі ў „Зямлі" бядняк-селянін стогне з адчаю, што: „нехта-ж потым вінават, што некаму жывецца дрэнна", не ведаючы, хто вінават, то ў „Бацькаўшчыне" бедняк Гушка надзвычай добра ведае, хто вінаваты ў тым, што яму жывецца дрэнна. Прыгадайце, як пачынаецца раман „Бацькаўшчына". Ён пачынаецца з паказу катаржнай мужыцкай працы. Распрадаўшы літаральна ўвесь свой сціплы хатні скарб, Гушка купляе кавалачак зямлі. Зранння да начы гэты батрак працуе: зрабіцца гаспадаром— вось яго мара, мара пра зямлю, якая была асноўнай вядучай ідэяй аповесці К. Чорнага „Зямля". Але паглядзіце, як К. Чорны цяпер палемізуе са сваімі старымі ідэйна-творчымі ўстаноўкамі:—„Рай зямны,—сказаў папок, азіраючыся навокал і прагнучы добрым словам памагчы чалавеку ўзараць загон,—птушкі спяваюць, бога хваляць, ды ўсялякае значыць, стварэнне"...

Абліваючыся потам Гушка слухае гэтую рамантычную тыраду папа пра птушак, якія спяваюць. Патрыярхальная рамантыка земляробства мастацкі дыскрэдытавана! „Няхай-бы яна гарэла гэта зямля"—гэтая рэпліка Няміры тычыцца не толькі гэтага кавалку зямлі. Гэта выклік „Зямлі" К. Чорнага. Чорны бачыць цяпер „ідыётызм" вясковага жыцця", ён навучыўся бачыць класавую барацьбу ў вёсцы.

Палітычная актуальнасць гэтай творчай палемікі зразумела для кожнага. Творча дыскрэдытаваць народніцкую стылізацыю „патрыярхальнай" неабходна не толькі ў інтарэсах барацьбы супроць беларускіх нацдэмаўскіх традыцый у літаратуры. У літаратуры сучаснага Захаду не мала яшчэ ідэалізатараў гэтага „ідыётызма вясковага жыцця". Досыць прыгадаць апошнія творы Кнута Гамсуна з яго ўстаноўкай на „чудодейственную" сілу „сокаў зямлі".

Урэшце для паўнаты малюнка я хачу паказаць на падобны-ж шлях перабудовы ў Зарэцкага. Клейнборт, пра якога я ўжо гаварыў, пісаў пра Зарэцкага: „Гэта мастак супярэчнасцей, антаганізмаў, перад якімі бляднее сама смерць". Тое, што з'яўляецца слабым у Зарэцкага—яго буржуазна-дэкадэнцкае абыграванне „душэўнага раздваення", гэты мяшчанскі крытык уяўляе сабе як сілу яго. „Каларыт Зарэцкага,—піша Клейнборт,—гэта Каларыт новых дзён, каларыт чырвонага фронта з усімі ружамі і ўсімі шыпамі". Зарэцкі, зразумела, нічога агульнага не мае цяпер з такой крытыкай. Цяпер Зарэцкі надзвычай добра разумее, што ніякага „каларыта чырвонага фронта" ў яго раманах не было і не было „супярэчнасцей мацнейшых за смерць". У артыкуле „Размова незвычайнай шчырасці" Зарэцкі выклікае з нетраў свайго мінулага старую галерэю ўлюбёных вобразаў і заяўляе ім: „Брэшаш. Няпраўда. Хлусня. Я не веру ў твой ідыёцкі фаталізм".

Зарэцкі не верыць у магчымасць быць прыкутым на век да тачкі нацдэмаўскіх вобразаў. Ён увскрашае сваіх старых герояў для таго, каб даць ім сапраўдную канчатковую смерць"—вось як Зарэцкі ставіць пытанне пра сваю творчую самакрытыку!

У супроцьвагу сваім любімым буржуазна-дэкадэнцкім „шукальнікам хараства“ Зарэцкі высоўвае галерэю новых шукальнікаў хараства. Чым не шукальнік хараства комсамолец Зелянюк, які спакойна, без гучных слоў, арганізуе беднякоў і сераднякоў свайго раёна на барацьбу за калектывізацыю. Вось—„шукальнік хараства“, які патрэбен нашай літаратуры.

**Лёс вобразаў.**

Асноўнае ў творчай перабудове беларускай совецкай прозы, асноўнае ў дасягненнях яе партыйнага і комсамольскага пісьменніцкага актыва—гэта барацьба супроць нацдэмаўскага рамантызма, за праўдзівасць паказу рэчаіснасці, за совецкі соцыялістычны рэалізм.

Ва ўмовах беларускай прозы барацьба супроць нацыянал-рамантызма азначае барацьбу супроць кулацка-патрыярхальнай ідэалізацыі „праўды зямлі“ і „бацькаўшчыны“, супроць дэкадэнцкага культа моцнага чалавека“ („Голы звер“), супроць нацыянал-народніцкага сюсюкання на адрас „друзей народа“—настаўнікаў, настаўніц і „бунтарскіпрыгожых“ гімназістак, супроць эсэраўскай ідэалізацыі мужыцкіх „шукальнікаў праўды“, супроць тых, хто часта гавораць пра „нешта больш глыбокае, падсвядомае“ і ў той час, вядзе ў абдымкі буржуазнага псіхалагізма і „божанькі“, супроць бязмежнай „паводкі пачуццяў“ і „пароля інтымнасці“, як гэта фармуляваў Скрыган: супроць нацыянал-рамантычных „шукальнікаў хараства“ ў „самабытных“ нетрах „народа“, супроць рамантычнай стылізацыі „самабытнага“ беларускага пейзажа і г. д. У радзе артыкулаў мне ўжо давялося больш падрабязна аналізаваць тыя працэсы, змены і трансфармацыі вобразаў, якія характарызуюць класавую барацьбу на фронце беларускай мастацкай прозы. Аднак, у гэтай галіне мы яшчэ зрабілі вельмі мала.

Наша крытыка вельмі мала зрабіла для таго, каб паказаць, якія новыя вобразы мы ствараем і якія старыя вобразы мы знішчаем. Вазьміце хоць-бы выключна моцна засеўшы ў беларускай прозе эсэраўскі вобраз мужыцкага „шукальніка“. Гэты мужыцкі „шукальнік“ у цэлым радзе нашых аповесцей і раманаў з'яўляецца амаль што не „рухаючай сілай гісторыі“. Ён становіцца цэнтральнай станоўчай фігурай. Чытайце Коласа „У Палескай глушы“ і там вы знойдзеце такія радкі: „А можа гэта смутак аб чымсьці такім, міма чаго прайшоў ты няўважна і страціў навекі? Ці гэта—адбітак вечнага нездавальнення чалавека, якое выдзяляе яго з кругу жывёлін і вядзе па дарозе шукання і ўтварэння лепшых стасункаў жыцця і яго хараства“.

Ці, напрыклад, чытайце Зарэцкага: „За апошні час чаго не было толькі: доўга на фронце быў, бачыў смерць перад сабою не раз. Потым на адпачынак сюды прыехалі: гульні, забавы вясковыя, цікавыя праявы новага вясковага жыцця. І ўсё гэта неяк проста, звычайна; усё прымаеш, як нешта будзённае, неабходнае. Шукаеш хараства, і яго няма“.

Мне не мала ўжо даводзілася гаварыць пра нацдэмаўскіх „шукальнікаў хараства“. Вобраз мужыцкіх „шукальнікаў праўды“ не менш моцна трымаецца ў беларускай прозе. Што такое вобраз Галілея ў рамане Зарэцкага „Вязьмо“, як не традыцыйны паказ гэтага-ж самага „народнага шукальніка“.

Прыблізна такі-ж самы шукальнік праўды, гэта Тодар Пошта з рамана „Мядзведзічы“, „Леў Талстой“ з рамана „Язэп Крушынскі“, дзед Тамаш з рамана „Зямля“ і г. д.

Але мы маем права заявіць са з'ездаўскай трыбуны, што паварот у бок таго, каб пакончыць з эсэраўскі-стылізаванымі „шукальнікамі

праўды“ зроблен. Ён зроблен у Крапівы, калі шукальнік праўды Тодар Пошта выступае ў якасці па дкулачніка. Гэта зроблена ў Зм. Бядулі, калі „Леў Талстой“ сам прызнаецца ў тым, што „цеплаватасць“ яго дае магчымасць кулаку Крушынскаму скарыстаць яго. Гэты паварот ярка зроблен і ў Коласа ў „Адшчапенцы“. Прыгадайце „адшчапенца“ Пракопа, які варожа настроены да калгаса і кідае дом, каб ісці „шукаць праўды“.

Нешта накшталт таямнічага знікнення яснапалянскага „шукальніка ісціны“!

Але з першых-жа крокаў сваіх гэты мужыцкі „шукальнік“ (некалі прадмет нацыянал-рамантычнага захаплення нацдэмаў) сустракаецца з неабходнасцю... жыць з уласнае працы. „Шукальнік“ прымушан прыкідвацца „калгасным дэлегатам“. У якасці „калгаснага дэлегата“ ён знаёміцца з умовамі калгаснага жыцця і робіцца яго гарачым прыхільнікам.

Нацыянал-рамантычны „шукальнік праўды“ знарок падкрэслены ў Коласа, зведзены такім чынам да рэальнага „дэлегата“.

Даволі прывесці наступныя два ўрыўкі, каб пераканацца ў гэтым тонкім прыёме развенчвання вобраза.

Калі „шукальнік“ Пракоп пакідае свой двор, паступіўшы ў калгас, ён гаворыць суровым тонам біблейскага прарока: „Глухім стаўся бог для нас і няма чаго ўспамінаць яго“. Пры першай жа сутычцы з рэальнай рэчаіснасцю (няма чаго есці) Пракоп пераходзіць на „нарпітаўскую прозу“: „—Навошта-ж яму ўсе гэтыя прыкрасці“, калі можа ўзяць на сябе ролю дэлегата?“

У гэтым-жа плане карысна спецыяльна спыніцца на рамане Лынькова „На чырвоных лядах“. Тут аўтар таксама крута і вельмі тонка распраўляецца з гэтымі мужыцкімі „шукальнікамі праўды“. Ёсць „У чырвоных лядах“ такі мужыцкі „шукальнік праўды“—Лаўрэн. У Лаўрэна—свае лятуценні. Яму сніцца: „Нібы царква вот местачковая ўзняла высока, высока, аж пад самыя воблакі макаўкі залатыя—калі-б то пазалацелі, спытаць, яны-ж аблупленыя, іржавыя, дзе-ж ты тую фарбу распазнаеш... А сам ён на званіцы стаіць, у званы б'е. І званы сярэбраныя, так і залівающца, бумкаюць ды дзілінкаюць. І ўзяўся Лаўрэн за самы вялікі звон, за біла цяжкае, неруховае“.

Ці не гэтак нацдэмаўскі рамантык марыў пра „высокую званіцу“ з залатым купалам (а купал той—аблуплены, іржавы!). Лаўрэн „шукае праўды“ па цытатах свяшчэннага пісання і не знаходзіць яе. Што-б зрабіў нацдэм, калі-б яму ў рукі трапіла гэткая „багатая натура“? Ён-бы з яго зрабіў нацдэмаўскі „расписной пряник“ (як гаворыць Горкі), а Лынькоў укладвае ў вусны каваля Івана Іванавіча наступныя словы на адрас Лаўрэна: „Буквенны вы чалавек, пане Лаўрэн, і праўда тая ў вас—буквенная праўда. Вот каб ляснулі вам па шчацэ добра, каб пашлі тыя валдыры па душы, каб задзела вас, выбачайце, за самыя печані—пачалі-б вы тады сапраўдную праўду шукаць і зусім з другога канца шукалі-б яе. А пакуль што шукаеце ад сытасці“.

Вось, таварышы, вострыя патрэбныя словы!

Я не хачу сказаць (гэта было-б няправільна) што ўсе „шуканні“ нашых наіўна-патрыярхальных мужыкоў у перыяд „ломки устоев“ былі ад сытасці. Былі шуканні, якія ішлі ад глухога беднага жыцця. Пра такія шуканні гаворыць Ленін у артыкулах пра Талстога. Але справа ў тым, што неабходна распраўіцца з эсэраўскім заштампаваным рамантычным вобразам мужыцкага шукальніка „боскай праўды“. І пры гэтым трэба сказаць, што каштоўнае тут у Лынькова не толькі тое, што ён узрывае ідэю гэтага эсэраўскага вобраза. Вельмі каш-

тоўна тое, што Лынькоў разам з ім узрывае паэтычны эксесуар, які суправаджаў гэты вобраз. А гэты вобраз, як вядома, суправаджаўся „высокім“ рамантычным „штылем“. Гэтыя-ж людзі гаварылі „паэтычнай прозай“ нацдэмаўскай самабытнасці. Яны гаварылі цытатамі з свяшчэннага пісання. І вось Лынькоў б‘е па гэтай паэтыцы.

Лаўрэн глядзіць у зорнае неба і марыць: „Свецяць ліхтарыкі... Вунь аднойчы і Лаўрэну так засвяціў начальнік дыстанцыі, аж твар распух. Пад самае вока патрапіў—быў тады семафор не дагледжаны. Што-ж. Нішто як не ад бога...“

„Нішто як не ад бога“,—дадае Лынькоў іранічна на адрас „зорнай лірыкі“.

У другім месцы, калі гэты-ж самы „божы чалавек“ Лаўрэн цытуе месца з свяшчэннага пісання, гаворачы нешта наконт святога „елея“, жонка ўрываецца ў яго свяшчэнную паэтыку сваёй празаічнай рэчаіснасцю: „А ты-б сапраўды алею ў Еўнухі ўзяў“. Лынькоў гэтак ўзрывае не толькі шкодны вобраз, але і ўвесь паэтычны эксесуар, якім суправаджаецца гэты вобраз.

Лынькоў, на маю думку, добра робіць, калі ён у тым-жа рамане крута расправуляецца з вобразам настаўніцы Зіны.

Беларуская совецкая проза, зразумела, не мае намеру аддаць на водкуп нацдэмам вобраз народнай настаўніцы, настаўніка ці вучня. Аднак, у гэтым выпадку гаворка ідзе пра тое, каб узарваць нацдэмаўскую стылізацыю ў гэтых вобразах. Ці не рабілі цэлай паводкі нашы празаікі ў сваіх творах, паводкі вобразаў „бунтарскі-прыгожых“ гімназістак (Мурашка, Зарэцкі).

А якую ролю адыгрывала народніцкая настаўніца ў нацыяналістычнай літаратуры? Нацдэмы меркавалі, што настаўнік і настаўніца—гэта соль зямлі, гэта ўсё. Таму неабходна прызнаць надзвычай карысным творчую дыскрэдытацыю гэтых вобразаў. Трэба ўзарваць усю тую паэтыку тугі ды суму, якімі гэты вобраз суправаджаўся. Гэта і робіць Лынькоў на вобразах Зіны і Бэці.

Разам з тым ён высоўвае новых „шукальнікаў праўды“, не абстрактнай праўды, не народніцкай, а соцыялістычнай праўды. Такога шукальніка праўды Лынькоў падае нам у вобразе Івана Іванавіча. Іван Іванавіч—не работнік падпольнай арганізацыі, не большэвік і нельга гаварыць, што ён з‘яўляецца прадстаўніком авангарда рэволюцыйнага пролетарыята. Сам Лынькоў гаворыць, што Іван Іванавіч „недарэка“. Але ў вобразе Івана Іванавіча перад намі каштоўны, новы рэволюцыйны тып шукальніка праўды. Яго праўда не папоўская, не народніцкая. Лынькоў паказвае, якімі шляхамі гэты рэволюцыянер-гарапашнік прыходзіць да рэволюцыі пролетарыята:

„У гэтым, відаць, і праўда наша... І гэта праўда, відаць, узнеслася полымем над панскім гумном... Але ізноў-жа згасла, сацмела... Бо дарогі, відаць, шырокае тае не было... Ішла праўда тропкамі цёмнымі ды глухімі, сцежкамі тымі лесавымі, віхлястымі, мужыцкімі сцежкамі... Выйсця ніяк не магла знайсці на шырокія дарогі, бітыя... А хто-ж вінаваты ў гэтым? Топчуцца людзі, з бітае дарогі ў балота кідаюцца...“

У барацьбе за рабочую тэматыку ў нас дзе-ні-дзе чуліся галасы: а ці не небяспечна нам займацца сялянскай тэматыкай, таму што народнікі-нацыяналісты яе дыскрэдытавалі, ці не трэба нам адмовіцца ад гэтай тэматыкі, таму што яна „чревата осложнениями“. Я думаю, што такія думкі няправільныя. Яшчэ і цяпер сялянская тэматыка выключна актуальная. Гаворка ідзе пра тое, каб паказаць, як мы ствараем соцыялістычнае земляробства і ліквідуем розніцу паміж

горадам і вёскай. У нашай літаратуры не мала яркіх старонак, якія паказваюць вёску ў савецкім аспекце.

Я лічу, што адной з буйнейшых заваёў нашай прозы з'яўляецца тое, што наша проза пакончыла ў літаратуры з ідэалізацыяй кулака. У нас ёсць рад надзвычай добрых вобразаў, якія канчаткова агаляюць класавае нутро кулака ў той час, як кулак з'яўляўся цэнтральнай станоўчай фігурай у нацыяналістычнай літаратуры. Прычым трэба сказаць, што лепшыя староннікі нашай прозы, лепшыя вобразы кулака—гэта тыя, дзе пісьменнік не абмяжоўваецца публіцыстыкай, а паказвае канкрэтныя формы праяў кулацкай дзейнасці, у тым ліку і асноўную форму яго наступу—„ціхай сапай".

„Калі кулак Мышкін з рамана Галавача „Спалох на загонах" пасвойму агітуе „за калгас", то ён з'яўляецца іменна тым кулаком, пра якога гаварыў тав. Сталін: кулаком, паўзучым „ціхай сапай". Ці калі-ж гэты кулак заяўляе на сходзе, што „партыя не будзе займацца аднаасобнікам", а таму, кажа, неабходна ўступіць у калгас. Тут пададзена хітрая праграма дзеянняў кулака. Галавач выяўляе ў гэтых старонках яркі талент рэаліста. Таксама і ў рамане „Мядведзічы" Крапівою паказан цікавы тып кулака Каржакевіча, які, адкрыта не выступаючы супроць савецкай улады, вядзе хітра задуманую тонкую работу па дыскрэдытацыі мерапрыемстваў савецкай улады. Ці вазьміце Язэпа Крушынскага. Гэта таксама не плакатны кулак. Гэта кулак хітры, разумны. Ён робіць „усё па закону", але ён гэтак хітра вядзе работу, што на некаторы час яму ўдаецца стварыць ледзь не сваю „аўтаномную" кулацкую „рэспубліку" пад пратэктаратам прышчэпаўцаў.

Таксама цікавыя спробы дыферэнцыяваць вобраз кулака ў літаратуры. У Лынькова „На чырвоных лядах" падаюцца два тыпы кулака: кулак Цыбал—прадстаўнік маладой капіталістычнай экспансіі, жывы, упарты і вёрткі, і Хвядос—гэта патрыархальны кансерватыўны кулак.

Кузьма Чорны таксама падае два падобных тыпы кулацтва ў рамане „Бацькаўшчына"—Сурвіла і Мазавецкі.

Гэта сведчыць пра тое, што лепшыя нашы пісьменнікі ад плакатнага паказу вобраза класавага ворага пераходзяць да паказу індывідуальнага.

### Рэмбрандт ці Рафаэль?

Але ці азначае гэта, што ў нас з паказам вобраза справа стаіць добра? Не, бо пры ўсіх нашых дасягненнях мы вобраза нашага соцыялістычнага будаўніка, станоўчага вобраза, героя краіны, героя першай пяцігодкі, вобраза актывіста партыйнага кіраўніка, правадыра—не далі. Мы не далі яшчэ вобраза таго, хто з'яўляецца геніяльным зодчым соцыялізма—мы не далі яшчэ вобраза Сталіна.

Некаторыя думаюць, што такі вобраз, станоўчы вобраз, нам ніколі не ўдасца. Што за глупства! Вінаваты ў першую чаргу мы самі. Мы нярэдка падыходзім дужа лёгка да сур'ёзнай задачы паказу станоўчага вобраза. Хачу напомніць вам адзін выпадак, калі ЦК нашай партыі і ЦКК палічылі патрэбным правучыць нас. Успомніце артыкул Хведаровіча пра чыстку тав. Шаранговіча. Гэта была спроба паказаць вобраз бальшэвіка. Чаму-ж ЦК і ЦКК палічылі патрэбным паказаць нам, што гэта было дрэнна зроблена? Таму, што мы асноўнага не зразумелі. ЦК КП(б)Б і ЦКК указалі нам, што мы не разумеем узаемаадносін паміж героем, асобай і калектывам, што не трэба даваць „афіцыйных" хадульных вобразаў. ЦК і ЦКК указалі нам, што немаг-

чымы паказ станоўчага вобраза без самакрытыкі, без паказу таго, як партыя штодзённа кіруе сваімі работнікамі, выпраўляючы іхныя памылкі.

Па пытанню пра тое, як даць станоўчага героя ў мастацкай літаратуры, ёсць вельмі цікавыя выказванні Маркса. Вы ўсе, пэўна, ведаеце гэтае месца, але ўсё-ж я хачу вам працытаваць яго. Маркс. піша: „Было-б вельмі пажадана, каб людзі, што стаялі на чале партыі, руху... былі ўрэшце паказаны суровымі рэмбрандтаўскімі фарбамі ва ўсёй сваёй жыццёвай яркасці. Усе існуючыя апісанні ніколі не малююць гэтых асоб у іх рэальным выглядзе, а толькі ў афіцыйным выглядзе з катурнамі на нагах і з арэолам вакол галавы. У гэтых прэабражаных рафаэлеўскіх партрэтах знікае ўся праўдзівасць паказаў".

Як бачым, Маркс рэзка выступае супроць тых, што паказваюць станоўчы вобраз правадыра партыі ў „афіцыйным выглядзе", па-рафаэлеўскі з арэолам, без паказу рэальных класавых працэсаў, на фоне якіх паказан правадыр. Трэба моцна запамятаць гэтыя словы Маркса пра Рэмбрандта і Рафаэля. Нам яшчэ прыдзецца пісаць пра правадыроў нашай партыі. Нам прыдзецца пісаць пра нашых герояў, пра герояў социялістычнага будаўніцтва.

Я ўжо гаварыў, што „Дрыгва" Коласа—ёсць своеасаблівы гераічны „народны лубок", але лубачна-фальклорны арнамент часам скажае да таго станоўчы вобраз дзеда Талаша, што ён траціць свой рэальны воблік. „Дзед Талаш быў зацяты і горды, як дзікі арол"—вось прыкладны партрэт героя. Талаш наважыў распачаць партызанскі наступ на палякаў для таго, каб вызваліць свайго сына з польскай турмы, і пра гэта ён апавядае гэтак: „Я не буду мець спакою, не адступлюся, хоць галаву палажу, покі не вырву з іх паганых рук Панаса. А як вызваліць яго? Сілай? Людзі патрэбны. Хоць-бы дзесятак адважных узброеных людзей"?

Усё гэта з матывам вызвалення сына—ад лубка. Не адмаўляючы ролі совецкага мастацкага лубка (своеасаблівае мастацтва Палеха), неабходна, аднак, заўважыць, што поўнацэннага станоўчага вобраза Якуб Колас не стварыў.

Яшчэ горш справа з паказам рабочага ў рамане Коласа. Ёсць такі рабочы, комуніст-большэвік, рабочы падпольшчык у рамане „Дрыгва"—завецца ён „Нявідны". Імя герояў адыгрывае, як вядома, нярэдка істотную ролю. Не трэба было Коласу называць свайго большэвіка „Нявідным", бо так і хочацца пакаламбурыць і сказаць, што ён сапраўды нявідны. Зусім меў рацыю тав. Клімковіч, які ў сваім дакладзе сказаў, што большэвік Нявідны носіцца як здань па „Дрыгве". Вось прыкладна партрэт Нявіднага: „Невысокі, хударлявы чалавек—сейбіт буры і праз буру прыдзе новы лад"...

Але справа ў тым, што „сейбіт буры" і гаворкі пра тое, што ён ідзе, „а разам з ім, побач яго і над ім шуміць шматгалосы паток жыцця"—гэта не паказ рэальнага большэвіка-падпольшчыка, і таму невыпадкова Колас у радзе месц дапускае ляпсусы ў паказе большэвіка. Большэвік-падпольшчык, ва ўмовах польскай акупацыі сустракаецца ўпершыню з селянінам, які заяўляе пра сваё жаданне сабраць атрад і вызваліць свайго сына з польскай турмы. І вось падпольшчык-комуніст гаворыць яму з месца ў карь'ер: „Справа ў тым, што я вяду патаемна, або як гаворыцца, падпольную работу ад нашай партыі большэвікоў. І калі вы чулі, што сям-там супроць палякаў узнікаюць паўстанні, то тут трошкі паложана і маёй работы".

Не можа падпольшчык-большэвік першаму стрэчнаму незнаёмаму

расказаць з такім наіўным бахвальствам, што ён вядзе падпольную работу. Можна паказаць і яшчэ на некаторыя іншыя ляпсусы.

Дрэнная справа з паказам рабочага і ў Чорнага ў „Бацькаўшчыне". Што Чорны меў усе дадзеныя для таго, каб стварыць у сваім рамане яркі вобраз бальшэвіка, паказвае тое, што ў яго п'есе „Бацькаўшчына"—на сцэне БДТ-1, вырас выключна тонкі вобраз бальшэвіка—Евеля Цывіна. У рамане гэты вобраз амаль адсутнічае. Схематычна пададзены таксама і рабочы Адась. Вы мне дазвольце з повада такога паказу гэтага рабочага таксама пакаламбурыць. Гушка шукае свайго сына, які працуе на шасейнай дарозе. Ён ва ўсіх пытаецца:

— Няўжо не бачылі?—распытваў ён усіх,—малады, ногі ў анучы пазакручваны і молат у руках.

— Ва ўсіх нас ногі ў анучы пазакручваны і молаты ў руках,—адказвалі яму, аж пакуль ён не апрытомнеў і не ўбачыў, што сапраўды тут падобны ўсе адзін да аднаго".

„Молат у руках і ногі ў анучах"—якая-ж гэта прымета? Але і сам Чорны павінен гэта зразумець, бо такі, па сутнасці, і яго Адась—не тыповы, абязлічаны.

Вазьму яшчэ прыкад. У Зарэцкага ў рамане „Вязьмо" ёсць станоўчы вобраз бедняка-калгасніка, які раскулачвае кулака. Вы памятаеце як сурова патэтычна абыграна ў „Паднятай цаліне" сцэна раскулачвання кулака. Гэтая сцэна насычана пафасам класавай барацьбы. Зарэцкі-ж, замест раскулачвання, дае сцэну своеасаблівай „кражи со взломом". Вось як бядняк Шыбянкоў раскулачвае: „Андрэй раптам змяніўся ў твары: трыумфальная самадавольная ўсмешка яго абярнулася ў драпежную зларадасную міну, твар скрывіўся, увесь скуксіўся, стаў меншы і непрыгожы. Ні слова не гаворачы, ён пачаў наступаць на Гвардыяна, у грознай павольнасці працінаючы яго вострым жудасна-бліскучым зіркам.

Андрэй-жа Шыбянкоў ужо некалькі год марыць разлічыцца са сваімі эксплаататарамі".

Ці можа гэты чалавек, які ідзе на ліквідацыю кулака, на раскулачванне быць паказаным з гэткай „драпежнай зларадаснай мінай"? У Зарэцкага гэта не адзін выпадак. Мне ўжо даводзілася гаварыць, што ў „Вязьмо" Зарэцкі ўшчэнт дыскрэдытуе такі станоўчы вобраз, як Лакота. Арганізатар і старшыня калгаса, былы партызан, баявы хлапец—Лакота фактычна зведзены на вобраза хворага лятуценніка-рамантыка. Вось пра што ён марыць:

„Пустое бязмежнае снегавое поле—ці ёсць дзе большая прастора вольным разлётам гарачай фантазіі чалавека? Тут нічога не трэба бурыць ці перайначваць, пераабражаць—на чыстым шырокім раздоллі можна смела ўзнасіць якія-хоць гмахі, можна разводзіць пышныя райскія сады, можна стварыць зусім новы свет, не звязаны абыклымі формамі сучаснасці.

Ён стварыў сабе такі свет. Хто яго ведае?—Можа свет гэты зусім аблудны, не ўжытачны чалавеку, можа ён адно смешны ў сваёй наіўнай нязграбнасці? Пра гэты свет ён нікому не гаварыў і не скажа—ён рабіў яго для сябе, каб аздобіць сваю жыццёвую дарогу ясным хараством далёкае мэты. Ён рабіў яго здаўна, складаў яго па маленькім кавалачку—і таму ў ім дзівосна памяшаліся кволыя краскі дзяцінных лятункаў з цаглінамі сталых вымеркаванняў дарослага чалавека".

Перад намі традыцыйны „шукальнік хараства", мары якога знаходзяцца ў разрыве з рэчаіснасцю.

Урэшце, яшчэ адзін вялікі недахоп ў паказе нашых станоўчых

вобразаў. Некаторыя таварышы, асабліва моладзь, думаюць, што станоўчы вобраз павінен жыць такім жыццём, якое „ясна як шакалад". Ідзе чалавек па нейкаму роўнаму жыццёваму паркету, і кропка. Вось, напрыклад, Шынклер гэтак і характарызуе свайго станоўчага героя Дзераша. „Дзераш быў проста вясёлым. Складанасць пачуццяў не мітрэнжыла яго, не абцяжарвала. Ён быў ясны ў абліччы, не паказваючы нічога больш, як роўную, крыху прыўзнятую ўрачыстую вясёласць" („Сонца пад шпалы").

Няўжо наш станоўчы вобраз павінен быць такім, як Дзераш? Не. Ён павінен быць складаным!

Алексей Максімавіч Горкі неаднаразова ўказваў нам, што складанасці бываюць розныя, Горкі выступаў супроць надуманай складанасці буржуазнага псіхакапацельства. У артыкуле „Пра п'есы" Горкі піша: „Складанасць—сумны і ўродлівы вынік крайняй раздробленасці „душы" бытавымі ўмовамі мяшчанскага грамадства".

За гэтай уродлівай складанасцю ў свой час гнаўся малады Зарэцкі. Гэтая „ўродлівая складанасць" праследвала Скрыгана. Упор на біялагічную, дакладней паталагічную „складанасць" (дзед Пракоп з аповесці „Межы") прыводзіў празаіка С. Баранавых да ідэалізацыі кулака. На ўродлівай складанасці будаваў Мурашка рад сенсацыйных матываў з рамана „Сын".

Аднак, больш небяспечна схематызацыя вобраза ў нашай прозе. Часцей за ўсё нашы празаікі аперуюць не вобразамі, а палітычнымі формуламі. З гэтага поваду Горкі гаворыць: „Класавы прызнак не трэба наклейваць чалавеку звонку, на твар, як гэта робіцца ў нас. Класавы прызнак—не барадаўка, гэта нешта вельмі ўнутранае, нервова-мазговае, біялагічнае".

Неабходна знайсці, як гаворыць Горкі „індывідуальны стрыжань".

На жаль, мы пра гэта вельмі рэдка думаем. У нас мала цікавых, страстных, складаных вобразаў таму няма і цікавых сюжэтаў. Пагроза бяссюжэтнасці—істотная пагроза. Пра гэта мне даводзілася падрабязна гаварыць на нашых пленумах і нарадах, таму я пра гэта тут гаварыць не буду.

Урэшце, таварышы, я хачу перайсці да апошняга пытання, пра якое мне таксама даводзілася гаварыць на радзе нарад, да пытання пра небяспеку натуралізма ў нашай літаратуры.

## Пра калёсы і пра социялістычны рэалізм.

Наша проза расце пад значным уплывам народніцкага натуралізма і гэта адчуваецца амаль ва ўсіх нашых празаікаў. Досыць паказаць нават на Лынькова, Галавача, Чорнага, Крапіву і на цэлы рад іншых. Праблема натуралізма высоўвае перад намі рад пытанняў. Тут я вылучу толькі адно пытанне, вакол якога сякія-такія спрэчкі намячаліся на нарадзе маладых празаікаў і на апошнім пашыраным пленуме. Гаворка ідзе пра ролю бытавой дэталі, пра што ў нас багата гаварылі. Якое месца займае мастацкая дэталь у літаратуры? Велізарнае месца! Вось што Горкі гаворыць пра дэталь:

„Тут прыходзіцца паўтарыць, што ўсё бачанае намі, усе ўмовы, у якіх мы жывём, ствараюцца з дробязей, як арганізм з набачных каморак. Усе гэтыя дробязі ў высокай ступені важныя, бо трэба ўважліва адабраць найбольш тыповыя, найбольш характэрныя". Але адначасова Горкі лічыць патрэбным завастрыць пытанне і ўвагу совецкіх пісьменнікаў на небяспецы мастацкай дэталі. Горкі піша:

„Прывычка працаваць на маленькім, на дробязях вядзе да таго, што калі наш літаратар бярэцца за вялікі сюжэт, напрыклад, за будаўніцтва прамысловага камбіната, ён перагружае сэнсавую ідэалагічную тэму апісаннем мноствам дробных дэталей і хавае яе пад аграмаднай кучай папяровых кветак свайго красамоўства, зазвычай—не вельмі яркіх! Дэталізацыя пераважае і шкодзіць нават там, дзе яна больш на месцы, дзе працэсы перавыхавання, перараджэння чалавечка з індывідуаліста ў калектывіста развіваюцца параўнаўча больш павольна, напрыклад, у калгасным будаўніцтве“.

Чаму нам важна паставіць пытанне пра дэталь? Таму што нам трэба ў гэтым пытанні даць нейкую пэўную лінію пісьменніку.

На мінулым пленуме ставілі пытанне так: ці дрэнная дэталь ці добрая? Адмовіцца ад дэталі, ці не адмовіцца?

З гэтага поваду трэба адказаць: „Кожная ісціна канкрэтна“.

Трэба прыглядзецца, як буйныя майстры працуюць над дэталлю. Я ўжо гаварыў не мала пра ролю дэталі ў Чэхава і Талстога. Я не магу ўстрымацца ад таго, каб вам не працытаваць адно месца з кнігі Белага „Мастерство Гоголя“. Белы піша, што дэталь адыгрывае аграмадную ролю ў Гоголя. Як працаваў Гоголь над дэталлю? Андрэй Белы падае такі прыклад: „Два мужыкі разважаюць пра калясо чычыкаўскага экіпажа—даедзе ці не даедзе. Гэта нічога не мае да сюжэта, нейкая, дробязь афармлення, якога не запомніць чытач. Праз шэсць ці сем раздзелаў выскачыла такі тое самое калясо і ў мінуту рашучую. Чычыкаў уцякае з гораду, а яно, колясо, адмаўляецца везці. Чычыкаў спалохаўся: яго захопяць на месцы. Калясо не дробязь, а калясо фартуны: лёс. Дробязь афармлення гэтым падкрэслена, у яе ўпаяны сюжэт—у іншых ён не ўпаяны ў дэталь экспазіцыі, і там яна форма, якая не чапляецца за сюжэт; тут—змест.

Праўда, Белы ў некаторых мясцах нацягнуга трактуе „вышэйшы сэнс дэталей Гогаля“, але давайце прадумаем гэтае палажэнне.

Трэба ўмець упаяць бытавую дэталь, якую вы добра ведаеце, у сюжэт. Трэба ўрэгуляваць, арганізаваць гэту дэталь. Трэба, каб калясо пертварылася ў калясо фартуны, каб яно зрабілася агульным сімвалам. А якое ў нас калясо?

Я прачытаю вам даўгую цытату. Галавач піша:

„У калёсах усё яшчэ старая сівая кабыла. На шыі ў кабылы абадраны стары хамут, пад яго падкладзена суконка. Пад сядзёлкай жалезнай таксама суконка ў тры столкі. Дуга трэснула і звязана дротам. На лейцах адны вузлы. Алесь пазірае на кабылу, на вупраж, не можа пазіраць на бацьку, шкода яго. Сівая старая кабыла спусціла голаў у зямлю, у кабылы гнояцца вочы. Пад левым вокам у кабылы набегла з гноем і застыла мутная сляза. Ніжняя губа яе вяла абвісла і дробна-дробна дрыжыць, нібы кабыла мерыцца плакаць і вось-вось заплача наўзрыд. Кабыла левую заднюю нагу неяк падвярнула пад сябе і ад гэтага левая кульша яшчэ больш выперлася ў худым баку, а бок яшчэ глыбей запаў. У калёсах левае пярэдняе кола без шыны. У другім паміж спіц устаўлена кароценькае пацясанае паленца, каб не ўгіналася шына. Патрэскаліся трубкі, і вось-вось здаецца выпадуць спіцы, распадзецца кола. Спіцы з палкай звязаны вяровачкай. На калёсах не драбінкі, а толькі білы, высесаныя з круглых маладых бярэзінак, крывыя. За біла прывязана пастромкам рабая карова, худая. І ў яе вочы мутныя нібы ў слязах“. („Вінаваты“).

Вось супроць такой стыхіі дэталей трэба выступаць!

Я прыгадаў прыклад з ранняй рэчы Галавача. Я мог-бы даць рад прыкладаў з пазнейшых рэчаў Галавача. „Спалох на загонах“, а так-

сама і з твораў Лынькова, Крапівы, Баранавых і г. д. Гэтак дзейнічаць дэталямі нельга.

Якая яшчэ дэталь нам не патрэбна? Нам не патрэбна надуманая прэтэнцыёзная дэталь „с ужимками“. Варонскі некалі вучыў, што ў паказе вобраза правадыра партыі галоўнае не сам вобраз, а тое, што „ў гэтага правадыра з носу тырчыць пук валасоў“. За гэта некаторыя і ўхапіліся. Мне даводзілася на нарадзе маладых празаікаў упікнуць Мікуліча за гэтыя „пучкі“. Пук валасоў у носе—гэта яшчэ не вобраз. Імпрэсіянісцкае звядзенне рэчаіснасці да дэталі не да твару соцыялістычнаму рэалізму. Гэта разумеюць ужо лепшыя нашы пісьменнікі. Я цяпер успомніў тое месца з „Бацькаўшчыны“, калі здыхае конь. Яго гаспадар Гушка адводзіць каня ў лес. Але конь варочаецца назад і памірае ля ганку.

Гэтая дэталь, як гогалеўскае кола, уманціравана ў сюжэт, яна абыграна, яна падпарадкавана цэламу. Таксама глыбока абыграна вядомая дэталь з канём на рынку ў рамане „Спалох на загонах“. Прывяду апошні прыклад. У Лынькова ў рамане „На чырвоных лядах“ пададзены жахлівы вобраз старой дарэволюцыйнай вёскі. Паказаны бядняк, якога б'юць за тое, што ён украў курыцу. Яго б'юць дзелавіта, па-гаспадарску. Кожны паказвае, як лепш ударыць, кансультуюцца між сабою, жывы ён яшчэ ці не. І вось Лынькоў падае пры гэтым такую бытавую дэталь: „Уся ў саламянай трусе цёрлася бокам аб плот сонная свіння. Цёрлася і рохкала з вялікім задавальненнем, тыкаючы ружовым лычам у стрыхнелую злешкавую жардзіну, канец якой абламалі людзі для сваіх, зусім для свінні нецікавых спраў“.

Тут іранічнае супастаўленне планаў. Лынькоў падкрэслівае гэтае супастаўленне традыцыйнага свінскага жыцця з „чалавечым“ вясковым жыццём і паказвае, дзе сапраўднае свінскае жыццё. Надзвычай глыбока таксама вядомая дэталь — „Тры кроплі клею“ ў апавяданні Лынькова „Баян“. Зразумела, тут не выключана небяспека таннага аперавання алегорыямі. Такую небяспеку я ўгледзеў у Коласа ў кнізе „Дрыгва“. Дзед Талаш, хаваючыся ў лесе, з'яўляецца міжвольным сведкам сутычкі між воўкам і вепрам. Воўк задушыў вепра. З гэтага поваду Колас піша наступнае:

„А воўк стаіць зводдаль і прагавітымі вачыма смакуе ўжо сваю багатую спажыву.

Такой раптоўнай і неспадзяванай развязкі ніяк не чакаў дзед Талаш, і яго чалавечы пачутак быў глыбока ўзрушан гэтым драпежніцкім воўчым учынкам...

...Вялікае маральнае здавальненне адчуў дзед Талаш пасля гэтага ўдалага стрэлу...

...Уся гэта праява і сцэна набывалі ў дзедавых вачах значэнне нейкага жыццёвага філасофскага сімвала і толькі цяпер успомніў ён пра сотні тысяч маленькіх спачатку, не ўзятых ім пад увагу, мурашак“.

У чым недахоп гэтага аперавання дэталлю і спробы абагуліць гэтую дэталь? Зусім ненатуральна для дзеда Талаша для паляўнічага паляшука, які неаднаразова сам „смакаваў багатую спажыву“, які неаднаразова быў сведкам падобных сцэн, каб ён такім чынам маралізаваў...

Таварышы, я гаварыў вам аб ролі мастацкай дэталі, я прывёў тое месца з кнігі Белага, дзе гаворыцца аб тым, што славутае чычыкаўскае кола не было выпадковай дэталлю. Але ў мяне ёсць данныя баяцца, што некаторыя „крытыкі“ пачнуць пры любой выпадковай

дэталі шукаць „яе немінучасці", і калі ён гэтай „немінучасці" не ўбачыць, ён абвінаваціць мастака ў беспадстаўнасці.

Я хачу прыгадаць, што гэта не абавязкова, таму што не ўсе выпадковыя дэталі „з немінучай неабходнасцю" ўманціраваны ў сюжэт. Трэба ўнікаць у гэтым пытанні вульгарызатарства.

Аб гэтым вельмі цікава гаворыць Чэрнышэўскі.

„И почему индюк мог закудахтать только под окном у Коробочки, а не у Собакевича или Ноздрева или не под окном городской гостиницы?

Вообще говоря, критик слишком далеко заходит, желая решительно о каждой мелочи доказать, что она решительно необходима".

Індык можа наогул не заквахтаць, ці можа заквахтаць у другім месцы, некаторыя-ж крытыкі могуць у парыве „навуковасці" патрабаваць, каб індык заквахтаў па ўсіх законах соцыялістычнага рэалізма.

Я не маю магчымасці ахапіць усіх пытанняў, якія стаяць перад нашай беларускай совецкай прозай. Я выбраў толькі невялікі комплекс пытанняў, па якіх нам неабходна выказацца.

Не гледзячы на рад буйных недахопаў, пра якія я гаварыў, мне здаецца, што мы можам сёння з трыбуны з'езда заявіць, што мы прарабілі аграмадны плённы шлях, што пад кіраўніцтвам партыі нам удалося падняць на вялікую вышыню нашу совецкую прозу, што нам, урэшце, удалося падняць нашага совецкага пісьменніка да разумення таго, што нельга быць совецкім пісьменнікам, не становячыся на пункт гледжання соцыялістычнага рэалізма.

Соцыялістычны рэалізм гэта і ёсць той шлях, па якому мы павінны пайсці, каб стварыць вялікае соцыялістычнае мастацтва. Гэтае соцыялістычнае мастацтва мы створым. Мы ўпэўнены ў гэтым. Бо наша літаратура знаходзіцца ў выключна спрыяючых гістарычных умовах. Бо нашай літаратурай кіруе такая партыя, якой няма роўнай на ўсім свеце. Бо нашай літаратурнай практыкай і тэорыяй кіруе партыя большэвікоў.

Совецкім пісьменнікам ясна, што апраўдаць давер'е гэтай вялікай партыі мы зможам толькі паглыбленай вучобай, узмоцненай работай, сур'ёзнай, сапраўднай, сістэматычнай барацьбой за якасць.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## ЦВЁРДЫ, УПЭЎНЕНЫ КРОК

*„Чатырнаццаты нумар“—апавяданні М. Паслядовіча, ДзВБ, 1934 г.*

Кніга чытаецца з цікавасцю—а гэта галоўнае. Чытач не засне на першых старонках. Ён пройдзе ўважліва па ўсіх ста трыццаці старонках, авеяных пахучым калгасным днём, дзе многа адданай работы, сапраўднага энтузіязму, дзе многа сонца, радасці і такіх-жа сонечных, радасных слоў.

Звычайных слоў, звычайных людзей, якія занава нараджаюцца на нашых калгасных палях, якія пачынаюць глядзець на свет новымі вачыма, якія па розуму—адны лёгка, другія з цяжкасцямі—скідаюць з сябе ярмо старых звычак, навыкаў і традыцый.

Сюжэты змешчаных у зборніку апавяданняў нескладаныя. Тут і стары калгаснік Ляшук, заўзяты паляўнічы, шукаючы ў лесе пакрадзенага лёну. Тут і стары плытагон Андрэй Талаш, неўзаметку адчуўшы вялікую адказнасць за плыт, бо плыт не купецкі, а дзяржаўны. Тут і правакацыйная спроба кулакоў скампраметаваць маладую актывістку калгасніцу Марылю. Тут і маладыя парасткі новага побыту, новых узаемаадносін паміж людзьмі, узаемаадносін, якія вырастаюць на аснове соцыяльнай практыкі людзей („Каля снапоў“, „Конюх Ракуш“, „Канфлікт“, „Брыгадзірша“, „Старое гумно“).

Чым радуе гэтая кніжка? Цвёрдым, упэўненым крокам, якім становіцца аўтар на шырокую дарогу совецкай літаратуры, прычым на адзін з цяжэйшых яе ўчасткаў—вучастак навелы. Навела — самы занядбаны у нас жанр. І таму, што ў нас няма належнай увагі гэтаму жанру, з навелай да гэтага часу лічыліся, як з своеасаблівай „малой формай“. Вось аповесць, раман,—гэта ўжо „сапраўдныя палотны“, гэта ўжо—ёсць аб чым пагаварыць, паспрачацца, гэта—„буйная цагліна“ мастацтва і г. д. і г. п. А „цагліна“ тая вельмі часта мала чым адрозніваецца ад звычайнай цагліны—тая-ж сыравіна, тая-ж кілаграмная вага і так-жа багата марнатраўства часу і паперы. Адным словам, да навелы ў нас ставіліся дужа фармальна, зусім забываючыся на яе мастацкую спецыфіку, на яе выключную аператыўнасць, што асабліва важна ў нашы часы. Мала думалі пра навелу, мала браліся за яе і таму, што яна—адзін з самых цяжкіх жанраў. І таму так асабліва хочацца вітаць поспех кожнага пісьменніка ў гэтым кірунку, тым больш пісьменніка, яшчэ маладога, які толькі фармуецца, набывае свой голас, свой стыль, свае фарбы.

Якія-ж дадатныя якасці апавяданняў Паслядовіча? Перш за ўсё—гэта веданне жыцця. Навелы яго пабудаваны на дасканалым вывучэнні матэрыяла, на шырокім знаёмстве з людзьмі. Адсюль тыповасць яго персанажаў, жыццёвая рэальнасць з'яў і падзей, якія ён адлюстроўвае. Аўтар здольны апераваць словам. У яго няма ўласцівай маладым, і асабліва пачынаючым, слоўных вавілонаў, нацягнутай напышлівасці вобраза, імкнення казырнуць часам не да ладу „вумным“ словам дрэннай літаратуршчыны. Усе навелы вытрыманы ў плане строгага рэалістычнага паказа жыцця, і гэтаму паказу цалкам адпавядаюць слоўныя фабульныя сродкі аўтара. Вазьміце любы пачатак апавяданняў: „Дзямян Ракуш быў тады ў канюшні, калі да яго прыбег меншы сын Юзік“. Гэта з „Канюха Ракуша“. „Так і сказаў той, махнуўшы дубцом, каб адагнаць ад потнага жарабка назойлівых мух“—з навелы „Каля снапоў“. „Яны мусіць і на сёняшні дзень не здагадаліся, па якой прычыне выпала ім такая ласка“—з „Брыгадзіршы“. Усе гэтыя пачаткі простыя, дынамічныя. Калі хочаце, яны нават інтрыгуюць чытача, ставяць яго перад нейкімі цікавымі здарэннямі з першага радка, падганяюць чытача, прыахвочваюць да азнаямлення з усёй навелай. Сказы, звычайна, усё кароткія, сціслыя.

Не дрэнна асвойвае аўтар і сакрэты мастацкай дэталі: „Прагна лізала і грызла вада тугі жоўтапес“—коратка, ясна і воб-

разна. Альбо яшчэ прыклад: „Ад нудпага тону яе гаворкі стары ўраз навастрыў слух, Няёмка патупаў ля бабкі. Вытрас леваю рукою з касмылёў сівое барады прызеленкав тыя зёрны махоркі". Гэты прыклад гаворыць аб уменні аўтара падмячаць ледзь улоўныя рысы чалавечых паводзін, уменне бачыць і назіраць. Сапраўды, каб аўтар трымаўся шаблону, трафарэту, дык герой яго навастрыў бы слух, скажам, ад чыйго-небудзь крыку, ад чагонебудзь незвычайнага, гучнага. А тут герой навастрыў слух, бо ў гаворцы свае суседкі ён адчуў неўласцівыя ёй нудныя ноткі. Гэта ўменне падмеціць тонкія псіхалагічныя з'явы. А слова „прызеленкаваты" з'яўляецца, між іншым, удалай мастацкай дэталлю, якая робіць вобраз выключна ясным, празрыстым. Так бывае часам у мастакоў, калі адзін невялічкі ўдалы мазок робіць жывой усю карціну, напаўняе яе сонцам і цяплынёй.

Уласціва аўтару і пачуццё гумару. Пачытайце канцоўку апавядання „Чатырнаццаты нумар", калі жонка старога Ляшука пачынае ўшчуваць яго за падраныя ў лесе штаны, уявіўшы старога ў гэтым падраным адзенні на праўленні, старая жонка ў вялікім жаху: „Божухна, колькі сораму цяпер будзе!" І тут разышоўся дзед:

— „Маўчы, апартуністка! Другі апартуніст, які штаны і спераду і ззаду зрызманіць, а за месяц не зарыхтуе гэтулькі ільну, як я за дзень... Ды яшчэ чатырнаццатага нумару! А паляўнічы план перавыканаць на сто рублёў—гэта табе хаханькі!

І пазней ужо, злазячы з пяколка, гаварыў без усякай злосці:

— Штаны, штаны... Будзе лён, будуць і штаны. Ну, давай вячэраць!"

Такая грубая прылада, як штаны, тут удала і ў меру абыграна. Да ладу ўжыта і „апартуністка". А ўсё разам стварыла каларытную бытавую сцэнку, поўную мяккага цёплага гумару.

Не ўсё-ж, аднак, так удала і добра ў кніжцы Паслядовіча. Ёсць у яго і недахопы і часам вялікія. Вось у „Ганебнай пляме" не зусім гладка з сюжэтнай пабудовай. Чаму абавязкова правакацыямі ў калгасе займаюцца людзі, тайна прабраўшыяся з ссылкі? Хіба мала 'шчэ „сваіх" кулакоў, ворагаў, якія працуюць, замаскаваўшыся, дзейнічаюць „ціхай сапай"? Тут аўтар аддае пэўную даніну схематызму. Зусім раптоўнае з'яўленне Марылі ля злодзеяў. Чытачу гэтае з'яўленне не абгрунтавана.

Сустракаюцца няўдалыя вобразы, слабая кампаноўка сказу. „У гэты момант два вялікіх агнявых вокі дапытліва і рашуча выпрасталі я р к і, д о ў г і п о г л я д па вуліцы, скаланулі цемень, ускруцілі яе вышэй стрэх густалістых бяроз". Гэта сказана аб трактарных ліхтарах, фарах. Сказана яўна няўдала. І таксама няўдала „Узгарэліся белымі зорамі фарфаравыя ізалятаравыя чашкі на слупах радыёвузла". Чаму проста не „ізалятары" і проста „на слупах". Тут абцяжарванне лішнімі словамі.

Апавяданне „Брыгадзірша" залішне застылізавана, а літаратурана (у горшым разуменні гэтага слова). Тут пэўная небяспека. Аўтару варта было-б узяць „на поўтона ніжэй", было-б натуральней і праўдзівей. Але, як пэўны эксперымент, гэтае апавяданне закончанае і цэльнаё. Важна, каб эксперымент не ператвараўся ў самамэту.

І адзін з асноўных недахопаў—даволі вузкі кругазор аўтара. Узняцца на вышэйшыя ступені мастацкіх абагульненняў—першачарговая задача пісьменніка. Трэба навучыцца на невялічкіх рэчах, якімі з'яўляюцца навелы, даваць шырокія абагульненні, што называецца і ўшыркі і ўглыб—каб у іх знайшлі адлюстраванне і бязмежныя прасторы нашай краіны, і грандыёзную веліч падзей на нашай совецкай зямлі. Гэты мастацкі бар'ер яшчэ не ўзяты пісьменнікам. Магчымасці-ж да гэтага ён набывае.

Ёсць у кніжцы недахопы, якія ад аўтара і не залежаць. Гэта кепская карэктурная праўка, нялады са знакамі прыпынку, пропускі, скажэнні радкоў і інш. „Паганы параході Калі троху перад раіць дык прапаў". Што гэта за „перад раіць"— адным друкарам вядома. Заслугоўвае кніжка і лепшай вокладкі. Няўжо нашы ўсе мастакі хварэюць на анемію—да таго блёклыя ўсе вокладкі. Не вокладкі, а абёрткі ад шэрага мыла. Больш фарбаў, больш сонца, больш цяплыні, паважаныя графікі!

*Міхась Лынькоў.*

---

**АДКАЗНЫ РЭДАКТАР** *М. ЛЫНЬКОЎ.*

**РЭДКАЛЕГІЯ:** *Я. Браніштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** *Менск, Совецкая, 68. Дом пісьменніка.*

